# АДРАДЖЭННЕ

## *Гістарычны альманах*



## *Выпуск 1*

Лічбавае выданне падрыхтаваў **Аляксандр Кошаль**
Заказы на пераклад папяровых кніг у электронную форму прымаю па наступных кантактах: **+1 (262) 563 3090**; alyaksandr.koshal@gmail.com
Беларусь, Мінск
10 красавіка 2022 года



**МІНСК**
**„УНІВЕРСІТЭЦКАЕ"**
**1995**

## ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ!

Шчыра, зацікаўлена і смела (вядома, не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі) выказваюць свае думкі ў гэтым нумары альманаха добра вядомыя ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі вучоныя і публіцысты, а таксама пачынаючыя даследчыкі гісторыі роднага краю:

У. А. Арлоў, рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», празаік, які аддае перавагу гістарычнаму жанру. Аўтар шэрагу навукова-папулярных публікацый, звязаных з мінуўшчынай беларускага народа.

А. П. Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі і замежных краін Мінскага інстытута культуры. З'яўляецца аўтарам некалькіх кніг і шматлікіх артыкулаў (больш 600) па сацыяльнай і палітычнай гісторыі Беларусі феадальнага перыяду, гісторыі царквы і генеалогіі.

В. П. Грыцкевіч, кандыдат медыцынскіх навук, правадзейны член Геаграфічнага таварыства Расіі, дацэнт Санкт-Пецярбургскага інстытута культуры. Займаецца праблемамі гісторыі Беларусі феадальнага перыяду, гістарыяграфіі і медыцыны. Аўтар шматлікіх публікацый, выдаў некалькі кніг.

А. І. Дзярновіч, аспірант Інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь. Даследуе беларускае сярэднявечча, узаемасувязі і кантакты з суседнімі краінамі таго часу. Удзяляе ўвагу пытанням, звязаным з матэрыяльнай культурай рэспублікі.

А. А. Жлутка, кандыдат філалагічных навук, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны АН Рэспублікі Беларусь. Даследуе лацінамоўнае пісьменства эпохі феадалізму.

У. М. Конан, доктар філасофскіх навук, загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны АН Рэспублікі Беларусь. Аўтар 8 манаграфій і каля 500 артыкулаў па гісторыі беларускай культуры, эстэтыкі і філасофіі, літаратуразнаўству і фалькларысты-

цы. Член Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, літаратурны крытык.

А. А. Л о й к а, член-карэспандэнт АН Рэспублікі Беларусь, доктар філалагічных навук, прафесар, дэкан філалагічнага факультэта Бялдзяржуніверсітэта, беларускі паэт, літаратуразнаўца, перакладчык, публіцыст. Унёс важкі ўклад у сучасную беларускую літаратуру, асабліва ў развіццё нацыянальнай лірыкі, станаўленне мастацкай індывідуальнасці пачынаючых паэтаў, наладжванне творчых сувязей з іншымі народамі. Зараз шмат увагі ўдзяляе праблемам вышэйшай школы, арганізацыі вучэбнага працэсу ў навучальных установах рэспублікі. Супрацоўнічае з мясцовымі і замежнымі выдавецтвамі, беларускім радыё і тэлебачаннем.

А. А. М е л ь н і к а ў, кандыдат філалагічных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Рэспублікі Беларусь. Даследуе развіццё старажытнай беларускай літаратуры і культуры, захапляецца этыкай, эстэтыкай і мовазнаўствам.

А. М. С і д а р э в і ч, выкладчык Беларускага ліцэя, гісторык, журналіст, літаратурны крытык, рэгулярна выступае на старонках рэспубліканскіх газет з вострымі і палемічнымі артыкуламі.

Г. М. С а г а н о в і ч, кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь. У сваіх даследаваннях не абмяжоўваецца толькі ваенна-палітычнай гісторыяй Беларусі эпохі феадалізму, праблемамі гістарычнай спадчыны. Вывучае сучасны стан нашага грамадства, робіць аналітычныя вывады.

А. А. Т р у с а ў, кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела археалагічных даследаванняў Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, археолаг. З'яўляецца аўтарам манаграфій, шматлікіх навуковых і папулярных публікацый, тэле- і радыёперадач, прысвечаных гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі, а таксама беларускаму мураванаму дойлідству.

В. А. Ч а м я р ы ц к і, кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Рэспублікі Беларусь. Даследчык беларускага старажытнага пісьменства, аўтар шматлікіх прац па гісторыі беларускай літаратуры, летапісання пра першадрукара Ф. Скарыну. Супрацоўнічае з многімі выдавецтвамі рэспублікі.

## АД ВЫДАВЕЦТВА

Імкненне пазнаць мінуўшчыну, падзеі старадаўніх вякоў і адносна недалёкага ад нас часу — характэрная рыса сучаснасці. Асабліва гэта праяўляецца на Беларусі, гісторыя якой вельмі цікавая, гераічная і цяжкая. Сярод аўтараў альманаха «Адраджэнне» людзі рознага ўзросту, розных накірункаў навуковай і краязнаўчай дзейнасці. Розняцца яны хіба што поглядамі на тыя ці іншыя з'явы, але ўсіх аб'ядноўвае адно: любоў да гісторыі сваёй Бацькаўшчыны, намаганні глыбей вывучыць гістарычную і гісторыка-філасофскую навукі, данесці да чытача матэрыялы з даўняй і нядаўняй гісторыі як мага больш навукова абгрунтаванымі, без налёту сенсацыйнасці, гвалтоўнага накідвання сваёй асабістай канцэпцыі.

Адкрываецца альманах артыкулам пра славутую беларускую асветніцу XII ст. Еўфрасінню Полацкую. Гэта не выпадкова, бо ўсё жыццё ігуменні можна разглядаць як гістарычную крыніцу, унікальную рэліквію ў развіцці беларускай культуры. Цікаўнасць выклікае нават тое, што служба Еўфрасінні была афіцыйна зацверджана толькі ў 1893 г. Да XVI ст. полацкую святую мала хто ведаў у Маскоўскай Русі, да таго часу, пакуль яе жыццё не трапіла ў «Вялікія Чэцці Мінеі» — зборнікі жыцій святых. Другі ж матэрыял пра таленавітую асветніцу XII ст. носіць у нейкай ступені прыгодніцкі характар, нават дэтэктыўны, бо пакуль што не ўстаноўлена, хто выкраў крыж Еўфрасінні Полацкай і дзе можа знаходзіцца шэдэўр старажытнабеларускага ювелірнага мастацтва.

Вялікі артыкул пра войны Беларуска-Літоўскай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага і Рускага) з Тэўтонскім ордэнам у канцы XIV— першай палове XV ст. грунтуецца на разнастайнай гістарычнай літаратуры, тагачасных і больш позніх дакументах. Менавіта заходні накірунак знешняй палітыкі Вялікага княства Літоўскага меў у гэты перыяд вялікае значэнне для лёсу беларускага і літоўскага народаў, якім пагражала фізічнае вынішчэн-

не альбо падпарадкаванне нямецкім рыцарам-крыжакам і анямечанне, як гэта адбылося ў XIII ст. з прусамі. Такім чынам, перамога аб'яднанага польскага і беларуска-літоўскага войска ў бітве пад Грунвальдам (у беларускіх хроніках таго часу Дуброўнам) у 1410 г. мела вельмі важнае гістарычнае значэнне. Была спынена агрэсія Тэўтонскага ордэна на літоўскія і беларускія землі, што з'явілася адной з перадумоў росквіту гаспадарчага і палітычнага жыцця дзяржавы.

Напэўна зацікавіць чытача новае ўяўленне пра Полацкую вайну 1563—1579 гг., адносіны паміж Беларуска-Літоўскай дзяржавай (а потым ужо Рэччу Паспалітай) і Маскоўскай дзяржавай. Заслугоўвае ўвагі сцверджанне, што тэрмінам «Лівонская вайна», як яе назвалі рускія гісторыкі ў свой час (бо, сапраўды, увесь час з 1558 па 1582 г. Расія вяла вайну за Лівонію), абмяжоўвацца беларускія гісторыкі не могуць. Для Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага гэта была вайна не за Лівонію, а за сваё выжыванне ў барацьбе з войскамі цара Івана Жахлівага. А паколькі вайна вялася ў раёне Полацка, які рускі цар Іван IV трымаў шаснаццаць гадоў у сваіх руках (больш буйных гарадоў яму захапіць не ўдалося), то для Беларусі менавіта гэты перыяд можна абазначаць тэрмінам «Полацкая вайна».

Шмат карыснага для сябе знойдзе чытач у філасофскіх разважаннях пра беларускае Адраджэнне — з'яву, як адасобленую ад агульнаеўрапейскага сярэдневякоўя, так і цесна звязаную з ім. Вельмі многія, відаць, з захапленнем перачытаюць сказ пра біблейскіх персанажаў у выданнях Францішка Скарыны, якія раней не друкаваліся. Заслугоўваюць ўвагі і даследаванні гісторыі мястэчка Крэва. У артыкул, прысвечаны гэтай тэме, уключаны археалагічныя і этнаграфічныя матэрыялы.

Увогуле альманах адлюстроўвае сучасны стан беларускай гістарычнай навукі, прасочвае карані вульгарна-сацыялагічнага накірунку ў ёй. Асновай такога падыходу было механістычнае тлумачэнне мінулага ў чорна-белым варыянце. І звязана гэта з імем аднаго з найбольш вядомых прадстаўнікоў гістарычнай навукі Беларусі мінулых дзесяцігоддзяў Л. С. Абэцэдарскага, з «Тэзісамі аб асноўных пытаннях гісторыі БССР (частка першая)», складзеных камісіяй ЦК КПБ і надрукаваных у восьмым нумары часопіса «Бальшавік Беларусі» (1948 г.). Даследаванні грунтаваліся на кансерватыўна-захаваўчых палажэннях рускіх дарэвалюцыйных манархічных гісторыкаў: пецяр-

бургскага прафесара М. О. Каяловіча, беларуса па паходжанню, і яго пераемнікаў на правінцыяльным узроўні— П. З. Бранцава, П. М. Бацюшкава. Праўда, такія погляды рускіх гісторыкаў-манархістаў былі крыху мадыфікаваныя ў 30—40-я гады XX ст. В. К. Шчарбаковым і І. Ф. Лочмелем, якія выкарысталі марксісцкую фразеалогію. І ўрэшце Л. С. Абэцэдарскі давёў гэтую схему да дасканаласці, замацаваўшы шэраг міфаў у беларускай гістарычнай навуцы. Аўтар жа артыкула, прапанаванага для альманаха, слушна падкрэслівае, што палажэнні Л. С. Абэцэдарскага і ягоных папярэднікаў В. К. Шчарбакова, І. Ф. Лочмеля і аўтараў «Тэзісаў» на чале з К. І. Шабуням (хаця фармальна на чале калектыву былі акадэмікі М. М. Нікольскі і У. М. Перцаў) цалкам уваходзілі ў агульнае рэчышча тагачаснай савецкай гістарычнай навукі. Яна базіравалася на унітарнай канцэпцыі аб'яднання ўсходнеславянскіх народаў вакол Масквы і механічным перанясенні сучаснасці на мінулае, падпарадкаванні вучонага аўтарытэту партыйнаму кіраўніцтву, а не наадварот. Як бачым, «абэцэдаршчына» жывучая, бо дагматы, якія былі закладзены ў фундаменце партыйнай ідэалогіі, сфарміравалі вобраз мыслення шматлікіх гісторыкаў і працягваюць уплываць на грамадскую думку і зараз.

Завяршаюць альманах матэрыялы малавядомых або зусім невядомых дакументаў. Перш за ўсё гэта сур'ёзная праца І. Хозерава «Полацкае дойлідства XI—XII стст. у святле новых даследаванняў». Даецца пераклад з лацінскай мовы апісання земляў еўрапейскіх краін, уключаючы першую згадку пра Белую Русь. Публікацыя дае магчымасць чытачу пазнаёміцца з гэтым вельмі цікавым дакументам.

Упершыню на беларускай мове публікуюцца памятныя запіскі вядомага палітычнага дзеяча канца XVIII — першай чвэрці XIX ст. Міхаіла Клеофаса Агінскага (больш вядомага цяпер як кампазітара, аўтара паланеза «Развітанне з Радзімай»). Галоўным у гэтых мемуарах 1811 г., накіраваных Аляксандру І, было тое, каб пераканаць імператара ў неабходнасці ўзнаўлення на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны былой Беларуска-Літоўскай, а дакладней, Беларускай дзяржавы.

І ўрэшце ўпершыню публікуюцца дакументы ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі канца 1918 — пачатку 1919 г. Зроблены тлумачэнні, у якіх умовах праводзілася палітыка гэтага ўрада, якіх дзеянняў прытрымліваўся яе прэм'ер-міністр Антон Луцкевіч.

Такім чынам, першы выпуск альманаха «Адраджэнне» ўвабраў у сябе багата розных артыкулаў і матэрыялаў, маючых арыгінальны характар. Спадзяёмся, што публікацыя іх дапаможа гісторыкам і ўсім тым, хто цікавіцца мінулым сваёй Бацькаўшчыны або асобнага рэгіёна Беларусі, знайсці ў кнізе шмат новага, цікавага і карыснага, аб'ектыўна ацаніць рух гісторыі.

*Аляксей Мельнікаў*

# «ЖЫЦІЕ» І ЖЫЦЦЁ ЕЎФРАСІННІ, ІГУМЕННІ ПОЛАЦКАЙ

Гісторыя беларускай культуры ведае цэлы шэраг асоб, без якіх немагчыма ўявіць сабе ў поўнай меры ўвесь ход духоўнага развіцця нацыі. Імёны шмат каго з іх былі забыты ў досыць нядаўнія часы, хаця многія носьбіты ўсходнеславянскай духоўнасці маглі б быць супастаўлены па сіле інтэлекту з дзеячамі заходнееўрапейскага Рэнесансу.

Полацкая князёўна-ігуменння Еўфрасіння была з таго сонму падзвіжнікаў, чыя духоўная праца абумовіла ўзлёт культуры на землях усходніх славян у канцы XI — пачатку XIII ст.,— узлёт, які можна было б назваць першым Адраджэннем, калі б мэтазгоднасць самога тэрміну ў дачыненні да Літоўскага (і ў большай ступені — Маскоўскага) княстваў, прынятага і надзвычай пашыранага ў сучаснай славістыцы, была даказана, а не проста дэкларавана.

Па дзіўнай іроніі лёсу, жыццё і дзейнасць адной з першых прызнаных усходнеславянскіх святых жанчын, фундаторкі, падзвіжніцы кніжнай справы, асветніцы і педагога досыць неакрэслена паўстаюць «скрозь цьмянае шкло» васьмі стагоддзяў. Адзінай крыніцаю, што даносіць да нас лёс князёўны, з'яўляецца агіяграфічная аповесць «Жыція» і смерці святой і блажэннай і найпадобнай Еўфрасінні, ігуменні манастыра Святога Спаса і Найсвяцейшай Маці Яго, што ў горадзе Полацку»*. Нешматслоўны сказ пра сапраўдныя падзеі жыцця святой насычаны, згодна з агіяграфічнай традыцыяй сярэднявечча, «агульнымі месцамі» і «біяграфічнымі гіпотэзамі», прасякнуты пафасам наследавання і перайманне, твор гэты неаднаразова цярпеў спробы фактаграфічнага даследу з боку навукоўцаў і краязнаўцаў XIX — пачатку XX ст., папулярызатараў культуры і белетрыстаў апошняга часу, якія нярэдка давалі вельмі вольную інтэрпрэтацыю тэкста, рабілі вывады хут-

* Далей тэкст прыводзіцца паводле спіса XVI ст. ДБЛ, ф. 113, № 632.

чэй смелыя, чым абгрунтаваныя. А гэта не спрыяла, нават часта ўскладняла справу ўзнаўлення рэальных фактаў біяграфіі Прадславы-Еўфрасінні, якая тоіць у сабе яшчэ шмат загадак.

Полацкая ігуменне паходзіла з роду князёў, які браў пачатак ад Ізяслава — сына Уладзіміра Вялікага (Хрысціцеля) і яго жонкі-выгнанніцы Рагнеды, празванай Гарыславай. Дзёрзкі нешчасліўца Усяслаў Брачыславіч, князь-чарадзей, які адваёўваў свае права на вялікакняскі пасад,— быў дзедам Прадславы, а яе бацька «меншы» (магчыма, малодшы) з сямі сыноў Усяслава — Георгій. Сучасная навуковая традыцыя прыпісвае прыналежнасць гэтага хроснага імені Святаславу Усяславічу, але ж яно магло належаць і князю Расціславу: лёсы братоў былі вельмі падобныя, а канкрэтных гістарычных звестак пра іх захавалася надзвычай мала, каб рабіць якія-небудзь канчатковыя вынікі. Пра маці князёўны таксама невядома нічога пэўнага. Магчыма, звалася яна Сафіяй — такі вывад быў зроблены ў выніку назірання над полацкай сфрагістыкай [1]. Але звесткі, што яна была ў сваяцтве з домам візантыйскіх імператараў Камнінаў,— гэта не болей чым эфектная, але бяздоказная гіпотэза, на карысць якой яе аўтары, у тым ліку Леў Гарошка, заяўляе, што маці Прадславы, магчыма, была нават роднай сястрой Мануіла Камніна [2], не прыводзяць ніякіх аргументаў і не спасылаюцца на іншыя крыніцы. Спробу «парадніць» Еўфрасінню з домам Камнінаў робяць і іншыя даследчыкі, напрыклад Іаан Калагрываў [3]. Папулярны гэты матыў і ў беларускай навуцы. Нам невядома крыніца, з якой узяты звесткі пра дачку Усяслава Чарадзея, якая нібыта выйшла замуж за Андроніка ці Ісаакія Камніна. А. П. Тыртаў [4] «абвінавачвае» ў паходжанні гэтай памылкі Карамзіна, але зусім беспадстаўна: апошні, наадварот, выпраўляе недакладнасць В. Тацішчава, які назваў Валадара Уладзімірам (а не Усяславам, як заяўляе Тыртаў) [5].

«Жыціе» Еўфрасінні называе таксама малодшага брата князёўны Давіда і яе малодшую сястру Градзіславу (у некаторых спісах — Гарадзіславу). Думаецца, што першы варыянт прачытання імені сястры Прадславы больш правільны. Прынамсі, логіка імёнаў дачок князя Георгія відавочная: старэйшая названа Прадславай (папярэдняй, даўняй славай — на ўспамін былой велічы Полацка), малодшая ж — Градзіславай (будучай, «грядущей» славай, як спадзяванне на адраджэнне магутнасці княства). Звяртае на сябе ўвагу таксама той факт, што

імёны, дадзеныя дзецям і ўнукам Георгія пры іх нараджэнні, пры хрышчэнні ўжо не змяняліся: гэтая традыцыя па невядомых прычынах скончылася на бацьку Еўфрасінні і яго братах.

Толькі па ўскосных дадзеных мы можам меркаваць і пра час нараджэння Прадславы-Еўфрасінні. Вядома, што яна прыняла пастрыг у 12-гадовым узросце: «И пришедши ей в возраст, и бысть двоюнадесять лет»,— так гаворыцца ў «Жыціі» (па спісе БАН, 32.8.1. С. 670). Якая верагоднасць таго, што лічба «дванаццаць» — гэта не адна з біяграфічных гіпотез, а рэальны ўзрост гераіні? Здавалася б, належыць схіліцца якраз да першага дапушчэння. Дванаццаць як свяшчэнная лічба Пісання, дванаццаць год як узрост пачатку падзвіжніцтва святых Еўфрасінні Александрыйскай і Агнесы і г. д. — усё гаворыць не на карысць рэальных звестак пра ўзрост будучай святой Прадславы. Але паглядзім на праблему з другога боку. У «Жыціі» сказана, што іменна ў гэтым узросце дзяўчыну пачалі сватаць: «Красота же ея многы славныа князя на любление приведе ко отцу ея, кождо их тщашеся дабы пояти ю в жену сыну своему», і іменна ў гэтым узросце бацька збіраўся выдаць яе замуж. Такія звесткі цалкам заслугоўваюць даверу: і для Русі, і асабліва для Заходняй Еўропы не рэдкімі былі шлюбы, што заключаліся нават і ў больш раннім узросце. Да таго ж фразу «и пришедши ей в возраст» можна інтэрпрэтаваць менавіта як указанне на дасягненне князёўнай паўналецця, а князь Георгій мусіў спяшацца з замужжам дачкі, каб дынастычным шлюбам умацаваць сваё хісткае становішча. Калі аналізаваць «Жыціе» з гэтага боку, то звестка пра ўзрост Еўфрасінні пры пастрыгу здаецца цалкам рэальнай, і мы схіляемся да таго, каб лічыць яе праўдападобнай. А гэта і будзе зыходным пунктам пры вызначэнні года нараджэння святой.

Як вядома, яна стала манашкаю пасля размовы з княгіняй Раманавай — так завецца яна ў «Жыціі»: «В та же лета бяше княини Романоваа игуменьею. Прииде к той, просящи прияти аггельскаго образа и причтатися ту сущим инокиням». Княгіня гэтая прыходзілася Прадславе цёткаю, і цалкам верагодна, што саму яе прымусіла пайсці ў манастыр, а можа нават і самой заснаваць яго, смерць яе мужа, Рамана Усяславіча, што адбылася ў 1113 г., паводле звестак В. Тацішчава [6] (паводле іншых крыніц — 1116 г.). Такім чынам, юная Прадслава прыняла пастрыг пасля гэтай падзеі, а нарадзілася не раней 1101 (1104) года. Далей мы яшчэ вернемся да ўдакладнення гэтай даты.

«Жыціе» не дае нам звестак пра тое, дзе Прадслава атрымала адукацыю. Вядома толькі тое, што «случи же ся девице сей ученне быти книжному писанию еще не достигше ей в совершен возраст телесного естества иже молитвы плод, и токма бысть любящи учение, якоже чудитися отцу ея о толице любви учению ея» (спіс БАН, 32.8.1. С. 669—670; у спісе ДБЛ, ф. 113, № 632 на гэтым месцы лакуна). Калі нават зрабіць папраўку на «этыкетнасць» паведамлення пра незвычайныя здольнасці юнай князёўны, адмаўляць сам факт адукаванасці яшчэ непаўналетняй Прадславы няма ніякіх падстаў. Наўрад ці Еўфрасіння атрымала адукацыю і была выхавана ў манастыры, бо невядома, ці існаваў увогуле да 1113 г. у Полацку манастыр, ды і аўтар «Жыція» абавязкова «абыграў» бы такую сімвалічную дэталь. З другога боку, пра манаскае жыццё Еўфрасіння ўжо ведала, што і абумовіла яе жаданне пастрыгу як альтэрнатывы замужжу. Гэтыя звесткі Прадслава магла ўзяць з агіяграфічных твораў, і асабліва з «Жыція» Еўфрасінні Александрыйскай, дзейнасць якой, несумненна, пераймала полацкая святая, што, дарэчы, вытлумачае некаторыя незразумелыя на першы погляд факты яе біяграфіі. Магчыма таксама, што князь Георгій запрасіў для выхавання дачкі настаўніка-святара, які і паўплываў на далейшы лёс князёўны.



Старонкі з жыцця Святой Еўфрасінні Полацкай з рукапісу XVI ст.

Як бы там ні было, але, таемна кінуўшы бацькоўскі дом, Прадслава ідзе недзе пасля 1113 г. у манастыр, дзе і прымае пастрыг, хутчэй за ўсё 25 верасня — у дзень святой Еўфрасінні Александрыйскай. У самім эпізодзе пастрыгу звяртае на сябе ўвагу тое, што ігуменння прапраноўвае Прадславе браць прыклад з Феўронні і Еўпраксіі, «иже Христа ради пострадаша». Ігуменняй, без сумніву, меліся на ўвазе пакутніца Феўронняя (памерла каля 304 г., гл.: Мінеі за 25 чэрвеня), а таксама, хутчэй за ўсё, Еўпраксія Тавенская (памерла ў 393 г., гл.: Мінеі за 12 студзеня), якая зусім не «пацярпела» за Хрыста, бо была не пакутніцай, а найпадобнаю. Чаму ж іменна гэтыя святыя павінны былі стаць для Еўфрасінні прыкладам пераймання? Справа, здаецца, у тым, што ігуменння, баючыся, што князь Георгій сілаю забярэ дачку з манастыра (бо з уцёкамі дачкі ён трапіў у досыць няёмкае становішча) і ўсё ж аддасць яе замуж, яе бы ўмацоўвала ў Еўфрасінні яе рашэнне прысвяціць сябе Богу, адмовіўшыся ад замужжа.

Праз некалькі год пражывання ў манастыры (ці, хутчэй, у манаскай слабодцы пры адной з полацкіх парафіяльных цэркваў) Еўфрасінні здалося, што яна падрыхтавана ўжо да неапекаванага падзвіжніцтва. Ці то пераймаючы жыццё Еўфрасінні-Ізмарагды, ці наследуючы жыццю самой Багародзіцы, ці то жадаючы цалкам аддаць сябе любімай справе, маладая манашка з благаславення епіскапа Ільі (хіратонія якога адбылася, магчыма, у 1120 г.[7], але, па меншай меры, пасля 1116 г., калі памёр епіскап Міна[8]) жыве ў келлі Полацкага Сафійскага сабору. «И пребывши неколико время в манастыри, и по том проси у епископа сущаго тогда нарицаемаго Илью, правящаго стол святое Софеи в Полотьсце, дабы ей велел ту пребыти в церкви святей Софеи в гольбци камене — се же подражающи оных древних во Иерусалиме дев,— каменціруе Дзімітрый Растоўскі,— в нихже бе и Пречистая Дева Богородица, жительствовавших при Соломоновой Святая Святых церкве, во особных камарах, при стене церковной на то устроенных» (спіс ДБЛ, Шыбан, № 170, л. 240). У «Жыціі» не гаворыцца, што абумовіла гэты выбар. Магчыма, адукаваную манашку прыцягвала бібліятэка, што павінна была знаходзіцца ў саборным храме. А можа, яна хацела ўшанаваць памяць дзеда, пры якім у 1044—1066 гг. быў збудаваны храм, альбо проста аддаць сябе пад містычны покрыў Сафіі — Мудрасці Божай.

Распаўсюджана думка, што жыццё Еўфрасінні гэтага перыяду было адзінокім і надзвычай аскетычным. Такое меркаванне супярэчыць звесткам, якія дае само «Жыціе». Згадаем, як казаў пазней епіскап: «Се церковь есть соборная идеже седиши; ту вси человеци собираются, и тобе не лепо зде пребывати». Ёсць і ўскосныя доказы. Менавіта ў гэты перыяд пачала Еўфрасіння сваю асветніцкую дзейнасць: «Начат книги писати своима рукама и наем емлющи, требующим даяше»; маецца на ўвазе, што яна, атрымоўваючы прыбытак ад продажу перапісаных кніг, аддавала грошы немаёмасным.

Усведамляючы неабходнасць такой працы і маючы добры арганізатарскі талент (які неаднаразова яшчэ выявіцца пазней), Еўфрасіння наўрад ці абмяжоўвалася адной толькі індывідуальнай дзейнасцю перапісчыцы. Хутчэй за ўсё, вакол князёўны сабраўся цэлы гурток таленавітых майстроў-кніжнікаў, і, відаць, немалы. Але ці толькі адной перапіскаю займалася князёўна? Верагодна, што, жадаючы мець паслядоўнікаў сваёй справы, яна сама (ці па яе наказе) падрыхтоўвала спецыялістаў для дальнейшай работы па распаўсюджанню кнігі на полацкіх землях, для чаго перш за ўсё патрэбна была школа. Нарэшце, тэкст «Жыція» змяшчае некалькі малітваў, укладзеных агіёграфам у вусны сваёй гераіні. Малітвы гэтыя маюць прыкметы экспрэсіўна-эмацыянальнага стылю XV—XVI стст. (г. зн. часу, калі ствараліся дайшоўшыя да нас перапрацоўкі «Жыція»). Але, ведаючы пра дзейны і творчы характар князёўны, яе пастаянную літаратурную дзейнасць, няцяжка дапусціць, што асобныя малітвы ці іх фрагменты складзены самою святой. Кнігі, перапісаныя альбо напісаныя Еўфрасінняй, леглі пазней у аснову бібліятэкі заснаванага ёю манастыра.

Вяртаючыся ад гіпотэз да фактаграфіі, згадаем эпізод з праяваю Еўфрасінні, пасля якой тая атрымала для заснавання ўласнай абіцелі цэркаўку св. Спаса ў Сяльцы (непадалёку Полацка, на правым беразе Палаты). На афіцыйную цырымонію епіскап Ілья заклікаў і трэцяга сына князя Усяслава — Барыса. Барыс Усяславіч памёр у 1128 г.[9], і, такім чынам, сам акт перадачы зямлі для манастыра адбыўся не пазней гэтага тэрміну.

Колькі гадоў магло быць тады самой Еўфрасінні? Пэўна, не менш чым 25. Калі ж рабіць падлікі, прыняўшы пад увагу містычнае значэнне сімволікі свяшчэнных лічбаў для чалавека той эпохі, то атрымаем 24 (12+12) або 26 (12+7+7). Адпаведна, дата нараджэння святой зна-

ходзіцца ў межах 1103±1 год. Калі ж дапусціць, што загадкавая фраза «луна солнечная», якая маецца ў адным з тэкстаў «Жыція», не з'яўляецца памылкай, то цалкам верагоднай можа быць здагадка, што фраза гэтая паказвае на пэўную астранамічную з'яву, зафіксаваную ў летапісах пад 1104 г., і намякае на год нараджэння Прадславы.

Дарэчы, зусім фантастычнай здаецца думка, якая знаходзіцца яшчэ ў навуковым ужытку, пра 1120 г. як дату нараджэння Прадславы, бо тады атрымалася б, што пастрыг князёўны адбыўся ў 1132 г. — у час, калі Георгій знаходзіўся ў высылцы ў Візантыю (1129—1139 гг.)! Вы-




Ікона найпадобнай Еўфрасінні Полацкай

клікае сумненні і мяркуемы 1110 г. нараджэння святой Еўфрасінні.

Святая князёўна добра ўсведамляла складанасць пастаўленай перад ёю задачы: манастыроў на Полаччыне, як і ўвогуле на Русі, на пачатку XII ст. было няшмат. Таму, хаця ў «Жыціі» і гаворыцца, што Еўфрасіння з радасцю згадзілася на прапанову епіскапа («Рада иду, яко Бог повелит ми, тако и будет»), тым не менш абраным Ільёю сведкам прыйшлося заклікаць сваячку да паслухмянасці: «Ты же иди и послушай епископа еже ти велит, тако створи, то есть отец всем нам, того подобает слушати». Зрэшты, такое «нежаданне» пакінуць келлю ў Полацкай Сафіі з'яўляецца, хутчэй за ўсё данінаю «этыкету», а не сапраўднай адмоваю ад прапановы епіскапа.

У хуткім часе заснаваны Еўфрасінняю Спасаў манастыр набывае шырокую выдомасць і такую папулярнасць, што яго маладой ігуменні не патрабуецца многа словаў, каб узрушыць да пастрыгу малодшую сястру Градзіславу (не пазней за 1129 г.). Гісторыя пастрыгу Градзіславы-Еўдакіі даволі падрабязна апісана ва ўсіх спісах «Жыція» Еўфрасінні Полацкай і ў многім нагадвае агіяграфічную легенду, хаця не давяраць ёй няма ніякіх падстаў: «... и тако посла ко отцу своему глаголющи: Пусти ко мне сестру мою Городиславу,— тако ей быста имя нарекла родителя,— да поучится,— рече,— грамоте. Он же пусти ю к ней. Она же с прилежанием учаше ея спасению души, сия же со прилежанием приимаше... Преподобная же Еуфросиния, введши ю в церковь, и повеле иерееви огласивши облещи в черьнеческия ризы и нарече имя ей Евдокия...» У хуткім часе бацька пасылае за Градзіславаю, але Еўфрасіння адмаўляецца адпусціць сястру, спаслаўшыся на тое, што яна яшчэ не поўнасцю засвоіла грамату. Георгій даведваецца аб прыняцці малодшай дачкою пастрыгу, прыязджае ў абіцель да Еўфрасінні і доўга дакарае старэйшую дачку за ўчыненае (верагодна, Еўфрасіння зноў пазбавіла яго надзеі выдаць замуж і другую дачку па дасягненні ёю паўналецця, скасаваўшы палітычныя планы бацькі).

У тым жа 1129, ці можа нават у 1128 г., г. зн. хутка пасля смерці свайго бацькі, следам за Градзіславаю, у Спасаву абіцель уступае і стрыечная сястра Еўфрасінні Звеніслава Барысаўна, прынесшы «всю свою утварь златую и ризы многоценны». Гэты ўчынак Звеніславы добра зразумелы: князёўна засталася фактычна без усялякай

падтрымкі пасля смерці бацькі і высылкі яго братоў. У манастве Звеніслава атрымлівае імя Еўпраксіі.

Па меры засялення манастыра і папаўнення яго касы новымі прынашэннямі, а таксама за кошт ахвяраванняў з боку свецкіх асоб і сродкаў, здабытых працаю саміх паслушніц (магчыма, той жа перапіскаю кніг), і, верагодна, часткова на грошы, атрыманыя Георгіем за службу ў Іаана Камніна, для манастыра адкрывалася магчымасць на месцы старой драўлянай царквы пабудаваць каменны храм. Для гэтага быў закліканы лепшы «приставник над делатели церковными», г. зн. падрадчык і адначасова, верагодна, дойлід Іаан, прычым царква «от начатка доспе за 30 недель» (відаць, «нядзеля» ў дадзеным кантэксце азначае ўсё ж «тыдзень», хаця для гэтага паняцця існавала слова «сядміца»). Увогуле, давяраць цалкам гэтаму паведамленню не варта. Прынамсі, трэба мець на ўвазе, што і тут таксама фігуруюць свяшчэнныя лічбы 3 і 7 (сем дзён у тыдні, альбо нядзеля — сёмы дзень тыдня). Як бы там ні было, такі досыць кароткі тэрмін будаўніцтва сведчыць аб добрых арганізатарскіх здольнасцях ігуменні, і ў такім жа сэнсе мы інтэрпрэтуем «дзіва аб знаходжанні пліт» для заканчэння будаўніцтва.

Нам здаецца, што час узвядзення храма Уседзяржыцеля трэба аднесці да 1139—1140 гг. і што ён быў збудаваны з нагоды вяртання трох полацкіх князёў з ссылкі. Л. Гарошка прапаноўвае аднесці будаўніцтва да 1128 г. на той падставе, што лічыць, нібыта пад «князьями и боярами», сабранымі на цырымонію асвячэння царквы, належыць зноў жа зразумець Георгія і Барыса. Што датычыць князя Барыса, то калі прызнаць яго прысутнасць на гэтай урачыстасці, неабходна шукаць іншыя прычыны, што прымусілі да пастрыгу яго дачку. Урэшце, гэтае дапушчэнне здаецца нелагічным яшчэ і таму, што тэрмін, які прайшоў з пачатку ігуменства Еўфрасінні, занадта невялікі (гэта адбылося яшчэ пры Ільі і Барысе), ды і імёны ў «Жыціі» не названы.

Праз пэўны час (паводле некаторых звестак, каля 1150 г.)[10], непадалёку жаночай Спасавай абіцелі Еўфрасіння ўзводзіць і яшчэ адну царкву — Багародзічную, пры якой засноўвае мужчынскі манастыр. Іменна для царквы Багародзіцы ігуменння вырашае набыць вядомы абраз Адзігітрыі Эфескай, напісаны, згодна паданню, евангелістам Лукою (адзначым, што розныя паданні прыпісваюць кісці Лукі, «лекара любаснага», розныя абразы). З гэтай мэтаю яна пасылае ў Канстанцінопаль свайго «слугу» Міхаі-

ла (што разумеецца пад «слугою» — дакладна невядома). Не выключана, што місія Міхаіла мела і дыпламатычныя мэты. Магчыма, яна была звязана з нядаўняю перамогай «грэкафільскай» партыі ў пытанні аб самастойнасці рускай мітраполіі над нацыянальнаю партыяй, звядзеннем з мітрапалічай пасады Клімента Смаляціча, пасля якога новы мітрапаліт — грэк Канстанцін пачаў ставіць на чале рускіх епархій сваіх аднадумцаў. Магчыма, што падарожжа Міхаіла было звязана ўжо са смерцю мітрапаліта Канстанціна ў 1158 г. (па храналогіі Таціштава) і мела месца пры полацкім епіскапе Казьме — грэку па паходжанні. Цяжка назваць прычыну, па якой падарожжа Міхаіла да імператара Мануіла I Камніна (1143—1180) і патрыярха Лукі Хрысоверга (1156—1169) вырастае са звычайнага мікрасюжэта ледзь не ў «мікранавелу». Не выключана магчымасць таго, што аўтар «Жыція», калі гэта і не быў сам Міхаіл, альбо чуў ад Міхаіла апавяданне пра падарожжа, альбо карыстаўся яго запісамі (што-небудзь накшталт «хаджэння»). Як бы там ні было, эпізод з місіяй Міхаіла ўяўляе значную цікавасць для даследчыка.

Справа ў тым, што калі Еўфрасіння і сапраўды жадала набыць абраз іменна Эфескай Адзігітрыі, як пра гэта гаворыцца ў «Жыціі», то місію Міхаіла ніяк нельга назваць паспяховай. Царградскія ўладыкі прыслалі, папершае, не арыгінал, а копію, пра што красамоўна сведчыць факт благаславення патрыярхам — не Міхаіла, які выпраўляўся з абразом у Полацк, але самога цудадзейнага абраза: «патриарх же Лука собра епископы и собор весь во святую Софию, и, благословив, даст ю слузе преподобныя Еуфросиниа». Па-другое, Еўфрасіння атрымала копію не Эфескага, а якраз Царградскага абраза, пра што сведчыць звычай насіць яго па полацкіх цэрквах кожны аўторак, як тое рабілася ў Канстанцінопалі з арыгіналам: «и устави по вся вторникы носити ю по святым церквам». Такім чынам, гісторыя пра падарожжа абраза з Эфесу ў Царград пад аховаю сямісот воінаў лагічна неабаснавана, калі, зразумела, не дапусціць, што Міхаіл прывёз не адну, а дзве іконы. На карысць гэтага ўскосна сведчыць тое, што дагэтуль незразумелы далейшы лёс абраза. Меркаванні гісторыкаў тут падзяліліся. Сучасная традыцыя згаджаецца з думкаю, што пазней абраз Адзігітрыі быў перанесены ў Тарапец, а пункт погляду І. Стэбельскага, што зараз абраз вядомы пад назваю Чэнстахоўскі, увогуле ігнаруецца.

Паспрабуем цяпер вызначыць храналагічныя рамкі

гэтай падзеі. Факты, выкладзеныя ў «Жыціі», не дазваляюць звузіць шырокі прамежак часу, у які адбылося набыццё Еўфрасінняй Эфескага абраза. Абмяжоўваецца яно гадамі патрыяршаства Лукі Хрысоверга. Урэшце, гэты чатырнаццацігадовы перыяд можна звузіць больш чым удвая, калі згадаць пра рэліквію з надзвычай загадкавым лёсам — шасціканцовы крыж, зроблены па замове Еўфрасінні ювелірам Лазарам у 1161 г. Крыж гэты вядомы зараз толькі па малюнках і апісаннях, месцазнаходжанне яго невядома. Па сутнасці, ён з'яўляецца каўчэжцам для захавання мошчаў святых Стафана і Панцялеймона, крыві святога Дзімітрыя і іншых святыняў, пра што сведчаць надпісы на крыжы. Калі глядзець на гэты крыж-рэліквіяр як на карціну гістарычных звестак, то здаецца лагічным дапушчэнне, што рэліквіі, змешчаныя ў каўчэжцах крыжа, былі набыты якраз пад час падарожжа Міхаіла, якое, у святле раней сказанага, адбылося ў 1156—1160 гг. Найбольш верагодна, у 1159—1160 гг. крыж Лазара Богшы быў выкананы, відаць, у манастырскай майстроўні адным з манахаў (на гэта намякае мянушка Богша); у той жа майстроўні быў выкананы і аклад Эфескага абраза, а таксама рабіліся рэчы царкоўнага ўжытку. Адсутнасць жа ўпамінання крыжа коштам 40 грывен у «Жыціі» ўскосна сведчыць пра багацце ўбранства збудаваных Еўфрасінняй храмаў: сярод іншых аздобаў гэты крыж не з'яўляўся нечым асаблівым, каб быць памянёным у «Жыціі».

Дарэчы, у манастырах, заснаваных Еўфрасінняй, была апрача ювелірнай і іканапісная майстроўня, скрыпторый (у якім, верагодна, было напісана само «Жыціе»); насельнікі вучыліся не толькі належным паводзінам, як пра тое гаворыцца ў аповесці, але чытанню, пісьму і спевам (служба Еўфрасінні таксама была створана ў адным з гэтых манастыроў у XII ст.). Трэба адзначыць, што наяўнасць пры манастыры бальніцы з'яўляецца нічым не аргументаванай гіпотэзай, бо адзінаю падставай для яе з'яўляецца фраза «Жыція» «хворым наведванне» — а гэта звычайнае запазычанне, якіх шмат у гэтай агіяграфічнай аповесці.

Амаль чвэрць тэксту «Жыція» займае апавяданне пра апошнія месяцы жыцця Еўфрасінні — пастрыжэнні ёю дзвюх сваіх пляменніц і паломніцтва ў Канстанцінопаль і Іерусалім. Але, нягледзячы на падрабязнае апісанне гэтага перыяду жыцця князёўны, датыроўка згаданых падзей і асабліва смерці святой дае падставы для самых разнастайных здагадак даследчыкаў. Не будзем казаць зараз пра

тое, што і адносна дня смерці ў розных рэдактараў «Жыція» няма згоды: адны называюць 23, другія — 24, трэція — 25 мая*, у спісе БАН, 17.13.22 прыводзіцца дата 11 снежня, — і гэта калі ігнараваць зусім фантастычныя звесткі пра «успение... Еуфросинии Полоцкой в лето 6601» — 1093 (БАН, 13.2.13, л. 198 адв.) і да т. п.

Паломніцтва Еўфрасінні ў Канстанцінопаль і Іерусалім было сухаземным, а не традыцыйным шляхам «з варагаў у грэкі», інакш немагчыма была б сустрэча князёўны з імператарам Мануілам пад час яго паходу «на Угры».

Перад тым як адправіцца ў шлях, Еўфрасіння схіліла да пастрыгу ў манашкі дзвюх пляменніц. Сам пастрыг



Гравюра з абраза Еўфрасінні Полацкай

* Магчыма, такая разбежка ўказвае на тое, што Еўфрасіння памёрла ў ноч з 23 на 24 мая, але не выключана, што гэтае разначытанне ўзнікла з-за несупадзення традыцый пры адліку часу ў сутках.

здзейсніў епіскап Дыянісій (пасля 1156 г.,+1182 г.)[11]; паводле неправераных звестак мітрапаліта Імануіла, хіратонія ў епіскапы Дыянісія адбылася ў 1166 г. З другога боку, у «Жыціі» апавядаецца, што «срете ю царь, идый на Угры, с великою честию, посла ю в Царьград». (Мэта гэтай місіі дакладна невядома, але можна меркаваць, што Еўфрасіння кіравалася не толькі рэлігійнымі, але і дыпламатычнымі мэтамі, выпраўляючыся ў сваё паломніцтва. Думаецца, ігумення несла князям-суседзям пропаведзь міру, прымаючы за гэта ад іх «пашану вялікую», ды і час падарожжа супадае з чарговым усплёскам варожасці паміж Ізяславічамі і кіеўскімі Яраславічамі ў сярэдзіне 60-х гадоў.) Царом, згаданым у «Жыціі», быў імператар Мануіл, які на пачатку красавіка сапраўды выправіўся ў свой апошні паход супраць венграў[12]. Пасля непрацяглага пражывання ў Царградзе і Іерусаліме Еўфрасіння памёрла, прыкладна праз паўтара-два месяцы пасля сустрэчы з імператарам. Такім чынам, атрымліваем год смерці Еўфрасінні — 1167. У навуковай і царкоўнай літаратуры звычайна называецца іншы год смерці святой Еўфрасінні — 1173, але гэта значна менш верагодна, бо ў тым жа 1173 г. Мануіл Камнін ішоў вайною не на венграў, а на сербаў, а не давяраць аўтару «Жыція» няма ніякіх падстаў.

Па невядомай прычыне, мабыць, пераймаючы жыццё Еўфрасінні Александрыйскай, полацкая святая пажадала быць пахаванаю ў мужчынскім манастыры Савы Асвячонага. Гэтаму жаданню не суджана было спраўдзіцца: атрымаўшы адмову манахаў лаўры Святога Савы, Еўфрасіння скарысталася іх прапановай абраць больш блізкі да Іерусаліма старажытны манастыр Святая Феадосія. У цытаваным спісе «Жыція» ёсць згадка пра пахаванне цела Еўфрасінні: «Давыд же и Еупраксия и с прочими спряташа тело ея честно» (малодшыя брат і сястра былі ўзяты Еўфрасінняй у паломніцтва). Але ніводны тэкст не апавядае пра перанясенне мошчаў князёўны ў Феадосіевы пячоры Кіеўскай лаўры, дзе яны знаходзіліся да 1910 г. (пасля чаго былі перанесены ў Полацк), што давала падставы некаторым аўтарам сумнявацца, ці былі ўвогуле перанесены ў Кіеў мошчы святой рускімі манахамі пасля заваёвы Іерусаліма егіпецкім султанам Саладынам у 1187 г.[13] Такое «замоўчванне» паддаецца праўдападобнаму тлумачэнню: «Жыціе» было напісана яшчэ да 1187 г., і аўтар проста не мог ведаць пра перанясенне. Зрэшты, у Полацку маглі не ведаць пра гэта і пасля, бо яго ўзаемаадносіны з Кіевам былі досыць складанымі.

* * *

Да Макар'еўскіх сабораў 1547 і 1549 гг. кананізацыя святых не мела такога афіцыйнага характару, як пасля. Устанаўленне культу было прэрагатывай епіскапа. Шанаванне Еўфрасінні хутчэй за ўсё пачалося яшчэ пры епіскапе Дыянісіі. Пацвярджаецца гэта ранніх (XII ст.) стварэннем службы князёўне (гл. спіс сціхірара ДПБ, саф. № 96, л. 129 адв.— 130). Афіцыйнай кананізацыі Еўфрасінні не было, і да XVI ст. полацкая святая была малавядомаю ў Маскоўскай Русі да таго часу, пакуль мітрапаліт Макарый не ўключыў яе «Жыціё» ў Вялікія Чэцці Мінеі» 23 мая. У той жа час «Жыціе» трапіла і ў «Ступенную кнігу царскага радаслоўя». Служба Еўфрасінні была афіцыйна зацверджана ў 1893 г.

[1] *Янин В. Л.* Полоцкий матриархат // Знание — сила. М., 1970. № 12.

[2] *Гарошка Л.* Сьв. Еўфрасіня-Прадслава, ігумення манастыра сьв. Спаса ў Полацку, патронка Беларусі. Парыж, 1949. С. 30.

[3] *Иоанн (Кологривов).* Очерки по истории Русской Святости. Брюссель, 1961. С. 251.

[4] *Тыртов А. П.* Некоторые пояснения к описанию жития преподобной Ефросинии княжны Полоцкой. Витебск, 1883. С. 20—23.

[5] *Карамзин Н. М.* История государства Российского. Т. 2. СПб., 1818. С. 111. Прим. 209.

[6] *Татищев В. Н.* История Российская. Т. 2. М.; Л., 1963. С. 130.

[7] *Гарошка Л.* Сьв. Еўфрасіня-Прадслава... С. 13 (без спасылкі на крыніцу); *Сапунов А.* Краткий очерк исторических судеб Полоцкой епархии. Ч. 1 // Витебская старина. Т. 5. № 2. С. 49. Витебск, 1888.

[8] *Строев П.* Списки иерархов и настоятелей монастырей Российской Церкви. СПб., 1877. Стлб. 496.

[9] *Татищев В. Н.* История Российская. Т. 2. М.; Л., 1963. С. 140.

[10] *Ратшин А.* Полное собрание исторических сведений о всех бывших в древности и ныне существующих монастырях и примечательных церквях в России. М., 1852. С. 21.

[11] *Строев П.* Списки иерархов... Стлб. 496. Называецца таксама 1184 г. (*Татищев В. Н.* История Российская. Т. 3. М.; Л., 1963. С. 131).

[12] *Грот К.* Из истории Угрии и славянства в XII в. (1141—1173). Варшава, 1889. С. 370—379.

[13] *Иоанн (Кологривов).* Очерки по истории Русской Святости. С. 251.

***Уладзімір Арлоў***

## ХТО ВЫКРАЎ КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ?

У лета 6669 ад стварэння свету, а ад нараджэння Хрыстовага — 1161 полацкі майстар Лазар Богша стварыў на заказ асветніцы Еўфрасінні Полацкай свой славуты

крыж — шэдэўр старажытнабеларускага ювелірнага мастацтва. Змешчаны на ім заклён абяцаў страшную кару таму, хто ўкрадзе, аддасць або прадасць святыню. Але страх перад Божым пакараннем не стаў неадольным, бо крыж Лазара Богшы чакала сапраўдная адысея, поўная таямніц і прыгодаў.

Неўзабаве пасля смерці падзвіжніцы рэліквію вывезлі з полацкага храма Спаса ў Смаленск, адкуль яна ў 1514 г., пасля захопу гэтага старажытнага беларускага горада Васілём III, трапіла ў Маскву. У час Лівонскай вайны Іван Жахлівы загадаў вярнуць святыню на ранейшае месца — напэўна, хацеў замаліць учыненыя па ягоным загадзе ў Полацку крывавыя злачынствы. Пасля вызвалення горада войскамі Стэфана Баторыя царква, дзе знаходзіўся крыж, перайшла паводле каралеўскага загаду да ордэна езуітаў. З таго часу палачане захоўвалі рэліквію ў Сафійскім саборы, які з канца XVI ст. да 1839 г. быў уніяцкім храмам. Разумеючы ўплыў нацыянальнай святыні на вернікаў-беларусаў, езуіты вялі судовы працэс, каб вярнуць крыж у Спасаўскую царкву. Прайграўшы справу, яны зрабілі няўдалую спробу выкрасці рэліквію, падмяніўшы яе падробкаю.

Калі ў 1812 г. Полацк на колькі месяцаў трапіў у рукі французаў, крыж перахавалі ў сцяне Сафійскага сабора ў замураванай нішы.

Пасля гвалтоўнага скасавання царскімі ўладамі Уніі полацкі архіепіскап Васіль Лужынскі, які перайшоў у праваслаўе, зрабіў з крыжам святой Еўфрасінні падарожжа ў Маскву і ў Пецярбург. У саборнай царкве Зімовага палаца рэліквію агледзеў імператар Мікалай І. Існавала небяспека, што святыня можа назаўсёды застацца ў Пецярбурзе, але на цара і прыдворных, відаць, зрабіў уражанне старажытны надпіс з заклёнам.

23 мая (ст. стылю) 1841 г., у дзень памяці св. Еўфрасінні Полацкай, хросны ход урачыста перанёс рэліквію з Сафійскага сабора ў храм Спаса. Яе паклалі ў келлі, дзе асветніца пражыла свае апошнія гады.

Лёс крыжа Еўфрасінні Полацкай у наш час варты асобнага нарыса, які вельмі нагадвае дэтэктыў.

У 1921 г. святыня была рэквізавана. Так з-пад апекі духавенства яна, як і іншыя царкоўныя каштоўнасці, трапіла пад крыло ОГПУ, установы, што займалася ў краіне ўсім, у тым ліку і нацыянальнымі рэліквіямі.

З канца дваццатых палітыка «беларусізацыі» пачала па камандзе з Масквы хутка згортвацца. Пасля публіка-

цыі ў 1928 г. пагромнага артыкула сакратара ЦК КП(б) Беларусі Вільгельма Кнорына «Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытанні» распачынаецца падрыхтоўка да расправы з нацыянальнай інтэлігенцыяй. Наперадзе незлічоныя арышты, лагеры і расстрэлы...

У той трывожны час былы прем'ер БНР*, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея Вацлаў Ластоўскі выязджае з адмысловаю экспедыцыяй у Полацк. Яго мэта — пошукі неацэннага твора Лазара Богшы.

Крыж Еўфрасінні «знайшоўся» ў мясцовым фінаддзеле і быў перавезены ў Менск. Але над рэліквіяй ужо навісла пагроза. Наступ на беларускую культуру працягваўся. «Чыстка» ішла не толькі сярод людзей, але і сярод музейных экспанатаў. Грунтоўна ператрасалі фонды і найперш, вядома, у музеі, на чале якога стаяў такі «недабранадзейны» чалавек, як Ластоўскі. Частка экспанатаў вывозілася за межы Беларусі або проста знішчалася. Найбольш дарагія рэчы забіралі ў сталіцу. Паводле звестак беларускага даследчыка з ЗША Вітаўта Тумаша, зроблены ў часе другой сусветнай вайны перагляд інвентарных кніг паказаў, што ў 20—30-х гадах з Беларускага дзяржаўнага музея ў Маскву вывезлі ўсе самыя каштоўныя абразы, увесь залаты і срэбны посуд, збор слуцкіх паясоў і народных строяў, калекцыю старажытных манет з беларускіх скарбаў, унікальныя архіўныя матэрыялы. Адбываўся сапраўдны рабунак культурнай спадчыны народа, разбуралася яго нацыянальная свядомасць.

Гэтае злачынства спачатку праходзіла пад выглядам эвакуацыі каштоўнасцей далей ад дзяржаўнай мяжы. Страх перад «інтэрвенцыяй міжнароднай буржуазіі» разам з іншымі, унутранымі прычынамі нарадзіў ідэю перанесці сталіцу БССР у Магілёў. Горад рыхтаваўся да новай ролі. Ішло метадычнае знішчэнне храмаў, адначасова ў Магілёў пераводзіліся рэспубліканскія ўстановы, будаваўся Дом урада. У 1929 г. у Магілёў трапіў і крыж Еўфрасінні Полацкай.

Апублікаваныя доктарам Тумашам у «Запісах Беларускага інстытута навукі і мастацтва» ў Нью-Йорку дакументы дазваляюць прасачыць хаду гэтых падзей.

21 лістапада супрацоўнік аддзела фельд'егерскай сувязі Паўнамоцнага прадстаўніцтва ОГПУ па Беларускай вайсковай акрузе Лугаўцоў атрымаў ад начальства даверанасць «на право получения ценностей из Государствен-

* Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 г.

ного Музея, для отправки таковых в гор. Могилев». Даверанасць падпісалі начальнік фельдаддзела А. Іваноў і інструктар А. Пішчык.

Тым самым днём датаваны і акт аб перадачы крыжа Еўфрасінні ў рукі Лугаўцова. З акта вынікае, што ў гэты час В. Ластоўскі ўжо не працаваў дырэктарам, аднак нацыянальную рэліквію ён перадаваў «чэкісту» яшчэ за сваім подпісам, бо, відаць, быў за яе асабіста адказны. Зрэшты, звернемся да дакумента, захаваўшы яго арфаграфію і пунктуацыю.

### Акт

1929 г. 21 лістапада складзены гэты акт аб перадачы Беларускім Дзяржаўным Музэям у Менску Беларускаму Музэю ў Магілёве крыжа Эфросініі Полацкай.

1) Футляр медны пасярэбраны, пазалочаны з пабітым шклом, у сярэдзіне крыжу футляр падобны.

а) на футляры ёсьць славянскія надпісы.

2) Крыж зроблены з дубовага* дрэва і абложаны золатам і славянскімі буквамі.

3) Пад верхняй папярэчкай крыжа не дастае 2-х кавалкаў золата і дрэва.

4) На верхняй папярэчцы крыж, які быў вылажаны каменьнямі, каменьняў няма.

5) Унізе крыжа зроблена надстаўка.

6) На верхнім канцы крыжа ёсьць уноў дароблонае выабражэньне багародзіцы (жоўтага мэталю).

7) Правае крыло верхняга боку крыжа заложана такой самай устаўкай новага мэталю.

8) З ліцавога боку крыж кругом абведзены шнурком на нітцы жэмчуга.

9) З ліцавога боку выламана тры эмалі прэабражэньня сьвятых.

10) 10-ць выабражэньняў сьвятых папсаваны.

11) У верхняй папярэчцы ў пазах 4-х кантовага крыжу 4 гнязды, у якіх няма каменьняў.

12) У ніжняй папярэчцы ў пазах 4-х кантовага крыжу 4 гнязды, у якіх няма каменьняў.

13) З ліцавога боку 8 гнёзд, запоўненых каменямі, з якіх 3 на дзержаньні авальнай формы, 2 сініх і 1 цёмначырвон.

---

* Верагодней — з кіпарысавага.

14) На правым баку ніжняй папярэчцы круглы амэтыст, прыбіты 2 цьвікамі і на левым баку ніжняй папярэчцы белы камень.

15) Паміж верхняй і ніжняй папярэчкай белы камень авальнай формы.

16) На верхняй папярэчцы 2 камені белага шкла.

17) На адвароце крыж гладкі, пакрыты эмалью з выабражэньнем 3-х сьвятых папсаван. З трох гнёзд рэліквіі адно пустое.

18) З верхняга боку крыжа паложана рубчатая акоўка, у якой трымаецца жамчуг, часьць яе з правага боку пад палукруглым пазухам абломана. (Апісаньне зроблена паводле акту, складзенаму ў Полацку пры перадачы крыжа Ластоўскаму, і акту прыёмачнаму, складзенаму ў Менску.)

Далей падаецца апісаньне паводле акту камісіі з удзелам ювеліра-экспэрта:

1. На рукаятцы 1 ніжні блакітны авальны камень — ёсьць афарбаванае шкло.

2. Другі знізу на рукаятцы цёмна-чырвонага колеру, авальны камень — ёсьць гранат, каштоўнасць якога прыблізна 3—5 рублёў.

3. Трэйці на рукаятцы авальны блакітны камень — ёсьць афарбаванае шкло.

I. На ніжняй папярэчцы злева авальны белы камень сэрдалікавага пераліву — ёсць афарбаванае шкло; з правага боку гэтай папярэчцы гранёны круглы камень — ёсьць амэтыст, пастаўлены значна пазьней, каштоўнасьць яго каля 1-го рубля.

II. Паміж ніжняй і верхняй папярэчкай авальна-гладкі камень сэрдалікавага пераліву — ёсьць афарбаванае шкло.

III. На верхняй папярэчцы 2 круглыя, плоскія, гладкія камяні луннага колёру — шкло.

Усяго на крыжу 8 каменьняў, з якіх 6 — шкло, 1 амэтыст і 1 гранат.

IV. Шнурок жэмчугу, якім абведзены весь крыж, важыць 32 і 5 грама разам з ніткай. Жэмчуг увесь праўдзівы, родадзкі (? — *У. А.*), перамяшаны з так званым яўрэйскім, прыблізная каштоўнасьць іх усіх = каля 200 рубл.

(Далейшы тэкст акту дапісаны чарнілам, рукою Вацлава Ластоўскага):

Крыж гэты запісаны ў кнігу экспанатаў Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску пад № 7591.

Крыж здадзены, згодна распараджэньню Наркомась-

веты, былым дырэктарам БДМ тав. Ластоўскім В. Ю. прадстаўніку Фэльдаддзела ПП ОГПУ по БВО тав. Лугаўцову, згодна даверанасьці Фэльдаддзела ПП ад 21/XI.29 г. за № 68813, для дастаўкі ў Магілёўскі Дзяржаўны Музэй і перадачы яго асабіста дырэктару Музэю тав. Вінікаву У. Л.

Перадача адбылася ў прысутнасьці: дырэктара БДМ у Менску тав. М. І. Шапавалава, дырэктара БДМ у Магілёве тав. У. Л. Вінікава, нам. дыр. БДМ у Менску тав. А. В. Бурдзейкі.

Здаў В. Ластоўскі (подпіс).

Для перадачы дырэктару Магілёўскага Музэю т. Вінікаву прыняў Лугаўцоў (подпіс).

Прысутнічалі: М. Шапавалаў (подпіс).
В. Виников (подпіс).
А. Бурдзейка (подпіс).

(Далейшая дапіска зроблена 22 лістапада 1929 г. ужо ў Магілёве):

Вызначаны ў гэтым акце крыж у стане згодна акту 1929 году, лістапада 22 дня а дзевятай гадзіне ў вечары на месцы атрымаў ад т. Лугаўцова, прыставіўшага гэты крыж па даручэньню БДМ у Магілёўскі Дзярж. Музэй.

Дырэктар Магілёўскага Дзяржаўн. Музэю — В. Виников (подпіс).

Крыж здаў Лугаўцоў (подпіс).

Прысутнічалі: Навуковы супрац. Магілёўскага Дзярж. Музэю

(подпіс нечытэльны)

(другі подпіс нечытэльны)

Круглая пячатка з надпісам у сярэдзіне: «Археографический Научный Музэй».

Надпіс навокал: «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!»

Дакументы сведчаць, што, акрамя крыжа, у той самы дзень В. Ластоўскі здаў Лугаўцову за сваім подпісам і перапісанае ў 1582 г. слуцкім князем Юрыям Алелькавічам Евангелле, якое паходзіла з бібліятэкі Свята-Траецкага манастыра ў Слуцку. Дзе гэтая унікальная кніга сёння — таксама загадка. Але наша гаворка пра адысею крыжа Еўфрасінні.

У канцы XIX ст. сябра рады Полацкага царкоўнага брацтва святар М. Дуброўскі зрабіў вопіс рэліквіі, які цікава параўнаць са звесткамі пададзенага вышэй акта. Паводле першага вопіса, з 20 эмалевых абразкоў на кры-

жы няма аднаго, а пяць іншых — пашкоджаныя. У 1929 г. тры выявы святых ужо выламаныя, а 13 — папсаваныя. З усіх каштоўных камянёў уцалелі два — аметыст і гранат. На месцы астатніх засталіся пустыя гнёзды або з'явіліся кавалачкі рознакаляровага шкла. На верхняй папярэчыне не хапала двух кавалкаў золата і дрэва. Як бачым, «ваяўнічыя атэісты» за лічаныя гады ўчынілі святыні шкоду, якая перавышае ўсе страты папярэдніх сямі з паловаю стагоддзяў.

Па ўспамінах магілёўскага краязнаўцы і і былога супрацоўніка музея Ераніма Філіповіча, на новым месцы крыж Еўфрасінні змясцілі ў музейную экспазіцыю, але шмат хто з наведнікаў, асабліва жанчыны, пачалі перад святыняю маліцца і адбіваць ёй паклоны. Напэўна, гэта таксама адыграла ролю ў перавозе крыжа з музея ў будынак былога зямельнага банка, дзе ў 30-я гады мясціліся абкам і гаркам партыі. Будынак меў адмысловы пакой з масіўнымі кратамі на вокнах і браніраванымі дзвярыма таўшчынёю 15 сантыметраў, за якімі былі яшчэ адны — кратаваныя. Менавіта ў гэтым пакоі-сейфе колішняга банка на пачатку вайны разам з іншымі найкаштоўнейшымі музейнымі экспанатамі ляжаў крыж Еўфрасінні Полацкай. Згодна афіцыйнай версіі, адтуль у 1941 г. яго выкралі фашысцкія захопнікі.

Але ці так было ў сапраўднасці? Магілёў жа знаходзіўся за паўтысячы кіламетраў ад дзяржаўнай мяжы, і час дазваляў правесці эвакуацыю скарбаў. Гэта і нарадзіла чуткі, што рэліквія паехала ў гады ваеннага ліхалецця на ўсход. Такім размовам спрыяла і тое, што і афіцыйныя ўлады і так званыя кампетэнтныя органы чамусьці пазбягалі расследавання або праводзілі яго таемна, не паведамляючы вынікаў.

У 60-я гады Магілёўскі абласны музей звярнуўся з запытам наконт лёсу крыжа ў Эрмітаж. Адтуль прыйшоў не падмацаваны ніякімі дакументамі адказ, што крыж Еўфрасінні Полацкай трапіў у зборы мільянераў Морганаў і знаходзіцца ў Нью-Йорку.

Праз нейкі час гэтая заблытаная гісторыя прыцягнула ўвагу вядомых вучоных супрацоўнікаў Акадэміі навук БССР літаратуразнаўцы Адама Мальдзіса і археолага Георгія Штыхава. Вынікам іхняй паездкі ў Магілёў стаў зварот да вышэйшых рэспубліканскіх інстанцый, пасля чаго названых вучоных, а таксама дырэктара абласнога музея І. Скварцова і былога дырэктара І. Мігуліна выклікаў да сябе тагачасны намеснік старшыні Прэзідыума

Вярхоўнага Савета Беларусі І. Клімаў, які ўзначальваў Рэспубліканскае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Як прыгадвае Скварцоў, размова адбывалася прыкладна ў такім тоне:

«**Клімаў:** Что вам нужно?

**Скварцоў:** Мне лично ничего не нужно. Пропали ценнейшие белорусские реликвии, но ими никто не интересуется.

**Клімаў:** Какие у вас есть документы?»

Дырэктар музея паказаў адказ з Эрмітажа пра знаходжанне крыжа ў калекцыі Морганаў. Прачытаўшы паперыну, Клімаў павярнуўся да І. Мігуліна, які ўзначальваў Магілёўскі музей напярэдадні вайны: «Ну, расскажи, старик...»

І той расказаў, што ў першыя дні вайны яго ўзялі ў апалчэнне, а 29 чэрвеня 1941 г. ён з двума такімі самымі апалчэнцамі апынуўся каля горада Бялынічы, дзе яны рэквізавалі коней і вярнуліся ў Магілёў. Там ён прыйшоў у абласны ваенкамат і запатрабаваў транспарт дзеля эвакуацыі свайго музея, але нічога не дасягнуў і заняўся эвакуацыяй жонкі і двух малых дзяцей. На станцыях з вагонаў нікога не выпускалі, і пра ўзяцце Магілёва немцамі Мігулін даведаўся толькі на пятнаццатыя суткі.

Клімаў паспачуваў, зазначыўшы, што і сам ведае, як цяжка было праводзіць эвакуацыю. Гутарка скончылася перадачаю яму копіі акта аб стратах абласнога музея ў выніку нямецкай акупацыі.

Пра гэта ў артыкуле «Таямніца крыжа» ў 1990 г. расказаў на старонках газеты «Советская Белоруссия» супрацоўнік Магілёўскага абласного аддзялення Беларускага фонда культуры В. Юшкевіч. Ён падае і такі акт, які з прычыны яго важнасці для пошукаў страчаных нацыянальных каштоўнасцей прыводзім цалкам.

### Акт

22.XII.1944 года. гор. Могилев.

Мы, нижеподписавшиеся, комиссия в составе 3-х человек: директора музея тов. Мигулина Ивана Сергеевича, учителя Мог. педучилища тов. Авсеенкова Вячеслава Дмитриевича и инженера Мог. обл. к-ры промбанка тов. Кроера Сергея Митрофановича с участием эксперта-свидетеля художника г. Могилева тов. Пономарева Владимира Александровича составили настоящий акт об

ущербе, причиненном фашистами Могилевскому областному государственному историческому музею, находящемуся в г. Могилеве.

Сожжено и разграблено немецкими оккупантами в 1941 году. Перечень отдельных видов разрушенного, уничтоженного, расхищенного и поврежденного имущества:

| №№ п/п | Виды преимущества (по номенклатуре) | Един. изм. | К-во полностью разрушенного, уничтоженного, расхищенного | Стоимость причиненного ущерба (в руб.) |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Археологическая коллекция каменных орудий и предметов материальной культуры | Предм. | 500 | 2 000 000 |
| 2. | Собрание белорусских рукописных и старопечатных книг и грамот | Экз. | 175 | 3 000 000 |
| 3. | Нумизматическая коллекция | Монет | 18 000 | 1 500 000 |
| 4. | Коллекция холодного и огнестрельного оружия X—XVI вв. и др. доспехов и вооружения | Предм. | 280 | 1 000 000 |
| 5. | Коллекция образцов художественной работы по дереву белорусских мастеров XVI—XVIII вв. | Предм. | 120 | 3 000 000 |
| 6. | Коллекция художеств. фарфоровых изделий XVIII—XIX вв. | — | 170 | 500 000 |
| 7. | Историческая библиотека | Томов | 1200 | 500 000 |
| 8. | Ризы, оклады и др. церковная и бытовая утварь XVI—XVII вв. Художеств. работы местных мастеров | Предм. | 1900 | 10 000 000 |
| 9. | Коллекция икон письма XIII—XVIII вв. работы белорусских мастеров | Экз. | 150 | 5 000 000 |
| 10. | Крест Ефросиньи Полоцкой работы византийских мастеров | Шт. | 1 | 6 000 000 |
| 11. | Золотой, серебряный ключ гор. Могилева ювелирной работы XVIII в. | Шт. | 1 | 1 000 000 |
| 12. | «Екатерина Святая» работы Боровиковского | Масло | 1 | 5 000 000 |
| 13. | «Иосиф Обручник» работы его же | » | 1 | 4 000 000 |
| 14. | «Мария» работы его же | » | 1 | 2 000 000 |
| 15. | «Христос» работы его же | » | 1 | 2 000 000 |
| 16. | Портрет неизвестной дамы | » | 1 | 1 000 000 |
| 17. | Портрет Зубова работы Левицкого | » | 1 | 2 000 000 |
| 18. | Этнографическая коллекция белорусской одежды XVII — XIX вв. | | | 1 500 000 |
| | Всего по настоящему акту: | | | 60 256 876 руб. |

Паколькі спіс 1944 г. быў няпоўны, разам з копіяй акта І. Клімаву ўручылі таксама запіску з пералікам іншых украдзеных з музея рэчаў, сярод якіх былі: срэбная булава караля Польшчы і Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта Вазы; дзве срэбныя пячаткі, атрыманыя Магілёвам разам з магдэбургскім правам; срэбная мітра магілёўскага праваслаўнага архіепіскапа Георгія Каніскага; вялікі кантовы срэбны спод з цiснёнымі выявамі сімвалічных сцэнаў, прысвечаных расейскаму цару Аляксею Міхайлавічу; вялікі срэбны кубак з партрэтам Пятра І; ужо згаданае раней слуцкае Евангелле 1582 г.; антычныя залатыя рэчы (каралі, пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі) з раскопкаў Пампеі ды іншыя унікальныя каштоўнасці. У гады вайны з музея зніклі таксама славутыя магілёўскі брацкі абраз з надзвычай багатым акладам і бялыніцкі абраз Божай Маці. Пра гэтыя святыні ўжо не адно дзесяцігоддзе ходзяць упартыя чуткі, што яны закапаныя дзесьці ў Магілёве.

Пасля сустрэчы з І. Клімавым рэспубліканскія ўлады на ўсе запыты вучоных адказвалі маўчаннем. Лёс нацыянальных скарбаў іх не цікавіў. Тады дырэктар музея І. Скварцоў запісаўся на прыём да начальніка абласнога ўпраўлення КГБ Дзямідава. Той выявіў зацікаўленасць і паабяцаў заняцца справаю пры ўмове, што атрымае каманду з абкама. Але хто і якую каманду даў Дзямідаву, засталося загадкаю, бо яго ў хуткім часе перавялі ў іншае месца.

Цяпер вернемся да падзей пачатку вайны. Усе, хто гаварыў з былым дырэктарам І. Мігуліным, звяртаюць увагу на блытаніну ў ягоных словах. Часам ён сцвярджае наогул, далікатна кажучы, малаверагодныя рэчы. Як мы ўжо ведаем, у першыя дні вайны Мігуліна ўзялі ў апалчэнне. Але ж ён быў інвалід — меў толькі адну руку, прычым левую.

Калі верыць аднарукаму апалчэнцу, у будынку абкама ў гады акупацыі стаяла вайсковая частка. Доўгі час на пакой-сейф за браніраванымі дзвярыма ніхто не звяртаў увагі, але аднаго разу цікаўны жаўнер знадворку дабраўся па драбінах да закратаванага вакна і ўбачыў, што за ім нешта блішчыць. Пасля гэтага немцы нібыта зрэзалі цяжкія дзверы аўтагенам, ашалелі ад ззяння золата, срэбра і каштоўных камянёў і вывезлі ўсё немаведама куды. Такую гісторыю малюе Мігулін са слоў нейкіх магілёўцаў, што перажылі акупацыю.

Але ж сотні людзей могуць засведчыць, што старыя

браніраваныя дзверы (да таго ж абсалютна цэлыя) у былым будынку зямельнага банка па вуліцы Міронава, 33 знялі толькі некалькі гадоў назад, а другія, кратаваныя, па-ранейшаму на месцы. Значыцца, версія з акупантамі, узброенымі аўтагенам, здымаецца.

На нашую думку, бліжэйшымі да праўды выглядаюць паведамленні старых магілёўскіх месцічаў, што ў чэрвені 1941 г. у будынак банка зайшла група людзей у форме НКВД, якія адчынілі пакой-сейф ключом, склалі каштоўнасці ў падрыхтаваныя загадзя мяхі і ад'ехалі ў невядомым кірунку.

Калі ўсё здарылася менавіта так, тыя НКВДэшнікі былі б яўна задаволеныя, прачытаўшы ў 1981 г. у газеце «Голас Радзімы», якая, заўважым, выдаецца для замежных беларусаў, навелу Г. Ланеўскага «Украдзены крыж». Дзеянне ў гэтым творы, вытрыманым не ў лепшых традыцыях нашай ваеннай літаратуры, адбываецца ў чэрвені 41-га. Крыж, вядома, крадуць акупанты, прычым не з асабняка, у якім некалі мясціўся зямельны банк, а з музея, дзе рэліквіі, як доказваюць факты, ужо даўно не было.

Дваццаць гадоў таму Адам Мальдзіс надрукаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» артыкул «Сляды продкаў», выклаўшы там некаторыя з пададзеных раней звестак. Ішла гаворка і пра тое, што след рэліквіі можа знайсціся за акіянам. Пасля гэтага двое вядомых беларусаў-эмігрантаў Вітаўт Тумаш і Вітаўт Кіпель ад імя Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША звярнуліся да супрацоўнікаў размешчаных у Нью-Йорку морганаўскіх бібліятэкі і калекцыі твораў мастацтва.

Спроба даведацца пра лёс крыжа не дала ніякіх вынікаў. Паведамляючы пра гэта ў друку, доктар Тумаш вельмі слушна зазначыў: дапамагчы ў пошуку магло б абнародаванне назваў савецкіх устаноў і асобаў, на адказнасці якіх крыж быў напярэдадні вайны. Канчаткова не абвяргаючы і версію захопу рэліквіі немцамі, замежны навуковец лічыць, што ў тых умовах крыж маглі лёгка прыбраць да рук «давераныя» асобы партыі і НКВД. У такім разе ён сапраўды паехаў з Магілёва не на захад, а на ўсход. Аднак жа і такі шлях не выключае магчымасці продажу нашай святыні на аўкцыёне (або таемна) за мяжу. Пагатоў, аўтар выдадзенай у 1949 г. у Парыжы кнігі «Сьв. Еўфрасіня-Прадслава...» Леў Гарошка пісаў: «Каля 1930 г. былі паявіліся весткі ў газэтах, што бальшавікі мелі яго (крыж.— *У. А.*) прадаць у Швэцыю».

Магілёвец Е. Філіповіч прапанаваў А. Мальдзісу яшчэ адну нітачку пошукаў, пра якую вучоны расказаў у сваёй кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў»: «Настаяцель царквы ў імя Еўфрасінні ў Полацку Міхал Кузьменка называў прозвішча другога мільянера — Ракфелера. Нібыта ў архіве Ракфелера працаваў у 1962 г. прафесар-гісторык з эмігрантаў Уладзімір Скаралецi, які i бачыў там крыж».

Яшчэ больш заблытвае справу існаванне копій полацкай рэліквіі. Месца знаходжання адной з іх, крыжа Параскевы Полацкай, мы ведаем — Яраслаўска-Растоўскі музей-запаведнік. Але ж быў і дублікат, зроблены ў свой час езуітамі з мэтаю выкрадання арыгінала з уніяцкага Сафійскага сабора.

Амаль на два дзесяцігоддзі пошукі прыпыніліся. Іх працягнуў у 1990 г., апынуўшыся ў ЗША, беларускі журналіст Алесь Лукашук.

Варта зазначыць, што перад ад'ездам за акіян адзін дасведчаны ў такіх праблемах чалавек параіў яму ніякімі росшукамі не займацца, бо гэта можа кепска скончыцца. Тым не менш Алесь выявіў зайздросную энергію.

Яму ўдалося пагутарыць з мастацкім экспертам Ракфелераўскага цэнтра ў Нью-Йорку Оліў Брагозі. Выслухаўшы апісанне нашай нацыянальнай рэліквіі, пані Брагозі запэўніла, што падобнага крыжа ў мастацкай калекцыі Ракфелераў няма і ніколі не было.

З яе рэкамендацыі А. Лукашук звярнуўся ў прыватнае нью-йоркскае агенцтва, якое выдае сусветны каталог украдзеных твораў мастацтва. Аднак, як высветлілася, гэты каталог фіксуе толькі рэчы, што знаходзяцца ў вышуку пасля 1945 г., і не ўлічвае твораў, якія зніклі ў гады другой сусветнай вайны. Не абнадзеіла і тэлефонная размова з начальнікам агенцтва. Той лічыць, што калі крыж у Злучаных Штатах у прыватным зборы, знайсці яго практычна немагчыма. Такая інфармацыя можа выплысці на свет толькі выпадкова (напрыклад, калі пасля смерці калекцыянера будуць шукаць спадкаёмцаў), дый гэта вельмі малаверагодна. Тое самае меркаванне выказаў А. Лукашуку і адзін з нашых суайчыннікаў-эмігрантаў, які шмат гадоў сочыць за каталогамі найбуйнейшых у свеце аўкцыёнаў па продажу мастацкіх ьвораў — «Сотбі» і «Крысці».

Наведаў беларускі журналіст і фундацыю Моргана. (Так называецца калекцыя, збіраць якую пачаў у другой

палове XIX ст. Перпонт Морган і якая цяпер з прычыны вялікай культурнай значнасці набыла грамадскі статус.) Супрацоўнікі фундацыі бібліятэкі Перпонта Моргана на ўсе роспыты ветліва адказвалі, што нічога не ведаюць і не могуць даць ніякай інфармацыі. Вядома, наіўна было б адразу бачыць у гэтым нейкую змову. Прыкладна такія адказы, пэўна ж, чуе большасць наведнікаў, што можна растлумачыць прафесійнай асцярожнасцю. Узгадаем, колькі сусветна вядомых твораў мастацтва было ўкрадзена за апошнія гады ў розных краінах.

Трапіўшы на экскурсію ў ФБР, Алесь Лукашук выкарыстаў і гэтую магчымасць. Супрацоўніца аддзела экспертызы ласкава згадзілася пашукаць якія-небудзь звесткі пра рэліквію ў электроннай памяці сваіх камп'ютэраў. Адказ зноў быў несуцяшальны: камп'ютэры пра крыж Еўфрасінні нічога не ведалі.

Загадка крыжа не давала спакою і Адаму Мальдзісу. У часе ўрачыстасцяў, прысвечаных 500-годдзю ўсходнеславянскага першадрукара Францішка Скарыны, выпадак звёў беларускага вучонага з доктарам гістарычных навук супрацоўнікам Эрмітажа Барысам Сапуновым. Пасля літургіі ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры з размовы нечакана высветлілася, што ленінградскі госць якраз і пісаў некалі адказ у краязнаўчы музей Магілёва. Ён пацвердзіў: крыж Еўфрасінні закуплены ў калекцыю Морганаў на аўкцыёне ў Заходняй Еўропе адразу пасля вайны, з чаго вынікае, што юрыдычных правоў на рэліквію ў нас, беларусаў, нібыта і няма, хіба што засталіся маральныя ды этычныя.

Апрача таго, А. Мальдзісу ўдалося даведацца, што пошукамі крыжа ў 60-я гады займаўся супрацоўнік Эрмітажа Бебут Шаўкоўнікаў. Гэты, відаць, прадпрымальны чалавек прыватна ездзіў у ЗША, імкнуўся пранікнуць у зборы Морганаў, але выявіў празмерны імпэт і атрымаў ад нейкіх маладзёнаў атлетычнага выгляду ветлівую прапанову ўгаманіцца. У адваротным выпадку яны не гарантавалі Шаўкоўнікаву вяртання дадому. Тады ў 1966 г. ён апублікаваў артыкул пра крыж Еўфрасінні ў амерыканскім мастацкім часопісе „Journal of glass studies“, аднак згадку пра тое, дзе знаходзіцца рэліквія цяпер, у рэдакцыі выкрэслілі без згоды аўтара. На жаль, новая нітачка расследаванню нічога не дасць, таму што Б. Шаўкоўнікаў пакінуў ужо гэты свет.

Праз колькі тыдняў пасля размовы ў Полацку А. Мальдзіс у складзе афіцыйнай беларускай дэлегацыі прыехаў у Нью-Йорк на чарговую сесію ААН. Абавя-

зак вучонага і грамадзяніна Беларусі, натуральна, прывёў яго ў фундацыю Моргана, дзе адбылася сустрэча з пані Яўгеніяй Зазоўскай, рускай па паходжанню, якая займаецца ў бібліятэцы Перпонта Моргана славянскімі рукапісамі і рэдкімі выданнямі.

«На маё пытанне, ці можна набыць або паглядзець каталог музейных фондаў, доктар Зазоўская адказала, што пра яго існаванне ёй невядома. Што знаходзіцца ў сутарэннях будынка — а там асноўнае багацце — цалкам, бадай, невядома нікому»,— пісаў А. Мальдзіс у сваім «Нью-Йоркскім дзённіку» ў 1990 г. Зазначым адну дзіўную супярэчнасць. У 1974 г. доктар В. Тумаш паведамляў у «Запісах Беларускага інстытута навукі і мастацтва» аб сваёй спробе высветліць месцазнаходжанне крыжа «і па каталогу калекцыі, і беспасярэднімі роспытамі». Атрымліваецца, што гэты каталог быў, як кажуць, у наяўнасці. Доктару Зазоўскай пра ягонае існаванне ўжо невядома. Яшчэ адна таямніца?

Таксама ў Нью-Йорку А. Мальдзіс сустрэўся з Антонам Шукялайцем, які ў гады нямецкай акупацыі ўзначальваў Менскі гістарычна-мастацкі музей, што ў 1941 г. не паспелі эвакуіраваць. Ці не апынуўся крыж, як ходзяць чуткі, у Аўстраліі? Ці не разабралі яго, каб паасобку прадаць золата, срэбра і каштоўныя камяні з эмалямі? Спадар Шукялайць мяркуе, што шэдэўр полацкага ювеліра Лазара Богшы, найверагодней, вывезлі ўсё ж на ўсход. Ён абвяргае і версію пра разбор рэліквіі на часткі, і з ім цяжка не пагадзіцца, бо кошт золата і камянёў на крыжы параўнаўча невялікі; галоўная яго вартасць у тым, што гэта — высокамастацкі твор.

Нью-йоркскія пошукі завяршыліся ў кастрычніку 1990 г. візітам у Морганаўскую фундацыю міністра замежных спраў БССР П. Краўчанкі, якога суправаджалі А. Мальдзіс і супрацоўнік беларускага прадстаўніцтва пры ААН У. Шчасны. Дырэктару фундацыі быў перададзены афіцыйны зварот наконт крыжа Еўфрасінні Полацкай. Міністр растлумачыў, што гаворка ідзе пра нацыянальную святыню. «Калі б яе ўдалося вярнуць на Радзіму,— сказаў пры гэтым П. Краўчанка,— няхай за выкуп, у аэрапорце рэліквію сустракалі б дзесяткі тысяч людзей».

Калі прыйдзе дзень такой сустрэчы і ці прыйдзе ён наогул?

Міністэрства замежных спраў Беларусі атрымала афіцыйны адказ, што ў самой фундацыі Моргана крыжа няма. Але ж у радзіны Морганаў ёсць і прыватныя

зборы, а за іх, як вынікае з прысланага дакумента, адміністрацыя фундацыі не адказвае.

Аўтар спадзяецца, што чытачы дапамогуць у далейшых пошуках. Калі ёсць новыя звесткі, просьба паведаміць у камісію па вяртанні нацыянальных каштоўнасцей, што створана пры Беларускім фондзе культуры. Можна звяртацца непасрэдна ў ІНТЭРПОЛ, які нядаўна таксама пачаў пошукі нашай святыні, зарэгістраваўшы яе пад нумарам 34—1130.

*Анатоль Грыцкевіч*

## БАРАЦЬБА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І РУСКАГА (БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ) З ТЭЎТОНСКІМ ОРДЭНАМ У КАНЦЫ XIV — ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XV ст.

У канцы XIV ст. Вялікае княства Літоўскае і Рускае (як яно афіцыйна называлася да сярэдзіны XV ст., калі было дадана «і Жамойцкае») з'яўлялася вялікай дзяржавай. Яе межы пашыраліся ад Балтыйскага мора і Мазовіі на захадзе да вярхоўяў Волгі, Разанскага вялікага княства і стэпаў за вытокамі рэк Сейму, Псёла і Северскага Данца на ўсходзе, ад Вялікіх Лук і Ржэва на поўначы да ненаселенага Дзікага поля (цяперашні поўдзень Украіны). Суседзямі гэтай вялікай дзяржавы ва Усходняй Еўропе былі: на поўначы Лівонія, Пскоўская і Наўгародская землі, на ўсходзе — Цверскае, Маскоўскае і Разанскае вялікія княствы, на поўдні землі Залатой Арды, якая знаходзілася ў заняпадзе, і Малдавіі, на захадзе — Польшча, Мазовія і Тэўтонскі ордэн.

Да 80-х гадоў XIV ст. заканчваўся працэс уключэння беларускіх, значнай часткі украінскіх і вялікарускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага. У сярэдзіне XIV ст. беларускае Падняпроўе ўвайшло ў склад гэтай дзяржавы (Мсціслаў у 1358 г.), у 60-я гады Кіеўская зямля з яе тады Мазырскай і Брагінскай валасцямі. Кіеўская зямля, украінскія землі былі вызвалены ад татара-мангольскай няволі ў выніку перамогі беларуска-літоўскага войска пад камандаваннем князя Уладзіміра Альгердавіча ў 1362 г. над войскамі трох татарскіх ханаў у бітве ля Сініх Вод. Каля 1358 г. у склад Вялікага

княства Літоўскага і Рускага ўвайшло Бранскае княства, у 60—70-я гады XIV ст.— Чарнігава-Сезярская зямля [1].

Знешняя палітыка Вялікага княства Літоўскага і Рускага была цесна звязана з сацыяльна-эканамічным і палітычным жыццём дзяржавы. Унутранае развіццё гэтай дзяржавы, з далейшым поступам феадальнага грамадства, патрабавала ад кіруючых вярхоў весці актыўную палітыку ў розных напрамках, бараніць сваю тэрыторыю, забяспечваць яе ад нападаў ворагаў і прадухіляць гэтыя напады або сістэмай саюзаў, або нападамі на тэрыторыі суседніх дзяржаў.

Асаблівасцю знешняй палітыкі Вялікага княства Літоўскага і Рускага было тое, што дзве трэці насельніцтва ўжо ў часы праўлення вялікага князя Гедыміна (1316—1341) складала беларуская народнасць (беларусы называліся тады рускімі, русінамі, руссю). З пашырэннем тэрыторыі ўдзельная вага яе павялічылася. Да гэтага трэба дадаць насельніцтва тагачасных украінскіх зямель (за выключэннем Галіцкай зямлі, г. зн. большай часткі Заходняй Украіны, якая ў 1352 г. была ўключана ў склад Каралеўства Польскага). Характар дзяржавы па нацыянальнаму складу дазволіў беларускім гісторыкам у БССР 20—30-х гадоў назваць гэтую дзяржаву Беларуска-Літоўскай, што адпавядае рэчаіснасці, калі мець на ўвазе і пануючую ў дзяржаве беларускую культуру, якую ўспрынялі і літоўскія феадалы, якія перасяліліся на Беларусь, і самі вялікія князі літоўскія і рускія, а таксама іх сем'і і сваякі. Гэтае становішча адлюстроўвалася і пазней у складзе кіруючага органа дзяржавы, у панах радзе [2]. Нездарма Ф. Энгельс называў гэтую дзяржаву XIII—XIV стст. «так званым Літоўскім княствам» [3]. Трэба таксама адзначыць, што знешняя палітыка дзяржавы адпавядала інтарэсам як літоўскіх, так і беларускіх, а потым і ўкраінскіх феадалаў. Яны выступалі ў паход адзіным войскам. Абарона сваіх зямель была для іх агульнай. Асабліва такое адзінства інтарэсаў феадалаў, ды і ўсяго насельніцтва, праяўлялася падчас знішчальных войнаў і пагрозы існаванню дзяржавы, а то і самога насельніцтва, саміх народаў, што жылі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве.

Вельмі важнае значэнне для Вялікага княства Літоўскага мелі ягоныя адносіны да Тэўтонскага ордэна, працяглая барацьба з ім.

Тэўтонскі ордэн, або нямецкі ордэн, узнік у Палесціне ў 1128 г. падчас крыжовых паходаў на Блізкі Ўсход.

Ордэн, вайскова-духоўная арганізацыя, у першай палове XIII ст. атрымаў буйныя зямельныя валоданні ў Італіі і Германіі, і ўрэшце мазавецкі князь Конрад запрасіў рыцараў Тэўтонскага ордэна, перадаўшы ім у 1226 г. Хелмінскую зямлю. Першы атрад рыцараў прыйшоў на берагі Віслы ў 1228 г. Конрад хацеў выкарыстаць Ордэн для барацьбы супраць прусаў, якія яшчэ былі язычнікамі, каб спыніць іх набегі на Мазовію і падпарадкаваць іх сваёй уладзе. Тэўтонскі ордэн на працягу 55 гадоў вёў войны з прусамі, матывіруючы гэта неабходнасцю хрышчэння язычнікаў у Прыбалтыцы і падтрымання хрысціянскай веры сярод іх. Фактычна гэтае заваяванне тэрыторыі Прусіі прывяло да знішчэння большай часткі насельніцтва. Тыя, хто засталіся, былі паступова анямечаны. У Прусію, якая захавала назву народа, знішчанага і асіміляванага заваёўнікамі, былі запрошаны перасяленцы-каланісты з Германіі (дваране, гараджане і сяляне), якія давяршылі засваенне гэтай краіны. Такім чынам, да 1283 г. з дапамогай Германіі і Лівонскага ордэна ў Прыбалтыцы (у Лівоніі і Эстоніі) Тэўтонскі ордэн заснаваў сваю рыцарска-духоўную дзяржаву на тэрыторыі ад нізоўяў Віслы да мяжы Літвы на ўсходзе і да Мазовіі на поўдні. Для зямель Польшчы і Літвы стварылася непасрэдная пагроза заваёвы Тэўтонскім ордэнам.

Такая ж пагроза была і для беларускіх зямель. Першыя на пачатку XIII ст. сустрэліся з нямецкімі рыцарамі жыхары Полацкай зямлі і полацкіх удзельных княстваў, што ўтварыліся ў землях латгалаў. Тут вёў наступ на землі латгалаў і беларусаў таксама нямецкі рыцарскі Ордэн мечаносцаў, які быў утвораны ў 1202 г. на землях цяперашніх Латвіі і Эстоніі рыжскім біскупам Альбертам фон Буксгёўдэнам і зацверджаны ў 1205 г. рымскім папам. Полацкаму княству — гэтай самай старажытнай беларускай дзяржаве — удалося адбіць наступ нямецкіх рыцараў з поўначы і адстаяць сваю незалежнасць, але княствы Кукенайс і Герсіка, што былі васальнымі княствамі Полацкай зямлі і дзе княжылі сыны полацкага князя, былі страчаны. Пагроза Полацкай зямлі крыху паменшылася, калі ў 1236 г. Ордэн мечаносцаў пацярпеў сур'ёзнае паражэнне каля Шаўляя ў бітве з літоўцамі. Пасля гэтага Ордэн мечаносцаў аб'яднаўся з Тэўтонскім ордэнам у 1237 г. і стаў ягоным паўночным аддзелам. З цягам часу гэты аддзел стаў звацца Лівонскім (нямецкі ордэн у Ліфляндыі) са сваім

магістрам і сваёй асобнай арганізацыяй. У XIII—XV стст. ён дзейнічаў разам з Тэўтонскім ордэнам.

Другая палова XIII— сярэдзіна XIV ст.— гэта перыяд пастаянных войнаў Вялікага княства Літоўскага з крыжакамі, калі шмат цярпелі ад сістэматычных набегаў (рэйзаў) крыжакоў жамойцкія, літоўскія і беларускія землі. Крыжакі з Прусіі ўсё часцей прыходзілі на гэтыя землі і пранікалі ў глыбіню тэрыторыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы. У першую чаргу Літве пагражаў лёс, які ўжо спаткаў прусаў. Такая ж небяспека стварылася і для беларускіх зямель. У XIV ст. склалася такое становішча, калі вырашалася пытанне, ці наогул будуць існаваць літоўцы і беларусы, ці не будуць яны або знішчаны, або анямечаны, як гэта сталася з прусамі. Нямецкія рыцары нанеслі шэраг буйных паражэнняў літоўцам — у 1349 г. на рацэ Страве, у 1362 г. крыжакі спалілі Коўна, у 1370 г. перамаглі літоўцаў на рацэ Рудаве. У 1382 г. Жмудзь і значная частка літоўскіх зямель былі далучаны да Тэўтонскага ордэна, і такім чынам тэрыторыя Тэўтонскага ордэна і Лівоніі была злучана праз Жамойцію (Жмудзь). У 1384 г. гэты дагавор быў пацверджаны. Адначасова Тэўтонскі ордэн вёў агрэсіўную палітыку ў дачыненні да Польшчы, што аб'ектыўна стварала ўмовы для заключэння пастаяннага дзяржаўнага саюзу паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай.

Гэтыя абставіны і прывялі да такога дзяржаўнага саюзу. 14 жніўня 1385 г. у беларускім мястэчку Крэве вялікі князь літоўскі і рускі Ягайла (Якаў) у прысутнасці польскіх паслоў выдаў акт аб уніі (саюзе) паміж Вялікім княствам Літоўскім і Рускім, з аднаго боку, і Польшчай — з другога. Ягайла дамовіўся аб уступленні ў шлюб з польскай каралевай Ядзвігай, таму ён станавіўся каралём Польшчы, пераходзіў у каталіцызм і абавязваўся хрысціць па каталіцкаму абраду літоўцаў-язычнікаў, а таксама «землі свае — Літву і Русь да кароны каралеўства Польскага назаўсёды далучыць» [4]. Акт Крэўскай уніі не меў характару дзяржаўнага дагавору, а быў толькі пісьмовым абяцаннем, якое раней (18 студзеня 1385 г.) вусна было дадзена польскаму двару пасольствам вялікага князя літоўскага на чале са Скіргайлам, братам Ягайлы, у Кракаве [5]. Такім чынам, акт Крэўскай уніі быў папярэднім актам пра наступныя адносіны Вялікага княства Літоўскага і Польшчы [6]. Неабходнасць цэнтралізацыі дзржавы, барацьба супраць удзельных князёў, братоў і сваякоў вялікага князя, якіх у сепара-

тысцкіх тэндэнцыях падтрымліваў Тэўтонскі ордэн, штурхалі Вялікае княства да дзяржаўнай уніі з Польшчай [7].

Акт Крэўскай уніі быў зацверджаны 2 лютага 1386 г. на з'ездзе абодвух бакоў у Любліне і фармальна ўвайшоў у моц [8]. Значэнне Крэўскай уніі ў сферы міжнародных адносін заключаецца ў тым, што яна заклала аснову дзяржаўнаму саюзу і сумеснай барацьбе Вялікага княства Літоўскага і Польшчы супраць агрэсіі Тэўтонскага ордэна.

Далейшыя падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім і Рускім (апазіцыя ўдзельных князёў з самой дынастыі Гедымінавічаў, літоўскай і беларускай знаці унітарнай палітыцы Ягайлы і далучэнню да Польшчы, узмацненне ўлады Вітаўта, інтрыгі крыжакоў) прывялі да фактычнага сарвання Крэўскай уніі, хаця яе ніхто не скасаваў.

Барацьба значнай групы літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх феадалаў на чале з Вітаўтам, незадаволеных умовамі уніі і не жадаючых ператварэння сваёй дзяржавы ў правінцыю Польшчы, працягвалася с 1389 да 1392 г. Пры гэтым Вітаўт, які быў гародзенскім князем, збег да крыжакоў, заключыў саюзнае пагадненне з Тэўтонскім ордэнам і ў 1390 г. са сваімі атрадамі і з войскам крыжакоў выступіў у паход, каб здабыць Вільню. Там знаходзіўся намеснік і брат Ягайлы — Скіргайла (Іван). У войску крыжакоў знаходзіліся рыцары з іншых еўрапейскіх краін, у тым ліку граф Дэрбі (потым — англійскі кароль Генрых IV). У Вільні знаходзіўся гарнізон з літоўскіх, беларускіх і польскіх воінаў. Крыжакі і Вітаўт са сваімі атрадамі ўзялі ніжні (Крывы) замак, але Віленскага замка ўзяць не змаглі і адступілі ў Прусію. У 1391 г. новы паход крыжакоў і атрадаў Вітаўта таксама скончыўся беспаспяхова. Зімой 1391 г. Вітаўт і яго воіны занялі Гародню і Меднікі. У 1392 г. Вітаўт разарваў саюз з Тэўтонскім ордэнам і 4 жніўня заключыў у Остраве (каля Ліды) пагадненне з Ягайлам, які пайшоў на значныя ўступкі Вітаўту і Вялікаму княству. Вітаўт стаўся намеснікам Ягайлы з шырокімі паўнамоцтвамі, а Ягайла быў ужо вялікім князем намінальна. Пра далучэнне Літвы і Беларусі да Польшчы ўжо не гаварылася. Вялікаму княству Літоўскаму гарантавалася шырокая аўтаномія ва ўнутраных і знешніх справах у дачыненні да Ягайлы [9]. Фактычна яно захавалася як самастойная дзяржава. У той жа час пагадненне захавала Польшчу як моцнага саюзніка на захадзе.

Канец XIV ст. адзначаецца далейшым умяшаннем Тэўтонскага ордэна ва ўнутраныя феадальныя спрэчкі

ў Вялікім княстве Літоўскім і Рускім. Выцяснены з Віцебска Вітаўтам князь Свідрыгайла Альгердавіч (праваслаўны ад нараджэння — Леў, з 1386 г.— Баляслаў) збег у Прусію і з дапамогай Ордэна на працягу некалькіх гадоў ваяваў са сваімі «літоўскімі і рускімі» (г. зн.



Вялікі князь літоўскі Вітаўт

беларускімі) атрадамі супраць Вітаўта. У 1394 г. атрад крыжакоў на чале з ордэнскім маршалам Вернерам Тэтынгерам, дайшоўшы да Вільні, Наваградка, Ліды і «зрабіўшы значныя спусташэнні... зганяе мноства палонных абодвага полу і зводзіць іх у Прусію» [10]. Ваенныя дзеянні супраць крыжакоў працягваліся з пераменным поспехам і ў наступныя гады.

Пастаянныя нашэсці (рэйзы), спусташэнне зямель Беларуска-Літоўскай дзяржавы, супярэчнасці паміж Вітаўтам і літоўскай і беларускай знаццю, з аднаго боку, і Ягайлам і польскімі феадаламі, з другога (бо польскія феадалы прэтэндавалі на Падолію), усё гэта прывяло Вітаўта да думкі заключыць з Тэўтонскім ордэнам мір. У прэлімінарным (папярэднім) мірным дагаворы ад 23 красавіка 1398 г. Вітаўт, без ведама Ягайлы, не толькі заключыў мір з крыжакамі, але замацаваў за імі Жамойцію. Дагавор быў замацаваны Вітаўтам пры сустрэчы з прадстаўнікамі Ордэна на востраве Салін 12 кастрычніка 1398 г.[11] Заключэнне дагавору сведчыла пра нама-

ганні буйных феадалаў Вялікага княства Літоўскага і Рускага цалкам разарваць дзяржаўную унію з Польшчай. Адначасова Вітаўт развязваў сабе рукі для правядзення актыўнай палітыкі на ўсходзе.

Аднак Жамойція не згадзілася на канчатковае падпарадкаванне крыжакам і паўстала. Вітаўт вымушаны быў змяніць знешнепалітычны курс і дапамагчы жамойтам. Да гэтага таксама прычыніліся напады на тэрыторыю Вялікага княства тэўтонскіх і лівонскіх рыцараў, няўдача ў палітыцы Вітаўта на поўдні, дзе ў 1399 г. татары разграмілі войска Вялікага княства Літоўскага на рацэ Ворскле. Вітаўт і кіруючыя колы Вялікага княства Літоўскага зноў заключылі унію з Польшчай, акт якой быў падпісаны 18 студзеня 1401 г. у Вільні літоўска-беларускімі і 11 сакавіка ў Радаме польскімі феадаламі (кароннай радай). Паводле ўмоў гэтай уніі, абедзве дзяржавы абавязваліся дзейнічаць разам супраць ворагаў і ва ўсялякіх цяжкіх абставінах. Пацвярджаліся правы Вітаўта пажыццёва на самастойнае кіраванне дзяржавай пры захаванні намінальных вярхоўных правоў Ягайлу [12]. Віленска-Радамская унія была кампрамісным пагадненнем, падпісаным у сувязі з істотнай небяспекай з боку Тэўтонскага ордэна. Вялікае княства Літоўскае і Рускае захавала сваю палітычную адасобленасць.

Вайсковыя паходы нямецкіх рыцараў на Літву і ваенныя дзеянні войск Вялікага княства Літоўскага ў адказ працягваліся і ў наступныя гады [13]. Так, увосень 1401 г. адзін з крыжацкіх атрадаў напаў на Коўна, другі на Гародзенскую зямлю. Крыжакі спусташалі і палілі вёскі, выводзілі ў Прусію палонных. У лютым 1402 г. магістр Ордэна зноў зрабіў напад на Гародзенскую зямлю, забраўшы 400 палонных. Быў зроблены напад і з Лівоніі. А ў маі 1402 г. літоўскія і жамойцкія атрады захапілі Клайпеду і іншыя пагранічныя замкі, спалілі іх, а насельніцтва ўзялі з сабой у Літву. У сваю чаргу ўлетку 1402 г. крыжакі дайшлі да Меднікаў і Ашмянаў. Замкаў не здабылі, але край быў спустошаны. У канцы 1402 г. Вітаўт спаліў Рагнету, а ў красавіку 1403 г. нават захапіў Дынабург (Даўгаўпілс) і Юрбарг, аднак крыжакі ўзялі Мерэч і спустошылі ваколіцы Трок. Паколькі і на ўсходзе Беларуска-Літоўская дзяржава вяла вайну, то прыйшлося Вітаўту весці мірныя перагаворы з крыжакамі пры пасрэдніцтве польскага караля Уладзіслава (Ягайлы). 22 мая 1404 г. быў падпісаны ў Рацёнжу мір. Вітаўт пацвярджаў Салінскі дагавор

1398 г. Гэта значыць, што Жамойція захавалася ў руках крыжакоў [14].

На ўсходзе ўрэшце ў 1408 г. быў падпісаны мір з маскоўскім вялікім князем Васілём І. Цяпер можна было вырашаць і справы на паўночна-заходняй мяжы. У канцы снежня 1408 г. падчас сустрэчы ў Наваградку на патаемнай нарадзе караля польскага Уладзіслава II (Ягайлы) з Вітаўтам было вырашана вярнуць назаўсёды Жамойцію ў склад Вялікага княства Літоўскага [15].

Вясной 1409 г. у Жамойціі, што знаходзілася пад кіраваннем нямецкага войта, узнялося паўстанне, якое




Магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгіген.

Вітаўт падтрымаў. Ягайла і польскія феадалы таксама сталі на бок паўстанцаў. Ягайла прапанаваў Ордэну вырашыць спрэчныя пытанні трэцейскім судом і запатрабаваў, каб рыцары не нападалі на Жамойцію. Тым самым было пастаўлена пад сумненне юрыдычнае права Тэўтонскага ордэна на Жамойцію. Пасольства Ягайлы да магістра (1409 г.) заявіла, што ў выпадку іх непрыняцця Польшча падтрымае Вялікае княства Літоўскае і Рускае. У адказ на гэта вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгінген заявіў, што ён пачне ў такім выпадку вайну з Польшчай. Фармальна яна была аб'яўлена вялікім магістрам у сталіцы ордэнскіх зямель Мальбарку (Марыенбургу) 6 жніўня 1409 г. і ўручана грамата пра гэта польскаму каралю ў Корчыне 15 жніўня. Так пачалася «вялікая вайна» паміж Тэўтонскім ордэнам, з аднаго боку, Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім і Рускім, з другога [16].

У снежні 1409 г. Ягайла і Вітаўт сустрэліся ў Берасці. Там быў распрацаваны план летняй кампаніі 1410 г., заснаваны на аб'яднанні польскага вайсковага вопыту з беларуска-літоўскай і татара-мангольскай стратэгіяй і тактыкай. Быў выбраны тэатр ваенных дзеянняў з Мазовіяй як асновай вайсковай аперацыі; план прадугледжваў паход на сталіцу Ордэна — Марыенбург і правядзенне рашаючай бітвы на ордэнскай тэрыторыі з мэтай знішчэння ўсіх узброеных сіл Ордэна, а потым заключэнне выгаднага міру з аслабленнем дзяржавы крыжакоў. Жамойція лічылася другарадным тэатрам вайсковых дзеянняў, і там былі пакінуты нязначныя вайсковыя сілы [17].

На пачатку ваенных дзеянняў войскі Вітаўта за некалькі тыдняў ачысцілі Жамойцію ад рыцарскіх гарнізонаў [18]. Адбываліся ваенныя дзеянні і ў Польшчы на мяжы з Ордэнам. У верасні 1409 г. вайсковыя аперацыі былі спыненыя на нейкі час і было падпісана перамір'е, якое мела моц да дня святога Яна Хрысціцеля (24 чэрвеня 1410 г.) [19].

Рашаючай кампаніяй «вялікай вайны» была летняя кампанія 1410 г. У гэтай кампаніі ўдзельнічала галоўная армія Тэўтонскага ордэна пад камандаваннем галавы Ордэна вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена. Яна складалася з 51 харугвы агульным лікам 21 тысяча конных рыцараў, 6 тысяч пехацінцаў і артылерыстаў, а таксама мела каля 5 тысяч чэлядзі ў абозе. Армія крыжакоў была лепш узброена і мела баявы вопыт. У

ордэнскую армію прыбылі рыцары і наёмнікі з Германіі, Англіі, Францыі, Швейцарыі і іншых краін Еўропы.

Армія саюзнікаў — польская і Вялікага княства Літоўскага налічвала 31 500 чалавек, не лічачы ўзброенай чэлядзі ў абозе, як польскай, так і літоўска-беларускай, артылерыстаў і татарскіх атрадаў з Літвы (да 2 тысяч чалавек). Польская рыцарская конніца складала 18 тысяч, а пяхота — 2 тысячы. Літоўска-беларуская лёгкая конніца — 11 тысяч чалавек, 500 пехацінцаў [20]. У складзе польскага войска былі чэшска-мараўскія атрады.

Саюзнае войска складалася з 90 харугваў: 50 харугваў у польскім войску [21], з якіх 7 украінскіх (з Галіцыі, што ўваходзіла ў склад Польскага каралеўства), і 40 харугваў у войску Вітаўта, дзе толькі 4 былі літоўскія [22] (бо значная частка Літвы і Жамойціі толькі была вызвалена ад нямецкіх рыцараў). З іншых 36 харугваў 28 былі беларускія і 8 украінскія. Памылкова ў савецкай гістарычнай літаратуры нагадваюцца 3 «рускія» смаленскія харугвы. Словы «рускія» для пачатку XV ст. не азначаюць тое, што цяпер, г. зн. не расійскія. Калі цяпер Смаленск у складзе Расійскай Федэрацыі, то тады ён у яе склад не ўваходзіў. «Рускімі» называліся ў той час і беларусы, і ўкраінцы. Аднак Смаленск тады ўваходзіў ужо ў склад Вялікага княства Літоўскага і Рускага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы) і ў апісаннях зямель у тагачаснай літаратуры належаў да Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Да таго ж у хроніцы Яна Длугаша названа спачатку толькі адна смаленская харугва [23] (пры пераліку войска). Потым, падчас бітвы, Длугаш гаворыць пра 3 харугвы «рыцараў рускіх з Смаленска» [24]. Князь Сымон Лугвен Альгердавіч камандаваў беларускімі палкамі паўночнай часткі Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку і 3 смаленскімі. Паколькі ён быў князем Ноўгарада Вялікага, то прывёў з сабой і атрад воінаў з Ноўгарада [25]. Аднак у іншых крыніцах (беларуска-літоўскія хронікі) гаворыцца то пра мсціслаўска-смаленскія харугвы, якімі камандаваў князь Сымон Лугвен Альгердавіч [26], князь мсціслаўскі, то пра 3 полацка-смаленскія палкі [27]. Таму іх беларускі характар не выклікае сумненняў. Ян Длугаш гаворыць таксама пра склад харугваў войска Вялікага княства Літоўскага і пра іх сцягі: «Амаль кожная з іх мела ў гербе на чырвоным полі ўзброенага мужа, які сядзіць на белым, некалі на чорным альбо рудым ці стракатым, кані і патрасае руку з мячом» [28]. Гэта апісанне гербу «Пагоня», што быў на сцягах Вялікага княства Літоў-

скага на Грунвальдскім полі. Толькі 10 з іх мелі іншы герб і адрозніваліся ад астатніх. Былі на іх чырвоным полі намаляваны знакі, якімі Вітаўт звычайна адзначаў сваіх коней [29], гэта былі «калюмны» (калоны), герб літоўскай галіны дынастыі Гедыміна. Ян Длугаш пералічвае харугвы (але не ўсе) войска Вялікага княства Літоўскага: «Называліся жа тыя харугвы ад назваў зямель літоўскіх: троцкая, віленская, гародзенская, ковенская, лідская, медніцкая, смаленская, полацкая, віцебская, кіеўская, пінская, наваградская, берасцейская, ваўкавыская, драгічынская, мельніцкая, крэменецкая, старадубская. Іншыя ж насілі назвы ад асобаў князёў літоўскіх, якіх Вітаўт вызначыў на іх камандуючых, а менавіта Жыгімонта Карыбута, Сымона Лінгвена, Юрыя» [30]. Дарэчы, Ян Длугаш двойчы называе харугву Жыгімонта Карыбута — у польскім войску (як 51-ю) з гербам Пагоні («на чырвоным полі мужа ў зброі, які сядзіць на кані») [31], і ў літоўскім [32]. А гэта адна і тая ж харугва пад камандаваннем пляменніка Ягайлы Жыгімонта Карыбута Дзмітрыевіча.

Саюзнікі пастроіліся ў 3 лініі на фронце ў 2 кіламетры на поўдзень ад Таненберга да Людвігсдорфу. На левым крыле саюзнага войска стаялі польскія харугвы, правае крыло складалі харугвы войска Вялікага княства Літоўскага і татарская конніца. Пры гэтым у цэнтры, ля правага флангу польскіх харугваў, стаялі віленская, троцкая і 3 смаленскія харугвы. Конніца Вялікага княства Літоўскага і Рускага складалася, як і польская, з феадалаў — баяраў (як тады яны называліся на Беларусі, Украіне і ў Літве), і з ваенна-служылых людзей-баяраў путных, а не з усіх жыхароў дзяржавы (гэта было не ўсеагульнае апалчэнне). Таму войска было не вялікім. У складзе войска былі і стральцы — лучнікі і простыя воіны — пехацінцы [33]. Вітаўт быў намінальным камандуючым, яго намеснікам — вядомы палкаводзец князь Сымон Лугвен Альгердавіч. Камандавалі групамі харугваў Манівід, Пётр Гаштольд, князь Іван Жэдзявід, а татарамі — хан Джэлал-Эддзін [34].

Крыжакі зрабілі тое самае, але потым, каб пашырыць фронт да 2,5 кіламетра, перастроіліся ў дзве лініі паміж Грунвальдам і Таненбергам. Перад крыжацкай конніцай была пастаўлена пяхота і артылерыя (бамбарды), а на самым перадзе — выкапаныя ямы, зверху прыкрытыя фашынамі і прысыпаныя зямлёй, каб стрымаць атаку конніцы праціўніка.

У дзевяць гадзін раніцы 15 ліпеня 1410 г. адкрыла бой першая лінія — лёгкая конніца Вялікага княства Літоўскага на левым фланзе крыжакоў, дзе стаяла 15 харугваў на чале з вялікім маршалам Фрыдрыхам фон Валенродам. Частка ж войска Вітаўта засталася ў рэзерве. У бой уцягнуліся нямецкія сілы. Частка літоўска-беларускай кавалерыі трапіла ў пасткі-ямы, дзе многія атрымалі раненні або загінулі. Але агульны націск гэтай конніцы быў такі моцны, што ўдалося захапіць бамбарды крыжакоў. У хроніцы Быхаўца пра гэты этап бітвы гаворыцца: «І пачалася бітва спачатку паміж немцамі і літоўскім войскам, і шматлікая колькасць воінаў з абодвух бакоў літоўскіх і нямецкіх загінула»[35]. У бой уступілі другая і трэцяя лініі войска Вялікага княства Літоўскага. На працягу цэлай гадзіны адбываўся бой паміж лёгкай конніцай Вітаўта і цяжкай конніцай крыжакоў. Пад націскам свежых сіл крыжакоў лёгкаконныя атрады Вітаўта адступілі да Любенскага возера. Гэта была звычайная тактыка літоўска-беларускіх і татарскіх атрадаў — змучыць цяжкую конніцу ворага нібыта пагоняй, парушыць яго баявыя парадкі, а потым вярнуцца на поле бою[36]. Астатнія атрады войска Вялікага княства Літоўскага і Рускага працягвалі бітву побач з польскім войскам, якое стрымлівала, а потым атакавала галоўныя сілы крыжакоў.

Асабліва напружана разгортвалася бітва на левым крыле арміі Вітаўта ля стыку з польскім войскам. Тут пад камандаваннем мсціслаўскага князя Сымона Лугвена Альгердавіча мужна змагаліся тры смаленскія харугвы (або інакш «гуфы»). Ян Длугаш пра гэта запісаў: «Хоць пад адною харугваю іх вырубілі жахлівым чынам, а сцяг іх быў утаптаны ў зямлю, аднак у дзвюх астатніх, змагаючыся з вялікай мужнасцю, як належыць мужам і рыцарам, выйшлі пераможцамі і далучыліся да атрадаў польскіх»[37]. Дарэчы, у іншых хроніках не згадваюцца гэтыя палкі ў такім кантэксце. М. Стрыйкоўскі піша пра гэты эпізод бітвы інакш:

«Смаленская, Троцкая шляхта, Віленская з Гроднянамі,
Бачучы ўжо Літоўскі строй слабы і змешаны,
Цешучы адзін другога, адразу прыйшлі да справы,
І з крыжакамі зноў пачалі бой крывавы»[38].

Астатні момант гэтага бою М. Стрыйкоўскі апісаў так:

«Смаленшчане хоць адзін гуф сваіх страцілі,
Аднак жа ў двух гуфах з Палякамі збраціліся»[39].

На другім этапе польскае войска пачало цяжкі бой з правым флангам рыцараў (20 харугваў на чале з вялікім камтурам Ліхтэнштэйнам). Быў момант, калі ўпаў вялікі каралеўскі сцяг. Рыцары, тыя, што наступалі на польскае войска, і тыя, што вярнуліся з пагоні за лёгкай конніцай Вітаўта, ужо рыхтаваліся святкаваць перамогу [40]. Але польскія харугвы разам з войскам Вітаўта працягвалі весці зацяты бой. У бітву былі ўведзены новыя польскія атрады, якія знаходзіліся ў рэзерве. Да іх далучыліся атрады Вітаўта, якія вярнуліся на поле бою. Гэтыя сілы акружылі і знішчылі частку нямецкіх рыцараў, якія вярнуліся з пагоні за літоўскімі атрадамі. Над полем боя гучаў радасны крык саюзнікаў: «Літва вяртаецца!» Тым не менш гэта быў крытычны момант. У апошняй фазе



Крыжацкі рыцар у кірасе, капаліне, з павязай, дзідай і мечам.

бітвы саюзнікі ахоплівалі галоўныя сілы крыжакоў і іх другую лінію, на чале з самім вялікім магістрам ордэна Ульрыхам фон Юнгінгенам. Польскія харугвы з левага флангу, літоўска-беларускія і ўкраінскія атрады з правага збівалі нямецкіх рыцараў з іх пазіцый і знішчалі іх [41].

У баі адзін з простых воінаў Вітаўта, наблізіўшыся да вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена, усадзіў сваю рагаціну ў шыю магістра і скінуў яго з каня. Смерць Ульрыха фон Юнгінгена акрыліла саюзнікаў. Шэсць крыжацкіх харугваў на чале з вялікім шпітальнікам Вернерам фон Тэтынгенам кінуліся ўцякаць. Сотні рыцараў здаваліся ў палон. Былі забіты кіраўнікі і палкаводцы Ордэна Ульрых фон Юнгінген, вялікі маршал Фрыдрых фон Валенрод, вялікі камтур Куна фон Ліхтэнштэйн, загінулі амаль усе камтуры і войты Тэўтонскага ордэна. Астаткі крыжацкага войска пасля шасцігадзіннага бою пачалі хутка адыходзіць да ўмацаванага лагера — вагенбурга, а шмат хто ў паніцы ўцякаў з поля бою. У сем гадзін вечара 15 ліпеня 1410 г. бітва пад Грунвальдам скончылася ўзяццем польскай і літоўска-беларускай пяхотай вагенбурга, раскінутага на палях ля Грунвальда, і поўным разгромам Тэўтонскага ордэна. Конніца саюзнікаў да самай ночы даганяла недабіткаў [42].

Грунвальдская бітва вызначаецца не толькі вайсковым значэннем, але і палітычным. Лічыцца, што ў гэты дзень загінула 18 тысяч нямецкіх рыцараў-крыжакоў, воінаў і абознай чэлядзі, а 14 тысяч было ўзята ў палон. Былі захоплены ўсе бамбарды і 52 крыжацкія харугвы, выратавалася крыху болей за 1400 чалавек [43]. Палітычнае значэнне Грунвальдскай бітвы яшчэ большае. Была спынена агрэсія крыжакоў на Польшчу, Беларусь і Літву. Набегі нямецкіх рыцараў на беларускія і літоўскія землі былі фактычна спынены. Для гэтых народаў праблема захавання была вырашана. Цяпер ім не пагражала фізічнае знішчэнне альбо анямечванне. У эканамічным жыцці Вялікага княства Літоўскага таксама наступіў пералом. Былі адкрыты шляхі праз Балтыйскае мора з еўрапейскімі гандлёвымі гарадамі, што паўплывала на гаспадарчае развіццё тэрыторый, бліжэйшых да Балтыйскага мора. Пасля Грунвальдскай бітвы пачаўся палітычны ўпадак Тэўтонскага ордэна, які ўжо не здолеў займаць такое міжнароднае становішча, як раней.

Аднак вялікая перамога ля Грунвальда не была выкарыстана. Саюзнае войска, замест таго каб ісці на ордэнскую сталіцу Марыенбург, два дні заставалася на

месцы, збіраючы здабычу, перапісваючы палонных і хаваючы целы забітых, 17 ліпеня саюзнае войска пайшло на Марыенбург, аднак камтур Генрых фон Плауэн, які знаходзіўся з трохтысячным войскам у іншым месцы, заняў сталіцу і падрыхтаваўся да абароны. 25 ліпеня пачалася аблога Марыенбурга, але вынікаў яна не дала, бо набліжалася восень і шляхта, як мага хутчэй, хацела вярнуцца дадому, у свае маёнткі. Таму Ягайла 19 верасня зняў аблогу [44]. У выніку перагавораў 1 лютага 1411 г. у Торуні быў заключаны мір, паводле якога Тэўтонскі ордэн павінен быў вярнуць Польшчы Добжынскую зямлю, вяртаў Ягайлу і Вітаўту Жамойцію, але толькі ў іх пажыццёвае ўладанне, і выплачваў пераможцам — Ягайлу і Вітаўту — 100 тысяч коп грошай пражскіх кантрыбуцыі [45]. Гэта было намнога менш таго, на што разлічвалі пераможцы. Ужо ў вайсковым лагеры пры асадзе Марыенбурга кароль Уладзіслаў II (Ягайла), разлічваючы захапіць усе землі Ордэна, спецыяльным актам перадаў Вітаўту і Вялікаму княству Літоўскаму і Рускаму ўсходнія землі прусаў разам з Кёнігсбергам (Караляўцом) і Жамойцію да самага Балтыйскага мора [46].

Такім чынам, Торунскі мір не мог задаволіць абодва бакі — і саюзнікаў, і Тэўтонскі ордэн. Абодва бакі рыхтаваліся да вайны. Напружанае становішча захоўвалася далей. У такіх умовах Польшча і Вялікае княства Літоўскае і Рускае пайшлі на ўзнаўленне дзяржаўнага саюза, што было таксама адным з вынікаў Грунвальдскай перамогі. Аднак Вітаўт намагаўся ліквідаваць свае васальныя адносіны з польскім каралём і дамогся гэтага.

2 кастрычніка 1413 г. у замку Гародла на Заходнім Бугу (недалёка ад Замосця) на з'ездзе феадалаў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага і Рускага была заключана новая, Гарадзельская унія, якая захавала асобную дзяржаўнасць Беларуска-Літоўскай дзяржавы са сваім вялікім князем Вітаўтам, але пад верхавенствам польскага караля як вярхоўнага князя літоўскага і рускага [47].

У 1414 г. зноў паўтарыўся вайсковы канфлікт паміж Польшчай і Вялікім княствам, з аднаго боку, і Тэўтонскім ордэнам, з другога. Польска-літоўскае войска напала на ордэнскую тэрыторыю ў Прусіі і заняло некалькі гарадоў, у тым ліку Алленштэйн, Нідбург і Крэйцбург, асадзіла Брадніцу, але з дапамогай папскага легата Польшча і Вялікае княства Літоўскае заключылі мір з крыжакамі. Падчас гэтай кампаніі крыжакі ўзялі ў палон літоўскага маршала Бутрыма і аднаго з камандзіраў

атрадаў літоўска-беларускага войска «Мікіту, шляхетнага чалавека» [48]. Ягайла і Вітаўт вымушаны былі заключыць мір, бо на ўкраінскія землі ішоў Эдыгей, эмір Белай Арды, і трэба было бараніць Кіеў [49]. У 1415 г. была спроба з боку Ягайлы і Вітаўта заключыць новы мірны дагавор з Тэўтонскім ордэнам, але крыжакі патрабавалі вярнуць ім Жамойцію, таму перагаворы скончыліся нічым. Таксама і ў 1418 г. такія ж перагаворы былі без поспеху [50].

Паколькі з Тэўтонскім ордэнам працягваліся канфлікты (крыжакі рабілі невялікія набегі на прыгранічныя землі Польшчы і Літвы), то ў ліпені 1419 г. зноў польска-літоўскае войска пайшло ў Прусію, але бітвы не адбылося. Пры дапамозе папскага легата было падпісана пераемір'е на адзін год [51]. Меркавалася, што тэрытарыяльныя справы будуць вырашаны трэцейскім суддзёй — імператарам Рымскай імперыі (германскім) Жыгімонтам. 6 студзеня 1420 г. Жыгімонт вынес сваё рашэнне: Жамойція, Судовія (Занёманская Літва), Гданьскае Паморʼе, Хэлмінская і Міхалоўская землі назаўсёды належаць Тэўтонскаму ордэну. Ягайла і Вітаўт адразу ж падалі пратэст. Польшча і Вялікае княства Літоўскае ў чэшскай сваёй палітыцы сталі на бок гусітаў і супраць імператара. На сустрэчы Ягайлы і Вітаўта ў Аранах у лютым 1421 г. было вырашана пачаць новую вайну супраць Тэўтонскага ордэна, каб адпаведна далучыць Жамойцію да Літвы, а польскія землі на захадзе, якія знаходзіліся ў дзяржаве крыжакоў, да Польшчы [52].

І Польшча, і Вялікае княства Літоўскае і Рускае 14 ліпеня 1422 г. абʼявілі вайну Тэўтонскаму ордэну. У канцы ліпеня 1422 г. абодва саюзнікі рушылі на Прусію. Польскае і літоўскае войскі занялі некалькі крэпасцей і спусташылі тэрыторыю Прусіі. М. Стрыйкоўскі адзначыў, што ў войску Вітаўта былі воіны з усіх частак Беларуска-Літоўскай дзяржавы. У ягонай хроніцы раздзел пра гэты паход так і называецца — «ваенная выправа Ягайлы з палякамі, а Вітаўта з Літвой, з Жмуддзю і з Руссю» [53]. У паходзе былі і татары з Вялікага княства Літоўскага. Войска Вітаўта было вялікае, як і польскае. Толькі ў накірунку на Торунь дзейнічала 16 польскіх харугваў і 16 харугваў «Літвы і Русакоў» [54]. Урэшце 27 верасня 1422 г. у возера Мельна быў заключаны новы мірны дагавор, паводле якога Тэўтонскі ордэн назаўсёды адмаўляўся на карысць Літвы ад Жамойціі і Судовіі (літоўскага Занёмання) і амаль ад усёй зямлі

яцвягаў. Літва атрымала выхад да Балтыйскага мора ў раёне Палангі. Польшча атрымала Нешаўскую зямлю [55]. Аднак Клайпедская зямля і польскае Памор'е заставаліся ў руках нямецкіх рыцараў. Вітаўт не выкарыстаў сваіх магчымасцей для вызвалення ўсіх літоўскіх зямель, а таксама прускіх і латышскіх зямель з-пад прыгнёту крыжакоў. Аднак пазіцыі Тэўтонскага ордэна аслабелі, цяпер ён быў аддзелены ад Лівоніі. Жамойція ўрэшце ўвайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага і Рускага. Практычна гэта дало магчымасць Беларуска-Літоўскай дзяржаве, замацаваўшы за сабой Жамойцію і спыніўшы разам з Польшчай крыжацкую агрэсію, накіраваць увагу на ўсходнюю палітыку, якая дагэтуль займала другараднае становішча [56].

У другой чвэрці XV ст. Вялікае княства Літоўскае і Рускае ўжо не вядзе актыўную антыордэнскую палітыку, хаця Тэўтонскі ордэн захоўваў свае агрэсіўныя інтарэсы і намагаўся ліквідаваць польска-літоўскі дзяржаўны саюз. Са свайго боку Вітаўт у 1425 і 1426 гг. імкнуўся атрымаць вайсковую дапамогу ў вялікага магістра Тэўтонскага ордэна ў паходзе супраць Пскова [57], з якім у апошнія гады падтрымліваліся добрыя адносіны. Але паколькі ў адносінах да Польшчы Тэўтонскі ордэн не выканаў умоў, імператар Жыгімонт прапанаваў Вітаўту сабраць з'езд манархаў, каб вырашыць спрэчныя пытанні. У студзені 1429 г. на вялікім з'ездзе манархаў Усходняй Еўропы ў Луцку, на Валыні, разам з імператарам германскім, каралём Венгрыі і Чэхіі Жыгімонтам, каралём Польшчы Уладзіславам II (Ягайлам), шматлікімі нямецкімі, сілезскімі і мазавецкімі князямі, маскоўскім, разанскім, цверскім вялікімі князямі, каралём Даніі і Швецыі Эрыкам, ханамі Вялікай арды і крымскім, быў і вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Пауль фон Русдорф [58]. На з'ездзе імператар і Ягайла прапанавалі Вітаўту каралеўскую карону. А восенню 1430 г. на ўрачыстасць з гэтай нагоды прыехалі ў Вільню не толькі вялікія князі маскоўскі Васіль II (унук Вітаўта), цверскі і разанскі, але і вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Пауль фон Русдорф [59]. Аднак справа сарвалася, бо правезці каралеўскую карону ў Вільню не дапусцілі польскія феадалы на чале з З. Алесніцкім. Яны не жадалі ліквідацыі польска-літоўскай уніі ў тым выпадку, калі Вялікае княства Літоўскае і Рускае стане каралеўствам. Такім чынам, карона засталася ў Франкфурце.

Вітаўт так і не дачакаўся каралеўскай кароны. Ён

памёр 27 кастрычніка 1430 г. у замку ў Троках. Каля яго знаходзіўся кароль польскі Уладзіслаў II (Ягайла). Паводле ўмоў Гарадзельскай уніі 1413 г., пасля смерці Вітаўта, якога ўжо сучаснікі назвалі вялікім, Вялікае княства Літоўскае і Рускае пераходзіла да Ягайлы, бо ў Вітаўта сыноў не было [60].

Кароль без ведама польскіх радных паноў, але з ведама паноў рады Вялікага княства, абвясціў «вялікім князем Літвы і Русі» свайго роднага (малодшага) брата Свідрыгайлу Альгердавіча. У «Хроніцы» Быхаўца пра гэта запісана: «І па смерці Вялікага князя Вітаўта кароль Ягайла прасіў князёў і паноў літоўскіх, абы яны ўзялі сабе брата роджанага князя Свідрыгайла» [61]. Гэты выбар выклікаў вялікае незадавальненне сярод польскіх радных паноў, якія былі адхілены ад вырашэння лёсу Беларуска-Літоўскай дзяржавы. У сувязі з польска-літоўскім канфліктам Свідрыгайла адразу ж паслаў да імператара Жыгімонта пасольства, прапануючы саюз і згаджаючыся прыняць каралеўскую карону для Літвы і Русі, каб тым самым падкрэсліць незалежнасць сваёй дзяржавы ад Польшчы. Аднак і на гэты раз каралеўская карона да Вільні не дайшла. Паводле чутак, яна (або яе копія) была перахоплена польскімі раднымі панамі [62].

Але не атрыманне каралеўскай кароны было галоўным у палітыцы Свідрыгайлы, ва ўмовах польска-літоўскага канфлікту на выпадак ваенных дзеянняў патрэбна была вайсковая дапамога ад крыжакоў. Таму ў час сустрэчы з вялікім магістрам Русдорфам Свідрыгайла 19 чэрвеня 1431 г. заключыў пагадненне з Тэўтонскім ордэнам аб узаемнай дапамозе ў тым выпадку, калі адзін з бакоў падвергнецца нападу кагосьці трэцяга. Наступальная ж вайна магла быць абвешчана толькі са згоды другога боку. Сведкамі такога акту былі дзесяць найбольш уплывовых радных паноў з Літвы і Русі, у тым ліку стрыечны брат вялікага князя і родны брат Вітаўта, князь Жыгімонт Кейстутавіч, слуцкі і капыльскі князь Алелька Уладзіміравіч (пляменнік Свідрыгайлы), дваюрадныя браты польскай каралевы Соф'і, князі Сымон і Міхаіл Гальшанскія, тры каталіцкія біскупы — віленскі Мацей, жмудскі Мікалай і луцкі Андрэй [63]. Такім чынам, зварот у палітыцы дзяржавы, які сведчыў аб зацвярджэнні яе незалежнасці, падтрымалі вярхі свецкіх і духоўных феадалаў. Трэба адзначыць, што ў гэты час адбыўся ваенны канфлікт паміж Польшчай і Вялікім княствам за Падолле, куды Польшча паслала свае войскі, але,

не ўзяўшы Луцк, польскія феадалы вымушаны былі заключыць са Свідрыгайлам перамір'е [64]. Спробы польскіх радных паноў падштурхнуць Свідрыгайлу разарваць саюз з Тэўтонскім ордэнам не далі здавальняючых вынікаў. Каронная рада прапанавала Вялікаму княству новы саюз, але Свідрыгайла адмовіўся ад яго. Тады польскія паны вырашылі пазбавіць Свідрыгайлу трона. Адначасова і ў Літве была арганізавана змова супраць Свідрыгайлы, які ў сваёй унутранай палітыцы ўсё больш абапіраўся на беларускіх і ўкраінскіх феадалаў, раздаючы ім маёнткі і дзяржаўныя пасады. Літоўскія па паходжанні паны і баяры (але і праваслаўныя, і каталікі) яшчэ не разумелі неабходнасці пашырэння ўлады за кошт баяраў беларускага і ўкраінскага паходжання (што ўмацоўвала дзяржаву) і па дамоўленасці з палякамі ў ноч на 1 верасня 1432 г. зрабілі спробу забіць Свідрыгайлу ў Ашмянах. Аднак ён здолеў разам з найбліжэйшымі баярамі (усяго 14 коннікаў) уцячы ў Полацк. На чале змовы стаялі брат Вітаўта, старадубскі (з 1420 г.) князь Жыгімонт Кейстутавіч (у 1398 г. князь у Навагрудку, а потым у частцы Севярскай зямлі і Старадубе), князі Сымон Іванавіч Гальшанскі і Алелька Уладзіміравіч, Гаштольд, некалькі іншых паноў [65].

Вялікім князем Літвы і Русі быў абвешчаны ў выніку перавароту Жыгімонт Кейстутавіч. Ён выдаў 15 кастрычніка 1432 г. у Гародні акт, якім абвяшчалася вернасць каралю Уладзіславу Ягайле і кароне польскай, а таксама пацвярджалася захаванне дзяржаўнай уніі паміж Вялікім княствам і Польшчай. Жыгімонт абавязваўся валодаць дзяржавай пажыццёва і не прэтэндаваць на каралеўскую карону. Ён прызнаваў таксама тытул караля — вярхоўны князь Літвы і Русі [66]. Гэта забяспечыла Жыгімонту падтрымку Польшчы, адпавядала фактычнаму падзелу улады ў Вялікім княстве Літоўскім, таму што аслабляла уплыў цэнтра.

Ягайла прызнаў Жыгімонта вялікім князем пажыццёва. У руках Жыгімонта Кейстутавіча і ягоных прыхільнікаў была толькі частка тэрыторыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы з гарадамі Вільня, Трокі, Гародня, Коўна, Берасьце, а таксама Жамойція і Падляшша. А ўсходнія і паўднёвыя землі знаходзіліся ў руках Свідрыгайлы — Валынь, Падолія, Кіеў, Севяршчына, Смаленск, Полацк, Віцебск, Тула, Вязьма, Мсціслаў, Пуціўль, Мцэнск. Пачалася доўгая, шасцігадовая феадальная вайна за трон паміж двума вялікімі князямі Літвы і Русі — Жыгімон-

там і Свідрыгайлам (1432—1438 гг.). Скончылася яна перамогай Жыгімонта. Падчас гэтай феадальнай вайны, якая праходзіла амаль на ўсёй тэрыторыі, у Беларуска-Літоўскай дзяржаве былі адразу два вялікія князі. Нейкай асобнай Беларускай дзяржавы ў гэты час не існавала. Дарэчы, тэрытарыяльныя падзелы ў Вялікім княстве Літоўскім і Рускім існавалі і раней. Так, у XIV ст. Кейстут і Альгерд кіравалі рознымі часткамі дзяржавы. Кейстут — заходнімі землямі, а Альгерд — усходнімі, але ён лічыўся вялікім князем. Такое ж становішча было ў 1392 г., калі спачатку ў Літве панавалі Вітаўт і Скіргайла пры перавазе Вітаўта [67]. Феадалы і літоўскага, і беларускага і ўкраінскага паходжання часам змянялі свае пазіцыі, падтрымліваючы то аднаго, то другога вялікага князя. Феадальнае грамадства не імкнулася дзяліць Вялікае княства, яно змагалася за адну дзяржаву. Такую барацьбу няслушна называць паўстаннем Свідрыгайлы, пачынаючы з польскага гісторыка А. Лявіцкага [68]. Гэта была тыповая феадальная вайна, бо ёю кіравалі вярхі пануючага класа, уцягнуўшыя ў аванцюру шырокія колы тагачаснага грамадства. Яна нагадвала аналагічныя феадальныя войны, амаль сінхронныя, у Маскоўскім вялікім княстве (паміж Васілём II і Шамякаю), у Англіі (вайна Пунсовай і Белай Ружы). Такую ацэнку падзеям даюць і польскія гісторыкі [69].

Прыход да ўлады Жыгімонта Кейстутавіча і ягонае панаванне змянілі адносіны гэтых зямель да Тэўтонскага ордэна. Быў афіцыйна разарваны саюз Вялікага княства Літоўскага з Ордэнам, а бліжэйшыя да Прусіі жамойцкія і літоўскія землі занялі варожую пазіцыю да крыжакоў. У той жа час Свідрыгайла вёў барацьбу супраць уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, за незалежнасць адзінай Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Пры гэтым Жыгімонт уступаў Польшчы Падолле і частку Валыні, а Свідрыгайла абараняў усю тэрыторыю дзяржавы. Тэўтонскі ордэн дапамагаў Свідрыгайлу сваімі войскамі, і перш за ўсё лівонскімі атрадамі [70]. У бітве пад Ашмянамі 9 снежня 1432 г. на баку Свідрыгайлы ўдзельнічалі таксама цверскія і лівонскія атрады. Аднак усе яны былі разбіты. У 1433 г. у паходзе Свідрыгайлы на Трокі ішло войска лівонскіх рыцараў на чале з магістрам Рутэнбергам [71]. Галоўныя ж сілы Тэўтонскага ордэна не змаглі дапамагчы Свідрыгайле, бо былі занятыя адпорам польскаму войску, якое ўварвалася ў Прусію. Такім чынам, Свідрыгайла не мог разлічваць на дапамогу асноў-

ных сіл Тэўтонскага ордэна ў вайне з Жыгімонтам. Акрамя таго, Тэўтонскі ордэн 15 снежня 1433 г. вымушаны быў падпісаць з Польшчай 12-гадовае перамір'е, згаджаючыся не садзейнічаць Свідрыгайлу і не ўмешвацца ў вайну паміж двума вялікімі князямі — Жыгімонтам і Свідрыгайлам [72].

Заключаючы перамір'е, польская каронная рада разлічвала на ўтрыманне падзелу Вялікага княства Літоўскага паміж двума вялікімі князямі і ўтрыманне занятых тэрыторый на поўдні, каб больш актыўна ўплываць на ўнутраныя справы ў Літве [73]. Кароль Уладзіслаў Ягайла ўвесь час, пакуль быў жывы, падтрымліваў свайго брата Свідрыгайлу. Але Жыгімонт яшчэ больш узмацніў сувязі з Польшчай. 27 лютага 1434 г. Жыгімонт Кейстутавіч падпісаў у Гародні акт злучэння Вялікага княства Літоўскага з Каронай Польскай. Гэта была чарговая унія паміж дзвюма дзяржавамі. А 1 чэрвеня 1434 г. памёр Ягайла, і каралём Польшчы быў абраны яго старэйшы, 10-гадовы сын Уладзіслаў III. Каб забяспечыць сабе падтрымку праваслаўных баяраў беларускага, украінскага і літоўскага паходжання, Жыгімонт Кейстутавіч 6 мая 1434 г. зраўняў іх правы з правамі баяраў-католікаў, дадаўшы ільготы ў падатках [74]. Многія з іх цяпер пераходзілі на бок Жыгімонта. Вялікая бітва ля Вілкаміра 1 верасня 1435 г., дзе зноў удзельнічалі лівонскія крыжакі на баку Свідрыгайлы, закончылася страшэнным разгромам. Хоць Свідрыгайла і на гэты раз выратаваўся, але ў бітве загінула шмат яго прыхільнікаў, больш дзесятка князёў, амаль усё лівонскае войска разам з магістрам Керскорфам [75]. А 31 снежня 1435 г. Тэўтонскі ордэн падпісаў з Польшчай «вечны» мір, і крыжакі гарантавалі сваё неўмяшанне ў справы Польшчы і Вялікага княства Літоўскага [76].

Нягледзячы на дапамогу крыжакоў (асабліва лівонскіх) Свідрыгайлу, у пачатку феадальнай вайны Тэўтонскі ордэн падтрымліваў адносіны і з Жыгімонтам Кейстутавічам у 1432 г., але глыбока яны не развіліся. Як толькі Жыгімонт перамог Свідрыгайлу і вымусіў яго ў 1438 г. абмежавацца невялічкім уладаннем у Пакуцці або Малой Валошчыне (Каламыя), якое яму калісьці даў Ягайла, то вялікі князь узнавіў больш цесныя кантакты з крыжакамі, намагаючыся выкарыстаць іх, каб заняць больш моцную пазіцыю ў адносінах з Польшчай. І калі вялікі магістр Тэўтонскага ордэна, спасылаючыся на дагавор з Польшчай, адмовіўся ад саюзу з Жыгімонтам супраць Польшчы,

то апошні 5 лютага 1439 г. заключыў у Троках саюз з архіепіскапам рыжскім і магістрам Лівонскага ордэна, гарантуючы ўзаемную дапамогу на выпадак вайны і нармалізацыю гандлёвых адносін, асабліва паміж Рыгай і Полацкам [77]. Гэты дагавор захаваў сваю моц і пасля



Крыжацкі рыцар у прылбіцы і поўнай пласцінкавай зброі.

забойства Жыгімонта 20 сакавіка 1440 г. у Троках у выніку чарговай змовы, якой кіравалі князь Іван Чартарыскі, ваяводы віленскі і троцкі Доўгірд і Лелюш. Радныя паны і баяры, без дамоўленасці з польскімі панамі, 29 чэрвеня 1440 г. абвясцілі вялікім князем Літвы і Русі другога сына Ягайлы, 13-гадовага Казіміра, якога называлі Ягелончыкам (мянушка гэтага падлетка так і засталася на ўсё жыццё). Польска-літоўская дзяржаўная унія была разарвана [78]. У першыя гады княжання Казіміра Вялікае княства Літоўскае і Рускае было цалкам незалежнай дзяржавай. Толькі пасля выбару Казіміра і на польскі трон і каранацыі яго ў Кракаве ў чэрвені 1447 г. была ўзноўлена унія, але толькі персанальная.

Абедзве дзяржавы — Польшча і Беларуска-Літоўская заставаліся незалежнымі. Яны толькі каардынавалі сваю палітыку, у тым ліку і ў адносінах да Тэўтонскага ордэна.

Такім чынам, на працягу вельмі важнага ў гісторыі Літвы і Беларусі перыяду з канца XIV да сярэдзіны XV ст. адносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Рускім і Тэўтонскім ордэнам змяняліся. У XIV ст. яшчэ моцны Тэўтонскі ордэн праводзіў агрэсіўную палітыку ў дачыненні да жамойцкіх, літоўскіх і беларускіх зямель, накіраваную на захоп гэтых зямель, знішчэнне альбо анямечванне мясцовага насельніцтва. Працяглая барацьба літоўскага і беларускага народаў, якія змагаліся разам супраць смяртэльнай для іх пагрозы, з канца XIV ст. вялася ўжо ў саюзе з Польшчай, якой таксама пагражаў агульны вораг. Кульмінацыяй гэтай барацьбы была перамога ў Грунвальдскай бітве 15 ліпеня 1410 г., якая спыніла агрэсію нямецкіх крыжакоў і выратавала нашы народы ад прыгнёту нямецкіх рыцараў і нават фізічнага знішчэння. І хаця ў першай чвэрці XV ст. яшчэ вядзецца вайна з Ордэнам, ён займае ўжо абарончую пазіцыю і праігрывае і дыпламатычную гульню. Спробы ўмяшання ў феадальную вайну 1432—1438 гг. у Вялікім княстве Літоўскім і Рускім ужо слабыя з боку Тэўтонскага ордэна і згубныя для Лівонскага ордэна.

Знешнепалітычныя падзеі першай паловы XV ст. вялі да далейшага аслаблення Тэўтонскага ордэна, а ўнутранае развіццё ў яго дзяржаве (стварэнне ў 1410 г. у Прусіі Прускага саюзу нямецкага і польскага дваранства і гарадоў на тэрыторыі Ордэна, накіраванага супраць Тэўтонскага ордэна) у рэшце рэшт аслабіла Ордэн. Падзеі першай паловы XV ст. адбіліся на канчатковым аслабленні Тэўтонскага ордэна і падпарадкаванні яго пасля вайны 1454—1466 гг. Кароне Польскай у якасці васала. Гэта прывяло да канчатковай ліквідацыі якой-небудзь пагрозы з боку нямецкіх рыцараў для Вялікага княства Літоўскага і Рускага.

[1] *Любавский М.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892. С. 13—46; *Kuczyński S. M.* Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa. 1936. S. 106—122.

[2] *Грыцкевіч А. П.* Палітычнае становішча Беларусі ў эпоху Скарыны // Спадчына Скарыны. Мн., 1989. С. 22—25.

[3] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. 2-е изд. Т. 22. С. 19.

[4] *Грушевський М.* Гісторія України — Руси. Львов, 1903. Т. 4. С. 112; Akta unji Polski z Litwą. 1385—1791. Wydali S. Kutrzeba i W. Semkowicz. Kraków, 1932. S. 2.

[5] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów Warszawa, 1930. T. 1. S. 32—33.

[6] *Łowniański H.* Uwagi w sprawie podłoża społecznego i gospodarczego unji jagiellońskiej // Księga pamiątkowa ku uczczeniu czterechsetnej rocznicy wydania pierwszego Statutu Litewskiego. Wilno, 1935. S. 240.

[7] *Любавский М. К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915. С. 45—46.

[8] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonow. Warszawa, 1930. T. 1. S. 33—34.

[9] Akta unji Polski z Litwą 1385—1791. Kraków, 1932. S. 26—27; *Kolankowski L.* Polska Jagiellonów. Dzieje polityczne. Lwów, 1936. S. 22.

[10] *Длугош Я.* Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962. С. 33.

[11] *Любавский М.* Литовско-русский сейм. М., 1900. С. 24—26.

[12] Volumina Legum. Petersburg, 1859. T. 1. P. 27—28; Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791, Kraków. 1932. S. 34—41, 44—47.

[13] *Длугош Я.* Указ. соч. М.; Л., 1962. С. 36—39, 41—47.

[14] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 81—83.

[15] Ibid. S. 87—88.

[16] *Kuczyński S. M.* Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa. 1960. S. 113—116.

[17] *Kukiel M.* Zarys historii wojskowości w Polsce. Kraków. 1929. S. 20.

[18] *Kolankowski L.* Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne Lwów, 1936. S. 37—38.

[19] *Kolankowski L.* Dzieie wielkiego Księstwa Litewskiego za jagiellonów. Warszawa. 1930. T. 1. S. 92.

[20] *Kuczyński S. M.* Wielka wojna z Zakonem Krzyzackim w Latach 1409—1411. Warszawa. 1960. S. 226—227, 235—236.

[21] Гэтую лічбу прымаюць цяпер і польскія гісторыкі. (*Sikorski J.* Zarys historii wojskowości powszechnej do końca wieku XIX. Warszawa, 1972. S. 211). Раней, паводле Я. Длугаша, называлі 51 польскую харугву. Хаця М. Стрыйкоўскі называе 50 польскіх харугваў і 40 харугваў літоўскіх, г. зн. Вялікага княства Літоўскага і Рускага (*Stryjkowski M.* Kronika Polska, Litewska, Zmódzka i wszystkiei Rusi. Warszawa, 1846. T. 2. S. 132).

[22] *Пашуто В., Ючас М.* 550-летие Грюнвальдской битвы // Военно-исторический журнал. 1960. № 7. С. 84.

[23] Długosz J. Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Księga 10 i księga 11. Warszawa, 1982. S. 107.

[24] *Długosz J.* Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Księga 10 i księga 11. Warszawa, 1982. S. 125.

[25] *Kuczyński S. M.* Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa, 1966. S. 226, 390.

[26] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 102.

[27] *Stryjkowski M.* Kronika Polska, Litewska, Zmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 2. S. 132.

[28] *Długosz J.* Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1982. S. 107.

[29] *Długosz J.* Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1982. S. 107.

[30] Ibid. S. 107—108.

[31] Ibid. S. 107.

[32] Ibid. S. 108.

[33] *Kuczyński S. M.* Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa, 1966. S. 269—271.
[34] Ibid. S. 191, 226.
[35] Хроника Быховца. М., 1966. С. 79.
[36] *Шайноха К.* Ядвига и Ягайло. СПб.; М., 1882. С. 630; Kuczyński S. M. Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa, 1966. S. 393—395.
[37] *Długosz J.* Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1982, S. 125.
[38] *Stryjkowski M.* Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 2. S. 134.
[39] Ibidem.
[40] Ibidem.
[41] *Шайноха К.* Ядвига и Ягайло. СПб.; М., 1882. Т. 2. С. 631—637; *Kuczyński S. M.* Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa, 1960. S. 353—364.
[42] Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864. Warszawa. 1965. T. 1. S. 236—237.
[43] *Kukiel M.* Zarys historji wojskowości w Polsce. Kraków. 1929. S. 28; *Kuczyński S. M.* Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa, 1966. S. 408—409.
[44] *Sikorski J.* Zarys historii wojskowości powszechnej do końca wieku XIX. Warszawa, 1972. S. 212—213.
[45] Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 107.
[46] Ibid. S. 105.
[47] Akta unji Polski z Litwą. 1385—1791. Kraków, 1932. S. 60—72.
[48] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 2. S. 152.
[49] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 127.
[50] *Stryjkowski M.* Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 2. S. 154.
[51] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 136.
[52] Ibid. S. 136—138.
[53] *Stryjkowski M.* Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 2. S. 160.
[54] Ibid. S. 163.
[55] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 139.
[56] *Biskup M., Labuda G.* Dzieje Zakonu Krzyżackiego w Prusach. Gdańsk, 1986. S. 374.
[57] *Соловьев С. М.* История России с древнейших времен. М., 1960. Кн. 2. С. 432.
[58] *Stryjkowski M.* Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 2. S. 168—169.
[59] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 160.
[60] *Lowmiański H.* Witold wielki książe Litewski. Wilno, 1930. S. 65.
[61] Полное собрание русских летописей. СПб., 1907. Т. 17. С. 528.
[62] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 173—174.
[63] Ibid. S. 175.
[64] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 179.

[65] Ibid. S. 185—186; Ochmański J. Historia Litwy. Wroclaw etc. 1982. S. 89—90.
[66] Akta unji Polski z Litwą. 1385—1791. Kraków, 1932. S. 79—81.
[67] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 192.
[68] *Lewicki A.* Powstanie Świdrygiełły. Kraków, 1892.
[69] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 185—225; *Ochmański J.* Historia Litwy. 2-e wyd. Wrocław etc., 1982. S. 89—91.
[70] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 192—193.
[71] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 194.
[72] *Biskup M., Labuda G.* Dzieje Zakonu Krzyżackiego w Prusach. Gdańsk, 1986. S. 376.
[73] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 195—197.
[74] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 203—204.
[75] Ibid. S. 206—207.
[76] *Biskup M., Labuda* G. Dzieje Zakonu Krzyzackiego w Prusach. Gdańsk, 1986. S. 377.
[77] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. 1. S. 214, 216—217.
[78] *Ochmański J.* Historia Litwy. Wrocław etc., 1982. S. 91.

***Генадзь Сагановіч***

## ПОЛАЦКАЯ ВАЙНА: 1563—1579 гг.

Распачатая ў 1558 г. Іванам IV вайна Маскоўскай дзяржавы з нямецкім ордэнам магла прывесці да поўнага разгрому Інфлянтаў (Лівоніі). Царскія ваяводы адразу ж захапілі Нарву, Дэрпт, Нейгаўз ды шэраг іншых замкаў на ўсходзе краіны. Ратуючы магутную калісьці дзяржаву, магістр Ордэна Кетлер кінуўся шукаць дапамогі ў еўрапейскіх манархаў. Аднак уступіцца за чужую зямлю было гатовым толькі Вялікае княства Літоўскае.

Просьбу магістра аб дапамозе разглядаў вальны сойм, скліканы Жыгімонтам Аўгустам улетку 1559 г. у Вільні. На ім прысутнічаў сам Кетлер. Паводле прынятай дамовы ўвесь Ордэн мусіў адысці пад пратэктарат і апеку Вялікага княства.

Жыгімонт абавязаўся накіраваць паслоў у Маскву з патрабаваннем спыніць агрэсію. У выпадку нязгоды Івана Жахлівага Княства павінна было стаць на абарону Інфлянтаў. Неўзабаве да гэтай дамовы далучыўся і рыжскі архіепіскап. І калі паслы Жыгімонта вярнуліся з Масквы з адмоўным адказам, заставалася толькі брацца

за зброю. Так, у лістападзе 1559 г. Вялікае княства Літоўскае ўступіла ў вайну з царскімі войскамі на тэрыторыі Інфлянтаў.

Некалькі тысяч наёмнікаў на чале з гетманам Мікалаем Радзівілам узялі на сябе ўвесь цяжар абароны знямоглай краіны. Тры разы хадзіла туды і паспалітае рушэнне. Гетман хутка захапіў Тарваст, адпусціўшы на волю маскоўскі гарнізон, авалодаў шэрагам іншых важнейшых замкаў. Высакародная ініцыятыва ўжо ў першыя месяцы вайны абярнулася для Княства вялізнымі фінансавымі растратамі.

У канцы лістапада 1561 г. у Вільні нарэшце дайшло да падпісання акту аб поўным падпарадкаванні Інфлянтаў Вялікаму княству Літоўскаму. У прынятай грамаце падкрэслівалася, што «Жыгімонт абавязаны заступіцца за хрысціянаў, якіх прыгнятаюць барбары». А ўжо на пачатку наступнага году царскія ваяводы спустошылі Мсціслаўшчыну, пасля (пакуль войскі Княства знаходзіліся ў Інфлянтах) зрабілі наезды на Дубоўну, Копысь, Шклоў, Оршу, Віцебск. Пра паход Андрэя Курбскага на Віцебшчыну запісана ў маскоўскім летапісе: «...Острог взяли и пожгли, и посады у горада у Витебска все пожгли и наряд в остроге поимали и людей в остроге многих побили и села и деревни около Витебска пожгли и повоевали места многие». Адных толькі праваслаўных храмаў за гэты налёт было спалена не менш 24. Перамогшы ўпартую абарону гарнізона, маскоўскія войскі тады ж захапілі Невель. А калі ў жніўні 1562 г. сюды падышло 4-тысячнае войска Вялікага княства Літоўскага, Іван Жахлівы выслаў на яго князя Андрэя Курбскага з 15-тысячным корпусам. Дайшло да вялікай бітвы, у якой больш пацярпеў Курбскі. Любімы царскі ваявода, герой шмат якіх паходаў, заслужыў гнеўны папрок Івана Жахлівага: «Вы были под Невелем с 15 000 и не умели разбить 4000 литовцев».

Між тым афіцыйна вайны паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім быццам і не было. Увесь 1562 г. Вільня і Масква вялі напружаныя дыпламатычныя перамовы. Пасольства Жыгімонта Аўгуста старанна імкнулася прадухіліць вайну. У планы ж Маскоўскага двара ўваходзіла пашырэнне экспансіі. Іван Жахлівы пераносіў галоўны ўдар на Вялікае княства Літоўскае. Баяры і ваяводы сцвярджалі: «...Не только что Русская земля вся, но и Литовская земля вся вотчина государя нашего».

У Маскве яшчэ заставаліся паслы Жыгімонта Аўгуста, калі адмабілізаванае царскае войска рушыла з Вялікіх Лукаў на Полацк. Вёў яго сам маскоўскі ўладар. Ужо 31 студзеня 1563 г. каля 60 тысячаў дваранскай конніцы, татараў і стральцоў з дзвюма сотнямі гарматаў шчыльна абступілі старэйшы беларускі горад. Разам з царом браць Полацк прыйшлі такія вядомыя ваяводы, як Іван Шарамецеў, Васіль Сярэбраны, Міхал Рэпнін ды іншыя баяры. Бараніць жа горад мусіў зусім невялікі гарнізон з дапамогаю шляхты і мяшчан. Найвышэйшы гетман Вялікага княства Літоўскага троцкі ваявода Мікалай Радзівіл меў пад рукою толькі 3400 коннікаў. З імі ён і наблізіўся да Полацка, калі той адбіў ужо некалькі прыступаў. Харугвы Радзівіла былі няздольныя нават пераняць татарскую конніцу, якую цар накіраваў у бок Вільні. Ім заставалася з прыстойнай адлегласцю пасіўна назіраць няроўны бой.

А Полацк мужна змагаўся. І хто ведае, колькі часу працягвалася б аблога, калі б не тактычныя памылкі полацкага ваяводы Станіслава Давойны. Спачатку ён, ашчаджаючы прыпасы, выправіў з гораду 2 тысячы сялян,



Крылаты гусар

кія займаліся раней абарончымі працамі. У руках маскоўскіх ратнікаў тыя мусілі паказаць ямы з харчам, прызначаныя для палачан. Пасля, каб сканцэнтраваць сілы толькі ў Ніжнім ды Верхнім замках, Давойна загадаў падпаліць пасады. Пад прыкрыццём густога дыму ў горад уварваліся стральцы. Затым сюды былі ўцягнуты і гарматы. Цяпер непрыяцель мог зблізку трапна страляць па абодвух полацкіх замках. Падчас пажару астрога 9 лютага адтуль выйшлі жыхары — «чорных людей мужиков и жен их и детей всякого человека 11 060»[1]. Стральцы ўсіх іх забралі, а праз тры дні Іван Жахлівы «велел тот полон роздати по баяром, и по дьяком, и по всем приказным людем, и князем, и детем баярским...»

12 лютага абаронцы Полацка зрабілі вылазку. Каля тысячы чалавек — шляхта, двор Давойны, полацкія мяшчане — напалі на войска ваяводы І. Шарамецева з мэтаю захапіць у таго артылерыю. Прычыніўшы значную шкоду ворагу, яны мусілі вярнуцца за вал. У бойцы быў паранены сам Шарамецеў.

Уначы 14 лютага цар загадаў баярам і ваяводам узмацніць агонь, «бити по городу по всему не с одного места изо всего наряду, и из верхних пушек, из вогненных, и попытати город зажигати, чтоб дал Бог как город зажечи»[2]. Драўляныя ўмацаванні Полацка ўсцяж гарэлі. Знясіленыя абаронцы задыхаліся ў дыме. А шанцаў утрымацца ў палаючых вежах ды гароднях ці дачакацца падмогі сваіх не заставалася ніякіх. У дадатак да ўсяго пад адной са сценаў быў узарваны порах. Выбухам моцна пашкодзіла фартэцыю. «Выжгли огнём 300 сажен стены»,— адзначыў пскоўскі летапісец[3]. І пасля сёмага штурму горада ваявода Давойна вырашыў капітуляваць. Прынамсі ў гэтым бачыўся адзіны ратунак зняможанага гарнізону, бо цар абяцаў даравалю волю ўсім, хто спыніць супраціўляцца.

Раніцай 15 лютага да маскоўскіх баяр і ваявод выйшлі з крыжамі полацкі ўладыка епіскап Арсень, полацкія айцы, ваявода Станіслаў Давойна, Ян Глябовіч ды іншыя прадстаўнікі вышэйшых станаў, і прасілі, каб тыя «по городу из пушек бити не велели». Так Полацк быў здадзены. Аднак і пасля гэтага шляхта яшчэ доўга мужна адбівалася ў цэнтры горада.

У Полацку пераможац не стрымаў свайго царскага слова. На абяцаную волю ён адпусціў толькі «кароннае рыцарства» — 500 палякаў на чале з ротмістрамі М. Холмскім, А. Вярхлінскім, Я. Варшэўскім. Апроч прапускной

граматы яны атрымалі ад Івана Жахлівага і шчодрыя дарункі — футры ды іншыя каштоўныя рэчы. Гэта рабілася як палітычны знак: маўляў, з Польшчаю Масква ваяваць не збіраецца. Больш ніхто не зведаў царскае літасці. Тысячы палачан — ваяводу Давойну з жонкаю і дзецьмі, епіскапа Арсена, шляхту, мяшчан і яшчэ раней захопленых сялян,— усіх павялі ў Маскоўскую дзяржаву. Пяць доўгіх дзён гналі іх, галодных і паўапранутых, па снежных сумётах да Масквы, па словах М. Стрыйкоўскага, «як іудзеяў да Бабілону». А там раздалі баярам і ваяводам. У Маскву ж перавезлі з Полацка казну, усю ўласнасць шляхты, золата, серабро, каштоўныя рэчы.

З палонных палачан (а іх прывялі больш 11 тысяч) мала каму пашчасціла вярнуцца пазней на айчыну. Ваявода С. Давойна адпакутаваў у няволі 4 гады, пакуль яго не абмянялі на маскоўскага ваяводу В. Цёмкіна, жонка ж Давойны так і памерла ў палоне. Яшчэ больш давялося перажыць у кайданах віленскаму ваяводзічу Я. Глябовічу, які вярнуўся дадому ажно ў 1569 г. Цар усё спрабаваў скарыстаць яго ў вайне супраць Княства, абяцаючы за гэта Полацк, Інфлянты і нават... польскую карону. Цяжкі лёс выпаў таксама на долю Корсакаў, Няміровічаў, Ешманаў ды іншай зняволенай беларускай шляхты.




Маскоўскія коннікі

Што ж да паспалітых людзей полацкага палону, дык пра іх далейшы лёс і звестак не дашукацца...

У занятым Полацку ў першыя ж дні пачаліся масавыя забойствы. Інспіраваў іх сам цар. Паводле Пскоўскага летапісу, «и которыя были в городе жили люди жидове, и князь великий велел их с семьями в воду в речную вметати...»[4]. Няшчасных выганялі на Дзвіну і Валовае возера, абсякалі вакол іх лёд — і тапілі. Полацкіх бернардынцаў Іван Жахлівы загадаў перарэзаць, а храм іх — спаліць. Гэтак жа абышліся з іншымі «паганымі».

Дваранская конніца на другі ж дзень пасля капітуляцыі Полацка імкліва пайшла ў паўднёва-заходнім накірунку. Хутка яна з'явілася недалёка ад муроў непадрыхтаванай да адпору Вільні. Да нападу на сталіцу не дайшло. Маскоўскія войскі ахапілі ўсю паўночную Беларусь і, не сустракаючы арганізаванага супраціўлення, заняліся пусташэннем ды рабаваннем. Па начах берагі Дзвіны ўсцяж фарбаваліся ў чырвань вогненных заранак. Зіхоткае полымя высвечвала спічастыя шапкі стральцоў ды халодны бляск іх даўгіх бердышоў. Заможныя калісь воласці Падзвіння цяпер нішчыліся адна за адною. Жыхароў ратнікі прыводзілі да прысягі на вернасць цару, бралі ў палон і адпраўлялі на чужыну, скарыстоўвалі для сваіх ваенных патрэб...

Адсвяткаваўшы перамогу, Іван Жахлівы пакінуў Полацк 26 лютага, а кіраваць горадам даручыў ваяводу князю Пятру Шуйскаму...

Як самой вайны, так і хуткай страты буйнейшага горада, паўночнай цвердзі дзяржавы, пасля якой нішто не закрывала сталіцы Вільні, аніхто ў Вялікім княстве не чакаў. Жыгімонт Аўгуст знаходзіўся датуль у Кракаве. Патрэбна было нешта рабіць, каб стрымаць агрэсію ворага...

21 лютага 1563 г. у Полацку ўжо з'явіўся ганец ад паноў радных П. Беражыцкі, які перадаў маскоўскім ваяводам ліст ад Р. Хадкевіча і абодвух Радзівілаў. Тыя прасілі цара спыніць забойствы, пайсці хоць на часовае замірэнне, пакуль кароль і вялікі князь накіруе ў Маскву сваіх паслоў. Праз тры дні было прынята пагадненне аб спыненні ваенных дзеянняў да 15 жніўня таго ж году. Іван Жахлівы ўключыў у тэкст адну хітрую ўмову: каб ліцвіны не падступалі да Полацка і ўсяго Полацкага павета. Пад Полацкім паветам тут разумелася ўся Полацкая зямля, хоць цар заваяваў яшчэ толькі яе паўночнаўсходнюю частку.

Праз нейкі час у Маскву прыйшло пасольства Ю. Быкоўскага. Замірэнне было пратэрмінавана да 1 лістапада 1563 г. Аднак рэальна на Полаччыне міру не было. Ваяводы імкнуліся захапіць паболей безабароннай зямлі. Яны нішчылі маёнткі, палілі вёскі, забіралі жывёлу і маёмасць, а людзей па-ранейшаму паланілі, прыводзілі да прысягі на вернасць цару. Карыстаючыся момантам, царскія ваяўнікі ціха завалодвалі тым, што не паспелі заняць падчас адкрытых баявых дзеянняў. Напрыклад, 8 жніўня 1563 г. злучэнне маскоўскіх войскаў на чале з Б. Сабуравым, А. Куртавым, І. Колычавым ды іншымі баярамі выйшла з Полацка і напала на Лукомль. Горад спалілі, а жыхароў сем'ямі забралі ў няволю[5]. Складаючы скаргу цару, Жыгімонт Аўгуст адзначаў: «Вялікую шкоду людзе твае Масква чынілі, пачаўшы за мілю ад замку нашага Дрысы ажно да Дзісны ўсе воласці па Дзвіне выпалілі». Спаленымі ён называў Лукомль, Улу, Лепель, Бабынічы, Арэхаўну, Плюсну, Чуракі, Асвею, Глыбокае, Беразавец, Ластавіцы, Залессе, Задарожжа, Галамысла...

У канцы 1563 г. у Маскву прыехала вялікае пасольства Жыгімонта, узначаленае Ю. Хадкевічам ды Р. Валовічам. Яно яшчэ пабачыла ў сталіцы «полацкі палон». Адбіваючыся ад прэтэнзій цара на ўсё Падняпроўе, Палессе, Валынь і Падолле, паслы ў сваю чаргу запатрабавалі ад Масквы вярнуць Вялікаму княству Літоўскаму Полацк, Смаленск, усю Севершчыну, а таксама даўно забытыя Варатынск, Любуцк ды іншыя гарады. Яны прасілі ў Івана Жахлівага прадоўжыць замірэнне да 1 ліпеня 1564 г. Цар адмовіў, затое прапанаваў мір хоць на 10—15 гадоў, калі яму часова аддадуць Полаччыну ды Інфлянты. Паслы ж былі гатовы часова адпісаць Маскве нават акупаваны Полацк, толькі не Полацкі павет і не Інфлянты. Гандлюючыся за Полаччыну, Іван спрабаваў адмовіцца ад Валыні, Падолля, Кіева, нарэшце Курляндыі. Аднак і гэта не змяніла пазіцыі паслоў. Тады цар сарваўся. Гэтым перагаворы і скончыліся. 9 студзеня 1564 г. дэлегацыя Княства пакінула Маскву, маючы прапускную грамату да г. Барысава. А следам за ёй на тэрыторыю Беларусі рушылі царскія ваяводы.

З Полацка з 24-тысячным (па іншых крыніцах — 30-тысячным) корпусам выйшаў П. Шуйскі, а з Вязьмы на ўсход рухаліся браты Сярэбраныя з 50-тысячным войскам. Цар загадаў ім злучыцца «не дошед Орши за 5 вёрст, в селе на Боране, а от Орши итти к Менску и к Новугородку Литовскому»[6].

Найвышэйшы гетман літоўскі Мікалай Радзівіл канцэнтраваў тады свае фарміраванні на Віцебшчыне. Пра рух маскоўскіх войскаў яму было добра вядома ад шпегаў (шпіёнаў). Недалёка ад Чашнікаў злучаныя сілы М. Радзівіла, Р. Хадкевіча, Р. Сангушкі, М. Сапегі, Б. Саламярэцкага (разам ад 4 да 10 тысяч) перанялі корпус ваяводы П. Шуйскага. Паводле сведчанняў летапісца, бітва адбылася ў сераду 26 студзеня 1564 г. на вялікім полі каля вёскі (магчыма, Іванск), што над Улаю. Для маскоўскага войска яна не магла быць нечаканаю, бо напачатку бой з імі завязалі толькі 2 роты, пасланыя гетманамі наперад. Калі ж падышлі астатнія сілы і сталі на полі баявым парадкам, дык ужо і П. Шуйскі падрыхтаваў свае палкі да бітвы.

З тактычнага боку гетманы правялі гэтую бітву бліскуча. За імклівым франтальным ударам вораг быў атакаваны з тылу: «поткали, заразом их сперли, аж потом почали тыл додавати, и так теж гоня̇чи за ними и били их, иж за ласкою Божьею тое войско на голову поразили, бьючи их и гоначи аж через пять миль»[7].

Пры святле месяца ўцекачоў даганялі, забівалі і бралі ў палон. Сярод трупаў пасля бітвы знайшлі меч і калчан самога князя і ваяводы П. Шуйскага. Пазней у рацэ Ула вылавілі і ягонае цела. Праўдападобна, што раненага Шуйскага дабіў сякерай селянін, не адрозніўшы ў прыцёмках князя ад іншых уцекачоў. Загінулі таксама князі А. Празароўскі, М. Адоеўскі, І. Захар'ін, браты Палецкія, Кунтаравічы і інш. Тры ваяводы, шмат баярскіх дзяцей і сотні ратнікаў трапілі ў палон. Да Полацка дайшло каля 5 тысяч тых, хто ўратаваўся ўцёкамі. А ўвесь абоз — больш 3000 вазоў — застаўся ў руках пераможцаў. Корпус П. Шуйскага перастаў існаваць. «Мы страцілі ня больш 20 вояў; раняных каля сямісот»,— паведамляў гетман аб выніках бітвы[8].

Здабыўшы перамогу, войска Вялікага Княства рушыла бліжэй да Оршы. Наперад было выслана «передавых людей сколько тысечей с паном Филоном Кмитою». Каля Дуброўны яны сутыкнуліся са старожай ваявод Сярэбраных і разбілі яе. Тым часам да Сярэбраных дайшла вестка пра поўны разгром П. Шуйскага і тыя паспешліва павярнулі свае войскі назад. Адступаючы ў Смаленск, яны «выжгли селения ад Дубровны до Кричева; взяли в плен множество земледельцев»[9].

Так бліскучаю перамогаю каля Улы была сарвана вялікая наступальная аперацыя Івана Жахлівага. Пацяр-

пела толькі ўсходняя Беларусь. Аднак гэтым новая актывізацыя дзеянняў не скончылася.

Летам маскоўскі ваявода Ю. Такмакоў «хадил с Невля к Литовскому городку Озерищу с конными людми, с пешими да и с судовыми людми». Яго войска 4 дні трымала горад у аблозе, пакуль на дапамогу Азярышчу не прыйшла конніца і пяхота з Віцебска. Такмакоў спачатку сутыкнуўся з перадавымі харугвамі непрыяцеля, разбіў іх і нават захапіў 50 чалавек у палон. Калі ж падцягнуліся галоўныя віцебскія сілы, маскоўскае войска не вытрымала ўдару. Ваявода Ю. Такмакоў «языков побил и со всеми людми пришел на Невль здорово».

Амаль адначасова, 26 ліпеня, са Смаленска на Мсціслаўшчыну рушыў ваявода В. Бутурлін з памесным войскам, татарамі і мардвою. «И воевали Мстиславские места, и Кричевские, и Радомльские, и Могилёвские, и многих людей побили, и в полон взяли воинские людей шляхтычь и с женами и с детьми и черных людей всяких 4787 душ»[10].

А гетманы літоўскія паспрабавалі вярнуць Полацк, у якім пасля П. Шуйскага ваяводам быў князь П. Шчанятаў. У кастрычніку 1564 г. сюды падышлі з войскамі М. Радзівіл, Р. Хадкевіч, Ю. Слуцкі, В. Астрожскі і А. Курбскі. Яны пераправіліся на правы бераг Дзвіны і сталі перад горадам, паміж Дзвіною і Палатою. Да штурму не дайшло: «...к городу никоторою стрелбою ни приступом не промышляли»,— адзначыў летапісец. Прычынаю гэтай пасіўнасці найверагодней была недастатковасць наяўных сіл. Тым часам на дапамогу полацкаму гарнізону спяшаліся з Вялікіх Лукаў «многие воеводы со многими людми» на чале з В. Сярэбраным ды І. Пронскім. Прастаяўшы безвынікова 17 дзён, гетман найвышэйшы М. Радзівіл пераправіў войскі назад за Дзвіну і адышоў ад Полацка, не чакаючы з'яўлення ваявод. А тыя праз які месяц раптоўна напалі на Азярышча. Горад быў захоплены і цалкам знішчаны. «А каторые запирались в стрельнях и в баштах и в хоромех, и те погорели; а город до основания выгорел, а дворы господские и посадские и острожные все выжгли и никаков человек из города не ушел...»

Войскі Вялікага княства правялі колькі акцый у адказ. Князь А. Курбскі з 15-тысячным корпусам хадзіў зімой на Вялікія Лукі, праўда, абмежаваўся ў асноўным спусташэннямі. Яшчэ раней лятучы аддзел у 700 коннікаў і 300 пяхотнікаў уварваўся на тэрыторыю маскоўскіх Інфлянтаў ды некалькі дзён граміў там залогі і гнаў казакоў.

Пад самы канец 1564 г. цар ізноў паслаў войскі на княства. Ваяводы «Литоўскую землю воевали, и зажгли многие места, и полону множество поимали, и в великой корысти в Литовской земле учинилися...». З другога боку напачатку вясны 1565 г. невялікі корпус войск Вялікага княства рушыў на Пскоўшчыну, дзе і спрабаваў авалодаць Красным Гарадком. Ён разбіў палкі ваявод І. Шуйскага ды І. Шарамецева, пасланыя з Вялікіх Лукаў, пасля чаго мог гаспадарыць на ўсёй Пскоўшчыне. Паводле летапісаў, «литовские люди... воевали полторы недели, полону много вывели и помещиковы и крестьянские дворы жгли, церквей не жгли»[11]. Быў зроблены таксама рэйд у напрамку на Марыенбург, пасля — на Севершчыну, дзе дайшлі аж да Старадуба і Чарнігава. Аднак усе гэтыя дзеянні мелі тактычнае значэнне і не давалі аніводнаму з бакоў трывалай перавагі ў вайне.

Стомленасць ад зацягнутай барацьбы, шэраг ваенных поспехаў Вялікага княства Літоўскага і, магчыма, адкрытая варожасць Даўлет-Гірэя, які на пачатку 1565 г. хадзіў на Разаншчыну як саюзнік Жыгімонта,— усё гэта схіліла ўрэшце маскоўскага цара да ўзнаўлення мірных перагавораў. У жніўні 1565 г. ваенныя дзеянні былі спынены. Манархі некалькі разоў абмяняліся дыпламатычнымі граматамі. Масква чакала «вялікага пасольства» ад караля і вялікага князя. Паслы ж прыехалі туды толькі ў канцы мая 1566 г.— князі Ю. Хадкевіч, Ю. Тышкевіч, пісар і дзяржаўца М. Галабурда ды іншыя — усяго каля тысячы чалавек.

З часу папярэдніх перагавораў сітуацыя мала змянілася, ды ўсё ж, нягледзячы на страту Азярышча, Вялікае княства мела ў актыве перамогі, здабытыя ў палявых бітвах, а таксама шмат палонных маскоўскіх ратнікаў — у раўнавагу да полацкага палону.

Спрэчкі аб межах пачаліся з максімальных патрабаванняў Масквы: цар назваў сваёй вотчынай нават Падляшша. У адказ віленскія паслы запатрабавалі Мажайск! Далей гутарка пайшла аб больш рэальных умовах. Каб згадзіцца на мір, Вільні было б дастаткова вярнуць Полацк, Азярышча, Смаленск і абмяняць вязняў, а наконт Інфлянтаў знайсці які-небудзь кампраміс. Масква ж настойвала на поўным валоданні Інфлянтамі і ўсёй Полаччынай, з Дрысай ды Усвятамі ў дадатак[12]. Не аддаваць анічыя з захопленых земляў прасілі цара баяры, духавенства і памешчыкі,— усе, з кім ён раіўся аб умовах пагаднення. Тарапецкія памешчыкі сказалі цвёрда: «Мы, хо-

лопи государевы, за одну десятину земли Полоцкого и Озерищского поветов головы положим...»[13]

Выводзячы перагаворы з тупіка, выступіў пасол Ю. Тышкевіч і паведаміў пра тое, што дзеля міра Жыгімонт Аўгуст мог бы пайсці на канчатковую страту Смаленска. Але дарэмна. Цяпер Івану стала замала нават гэтага!

Далей спрэчкі вяліся вакол Інфлянтаў. Цару найважней было завалодаць усёй інфлянцкай тэрыторыяй з Рыгай — галоўным портам краіны, вусцем Дзвіны. Аднак гэта добра разумелі і ў Вільні. Паслы цвёрда стаялі супраць прапаноў цара атрымаць за Рыгу якія-небудзь іншыя гарады і землі. Яны падкрэслілі, што Жыгімонт нізашто не аддасць Інфлянтаў.

Не знайшоўшы аніякага паразумення, паслы вырашылі, не перапыняючы замірэння, адкласці далейшыя перагаворы на пазней. Яны пакінулі Маскву ў ліпені 1566 г., дамовіўшыся аб адным: што да Калядаў наступнага года «войны не быти на обе стороны».

Цар не губляў часу, і пакуль на Полаччыне было ціха, спяшаўся ўмацаваць там свае пазіцыі. Па лініі мяжы з непрыяцелем ваяводы пачалі ўзводзіць замкі. У ліпені 1566 г. «поставлен бысть город Усвято», восенню таго ж года паўсталі цвердзі Сокол на Дрысе і Ула на Дзвіне вышэй Полацка. Кароль і вялікі князь Жыгімонт абурана пратэставаў супраць такіх дзеянняў Івана, прасіў не будаваць замкаў на чужых землях. Цар на гэта адказаў, што гарады ён «велит ставити во своей вотчине в Полотцском повете, что ему государю Бог дал». Больш таго, калі людзі гетмана літоўскага пачалі будаваць на поўдні ад Полацка замак Варанец над Ушачай, маскоўскі ўладар скардзіўся, што тыя ставяць горад у ягонай Полацкай зямлі ды пасылаў на іх свае войскі.

Летам 1567 г. царскія ваяводы ўзводзілі чарговую фартэцыю — замак Кап'е на выспе возера Суша. Будаўніцтва мусілі ахоўваць П. Сярэбраны і В. Паліцкі з 8-тысячным корпусам. Аднак на гэты раз ім не дапамагла нават такая моцная ахова. На світанку нечакана з'явіліся харугвы Вялікага княства і ўчынілі поўны разгром непрыяцельскага корпуса. «Многих прибили и князя Василья Палицких убили, а князь Пётр Серебряных убегл в Полоцко». Разам з Сярэбраным уцёкамі выратаваліся рэшткі ягонага войска.

Гэта была буйнейшая сутычка часоў фармальнага замірэння. Яна ж стала і апошняй перад новым этапам

адкрытай вайны. Бо літаральна ў дні самой бітвы ў Гародню проста на сойм прыехала маскоўскае пасольства, каб давяршыць бясплённыя перамовы мінулага лета. Прапанаваўшы заведама непрымальныя ўмовы новага пагаднення, яны не маглі адхіляцца ад літары царскай інструкцыі. З пасламі, пазбаўленымі права шукаць кампрамісу, не было сэнсу нават пачынаць дыскусію. Паводзілі ж яны сябе настолькі ганарліва, што выклікалі агульнае абурэнне ўдзельнікаў сойма. Ім не дазволілі пабачыцца з маскоўскімі вязнямі і паказалі, што перагаворы скончаны. У жніўні царскія пасланцы выехалі з Гародні. Хвіліны, калі пасольства цалкам пакідала тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага, лічыліся пачаткам новай вайны [14].

Іван Жахлівы зграмадзіў тады свае войскі каля Вялікіх Лукаў і пачаў паход на Інфлянты. Аднак перад самой інфлянцкай мяжой палкі спыніліся. Грандыёзную акцыю сарвала паведамленне пра мабілізацыю паспалітага рушэння ў Вялікім княстве Літоўскім. Царскія войскі вярнуліся да Вялікіх Лукаў і Тарапца. Абодва бакі правялі серыю дробных памежных акцый. Напрыклад, узімку 1567 г. віцебскі ваявода С. Пац з казакамі штурмам здабыў замак Сітна, затым войскі Вялікага княства хадзілі пад Веліж і Усвяты, а ў студзені 1568 г. прайшлі аж да г. Белае на Смаленшчыне і па дарозе назад разбілі значныя маскоўскія сілы пад Веліжам.

У кіруючых колах Вялікага княства Літоўскага абмяркоўвалася ідэя пераносу ваенных дзеянняў на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы. Вышэйшыя станы патрабавалі гэтага ад Жыгімонта яшчэ на снежаньскім сойме 1566 г. у Гародні. Наступны сойм прыняў рашэнне аб мабілізацыі земскага войска. Як толькі сарваліся перамовы з Масквой, кароль і вялікі князь разаслаў універсал з патрабаваннем тэрмінова збірацца ўсёй шляхце і магнатам да Маладзечна. Аднак са зборам войска прамаруджвалася. Толькі пад глыбокую восень паміж Маладзечнам і Лебедзевым зграмадзіліся больш-менш поўна змабілізаваныя сілы земскай службы. Паводле падліку, тут было 27 708 коннікаў, 1518 пешай шляхты і 13 218 драбаў [15]. Да іх далучылася некалькі тысяч дворнай конніцы Кароны Польскай. Разам з абслугаю артылерыі (для паходу было падрыхтавана 100 гармат) ды іншымі дапаможнымі фарміраваннямі ўсё войска налічвала каля 50 тысяч. Такой сілы Вялікае княства яшчэ аніколі не збірала.

Сам Жыгімонт з'явіўся ў абозе толькі ў кастрычніку і не спяшаўся дзейнічаць. Нарэшце праз месяц войска перайшло ў Радашковічы, пасля — да Барысава [16]. Пла-

навалася, што Жыгімонт з 10—12-тысячным корпусам застанецца пад Менскам і адцягне на сябе ўвагу Івана Жахлівага, а Р. Хадкевіч з галоўнымі сіламі ад Барысава пойдзе ўглыб Маскоўскай дзяржавы. Там абавязкова дайшло б да палявой бітвы, а ў адкрытых сечах гетманы звычайна перамагалі царскіх ваявод. Ды і на справе гэты план выглядаў рызыкоўным: нельга было выводзіць галоўныя сілы з краіны, пакуль з поўначы маглі ў любы момант ударыць палкі Івана Жахлівага. Так і стаялі ў нерашучасці абедзве зграмаджаныя арміі — у цэнтры Беларусі і пад Вялікімі Лукамі. Неўзабаве Жыгімонт забраў ад барысаўскай групоўкі 12 тысяч коннікаў і 6 тысяч пяхоты ды паслаў іх на чале з Я. Хадкевічам ды Р. Сангушкам здабываць Улу. Трохтыднёвая аблога Улы прайшла вельмі няўдала, і ў лютым 1568 г. войска адтуль вярнулася. Хутка армію пакінуў сам Жыгімонт, пасля чаго і шляхта пачала раз'язджацца па маёнтках. Гэтак бясплённа і



Іван Жахлівы

скончылася добра задуманая і падрыхтаваная Радашковіцкая выправа — апошняя буйнамаштабная акцыя самастойнага Вялікага княства Літоўскага супраць Маскоўскай дзяржавы.

Ізноў пачалася серыя малазначных ваенных аперацый. Адразу пасля сарванай выправы аршанскі стараста Філон Кміта з 4 тысячамі конніцы пайшоў углыбкі Смаленшчыны і спустошыў яе, а пад Смаленскам разбіў войскі непрыяцеля. У Лепелі ўдалося паставіць моцныя драўляныя вежы і гародні. Калі ж туды падышлі царскія стральцы — іх разграмілі. Нарэшце ў канцы верасня 1568 г. быў штурмам здабыты грозны замак Ула, што на левым беразе Дзвіны паміж Полацкам і Віцебскам. Маскоўскія войскі са свайго боку спрабавалі захапіць Віцебск. Замак не паддаўся, а горад — спалілі. Адкрытых палявых бітваў ваяводы па-ранейшаму пазбягалі, хоць і мелі перавагу ў сіле.

Хутка цар прапанаваў Жыгімонту ізноў прысылаць у Маскву «вялікіх паслоў», каб знайсці ўмовы да прымірэння. Але як толькі каралеўскі пасол выехаў з Масквы з граматай аб міры, у Інфлянтах успыхнулі баявыя дзеянні: царскія ваяводы напалі там на замкі, што належалі Вялікаму княству. Аднак распальваць вялікую вайну ні адзін бок не хацеў. Абедзве дзяржавы ўжо моцна стаміліся ад змагання. Да таго ж істотна мянялася міжнароднае становішча.

Акт Люблінскага сойма, прыняты 1 ліпеня 1569 г., злучыў Вялікае княства Літоўскае з Каронай Польскай. Цяпер Маскоўская дзяржава мусіла мець справу з Рэччу Паспалітай. Якраз цяжар вайны і стаў ці не важнейшай прычынай, падштурхнуўшай Княства да аб'яднання з Польшчай. Шляхта прасіла ў Жыгімонта «супольнай абароны», спадзявалася на дапамогу палякаў.

Проста з Люблінскага сойма ў канцы 1569 г. да Масквы выехалі «вялікія паслы Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага». На перагаворах выявілася, што пазіцыі бакоў дыяметральна процілеглыя. Калі Масква патрабавала сабе Кіеў, Львоў, Галіч і Берасце, дык Вільня з Кракавам называлі Вялікі Ноўгарад, Пскоў, Мцэнск... Потым запатрабаванні зменшыліся: першыя прасілі аддаць Віцебск і Кіеў, другія — вярнуць Полацк і Смаленск. Найвастрэйшыя спрэчкі вяліся вакол Полацка і Рыгі, за якія непарушна сталі абодва бакі. Урэшце было вырашана для часовага міру правесці дзяржаўную мяжу па спрэчных памежных тэрыторыях — на Полаччыне і ў Інфлянтах. Масква ізноў трымалася за

ўсе гарады Полаччыны, нават за незахопленыя. Маўляў, як жа будзе Полацк без Полацкай зямлі! Пасля спрэчак усё ж дайшлі да паразумення, вызначылі афіцыйную дзяржаўную мяжу і прынялі трактат аб 3-гадовым прымірэнні. Згодна з ім, у 1570 г. Вялікае княства страч-



Жыгімонт Аўгуст

вала палову Полацкай зямлі — з Полацкам, Сітнам, Азярышчамі, Усвятамі і новазбудаванымі замкамі — Туроўляй, Сокалам, Крэчэтам, Красным і Сушай.

Праз 2 гады ізноў сустрэліся паслы Маскоўскай дзяржавы і Рэчы Паспалітай. Не маючы сіл адваяваць Полацк, Жыгімонт Аўгуст хацеў выменяць яго на якія-небудзь інфлянцкія гарады, апроч Рыгі. Цар ні на што не згаджаўся. А 18 ліпеня 1572 г. апошні Ягайлавіч памёр. Воляй гісторыі палова Полацкай зямлі, аддадзеная Івану Жахліваму на 3 гады, заставалася пад законнаю ўладаю цара надалей.

Толькі новаабраны манарх Сцяпан Батура належна арганізаваў вайсковыя сілы і павёў рашучую барацьбу за вяртанне акупаваных тэрыторый. Ужо ў лістападзе 1577 г. ён выдаў універсал аб скліканні павятовых соймікаў

для вылучэння паслоў на Вальны сойм у Варшаву, на якім трэба было абмеркаваць пытанне вайны. Перадсоймавыя інструкцыі тлумачылі паслам, чаму вайна з Масквой павінна ўзнавіцца (напаўшы на Рэвель і Вендэн, царскія ваяводы ўжо фактычна пачалі яе), чаму трэба збіраць вялікае войска. А Варшаўскі сойм у сакавіку 1578 г. грунтоўна абмеркаваў усе пытанні і прыняў рашэнне ўзнавіць вайну з Маскоўскай дзяржавай. Паслы вызначылі таксама, якія сродкі спатрэбяцца для паспяховых ваенных дзеянняў. Асабліва бракавала артылерыі. Гарматы пачалі адліваць у віленскай майстэрні, частку прывезлі з Мальбарка і Гданьска. Ручніцы закуплялі ў майстроў Вільні, Пінска, Мядзеля, Браслава, вазілі з Торуні і Гданьска[17]. Для пяхоты і артылерыі набывалася суконная уніформа. Агулам на зброю ды іншыя сродкі Вялікае Княства выдаткавала 60 000, а Карона — 25 000 злотых.

Калі мабілізацыйныя справы былі ў асноўным вырашаны, Сцяпан Батура прыехаў у Вялікае Княства. Тут яго ўразіла ахвярнасць і гарачы патрыятызм вышэйшых станаў. Яны пераконвалі манарха, што наёмнага войска для перамогі над непрыяцелем (а спачатку планавалася весці вайну толькі наёмнікамі) будзе мала, таму і прапаноўвалі дапамогу паспалітым рушэннем[18]. Той пагадзіўся і са сваёй гародзенскай рэзідэнцыі звярнуўся да ўсіх станаў Вялікага княства Літоўскага з просьбай паслужыць айчыне — «з милости своей, а не з жадное повинности». Магнаты і шляхта, якія добраахвотна ўзняліся на гэты заклік, ізноў склалі аснову ўзброеных сіл дзяржавы.

Згодна з загадам Сцяпана Батуры, усе войскі Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай мусілі сабрацца на 4 мая 1579 г. каля Свіры. Кароль і вялікі князь склікаў тут вайсковую раду для вызначэння плана дзеянняў. Куды накіроўваць першы ўдар: на Смаленск, Інфлянты ці на Полацк? Батура выбраў апошняе. Паход на гэты горад быў найменш рызыкоўны і дазваляў вырашыць ажно некалькі задач: вярнуць краіне Полаччыну — найбольшую страту той вайны, залячыць самую балючую рану Княства; заглыбіцца клінам паміж Інфлянтамі і цэнтральнымі маскоўскімі правінцыямі; авалодаўшы Дзвіною, умацаваць пазіцыі Віцебска і Дзінабурга супраць Смаленска ды іншых фартэцый Івана IV.

Перад пачаткам кампаніі кароль і вялікі князь вырашыў абвясціць сваім войскам і ўсёй Еўропе аб прычынах і мэтах вайны. 12 ліпеня яго паходная друкарня выпусціла на некалькіх мовах «Маніфест да войска», які пера-

конваў у справядлівасці змагання супраць маскоўскага цара.

Было вырашана ісці на Полацк з захаду, уздоўж Дзвіны, каб не пакідаць у тыле варожых крэпасцей і не пагубляць у балотах гарматы. Са Свіры галоўныя сілы



Палявы гетман Раман Сангушка

рушылі на Паставы і Глыбокае. З усходняга боку іх прыкрывалі ад магчымага нападу харугвы гетмана М. Мялецкага. Авангард конніцы пад кіраўніцтвам М. Радзівіла і К. Бекеша быў пасланы наперад з мэтаю блакаваць Полацк, астатнія войскі правялі 17 ліпеня ў Дзісне агульны агляд. Кароль і вялікі князь валодаў магутнай сілай. Агульная колькасць войскаў Кароны і Княства, занятых на галоўным тэатры дзеянняў, перавышала 41 тысячу чалавек [19]. З іх каля 30 тысяч — конніца, пераважна цяжкая. Па некалькі асобных харугваў складалі венгры і немцы. Ад Вялікага княства Літоўскага ў паходзе ўдзельнічалі амаль 23 тысячы чалавек, з якіх 9 тысяч — паспалітага рушэння, 10 тысяч — магнацкіх почтаў і 4 тысячы наёмнікаў.

Па складзеных за 3 гадзіны пантонных мастах войска перайшло на правы бераг Дзвіны і рушыла далей, паўз ракі. Аднак рух тут быў вельмі марудны. Балота,

бездарожжа, надзвычай густыя маладыя лясы, а ў дадатак яшчэ і бясконцая залева былі прычынай таго, што апошнія 60 км войска ішло ўсю другую палову ліпеня і першыя дні жніўня. За гэты час лёгкая конніца авангарду, высланная да Полацка раней, займала меншыя маскоўскія цвердзі — Казьяны (23 ліпеня), Краснае (31 ліпеня), Сітна (4 жніўня). У Сокале ж засеў моцны гарнізон і, каб не драбіць сваіх сіл, Сцяпан Батура адклаў справу з гэтай крэпасцю на потым.

Пад Полацкам быў надрукаваны зварот-універсал да войскаў Івана Жахлівага і ўсіх падданых Маскоўскай дзяржавы, у якім абвяшчалася вайна. Сцяпан Батура прапанаваў усім жадаючым не супраціўляцца, а пераходзіць на бок Рэчы Паспалітай. Такім гарантавалася захаванне правоў і асабістая бяспека. Тых, хто не збіраўся паддавацца, універсал заклікаў пакінуць акупаваныя царом гарады і воласці [20].

11 жніўня 1579 г., адразу пасля прыезду Сцяпана Батуры, Полацк быў заціснуты аблогай. З паўночнага боку стаяў кароль з каронным войскам, з усходу — нямецкія наёмнікі, ад захаду — войска Вялікага княства Літоўскага і мадзьяры. Маскоўскі гарнізон горада налічваў каля 6000 чалавек. Уладкоўваючыся назаўжды, ваяводыператварылі Полацк у мацнейшую фартэцыю Івана Жахлівага і забяспечылі яго магутнай артылерыяй. Узяць цвердзь сходу было немагчыма. Аблога ўскладнялася шэрагам аб'ектыўных умоў. Паколькі на поўнач ад Дзвіны землі былі поўнасцю спустошаныя і здзічэлыя за гады панавання царскіх ваяводаў, дык востра паўстала праблема пракорму вялізнага войска Рэчы Паспалітай. Давялося ад самой Дзісны прыцягнуць да Полацка старыя масты і хадзіць па корм на левы бераг. З іншага боку — бясконца ліліся дажджы і ўсе стаpанні запаліць агнявымі ядрамі драўляныя ўмацаванні не спаўняліся. Гарнізон бараніўся надзвычай упарта. У канцы жніўня дайшло да трагічнага здарэння з нямецкімі наёмнікамі. Тыя паводзілі сябе зусім бяспечна, займаючы пазіцыі на ўскрайку горада, спалі проста на траве. Абаронцы ж бачылі гэта і, падабраўшы час, зрабілі вылазку. Шмат каго пасеклі, іншых проста забралі з сабой у замак. Палонным немцам прабілі плечы, прасунулі туды вяроўкі ды спусцілі іх са сцен паміраць у страшных пакутах [21].

Нарэшце 29 жніўня ўдалося запаліць драўляныя вежы. На наступны ж дзень гарнізон паддаўся. Тых, хто бараніўся да канца, узялі ў палон, астатнім дазво-

лілі выбіраць: ці вяртацца ў Маскву, ці перайсці на службу да караля і вялікага князя. Большасць усё ж вярнулася.

У спаленым Полацку Сцяпан Батура пакінуў гарнізон у 400 коннікаў і 500 чалавек пяхоты, якім было загадана ўпарадкаваць горад. Галоўныя ж сілы пасля нядоўгага адпачынку рушылі выбіваць непрыяцеля з іншых замкаў Полаччыны.

Ужо 4 верасня войскі Батуры авалодалі Тураўляй. Маскоўскі гарнізон пакінуў цвердзь яшчэ да іх прыходу. Крэпасць Сушу як стратэгічна малазначную браць не спяшаліся. А вось Сокал патрэбна было захапіць любым коштам. Сюды пайшлі з вялікімі сіламі гетман М. Мялецкі, Крыштап Радзівіл і Раздражэўскі з нямецкімі наёмнікамі. Пасля сутычак моцная залога Сокала спрабавала ўцячы, але была ўвагнана назад. 11 верасня, пасля колькіх дзён штурмаў, жаўнеры саюзніцкага войска ўварваліся ў палаючую крэпасць. Помсцячы за сваіх загінуўшых таварышаў, немцы ўчынілі страшную разню: яны забівалі нават тых, хто здаваўся і прасіў літасці. Іван Жахлівы пазней не раз дакараў Сцяпана Батуру



Зброя Сцяпана Батуры

за тую лютасць. Сокал скончыў сваё існаванне: умацаванні цалкам знішчыў пажар, а рэшту гарнізона пераможцы забралі ў палон.

Калі дайшла чарга да Сушы, яе абаронцы 16 кастрычніка ўцяклі з фартэцыі, пакінуўшы там вялікую колькасць зброі, а таксама абсалютна непашкоджаныя ўмацаванні. Войскі Рэчы Паспалітай прыстасавалі яе пад свой склад.

Нарэшце ў снежні 1579 г. казацкі корпус раптоўным налётам захапіў Няшчэрду. Гэтым афіцыйна закончылася кампанія першага этапу вайны Сцяпана Батуры з маскоўскім царом. Хоць да поўнага вызвалення Полаччыны заставалася выбіць непрыяцеля з Себежа, Завалачча і замкаў Віцебскай зямлі — Азярышча ды Усвятаў, задачы кампаніі былі паспяхова выкананы. На зіму ў Полацку засталіся невялікія сілы — 1350 чалавек, а кіраўніцтва імі пераняў новы полацкі ваявода Мікалай Дарагастайскі. За полацкую кампанію было забіта ці ўзята ў няволю каля 10 тысяч маскоўскіх ратнікаў і 16 ваявод. Здабытыя трафеі склалі 120 цяжкіх гармат і некалькі сотняў зацінных пішчаляў, мноства ручной агнястрэльнай зброі [22].

У наступным годзе падчас паходу на Вялікія Лукі войскі Рэчы Паспалітай канчаткова ачысцілі тэрыторыю Беларусі ад захопнікаў.

[1] *Сапунов А.* Витебская старина. Т. 4. Ч. 1. Витебск, 1985. С. 52.

[2] *Тамсама.* С. 54.

[3] *Карамзин Н. М.* История государства Российского. М., 1989. Кн. III. Т. 9. Прим. № 68.

[4] Тамсама. Прим. № 69.

[5] *Без-Корнилович М. И.* Исторические сведения о примечательнейших местах Белорусии. СПб., 1855. С. 225.

[6] *Сапунов А.* Витебская старина. Т. 4, ч. 1. С. 15.

[7] Тамсама. С. 84—85.

[8] *Карамзин Н. М.* История государства Российского. Кн. III. Т. 9. Прим. № 99.

[9] Тамсама. С. 32.

[10] *Сапунов А.* Витебская старина. Т. 4, ч. 1. С. 17.

[11] Тамсама. С. 24.

[12] *Natanson-Lecki J.* Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Lwow — Warszawa, 1922. S. 169.

[13] *Соловьев С. М.* История России с древнейших времен. М., 1860. Кн. III. Т. 6. С. 583.

[14] *Natanson-Lecki J.* Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 171.

[15] Литовская метрика. Отдел первый. Ч. III. Книги публичных дел. Переписи войска литовского. Пг., 1915. РИБ. Т. 33. Стлб. 1375—1378.

[16] *Любавский М. К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915. С. 273.

[17] *Katarski H.* Wojsko polsko-litewskie podczas wojny inflanckie

1576—1582. Cz. 2 // Studia i materialy do historii wojskowości. T. 17. S. 79.

[18] *Лаппо И. И.* Великое княжество Литовское от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). СПб., 1901. Т. 1. С. 179.

[19] *Katarski H.* Wojsko polsko-litewskie. S. 107.

[20] *Natanson-Lecki J.* Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1930. S. 46.

[21] *Василевский В.* Польская и немецкая печать о войне Батория с Иоанном Грозным // Журнал Министерства народного просвещения. 1889, февр. С. 357.

[22] *Katarski H.* Wojsko polsko-litewskie. S. 104.

*Алег Лойка*

## ДЗЕЛЯ ЧАГО ІСНУЕ АДРАДЖЭННЕ

У руху, дынаміцы ды канфліктах было ўсё наша сярэднявечча, набіраючыся развітых формаў і моцы, здабыткаў ратных перамог і культуры спакваля. Рух гісторыі быў у ім на сваёй узыходзячай лініі развіцця, затым у яе апагеі, стабілізацыі, дзяржаўнай мудрасці, потым і на сумнай стадыі дэнацыяналізацыі вярхоў, эканамічнага заняпаду, палітычнага здраблення, выраджэння. Не смяяцца ці насміхацца, не плакаць тут над чымсьці трэба, а... разумець. І можа, перш-наперш разумець, што не на пагібель сваіх галоў тыя ці іншыя дзяржаўныя акты, або паступкі ўчынялі ў нашай гісторыі розныя людзі, а дбаючы пра сваё дабро, дабро паспалітае, будучыню. А яна аказалася рознай, але найперш дзеля яе шчаслівасці, дзеля сцвярджэння ў айчыне святла і справядлівасці свае думы і труджанне накладалі нашы продкі.

У беларускім сярэднявякоўі Адраджэнне — з'ява, вядома, як не адасобленая ад агульнаеўрапейскага сярэднявякоўя, так і адасобленая. Ды ўсё ж пра рознасць іх да сённяшняга часу гаворыцца мала. Так, рэгіянальная адметнасць — відавочная, бо ў генетычных вытоках Адраджэнне Беларусі як аднаго з рэгіёнаў усходнеславянскага сярэднявякоўя мела свае спецыфічныя моманты і імпульсы. Былі тут і характэрныя асаблівасці развіцця іх працякання ў часе, асэнсавання і занікнення, сваё мастацкае аблічча, так званыя вузлы з повязяў маральна-этычных ліній паводзін, абумоўленых адносінамі да ўлады мяча і крыжа, сімпатыямі або да ўсходняга візантыйска-маскоўскага мацерыка, або да мацерыка заходняга — рымска-каталіцкага, польска-сарматцкага. На самым пачатку падкрэслім, што народ наш займеў і магутнае

сваёй героікай, прыгожым пісьменствам, рэлігійным асветніцтвам сярэдневякоўе, і вельмі прадстаўнічае Адраджэнне. Аднак ні першае, ні другое дасюль мы не разглядалі буйным планам і ва ўсёй іх паўнаце. Нават Адраджэнне, якое з-за высокіх энгельсаўскіх ацэнак вульгарна-сацыялагічны дагматызм не мог асабліва «адрынуць» наўзбоч, і тое ў нас дасюль захавалася куртатым, бо ад яго адсечанымі застаюцца, напрыклад, публіцыстыка Льва Сапегі, паэма Андрэя Рымшы «Дэкатэрас», ды і паэма Яна Вісліцкага «Пруская вайна», рыцарскі польскамоўны эпас Беларусі другой паловы XVI ст. Мы дасюль канчаткова не падраздзялялі нашага Адраджэння на ранняе ў яго сувязях з перададраджэнскімі тэндэнцыямі XV ст., на развітае — на чале з Францішкам Скарынам і позняе — пасля Люблінскай уніі 1569 г.,— дык вось яшчэ і з гэтага факту відно, у якой вузасці уяўляецца намі беларускае Адраджэнне — з'ява шматгранная, шматслойная, ідэалагічна — шматкірункавая, мастацкі — шматаблічная. Не ўвыпуклёна дасюль бачым мы і беларускае сярэдневякоўе ў яго дынамічным развіцці, хоць асобна гаворым ужо з нядаўняга часу пра беларускае барока, а больш з даўняга — пра рэфармацыю ў Беларусі (чамусьці пра беларускую рэфармацыю сказаць не адважваемся). У гэтым зноў жа праяўляецца абмежаванасць, што на практыцы збядняе нашу спадчыну, адгароджвае ад яе, скажае воблік тагачаснага чалавека, недастойна прыніжаючы яго як чалавека інтэлекту, духу, няўрымслівасці. Сёння, імкнучыся ўбачыць сваё айчыннае беларускае сярэдневякоўе і беларускае Адраджэнне ў поўні іх інтэлектуальных і мастацкіх здабыткаў, мы, такім чынам, нарэшце, пачынаем і сплачваць доўг нашым слаўным продкам і самі сябе пры гэтым можам адчуць і больш здатнымі, і больш упэўненымі ў справах дня бягучага, перабудовачнага.

Увогуле, беларускае сярэдневякоўе, беларускае Адраджэнне — гэта адкрытыя кнігі найвялікшага гістарычнага вопыту, які дасюль па-сапраўднаму не асэнсаваны. Недаацэненым застаецца ўсё еўрапейскае сярэдневякоўе — як час новага чалавека, цэлай эпохі ў развіцці чалавецтва, вельмі прадукцыйнай і інтэлектуальнай. Бо не толькі Адраджэнне, як падкрэсліваў Ф. Энгельс, спарадзіла тытанаў мыслі і чыну. Не ў меншай ступені тытанаў духу і чыну спараджала сярэдневякоўе. Мы, на жаль, на сярэдневякоўе шмат у чым прадаўжаем глядзець вачыма Вальтэра, вачыма французскіх асветнікаў-

энцыклапедыстаў XVIII ст., якія, разбіваючы ідэалагічныя падваліны феадальнага ладу, усёй магутнасцю сваіх інтэлектаў і знішчальнага сарказму звялі ледзь не да асноў рэлігію як служанку феадалізму, як прымхлівую сілу, апору цемрашальства, інквізіцыі, ханжаства. Дыму без агню не бывае. Сярэдневякоўе ўвогуле густа зачадзіла еўрапейскія гарады і вёскі міязмамі рэлігійнага фанатызму, талмудзізму. Але ж перш, чым гэта здарылася, быў агонь: перш быў Францішак Азіскі з яго рыгарызмам цнатлівасці і маральнага падзвіжніцтва, пасля — вялікі Інквізатар Тарквемада; перш была ў Вялікім княстве Літоўскім рэлігійная талеранцыя, а пасля — езуіты, што палілі на плошчах Вільні старабеларускія друкі; перш быў апафеоз рэлігійнага асветніцтва ў Тамаша Аквінскага — ангельскага доктара навук, аўтара манументальнейшага «Сума Сумарум», а пасля дайшло да рэальнага талмудзізму.

Непразрыстасць гэтая і не дае да гэтага часу выразна разгледзець гарэнне душ людзей сярэдневякоўя як людзей, на еўрапейскім кантыненце новых. Усё для іх было новым, а не як для нас — мінулым, пасярэдзіне паміж нашым і антычным. Бачыць у гісторыі толькі сябе недапушчальна. Чалавек кожнай эпохі — выразнік свайго часу. І як на новых людзей трэба нам глядзець на прадстаўнікоў сярэдневякоўя і Адраджэння. Праўда, у апошніх быў нейкі свой выбар, з кім заставацца. Таму, становячыся больш канкрэтнымі, ужо ў гэтым месцы мы павінны на ўвесь голас адзначыць, што новым чалавекам — тварцом гісторыі быў чалавек сярэдневякоўя ўвогуле ў Еўропе — на руінах былой Рымскай імперыі, недзе з I—IV стст. нашай эры.

Новым чалавекам сярэдневякоўя наш далёкі продак стаў некалькі пазней, чым насельнікі Германіі, Францыі, толькі пасля прыняцця хрысціянства. Літоўцы, як вядома, прынялі яго ў XIV ст. У Вялікім княстве Літоўскім сышліся куды маладзейшыя сыны сярэдневякоўя, чым іх аднакантынентцы на Захадзе. У асобе нашых продкаў сённяшніх літоўцаў былі, такім чынам, у цэлым вельмі інтэнсіўныя заступы новага чалавека. Гэта ў цэлым ставіла ранняе беларускае сярэдневякоўе — свецкае, рыцарскае — у гераічны стан, а, з другога боку, у стан рэлігійна-падзвіжніцкі, упісваючы ў гісторыю нашай культуры найперш імёны кніжнікаў, першых нашых рэлігійных асветнікаў: Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча, Аўраамія Смаленскага. Дасюль мы,

аднак, не ўпаміналі імёнаў нашых продкаў місіянераў-падзвіжнікаў, напрыклад, святых віленскіх вялікамучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія. Гэта таксама адмысловая старонка нашага беларускага сярэдневякоўя. Дык не будзем жа забываць і яе!

Ранняе беларускае сярэдневякоўе, як усё ў нас, мае свае прадвытокі ў Кіеўскай Русі. А можа, і не толькі прадвытокі, бо сапраўды даследаванне іх М. Ермаловічам дае шмат падстаў гаварыць як аб самым раннім уласна беларускім сярэдневякоўі, гісторыі і культуры княстваў Полацкага, Турава-Пінскага, Смаленскага. А гэта ў сваю чаргу пашырае рамкі нашага сярэднявечча, адкрываючы іх IX—X стст., у тым ліку і стагоддзем дахрысціянскім. Дахрысціянскі воблік беларускага сярэдневякоўя (ці беларускай антычнасці?) мае свой асобны воблік, як і аблічча самага ранняга сярэднявечча — Полацкага ці Турава-Пінскага. Аднак пільна прыгледзімся да стагоддзяў больш позніх (XIV—XV) — асобнай старонкі беларускага сярэднявечча ў рамках Вялікага княства Літоўскага.

З гэтых стагоддзяў, як вядома, пісьмовых помнікаў маецца вельмі мала, ледзь не адныя прамовы Грыгорыя Цамблака. Летапісаў, якія б дайшлі да нас непасрэдна, таксама няма. Хіба што «Летапіс Аўрамкі 1495 года». Пагэтаму дасюль нашыя ўявы пра XIV—XV стст. складваліся традыцыйна як уявы пра інтэлектуальна, духоўна пустыя стагоддзі: маўляў, усяе духоўнасці, што вакол барацьбы за аўтакефалію ў Навагрудку, ну і яшчэ прамовы якогасьці грэка ці балгарына Цамблака! Як на два стагоддзі, то сапраўды гэта да крыўднага бедна! Ды калі няма фактаў, давайце ўлічваць фактары, іх можна ўстанавіць, бо звязаны яны з традыцыяй летапісання, з так званым другім паўднёва-балканскім уплывам, з усталяваннем у Вялікім княстве Літоўскім атмасферы рэлігійнай талерантнасці.

Канчаткова афіцыйнае летапісанне Вялікага княства Літоўскага аформілася ў пачатку XVI ст. Але, развіваючыся ў нетрах XIV—XV стст., яно сцвярджала ў тагачасным княстве, з аднаго боку, рыцарска-гераічныя ідэалы і настроі, з другога — інспіравала блізкія ўжо да творча-мастацкага пачатку сюжэты легендаў, містыфікацыю гісторыі, насычэнне тэксту патрыятычнымі эмоцыямі. Так што агульная характарыстыка беларускага ранняга сярэдневякоўя ў сувязі з улічваннем фактара летапісання і яго выніковых здабыткаў складваецца

вельмі памысна дзеля канстатацыі наяўнасці дзвюх характаралагічных рысаў духоўнасці XIV—XV стст.— іх героіка-эпічнага духу і ўласна творча-мастацкага ў ёй пачатку.

Другі паўднёва-балканскі ўплыў, які дакочваўся да земляў сённяшняй Беларусі, пачынаючы з XIV ст., шукаў Бога ў сэрцы, праяўляў увагу да ўнутранага жыцця чалавека. Гэта было істотна новым, бо да строгай рацыяналістычнасці рэлігійнага асветніцтва прымыкаўся запал пачуццёвага пафасу, што ўзбагачала духоўнасць краіны новымі кірункамі, гранямі і нюансамі.

На ўразмаічванне рэлігайнай духоўнасці нашага ранняга сярэднявечча асабліва ўплывалі і заходне-еўрапейскія ерасі. Беларускае сярэднявечча, можна сказаць, стала іх рэтранслятарам з Захаду на ўсход. Бо гэта ж найперш «литовским окаанными ерасями» лічыў ерась стрыгольнікаў наўгарадскі епіскап Генадзій. І ерась жыдоўствуючых прывёз у Ноўгарад з Вялікага княства Літоўскага Зхарыя. На самай зары XV ст. пабываў у Вільні і Полацку прыхільнік вялікага Яна Гуса Еранім Пражскі. Водгулле і багамільства, і мазахізма і ідэй мараўскіх братоў не магло не прайсціся і па Вялікаму княству Літоўскаму ў сувязі з адкрытасцю яго граніцаў для іншамысленасці. Як вядома, стрыгольніцтва генетычна звязана не толькі з візантыйскімі ўплывамі, але яго можна разглядаць і ў повязі з заходнееўрапейскімі ерасямі катараў, альбігойцаў, вальдэнсаў, бегардаў, лалардаў, якія генетычна ўзнікалі не без уплыву на іх раннехрысціянскіх ерасяў усяго Бліжняга ўсходу.

І можа, не толькі генетычная крэўнасць была ў беларускіх стрыгольнікаў і французскіх катараў. Можа, нашыя больш пільныя вышукі пацвярдзяць з часам і непасрэдную іх повязь: не толькі паралельнасць, але і антактнасць, узаемаперакліччку і ўзаеманасычэнне, абмен ідэямі. Ды дойдзем мы ў нашым спасціжэнні да таго ці не дойдзем, ужо сёння становіцца ясным, што не пустымі духоўна былі ў нас XIV і XV стст. Відавочна, што гэта не мёртвая пустыня, а ландшафт, шырока абжыты духоўна.

Па-новаму неабходна ўбачыць сёння і гісторыю сярэднявечча і Адраджэння ў іх кантактах і ўзаемаадштурхоўванні адзін ад аднаго. Адраджэнне, як і скрозь у Еўропе, не было ў нас толькі адмаўленнем сярэдневякоўя, хоць ягоны адмаўленчы пафас быў вельмі магутны. Думаецца, што навукова было б найбольш дакладным само Адраджэнне бачыць паласой развіцця сярэднявечча,

бо яно — ненароджанае дзіця з абрысамі Новага нашага часу, якое ішло разам з феадалізмам аж да рэформы 1861 г., аж да кастрычніка 1917 г.

Так ці інакш, але, думаецца, што неаспрэчным з'яўляецца тэзіс аб Францішку Скарыне — апагеі развіцця ў нас рэлігійнага асветніцтва. Пачыналася яно з Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага і праз Грыгорыя Цамблака прычынілася найперш да яго свецкага ўрухомлення праз друкарскі варштат Францішкам Скарынам. Адраджэнскі подзвіг першадрукара не толькі стартаваў з пляцовак «кніжнага розуму», угрунтаваных яшчэ Кірылам Тураўскім, але і біблейскай сваёй змястоўнасцю ён увесь заземлены ў беларускім сярэднявеччы. І гэта — натуральна, і за гэта — не сорам. І нельга жыўцом вырываць Скарыну з яго сярэднявечнага рэлігійна-царкоўнага мацярынскага ўлоння. Таму Скарына — з Бібліяй, а Леў Сапега — са Статутам. Леў Сапега — прадстаўнік позняга беларускага Адраджэння, Францішак Скарына — ранняга.

Ранняе беларускае Адраджэнне было ўжо духоўным мацярынскім улоннем для Льва Сапегі. Беларускае Адраджэнне развівалася ад Францішка Скарыны, ад Яна Вісліцкага і Міколы Гусоўскага да Льва Сапегі і Андрэя Рымшы. Прадмова Льва Сапегі — толькі ўжо свецкага характару, паэма «Дэкатэрас» А. Рымшы — найбольш чысты варыянт беларускага адраджэнскага гераічнага эпасу, хоць, вядома, і публіцыстыка Л. Сапегі, і ўсе гераічныя паэмы XVI ст. генетычна звязана з гісторыяй, культурай і літаратурай беларускага народа.

Але, паўторымся, повязь з сярэднявеччам ніяк, нарэшце, не павінна ў чымсьці прыніжаць фігуры дзеячаў нашага мінулага. Хай не беларускае сярэднявечча ці Адраджэнне спарадзіла універсітэт, порах, друкарскі варштат. Ды іх найвялікшы гонар — стварэнне агульнаеўрапейскага значэння Статутаў, як і прыналежнасць да ажыццяўлення уніі народаў — Крэўскай, Люблінскай. Ды гонару ім можа стаць і на тым, што яны адкрылі першыя універсітэты на землях усходняй Славяншчыны ў Вільні і Полацку, што Адраджэнне тут жа першае агорала друкарскі варштат, і — самае галоўнае — у цэлым і сярэдневякоўе, і Адраджэнне стварылі адну з найбагацейшых у Еўропе сярэдневяковых літаратур як адну з пекных старонак усёй сусветнай літаратуры, насычанай і патрыятызмам, і інтэлектуалізмам, і непаўторнай мастацкасцю.

Так, непаўторнасць, феномен Ф. Скарыны — перш за ўсё ад родных, народных мясцовых каранёў. Ды — і гэта трэба спецыяльна падкрэсліць — Скарына быў не толькі спараджэннем мясцовага, беларусканароднага ўлання. Як адраджэнец ён выхаванец рэнесанснага Кракава і рэнесанснай Падуі, заходнеславянскага, заходнееўрапейскага Адраджэння ўвогуле. Але выдатным дзеячам беларускага Адраджэння, пачынальнікам яго ён не мог стаць без сімбіёзу дасягненняў усходнеславянскага рэлігійнага асветніцтва з ідэямі свецкага заходнееўрапейскага Адраджэння. Усё гэта і абумовіла профіль, самабытнасць беларускага Адраджэння на яго ранняй — скарынаўскай стадыі.

У цэлым жа беларускае Адраджэнне бачыцца даволі выразна ў трох стадыях: першай — скарынаўскай (10—40-я гады XVI ст.); другой — на хвалях яго сувязяў з рэфармацыяй (дзейнасць Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага, 50—70-я гады); трэцяя стадыя — позняе беларускае Адраджэнне, звязанае з дзейнасцю Льва Сапегі, Андрэя Рымшы, аўтараў польскамоўнага эпасу Беларусі канца XVI ст. Пельгрымоўскага, Я. Радвана і іншых (80—90-я гады). Самымі агульнымі рысамі ўсяго беларускага Адраджэння XVI ст. былі яго народнасць, адкрываўчасць свету прыроды, чалавека як рэальнай самакаштоўнасці, сцверджанне ідэалаў гуманізму, мудрасці, цнатлівасці, веры ў чалавека, свабоды волі і ўчынку, звязаных з пашанай да закону, гістарычнага вопыту, прававой традыцыі. Беларускае Адраджэнне ў выніку пераадолення сярэдневяковых уяў аб прымаце неба і своеасаблівага касмапалітызму сярэдневяковага чалавека божага сцвердзіла ў народзе прымат зямнога жыцця, зямлі як Радзімы. Такім чынам, Ф. Скарына стаў бацькам універсальнай формулы патрыятызму як любові да зямлі, на якой ён нарадзіўся, да мовы, з якою яго Бог у свет прывёў і пусціў.

Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, ствараючы апафеозныя радкі ў чэсць свайго народа і мовы, ужо непасрэдна будзілі ў беларусаў самасвядомасць, канкрэтна нацыянальны патрыятызм. Універсальная формула патрыятызму Скарыны канкрэтнага класавага адраса не мела. Сымон Будны, Васіль Цяпінскі выразна адрознівалі ўжо сацыяльныя вярхі і ніжэйшыя слаі, калі крытыкавалі: першы — князёў за іх няўвагу да мовы народа, другі — феадальныя духоўныя вярхі за іх абыякавасць зноў жа да лёсу роднага слова і культуры. Як вядома, Ф. Скарына

сваю друкарскую і асветніцкую дзейнасць адрасаваў паспольству. Грамадзянскі подзвіг адраджэнца Скарыны здзяйсняўся, такім чынам, у гонар месцічаў, магдэбургскага горада. Ды, будучы ідэолагам сярэдневяковага беларускага горада, якраз дзякуючы першым адраджэнцам-выразнікам агульнанароднага патрыятызму — дэмакратычнага, гуманістычнага сваёй сутнасцю і пафасам. С. Будны, В. Цяпінскі ў сувязі з крытыцызмам, накіраваным на свецкіх і духоўных феадалаў, традыцыю скарынінскага патрыятызму сацыялізавалі, зрабілі дэмакратычна-баявітай.

Па-інакшаму яе развілі самі феадальныя вярхі, перш за ўсё свецкія, Леў Сапега, рыцары-шляхта, як Андрэй Рымша. Яны ўжо, упрыватніваючы традыцыі універсалізму Ф. Скарыны, сталі выразнікамі дзяржаўнага патрыятызму Вялікага княства Літоўскага як айчыны, дзяржавы беларусаў. Роўна, як і Ф. Скарына, да паспольства звяртаўся ў сваіх пісьмовых і вусных словах пра Статут 1588 г. Л. Сапега, маючы на ўвазе шырокі агульнанародны форум, дбаючы аб яго дабрачыннасці, упраўненні. Статут 1588 г.— гэта плён менавіта беларускага Адраджэння, выражэнне ягоных гуманістычных, дэмакратычных адносін да чалавека, народа, яго мовы ўвогуле. Менавіта беларускае Адраджэнне канчаткова (афіцыйна) Статутам 1588 г. надавала нашай мове дзяржаўны статус, і калі мы сёння ў часе сапраўднай дэмакратыі і адбудовы — адраджэння, то гісторыя ў дадзеным выпадку не можа не паўтарыцца: мова беларускага народа павінна зноў па справядлівасці займець свой прэстыжны ў краю і свеце дзяржаўны статус.

Што ж датычыцца так званага дзяржаўнага патрыятызму феадальных вярхоў і шляхты ў Вялікім княстве Літоўскім, то нам даўно ўжо ніяк не да твару ўспрымаць яго як нешта казённае, адчужанае ад гісторыі нашага народа, ад эвалюцыі пачуццёвага свету беларусаў. Даўно пара ўжо на ўвесь голас гаварыць як пра вялікіх патрыётаў нашай Радзімы: і пра паэта Андрэя Рымшу, і пра магната-канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегу. Шляхецкі дэмакратызм, аб якім такімі высокімі словамі гаварыў У. І. Ленін, характарызуючы польскі нацыянальна-вызваленчы рух дарэформеннага часу ў XIX ст., пачынаўся ў Беларусі яшчэ ў часы нашага Адраджэння. І гэта — гонар народа, гістарычная яго чэсць. Менавіта, з высокай шляхетнасці ўсіх дзеячаў беларускага Адраджэння — Скарыны, Буднага, Цяпін-

скага, Сапегі, Рымшы ўзялі свой родавы пачатак дэмакратызм і шляхецтва Тадэвуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Францішка Багушэвіча, Кастуся Каліноўскага, Цёткі, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча.

Думаецца, што на беларускае Адраджэнне цікава зірнуць яшчэ і ў сувязі з тым, што яно звязана не толькі з раннім сярэдневякоўем, у якім выспевала, але і з познім, на якое ўплывала, у якім пэўным чынам растварылася. Нездарма ж частка даследчыкаў еўрапейскага барока глядзіць на яго як на позняе Адраджэнне ўвогуле. Так ці інакш, а інтэлектуальны і мастацкі вопыт беларускага Адраджэння сапраўды быў функцыянальны на працягу нашага позняга Сярэдневякоўя скрозь, дзе на першы план выходзілі гуманістычная і патрыятычная тэндэнцыі, дзе ішла індывідуалізацыя героя, накопліваліся народазнаўчыя, бытазнаўчыя моманты, набірала моцы стыхія народнага слова. Мова сцвярджала сябе як фактар народатворчы, культуратворчы, эстэтычны. Так, у «Трынасе» Мялеція Сматрыцкага (1610) — творы барокавага алегарызму менавіта шмат у чым адраджэнскім тэндэнцыі гуманізму і патрыятызму адухоўлівалі вобраз Маці — праваслаўнай царквы, рабілі яго эмацыянальна-экспрэсіўным, чалавечным.

Мемуарная ж літаратура Беларусі канца XVI—XVIII ст. была ўвогуле рыўком у новую літаратуру — так выпукла праз дэталі, глыбока — праз раскрыццё ўласных перажыванняў раскрывалі аўтары — мемуарысты асобу, лёс чалавека, чалавека ў зямным асяроддзі. А ўжо беларуская мова як фактар народатворчы, культуратворчы, нацыянальна-характарыстычны, эстэтычна самацэнны на ўсе лады гранілася і ў барока сярэднім і нізкім, і ў драматургіі перыяду Асветніцтва. Позняе сярэдневякоўе ў цэлым у дадзеным выпадку можна лічыць школай беларускай мовы, вышкольвання нашай сучаснай беларускай мовы і ў рамках сатыры, і ў народным батлеечным тэатры, і ў езуіцкім школьным тэатры, і ў барокавай местачковай лірыцы, і ў духоўнай лірыцы беларусаў-уніятаў, і ў паўстанцкіх песнях касцюшкаўскіх касіньераў 1794 г.

Новы час... Мы па-іншаму ўспрымаем цяпер сваю гісторыю, сталі прыхільнікамі таго, што ішло ад нашага Адраджэння. Агульная недаацэнка яго адбілася на нашай свядомасці. І ўсё гэта гаворыць пра тое, што адчуваем мы сябе больш у сувязях з Адраджэннем, чым з сярэдне-

вякоўем, хоць пераймаем духоўныя скарбы аднаго і другога, іншы раз нават не ўсведамляючы гэты ўплыў. Бо што такое, напрыклад, рамантызм Адама Міцкевіча? Рамантызм гэты — ад аднаўлення асветніцкага рацыяналізму, ад вяртання да пачуцця народнага, а лепш сказаць, простанароднага, менавіта сярэдневяковага — не без містычнага, падсвядомага, таго, што мы цяпер называем экстрасенсам.

Гэта добра разумеў Адам Міцкевіч, калі пісаў свае артыкулы пра рамантызм, адкрыта гаворачы аб адраджэнні духоўнасці сярэднявечнага тыпу. І рэвалюцыйны рамантызм Адама Міцкевіча заслугоўвае ўвагі. Да яго традыцыі звярталіся нават тыя, хто быў настроены рэакцыйна, бо ёю жывілася і творчасць Яна Баршчэўскага і Янкі Купалы, Уладзіміраў Жылкі, Дубоўкі, Хадыкі, Караткевіча, Максіма Багдановіча, Гарэцкага, Танка. З сярэднявечча ў нас і сімволіка і метафара, і народная казка, і народная песня, і опера і балет, як і тэатр У. Галубка. І то менавіта не з Адраджэння, а з сярэдневякоўя ўсіх яго ступеняў развіцця і найбольш з позняга, бо казка і народная песня — з сялянскага асяроддзя таго часу, опера і балет — з палацаў Радзівіла і Агінскага, тэатр Галубка — з меладраматычнай карнавальнасці нашага народнага і школьнага тэатра таго ж часу.

Неабходна абавязкова падкрэсліць, што ні наша беларускае Адраджэнне, ні наша беларускае сярэднявечча не было адным толькі святлом асветніцтва — рэлігійнага ці свецкага, хіба што з'улялася светачам гуманістычных маякоў, талерантнасці, законнасці. Шляхецкія свабоды, воля абярталіся гвалтам, законнасць межавалася з самаўпраўствам магнатаў, святло універсітэцкай навукі з цемрай талмудзізму. Адраджэнне, як і скрозь у Еўропе, у нас было не толькі чалавекалюбным, але і каварным, макіявелістычным. Бо Макіявелі, макіявелізм — таксама прадукт адраджэнства, і яго тэорыя ўплывала не толькі на практыку каралевы Боны Сфорцы — жонкі Жыгімонта Старога, вялікага паборніка ідэй Адраджэння, але і на паводзіны нават найдасканалейшага Ф. Скарыны. Бо што такое яго выбрыкі ў Круляўцы з няўдзячным стаўленнем да герцага Прускага Альбрэхта, як не макіявелізм? Непрадказанымі аказаліся паводзіны таго ж нашага вялікага Ф. Скарыны і пасля атрымання ім у 1532 г. найгуманнейшых прывілеяў ад Жыгімонта І. І гэта зноў жа сведчыць аб адраджэнскім чэлінізме нашага вялікага адраджэнца.

Скажам тут і пра тое, што сярэднявечча, з аднаго боку, спарадзіла рыцарскі культ, які ў сваіх асноватворчых падвалінах дасюль застаецца найбольш яркім узорам ідэальна чалавечага аблічча асобы, а з другога боку — позняе сярэдневякоўе ўкшталтавала барокавыя тыпы езуіта з філасофіяй: думаю адно, гавару другое, раблю трэцяе, укшталтавала тып раздвоенага чалавека, патэнцыяльнага здрадніка. Ды сам рыцар з часам ператварыўся ў наёмнага забойцу — ландскнехта, крыжака, рабаўніка, заваёўніка, а святар духу з часам пераўтварыўся ў іпастась інквізітара, цар жа, кароль, папы з намеснікаў бога на зямлі раз-пораз пераўтвараліся ў дэспатаў, тыранаў, і ніякі прыняты Ватыканам яшчэ ў XI ст. закон Божага Міру з яго забаронай падымаць забойчы меч на свайго бліжняга 230 дзён у годзе не стрымліваў смяглага з надпісамі «Пі кроў!» мяча.

На жаль, у сваім XX ст. мы аказаліся не толькі спадчыннікамі светлага Адраджэння і сярэднявечча, але куды ў большай прапорцыі пераймальнікамі іх каварства і цемры, езуіцызма і інквізітарства. І, што трагічна, у сваім XX ст. мы сталі найперш іх ахвярамі, хоць на тое мела свой уплыў і светлата Адраджэння. Якім чынам? Усё вельмі проста. Ахвярамі сталінскіх рэпрэсій у нас сталі найперш ленінцы-пераемнікі гуманістычных адраджэнскіх традыцый. Любы адраджэнец можа стаць фігурай трагічнай, бо ў сваім гуманізме ён даверлівы — часта да наіўнасці. Ён жа, адраджэнец, трагічны, бо— пераможца ён ці не пераможца, заўсёды самаўпэўнены, думае, што ўсемагутны. І вось ён — не герой рэвалюцыі, а ахвяра. Ахвяра сваёй самаўпэўненасці, якая спарадзіла пераацэнку сіл і моцы светлаты, недаацэнку сіл каварства, маральнай ніцасці. З пераацэнкі — культ, з недаацэнкі чалавека — чалавек-вінцік. Культ — гэта беззаконне. Беззаконне — рэпрэсіі, калі даверлівы — падманутыя, самаўпэўнены — самападманутыя.

Навошта ж ты, Адраджэнне, са сваім гуманізмам узгадоўвала даверлівасць?! Навошта ж ты, Асветніцтва, са сваёй верай у рацыё, узгадоўвала самаўпэўненасць?! Бо вось ужо свабодзе, дэмакратыі супрацьстаіць канцлагер — унук сярэдневяковага гета; рэпрэсіі спараджаюць страх, куды пудлівейшы, чым сярэдневяковы страх божы; свет аказваецца замкнёным, адгароджаным жалезным занавесам, уподленым класавай нянавісцю пры адрынутасці наўзбоч агульначалавечых каштоўнасцей, з найбольш найаўтарытарнейшых форм падпа-

радкавання волі і розуму чалавечага, якое дало змрочнае, скарумпіраванае сярэднявечча.

Увогуле любая галоснасць, спроба абнаўлення з яго актыўнасцю мыслення, пераасэнсавання, эмацыянальнага напружання, яны роднасныя любому Адраджэнню. Мы сёння адкрытыя ўсяму свету са сваёй усёцікаўнасцю, з антыдагматызмам, антысхематызмам, з плюралізмам як спадчыннікам талерантнасці. І мы, як кожнае Адраджэнне, у павароце да сваіх народа, мовы, гісторыі, у новым адкрыцці іх. Сярэднявечча навязвала культавыя мовы. Адраджэнне адкрывала мову народа. Хопіць гэтай сакральнасці! Народу патрэбна яго мова! І сакральнай, святой нам павінна, нарэшце, стаць і наша гісторыя, культавымі і застойнымі часамі ў нас адбіраная. Бо гісторыя беларускага народа, як і любога іншага, і гераічная, і поўная праяў мудрасці, дзяржаўнага розуму і вопыту. Зусім нялішне ўсё гэта асэнсаваць і ўсвядоміць, асабліва ў наш час.

***Уладзімір Конан***

## Ф. СКАРЫНА І ЯГО ГЕРОІ

У таленавітага грамадзяніна зямлі беларускай — Ф. Скарыны — свой лёс у гісторыі нашага народа. Першадрукар усходніх славян, ён пакінуў шмат кніг, набліжаўшых духоўны вопыт сваёй бацькаўшчыны да вышынь шматвяковага духоўнага вопыту чалавецтва. Стала гэта і яго лёсам жыцця. Таму і Біблія і кнігі Старога і Новага запаветаў, якія ён перакладаў і выдаваў на роднай мове, хрысціянскія кананічныя песні сталі той спадчынай, без якой нельга ўглядзецца ў сутнасць Белай Русі. Вярнуць нашчадкам тыя зярняты чалавечай душы — значыць далучыць іх да высокай маральнай, эстэтычнай і нават побытавай культуры. Сёння гэтаму ўсё яшчэ перашкаджае вульгарны атэізм, які шмат «папрацаваў» на агульнае наніжэнне культурнасці ў нашым грамадстве.

Мне давялося ўдзельнічаць у падрыхтоўцы аднатомнай персанальнай энцыклапедыі «Ф. Скарына і яго час» не толькі ў якасці сааўтара, але і ў ролі аднаго з навуковых кансультантаў. Кансультанты тут мелі дарадчы голас, канчатковае рашэнне прымала Галоўная рэдакцыя Беларускай савецкай энцыклапедыі і рэдкалегія адпаведнага яе выдання.

Пры цяперашнім статусе БелСЭ — звычайнае выдавецтва. Яно не мае ў сваім складзе навуковых супрацоўнікаў, якія маглі б весці даследаванні ва ўсіх кнігасховішчах і архівах нашай краіны і за яе межамі, каб рыхтаваць артыкулы, часта нявыгадныя для «запрошаных» аўтараў. Трэба ведаць спецыфіку аўтарскай работы над энцыклапедычнымі выданнямі: тут часам лёгка даюцца вялікія артыкулы, калі яны пішуцца на аснове раней апублікаваных даследаванняў або завершаных планавых рукапісаў. Калі ж патрэбна здабываць новыя факты, абгрунтоўваць новыя ідэі, то і артыкул на адну-дзве машынапісныя старонкі забярэ ў аўтара тыдні, а то і месяцы. Сёння не шмат знойдзецца ідэалістаў і энтузіястаў, якія ахвотна бяруцца за такую з усіх бакоў «стратную» для сябе справу. Таму толькі прыхільнасць да гэтай высакароднай справы паспрыяла згуртаванню аўтарскага актыву «энцыклапедыстаў».

Фотавыданне арыгінальных твораў Ф. Скарыны, яго прадмоў і пасляслоўяў да ўсіх ягоных кніг — бясспрэчны ўклад у навуку, у крыніцазнаўства. Заўважым, што зроблена гэта ўпершыню. А вось паралельна адаптаваны тэкст — паўтор ужо пройдзенага этапу ў скарыназнаўстве. Для каго гэтая адаптацыя разлічана? Спецыяліст аддасць перавагу фотакопіям арыгіналу, а для неспецыяліста сэнс лексікі, сінтаксісу і стылістыкі твораў Скарыны на добрую палову страчаны. Ці не лепш было б выдаць паралельны пераклад на сучасную беларускую мову? Тады спецыяліст глядзеў бы на верхнюю частку старонак, дзе змяшчаецца арыгінальны тэкст, аматар жа чытаў бы знізу думкі асветніка. Псля таго, як Уладзімір Анічэнка выдаў складзены ім «Слоўнік мовы Скарыны», такі пераклад — не праблема. У варыянце ж, якому аддала перавагу рэдакцыя, адаптацыя ўспрымаецца спецыялістам як непатрэбнае дубліраванне, застаючыся ў той жа час амаль што «эзатэрычным» (закрытым) тэкстам для звычайнага чытача. Тут важны таксама прыярытэт: калі б БелСЭ упершыню выдала арыгінальныя творы асветніка на сучаснай беларускай мове, то гэта быў бы яшчэ адзін крок наперад у скарыназнаўстве.

Пазнаёміўшыся з энцыклапедычным даведнікам, чытач не можа не заўважыць, што ён амаль не закранае сюжэтаў, вобразаў, сімвалаў, урэшце, самой фабулы Скарынавых кніг (апрача, зразумела, яго кароткіх каментарыяў да іх у прадмовах). Пры абмеркаванні плана даведніка спачатку думалася, што артыкулы пра кожную

кнігу першадрукара будуць комплекснымі, прынамсі з дзвюх частак — кнігазнаўчай і літаратуразнаўчай. Тады была б магчымасць хоць у малой ступені паглыбіцца ў мастацкі і філасофскі свет біблейскіх кніг, пра якія так узнёсла пісаў Ф. Скарына. Пазней на нейкім этапе абмеркавання вырашылі абмежавацца апісаннем гэтых кніг толькі як помнікаў кніжнай культуры. Гэтую працу на добрым прафесіянальным узроўні выканаў маскоўскі кнігазнавец Я. Л. Неміроўскі. Аднак падрабязна апісваючы гісторыю знаходкі і сацыяльна-культурнага быцця кожнай з 46 кніг, даследчык не мог не паўтарацца, бо лёс гэтых кніг шмат у чым агульны, асабліва ў блізкіх па свайму функцыянальнаму прызначэнню творах «Малой падарожнай кніжкі». Паўтарэнняў можна было пазбегнуць адпаведнай кампаноўкай матэрыялу, напрыклад, аб'яднаннем блізкіх паміж сабой выданняў, гісторыя якіх у асноўных рысах паўтараецца, у пэўныя комплексы, ці «абоймы». Але гэтага не зрабілі. І цяпер у шмат якіх кнігазнаўчых артыкулах паўтараюцца не толькі асобныя сказы, але і цэлыя абзацы. Асабліва такія паўторы кідаюцца ў вочы там, дзе артыкулы ідуць адзін за другім, або размешчаны паралельна («Акафіст святому Міколе», «Акафіст святому Пятру і Паўлу», «Канон Ісусу», «Канон Крыжу Гасподню» і інш).

Усё гэта не вельмі заахвочвае чытача «ўвайсці» ў прыгожы і ўзнёслы свет Скарыны. А для спецыялістаў апісанне Скарынавых кніг — не першапублікацыя, бо яны ўжо чыталі добрае даследаванне таго ж Я. Л. Няміроўскага («Выданні Ф. Скарыны: Зводны каталаг і апісанне»), апублікаванае ў кнізе «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў» (Мн., 1988). Паўторы — гэта яшчэ нерацыянальнае выкарыстанне фізічнага памеру энцыклапедычнага даведніка. Адсюль і пропускі, якія, на маю думку, тлумачацца таксама наіўнай і прасцецкай бояззю Бібліі, вобліку Ісуса Хрыста, рэлігійнай тэматыкі наогул. Мне давялося сутыкнуцца з гэтым «атэістычным» комплексам ужо пасля таго, як вырашана было абысціся без літаратуразнаўчага і філасофскага аналізу кніг Скарыны. Па дамоўленасці з супрацоўнікамі галіновых рэдакцый БелСЭ напісаў для даведніка шэраг кароткіх артыкулаў пра біблейскія фабулы шматлікіх сюжэтных ілюстрацый да Скарынавых кніг. Адна частка гэтых артыкулаў у скарочаным выглядзе дайшла да чытача, другую ж частку нехта з «рэдактараў над рэдактарамі» так «рэдуцыраваў», што аўтару прыйшлося адмовіцца ад свайго аўтарства.

Парадуемся высокаму паліграфічнаму і мастацкаму ўзроўню выдання: тут нашы кніжнікі наблізіліся да рэнесанснай эпохі беларускага асветніка.

Навуковае каменціраванне ўсёй Скарынавай Бібліі — справа гонару беларускіх даследчыкаў. Але гэта можна будзе зрабіць толькі тады, калі мы возьмемся за падрыхтоўку акадэмічнага выдання ўсіх кніг выдатнага асветніка, якія захоўваюцца нешматлікімі экземплярамі ў айчынных ды зарубежных бібліятэках. Сёння яны маладаступныя нават для спецыялістаў, бо, напрыклад, «Малая падарожная кніжка» ў нашых кнігасховішчах не захавалася ў поўным аб'ёме. Цяпер жа я хацеў бы пазнаёміць чытача з першапачатковымі фрагментамі да будучага каментарыя. Гутарка ідзе пра каментарыі не толькі да арыгінальных твораў Ф. Скарыны (прадмовы, пасляслоўі, анатацыі, акафісты), але таксама сюжэтаў да ілюстрацый, вобразаў і сімвалаў надрукаваных ім біблейскіх кніг.

У рэшце рэшт у 1991 г. мы дачакаліся факсімільнага перавыдання Бібліі Ф. Скарыны. І вось цяпер варта было б такім жа чынам раскрыць змест і сімвалічны сэнс усіх сюжэтаў, вобразаў і матываў ягоных кніг.

## АБ ТРАГЕДЫІ АВЕСАЛОМА

У прадмове да біблейскай старазапаветнай 2-й кнігі Царстваў (1518) Ф. Скарына сярод іншых падзей прыпамінае бітву другога цара Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы Давіда (канец XI — першая палова X ст. да н. э.) са сваім сынам Авесаломам. Мікраартыкул пра гэтага трагічнага героя старажытнай гісторыі, на жаль, не ўвайшоў у энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час». А між тым вобраз Авесалома здаўна прыцягваў увагу паэтаў, мастакоў і драматургаў, асабліва ў перыяды Рэнесансу і класіцызму. І ўжо ў наш час, недзе ў 60—70-х гадах, на студыі Галівуда быў створаны суперфільм «Авесалом, Авесалом...».

Гісторыя пра яго жыццё і трагічную смерць апавядаецца ў 2-й кнізе Царстваў. Авесалом быў трэцім сынам Давіда ад адной з яго жонак Маахі, дачкі гесурскага цара. Гесур, або Арам-Гешур,— невялікая вобласць на тэрыторыі сучаснай Сірыі. У эпоху цара Давіда гэта было невялікае суседняе з Ізраілем царства. Паводле біблейскай аповесці, Авесалом — найпрыгажэйшы мужчына ва ўсім царстве, «ад падэшвы ног да верху галавы не было ў яго ніякага недахопу». Усе любаваліся ім, асаблі-

ва яго пышнымі доўгімі валасамі. У Авесалома была такая ж прыгожая і любімая родная сястра Фамар, таксама вядомая з паэтычных увасабленняў у класічным мастацтве.

І вось першынец цара Давід і наследнік яго прастола Амнон (брат Авесалома па бацькоўскай, але не па матчынай лініі) аднойчы быў ахоплены гарачым, толькі пачуццёвым каханнем да Фамары і нават захварэў ад свайго палу. Паслухаўшыся парады хітрага сябрука, Амнон пайшоў на ашуканства, каб сілаю завалодаць Фамарай: ён прытварыўся хворым і папрасіў бацьку прыслаць Авесаломаву сястру, каб тая згатавала яму абед. Не зважаючы на маленні Фамары, Амнон згвалціў сваю сястру па бацькоўскай лініі, і адразу ж адчуў да яе нянавісць. На просьбу ягонай ахвяры ўзяць яе за жонку (па законах таго часу брат мог ажаніцца з сястрой ад няроднай маці) Амнон загадаў сваім слугам прагнаць Фамар.

Авесалом даведаўся пра знявагу сястры, забраў яе ў свой дом і задумаў адпомсціць нягодніку. Бацька, цар Давід, цяжка перажываў злачынства Амнона, аднак не пакараў яго, бо моцна і бяздумна любіў свайго сына. Праз два гады Авесалом наладзіў вялікі банкет, паклікаўшы на яго ўсіх сваякоў, у тым ліку Амнона. І як толькі «развесялілася сэрца Амнона ад віна», ён быў тут жа за сталом забіты па загаду Авесалома.

Цар цяжка перажываў гэтую бяду, але не помсціў Авесалому. А той з невялікай дружынай знайшоў прыстанішча ў свайго дзеда — цара Гесурскага. Праз тры гады яму дазволілі вярнуцца на радзіму, аднак спачатку не дапусцілі да царскага двара. Пазней адбылося прымірэнне Авесалома з яго царственным бацькам. Аднак як сын паланянкі Авесалом, відаць, не быў прызнаны ў якасці наследніка царскага трону.

Тым часам абаяльнасць, прыгажосць, ветлівасць і дэмакратызм садзейнічалі папулярнасці Авесалома, вакол яго пачалі гуртавацца незадаволеныя, і ён выкарыстаў гэта, каб узмацніць сваё становішча пры двары, стварыў уласную дружыну і ў рэшце рэшт падняў мяцеж, схіліўшы на свой бок значную частку суайчыннікаў. Цар з невялікай горсткай верных яму людзей павінен быў пакінуць свой дом і хавацца ад паўстанцаў у пустыні. Царства раскалолася: адны воіны прысягнулі Авесалому, другія ж сабраліся вакол Давіда. Рашучая бітва адбылася ў лесе за Іарданам-ракою: войска Авесалома пацярпела паражэнне, а сам ён, уцякаючы ад праследавання, заблы-

таўся доўгімі валасамі ў карані дуба і быў забіты военачальнікам Іовам, насуперак загаду цара не ўзнімаць рукі на жыццё яго сына. Авесалома пахавалі ў глыбокай лясной яме, над магілай насыпалі вялізную кучу каменняў. У дні свайго кароткага царствавання Авесалом паставіў сабе помнік, спаслаўшыся на тое, што няма ў яго сыноў, якія б захавалі памяць аб ім. Цар жа Давід доўга плакаў ля варот свайго дому і ўсклікаў: «Авесалом, сын мой, сын мой, Авесалом! Чаму ж не наканавана мне памерці замест цябе, Авесалом, сын мой, сын мой!»

Паводле тлумачэнняў Агады (той часткі Талмуда, у якой развіваюцца рэлігійна-этычныя ідэі Бібліі), вобраз Авесалома стаў сімвалам небяспечнага славалюбства, несыноўніх адносін да бацькоў і марнасці надзеі на прыгожасць. Як сведчаць біблеісты, у даўнія часы яўрэйскія равіны загадвалі бацькам прыводзіць непаслухмяных дзяцей да помніка Авесалому, каб яны ўспаміналі яго гісторыю і кідалі камені на магілу.

Праваслаўныя тэолагі амаль не закранулі гэтай тэмы, пра што сведчыць адсутнасць адпаведных тлумачэнняў у шматтомнай «Толковой Библии», выдадзенай у 1904—1913 гг. пад рэдакцыяй А. П. Лапухіна і яго паслядоўнікаў. Нашы гісторыкі, відаць, лічаць аповесць пра Авесалома чыста мастацкім творам, бо забыліся пра яго ў шматтомнай «Исторической энциклопедии». Адным словам, гэты трагічны сюжэт і сапраўды шэкспіраўскі па моцы страсцей вобраз паўстанца абыдзены ў нашай мастацкай і навуковай літаратуры.

## ПРА ШМАТПАКУТНАГА ІОВА

У беларускага асветніка былі свае любімыя кнігі, і сярод іх бадай ці не першае месца займала аповесць пра пакуты праведнага Іова — адзін з самых трагічных літаратурных твораў старажытнага свету. У натхнёных словах прамовы да «Кнігі Іова» Ф. Скарына тлумачыў яе змест сімвалічна — у сэнсе прарочага прадбачання трагічнай драмы станаўлення хрысціянства і, шырэй,— трагедыі чалавечага духу. На яго думку, яна прыадчыняе людзям неразгаданую загадку жыцця, яго таямніцу, «найпервей, чего ради Господь Бог на добрих и на праведных допущаеть беды и немоци, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие». Вось чаму гэтую кнігу, пісаў далей асветнік, «всякому человеку потребна чести (чытаць.— *Ул. К.*), понеже есть зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым,

они же суть в бедах и в немощах положены..». Скарынавая прадмова да гэтага твора завяршаецца філасофскім, патрыятычным і па-сакратаўску мудрым выслоўем: «Прото ж я, Франтишек Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, знаючи сее, иже ест наивышшая мудрость розмышление смерти и познание самого себе... казал есми тиснути (надрукаваць.— *Ул. К.*) книгу светого Иова рускым языком Богу ко чти и людем посполитым к научению».

Пра што апавядаецца ў «кнізе Іова»? Спачатку пра шчаслівае патрыярхальнае жыццё багатага і знакамітага чалавека, набожнага і справядлівага, бо ён нікога не крыўдзіў і выконваў усе належныя ў сваім народзе абрады. Меў ён сем сыноў і тры дочкі, сем тысяч дробнай скаціны, тры тысячы вярблюдаў, пяцьсот пар валоў, пяцьсот асліц ды вельмі шмат чэлядзі. «Сыны яго збіраліся, наладжвалі банкеты кожны ў доме сваім і ў дзень свой, пасылалі і запрашалі трох сёстраў сваіх есці і піці з імі». Калі ж чарговае кола бяседных дзён завяршалася, бацька Іоў маліўся за іх, робячы ахвярапрынашэнні Богу.

Але сталася так, што Бог паспрачаўся з д'яблам за душу Іова, і пачаліся для Іова доўгія гады выпрабаванняў горам ды пакутамі. Прапала ўся маёмасць яго, загінулі дзеці, застаўся ён адзін, безнадзейна хворы, ды як сведка яго прыніжэння засталася жонка яго. Балела знявечанае цела, але яшчэ больш спакутавалася душа, бо пакінула яе вера ў праўду, боскую справядлівасць, ды так, што ён пракляў той дзень, калі нарадзіўся. Іоў кідае выклік самому «гаспадару света», выкрывае несправядлівасць жыцця на зямлі, дзе добрыя пакутуюць, а злыя радуюцца. Яго суцяшаюць і з ім спрачаюцца трое сяброў, і ў іх узнёсла-эмацыянальным дыспуце абмяркоўваецца праблема тэадыцэі — маральнага апраўдання быцця і яго стваральніка Бога перад наяўнасцю сусветнага зла.

Скарынавыя анатацыі да ўсіх раздзелаў гэтай кнігі ствараюць своеасаблівую «паліфонію» галасоў-думак, раскрываюць дыялагічную неадназначнасць і супярэчлівасць ісціны і справядлівасці. Прамовы першага суцяшальніка грунтуюцца на такім сілагізме: нашыя пакуты ёсць непазбежны вынік нашых грахоў; Іоў шмат пакутуе, але не хоча ўсвядоміць сваёй віны. На гэта Іоў адказвае пытаннем: хіба ж патрэбна Богу, каб мы дзеля яго апраўдання гаварылі няпраўду? Другі апанент заклікае яго да пакаяння, тлумачыць пакуты боскім выпрабаваннем. Нарэшце з бліскучай прамовай выступае самы

малады і разумны філосаф, сутнасць яго думкі Ф. Скарына выразіў кароткай анатацыяй: «Людская дабрата Богу не памагаеть, но самому человеку. Те же (таксама.— *Ул. К.*) злоба не досаждаеть Богу, но токмо человеку». Трэці апанент пераводзіць праблему спрэчкі на больш высокі, маральны ўзровень. Пакуты, што пасылаюцца Богам на чалавека,— гэта не пакаранне, а сродак духоўнага абуджэння.

У фінале аповесці «блаславіў Бог апошнія дні Іова больш, чым ранейшыя»: падвоіў яго маёмасць, зноў падарыў яму сыноў і дачок, «і не было на ўсёй зямлі такіх прыгожых жанчын, як дочкі Іова». Адным словам, герой аповесці як быццам бы вяртаецца да таго, што было ў самым пачатку, ды яшчэ (якраз, як і ў чарадзейнай казцы!) падвойвае сваю маёмасць. Пра тое, што трагедыя ўзбагаціла яго духоўным вопытам, можна толькі здагадвацца. Бо цяпер ужо не на багатыя застоллі з мноствам яды ды пітва збіраліся яго сваякі і сябры, а для таго, каб разам есці хлеб, тужыць па тых, хто пакутуе, ды суцяшаць адзін аднаго.

На пытанне, пастаўленае Ф. Скарынам у прадмове да кнігі,— «чего ради Господь Бог на добрых и праведных допущаеть беды и немоци, а злым и несправедливым даеть шчастье и здравье»,— адказвае не эпічная фабула гэтай кнігі, якая па закону жанру павінна мець шчаслівую развязку, а філасофская рэфлексія з нагоды пакутніцтва героя: «Так, не з праху выходзіць гора, і не з зямлі вырастае бяда; але чалавек нараджаецца на пакуту, як іскры, каб паднімацца ў вышыню». З гэтай думкай пераклікаецца філасофская сентэнцыя з «Кнігі Эклезіяста», якую таксама пераклаў, выдаў і высока цаніў Ф. Скарына: «Таму што ў многай мудрасці шмат клопату, і хто памнажае розум, павялічвае смутак». Дарэчы, з усіх выдадзеных першадрукаром кніг Бібліі толькі «Эклезіяст» нядаўна факсімільна перавыдадзены і ўключаны ў «Скарынаўскі каляндар» яго складальнікам Ю. Лабынцавым.

Прыпомнім яшчэ аналагічнае выслоўе з выдатнага помніка старажытнарускай літаратуры — «Моления Даниила Заточника»: «Зла не видавши, добра не постигнути... Злато бо искушается огнем, а человек напастми; пшеница много мучима чист хлеб являет, а человек, беды подъемля, смысленноумен обретается».

На тытульным лісце выдадзенай Ф. Скарынам «Кнігі Іова» ёсць гравюра ў стылі народнага лубка, што па-

свойму ілюструе яе змест. У цэнтры кампазіцыі паказаны раздзеты чалавек на ложку, якога бічуе казланогі чорт у прысутнасці абыякавых сведкаў. Перад намі — фальклорная, гратэскавая трактоўка чалавечай трагедыі. Пра тое, што народныя казачнікі добра ведалі біблейскі сюжэт Іова, сведчыць яго распрацоўка ў беларускім фальклоры, дзе ён, захаваўшы свой трагічны «зачын», часам набываў тыповую для народнай творчасці форму травестацыі (пераводу сур'ёзна-трагічнага ў нізкі, камічны план) і карнавальнай гратэскавай гульні. Таленавітыя казкі ў гэткім стылі ёсць у зборніках выдатнага беларускага фалькларыста і этнографа А. Сержпутоўскага.

Казка «Круці не круці, а трэба ўмерці» пачынаецца бадай што як «сялянска-беларускі» варыянт «Кнігі Іова»: «Быў адзін чалавек, у яго было дванаццацёра дзяцей: сем сыноў і пяць дачок. Усе яны былі гожыя і ўдалыя. Працаваў ён сам, працавалі дзеці, й даў Бог ім багацтва і ва ўсём дастатак. А ведамо, калі дасць Бог здароўе, а ў сямейцэ лад на худобу (дамашнюю жывёлу.— *Ул. К.*), то не трэ(ба) большаго шчасця... Але ж, як кажуць, шчасце не вечнае». Так і на гэтую сям'ю пасыляліся няшчасці: пошасць скасіла ўсіх дзетак, гора і хваробы сагнулі жонку ў крук. Згарэла хата, ад памору прапала скаціна. «Астаўса той чалавек адзін, як кол, і гол, як маці радзіла». Пайшоў ён на возера тапіцца: «Стаў на беразе й давай наракаць на Бога й зваць к сабе смерць». І хоць смерць не забрала яго, але адкрыла яму сваё аблічча. З гэтага часу ён стаў лекарам-прарокам. «Паглядзіць, гдзе ў хворага стаіць смерць: калі ў нагах, то дасць яму выпіць вады і выздаравее, а калі ў галавах, то скажэ, што гэтаго хвораго бярэ к сабе Бог». Гэткім чынам «лечачы» людзей, моцна разбагацеў, і захацелася яму жыць вечна. Каб абмануць смерць, ён прыдумаў сабе ложак на шарнірах і круціў яго так, каб смерць была толькі ў нагах. Але доўга не пратрымаўся, павінен быў пагадзіцца з прыказкай: «Круці не круці, а трэба ўмерці».

Другая казка на матыў Іова са збору А. Сержпутоўскага вытрымана пераважна ў сур'ёзным тоне і па змесце набліжаецца да прыгодніцкага апавядання дыдактычнага зместу. У ёй апавядаецца пра жыццёвыя няўзгоды і духоўную стойкасць тыповага сялянскага Іова — працавітага і сціплага Ціхона, які «працаваў за двох, а гараваў за трох». Людзі любілі яго за дабрату. «А ведамо, калі е (ёсць.— *Ул. К.*) добры чалавек, то чорт ні на крок не адступіцца ад яго, дзень і ноч цікуе, каб яго спакусіць».

Збіўся з ног нячысцік, ніяк не могучы падлавіць на нейкім граху Ціхона. Вырашыў узяць у яго апошняе з беднай маёмасці — «тады ён будзе наракаць на Бога». Вось загнаў чорт у багну Ціхонаву «адну кароўку да й тую бясхвостую». (Як бачым, тут казачнік не ўтрымаўся ад карнавальна-гратэскавага вобразу.) Але Ціхон перахрысціўся ды й кажа: «На тое божая воля!» Разгубіўся чортнячысцік, не ведае, што рабіць. Вось ён адпраўляецца ў рай і просіць у Бога, «каб дазволіў яму зрабіць над Ціхонам практыку, які ён праўдзівы чалавек». Бог дазволіў выпрабаваць яго людской несправядлівасцю. Падгаварыў нячысцік зладзеяў, каб абакралі царкву, схавалі ўкрадзенае ў дупле вярбы, што схілілася над Ціхонавым плотам. Знайшоў Ціхон грошы ды й панёс да папа. Той і кажа: калі падзелім іх паміж сабою, то я не скажу, што ты абакраў цэркву. Ціхон адмовіўся. Уззлаваўся поп і ўзвёў на яго паклёп перад людзьмі і ўладаю. Пасадзілі праўдзівага чалавека ў астрожныя калодкі. Але з часам людзі дазналіся праўду і вызвалілі Ціхона. Тады паклёпнікі спалілі яго хату. На яе папялішчы гаспадар знайшоў скарб: «І стаў з тых часоў Ціхон добра жыць ды Бога хваліць».

## ЦАР У РОЛІ СКАМАРОХА

Гратэскавыя ды карнавальныя вобразы ёсць не толькі ў фальклоры, але і ў самой Бібліі, што набліжае яе да народнай творчасці. На тытульным лісце перакладзенай і выдрукаванай Ф. Скарынам 2-й Кнігі Царстваў (Прага, 1518) намалявана ілюстрацыя з надпісам: «Давид играеть в гусле неся кивот господень; царица же Михоль видя и погорде и бе наплодна». Перад намі — графічная выява эпізодаў з раздзелаў гэтай біблейскай кнігі. Ківот (кіёт) — гэта пераносны алтар, які насілі з сабою воіны і народ да пабудовы царом Саламонам у Іерусаліме вялікага храму. У кіёце размяшчаліся святыя сімвалы, сярод якіх — каменныя дошкі-скрыжалі з дзесяццю боскімі маральна-прававымі запаведзямі. Захапіўшы каля 1000 г. да н. э. горад Іерусалім, цар Давід вырашыў зрабіць яго сваёй сталіцай і найперш загадаў перанесці сюды кіёт Божы. 30 тысяч выбраннікаў суправаджалі калясніцу са святым сімвалам, «а Давід і ўсе сыны Ізраілевы гралі перад Госпадам на ўсіх музычных прыладах з кіпарысавага дрэва; і на цытрах, і на псалтырах, і на тымпанах, і на сістрах, і на кімвалах».

Аднак па дарозе здарылася бяда — памёр адзін з тых, хто вёз калясніцу. Цар вырашыў спыніцца, і толькі праз тры месяцы кіёт панеслі на руках. І калі тыя, хто нёс яго, праходзілі шэсць крокаў, цар прыносіў ахвяры, а сам, апрануты ў простую вопратку, «скакаў са ўсёй сілы» пад трубныя гукі і воклічы народа. Калі працэсія праходзіла каля царскага палаца, то царыца Мелхола, дачка папярэдняга цара Саупа, «унізіла яго ў сэрцы сваім», сказаўшы: «Як вызначыўся сёння цар Ізраілеў, паводзячы сябе на вачах рабынь і рабоў сваіх, як паводзіць сябе які-небудзь пусты чалавек!» На гэта Давід адказаў: «Перад Госпадам граць і скакаць буду, і яшчэ больш уніжуся ў вачах сваіх; і перад служанкамі, пра якіх ты кажаш, праслаўлюся».

Гэты эпізод яскрава выявіў патрыярхальны перыяд дзяржаўнасці, калі яшчэ не ўстанавіўся ўрачысты этыкет прыдворных паводзін: цар Давід, яшчэ нядаўна пастух, радуецца шчыра і па-прасцецку. Ёсць тут і заглыблены, сімвалічны сэнс. У тэалагічным плане вобраз цара Давіда, паводле хрысціянскай тэалогіі, сімвалізаваў будучага нябеснага цара Ісуса Хрыста з яго парадаксальным вучэннем пра духоўнае ўзвышэнне на шляхах зямнога самапрыніжэння.

Разам з тым гэты літаратурны сюжэт і адпаведная яму графічная кампазіцыя ў Скарынавым выданні з амбівалентным вобразам цара-скамароха сведчыць пра наяўнасць у Бібліі фальклорна-карнавальных матываў. Яны тут не заўсёды адкрытыя, нярэдка прысутнічаюць, як кажуць філосафы, імпліцытна (у няяўнай, скрытай форме), тэалагічна пераасэнсаваныя як боскія цуды. Асабліва шмат іх у ваеннай аповесці пад назвай «Кніга Ісуса Навіна». Першы цуд (ён адлюстраваны ў гравюры да Скарынавага выдання гэтай кнігі) адбыўся пры пераходзе праз раку Іардан: «І вось, калі народ рушыў ад сваіх шатроў, каб перайсці Іардан, і святары панеслі каўчэг запавету (Госпада) перад народам, то як толькі тыя, то нёс каўчэг, увайшлі ў Іардан, і ногі святароў, што неслі каўчэг, апусціліся ў воды Іардана,— Іардан жа выступае з берагоў ва ўсе дні жніва пшаніцы,— вада... спынілася і стала сцяною на даволі вялікай адлегласці». Тут — адна з нярэдкіх у Бібліі сіметрычных падзей-сюжэтаў. Аналагічны цуд адбыўся раней, калі Майсей адступаў з Егіпта і падышоў да Чырвонага мора: «І накіраваў Майсей руку сваю ў бок мора, і гнаў Гаспод мора моцным усходнім ветрам цэлую ноч, і зрабіў

мора сушаю, і расступіліся воды. І пайшлі сыны Ізраілевы сярод мора па сушы: воды ж былі сцяною па правы і левы бок» (Выхад 14, 21—22).

Матыў цуду з воднай перашкодай (ракой, возерам, морам), якая расступаецца перад героем, вельмі папулярны ў еўрапейскім фальклоры, асабліва ў беларускіх чарадзейных казках. Альбо яшчэ вядомы сюжэт, які пакінуў памятку пра сябе ў крылатай фразе «Іерыхонскія трубы». Пры наступленні на горад Іерыхон сцены гэтай крэпасці абваліліся ад крыкаў воінаў і трубных гукаў. Пазней той жа Ісус Навін «прыказаў» сонцу спыніць свой рух, каб яго воіны паспелі адпомсціць ворагам.

Гратэскава-карнавальны вобраз у сваім «чыстым» выглядзе ёсць у біблейскай легендзе пра волата Самсона, які перабіў тысячу сваіх ворагаў... аслінай сківіцай. Асёл у народнай казачна-камічнай канцэпцыі жыцця — гэта, гаворачы тэрмінамі Міхаіла Бахціна, сімвал «матэрыяльна-целеснага нізу». І ў дадзеным эпізодзе асліная сківіца — карнавальная, «смехавая» зброя, і служыць яна герою для таго, каб прынізіць ганарыстых ворагаў.

*Алег Дзярновіч*

## КРЭВА: МЯСТЭЧКА І ГІСТОРЫЯ

Калі чалавек пачынае спазнаваць свой край, ягоныя асаблівасці і сувязі з суседзямі, то варта пачаць з гісторыі, блізкай да сэрца мясціны, заклаўшы тым самым падмурак наступных ведаў. Паспрабуем і мы прайсці гэтым шляхам — даведаемся пра лёс Крэва, ва ўсім прыкметнага мястэчка на паўночным захадзе Беларусі.

Адносна паходжання назвы пасялення зусім дакладна адказаць цяжка. Яшчэ з мінулага стагоддзя ідзе традыцыя звязваць яе з тэрмінам «крэва — крывайтэ», якім пазначаўся вярхоўны літоўскі жрэц-вяшчун [1]. У свой час наконт гэтага ўзніклі пытанні, былі нават сцвярджанні, што асоба вяшчуна з'яўляецца міфічнай [2]. Сёння найбольш пераконвае меркаванне вядомага беларускага даследчыка Міколы Ермаловіча пра сувязь назвы мястэчка з працэсам каланізацыі гэтых зямель крывічамі [3]. На ягоную думку, крывічы прыйшлі на тэрыторыю сучаснай Беларусі з захаду, і называліся яны спачатку крэвамі. Назва жа Крэва сведчыць аб узнікненні гэтага пасялення ў пачатку крывіцкага засялення Беларусі.

На гэтай тэрыторыі рассяляліся крывічы, якіх цяпер называюць смаленска-полацкімі. Дадзеная этнаграфічная групоўка склалася ў выніку змяшчэння крывіцкага насельніцтва з мясцовым балцкім [4]. У выніку складаных этнічных і сацыяльных працэсаў на паўночным захадзе Беларусі ўзнікла раннедзяржаўнае ўтварэнне балцкага (але, відаць, значна аславяненага) племені нальшаў — Нальшанская (Нальшчанская) зямля. А Крэва ўзгадваецца ў нямецкіх кроніках XIII ст. як цэнтр паўлегендарных Нальшан. Падобна, што якраз да гэтага перыяду (XII—XIII стст.) належыць Крэўскае гарадзішча, якое і зараз уражвае сваёй 20-мятровай вышынёю і 5-мятровымі землянымі валамі. Знаходзіцца яно на адлегласці 2,5 км на поўнач ад заходняй ускраіны вёскі, каля дарогі на Смаргонь, мае авальную пляцоўку 40×20 м[5]. Сюды падчас небяспекі збягалася навакольнае насельніцтва, імкнучыся ўратаваць сваё жыццё і самае каштоўнае, што ў іх было,— жывёлу. А бараніцца было ад каго. У 1258 г. Нальшаны і Літва зведалі напад татара-мангольскіх войск Бурундая (першы прыход ардынцаў на землі ўласна Беларусі) і валынскага князя Васількі. А ў 1262 г. вялікі князь Міндоўг помсціць Васільку за ягоны ўдзел у паходзе Бурундая нападам на валынскія гарады. Калі лівонцы рабілі напады на Літву, шлях іх таксама пралягаў праз Нальшаны. Пра гэта гаворыцца ў Лівонскай рыфмаванай хроніцы, у якой Нальшаны часам маюць назву «Альсен». Відаць, таму і ўзнікае меркаванне, што Нальшаны — слова нямецкага (гоцкага) паходжання: магло ўтварыцца ад слоў Aal (вугор) і Seen (азёры) — азёры, населеныя вуграмі [6].

Нягледзячы на разарэнні, моц Нальшанскай зямлі была дастатковай, каб яна магла актыўна ўдзельнічаць у міжусобнай барацьбе. Супярэчнасці паміж Літвой (летапіснай, цэнтрам Вялікага княства) і Нальшанамі адбіліся ў паданні аб тым, што пасля смерці сваёй жонкі Міндоўг сілай бярэ да сябе яе сястру — жонку нальшанскага князя Даўмонта. І ў барацьбе за першынства паміж Літвой і Жэмойціяй Нальшаны падтрымалі апошнюю (сітуацыя ўскладнялася тым, што Нальша, падобна, сама з'яўлялася спрэчнай тэрыторыяй паміж сваімі вышэйназванымі суседзямі). У выніку Даўмонт у 1263 г. забівае Міндоўга і ягоных двух сыноў. Але ўжо праз год знакаміты навагародскі князь-манах Войшалк, заснавальнік Лаўрышава манастыра, заваёўвае Нальшаны і ўключае іх у склад Вялікага княства Літоўскага. Вы-

мушаны пакінуць Крэва, сваю зямлю Даўмонт. Ён бяжыць у крывіцкі Пскоў, дзе, прыняўшы хрысціянства, становіцца ў 1266 г. князем. На радзіму Даўмонт ужо не вернецца, а з ягоным ад'ездам заканчваецца нальшанская старонка гісторыі Крэва, дый увогуле гісторыя Нальшан. Новы час патрабаваў новых форм арганізацыі грамадства. Развіваўся феадалізм, стабілізавалася і пачало ўзмацняцца Вялікае княства, больш трывалымі сталі сувязі ўнутры самой дзяржавы. І замест даволі рыхлай ў арганізацыйным плане Нальшанскай зямлі з'явілася Крэўскае княства, а Нальшаны з XIV ст. ужо не ўзгадваліся.

Адбыліся змены і ў вонкавым абліччы Крэва. Раней цэнтрам было гарадзішча. Але сама прырода стварыла ўмовы, каб тут стаяў не драўляны замак. Калі 10—15 тысяч гадоў назад апошні ледавік адыходзіў з нашай зямлі, ён пакінуў аб сабе ўспамін на далёкую будучыню — садраныя са страшэннай сілай з гор Скандынавіі валуны. У наваколлях Крэва, на развіўшыхся потым валунналедніковых глінах і суглінках вырасла не так ужо і шмат лясоў. І зараз у гэтым рэгіёне ў цэлым лясістасць складае 26—35 працэнтаў [7], што даволі мала для тэрыторыі Беларусі. Падобны краявід быў устойлівым. І ў XIX ст. аб Крэве пісалася ў польскай і рускай літаратуры так: «Ваколіцы бязлесны, каменнямі густа ўсеяны» [8]. Улічым яшчэ неабходнасць стварэння дзеля ўратавання ад крыжацкай навалы абарончага пояса на паўночным захадзе княства, і нам у некаторай ступені стане зразумелым, чаму магутны мураваны замак быў пабудаваны менавіта ў дадзеным месцы. На мяжы XIII і XIV стст. [9], як паказалі апошнія даследаванні, у забалочанай нізіне, каля зліцця рачулкі Крэвянкі і безназоўнага ручая, пазней названага Шляхцянкай [10], і паўстаў мураваны Крэўскі замак, першы цалкам мураваны замак у Вялікім княстве Літоўскім. Цэнтр абароны пасялення, такім чынам, пераносіцца ў мураваны замак — традыцыя жыцця і змагання не перапыняецца, і ўспамін аб гэтым трансфармаваўся ў паданне аб лёхах, што з'ядноўваюць замак з гарадзішчам [11].

Пэўную ролю, верагодна, у агульным абарончым комплексе адыгрывала і зараз пануючая над мясцовасцю Юрава гара, якая размешчана за некалькі соцен метраў на поўдзень ад замка. Нешта язычніцкае адчуваецца ў гэтай прыроднай дамінанце, з верхняй кропкі каторай адкрываецца дзівосны краявід. На гары мог знаходзіцца

наглядальны пункт, а да гэтага яна займала, відаць, пэўнае месца ў светапоглядах мясцовых жыхароў, стварала іх і сама была часткай светаадчування. Але той перыяд гісторыі гары не знік бясследна. І зараз яна карыстаецца павагай у жыхароў Крэва. А ў 1987 г. аўтару гэтага артыкула даводзілася бачыць на вяршыне гары пракапаны ў зямлі крыж. Міжволі ўзгадваюцца выпадкі з вялікімі камянямі, што шанаваліся язычнікамі (паганцамі), а пасля хрысціянізацыі на іх высякалі крыжы, каб перанесці гэтую павагу ўжо да новай рэлігіі (так званыя Барысавы камяні). Сёння гара носіць імя хрысціянскага святога Юрыя (Георгія). І можна меркаваць, што ў паганскія часы гара называлася Ярылавай, таму што менавіта Юрый у часы хрысціянізацыі ўвабраў у сябе функцыі Ярылы, замяніў сабой гэтага вершніка ў белай адзежыне на белым кані, з чалавечай галавой у правай руцэ і жытнёвымі каласамі — у левай, у вянку з палявых кветак [12].

У 1338 г. вялікі князь Гедымін «дал Ольгирду кролеву оцу Крево замак» пры дзеляжы сваіх зямель паміж сямю сынамі [13]. З гэтага часу і вядома Крэва як цэнтр удзельнага княства. Безумоўна, змена палітычнага статуса пасялення пры ўзмацненні новых эканамічных адносін не магла не адбіцца на стане мястэчка — з XIV ст. Крэва вядома як цэнтр керамічнай вытворчасці.

Менавіта ў Крэве, сярод яго маляўнічых пагоркаў, правёў Альгерд гады падрыхтоўкі ўступлення на трон Вялікага княства (1338—1345). І менавіта сюды для заключэння саюзу з мэтай падзелу ўлады ў маладой славяна-балцкай дзяржаве, з Вільні прыбылі паслы яго брата Кейстута. Тады, у 1345 г., усталяваўся незвычайны саюз, калі адначасова знаходзіліся на троне і правілі адной дзяржавай два вялікія князі — Альгерд і Кейстут.

За Альгердавым жа часам, пасля бітвы каля Сініх Вод, пад Наваградкам і Крэвам былі паселяны татары-паланянікі [14]. Ім давалася зямля, абавязаны яны былі выконваць вайсковую павіннасць. І сапраўды, мясцовыя татары сталі вернымі вайскоўцамі Вялікага княства, бо сялілі татар каля найважнейшых палітычных цэнтраў. Гэты прынцып вытрымліваўся на працягу стагоддзяў. Крэва было ў спісе такіх пасяленняў. Нашчадкі тых татар і сёння жывуць у мястэчку, славяцца як выдатныя гарбары.

Па спадчыне Крэва перайшло сыну Альгерда, вялікаму князю Ягайле, князю Віцебскаму і Крэўскаму, у

праваслаўнай традыцыі вядомаму пад імем Якуба Андрэевіча. Пасля смерці Альгерда ў 1377 г. правы на трон падзялілі ўжо дзядзька і пляменнік. Але горды сівы Кейстут не мог змірыцца з тым, што ўладу прыходзілася дзяліць з маладым Ягайлам, які ў сваю чаргу сам імкнуўся да самаўладдзя. У 1381 г. Кейстуту ўдалося пазбавіць улады свайго пляменніка. І зноў Крэўскі замак быў звязаны з лёсам дзяржавы — умацаванні яго былі вельмі надзейнымі і таму Ягайла, як і некалі яго бацька, схаваўся за замкавымі мурамі. Вось тут ў гульню ўступіла так званая «крыжацкая карта» — паступова, не адразу, а на працягу дзесяцігоддзяў крыжакі сталі не проста вонкавай варожай сілай, а ўжо імкнуліся ўплываць на ўнутраную палітыку Вялікага княства, прымалі непасрэдны ўдзел у барацьбе за трон. У 1382 г. яны дапамаглі Ягайле, які ўцёк да іх, перамагчы Кейстута: князь Трокаў і Жмудзі, апошні абаронца паганскай Літвы быў схоплены. У Супрасльскім летапісе аб гэтым



Удушэнне Кейстута

сказана так: «Князя великого Кестутия... оковав ко Криеву послали и всадили во вежю... И там во Криеве пятои нощи князя великого Кестутия удавили коморники князя великого Ягайлавы» [15]. Удавілі, як гавораць нам польскія крыніцы, залатым матузком ад ферязі [16] (урачыстае адзенне са стаячым каўнерам і вязаным матузком замест гузікаў).

Такі ж лёс рыхтавалі Вітаўту, сыну Кейстута, які «седель во Криеве за твердою сторожею в комьнате» [17]. Усведамленне нават не пагрозы свайму жыццю, а вострае адчуванне прыніжэння і залежнасці, штурхнулі Вітаўта да актыўных дзеянняў. Праз служанку сваёй жонкі ён уступіў у кантакт з сябрамі, якія і дапамаглі ажыццявіць дзёрскі план пабегу. Пераапрануўшыся па парадзе жонкі Ганны ў адзенне служанкі, Вітаўт перабраўся на сцены замка, на баявой галярэі дачакаўся цемры, спусціўся ўніз, перайшоў роў, а недалёка ад замка яго ўжо чакалі коні — і нясіце коні хутчэй, не разбіраючы дарогі, нясіце праз лясы і палі, нагадваючы ў імкненні вершніка і каня герб вашага ўладара — «Пагоню».

Лютыя ворагі, стрыечныя браты рыхтуюцца да смяротнай барацьбы. Далей усё набывае нечаканы паварот — да Ягайлы прыбываюць паслы з Кракава і прапануюць вялікаму князю стаць польскім каралём. 14 жніўня 1395 г. у сценах Крэўскага замка была заключана персанальная унія, у выніку якой на чале дзвюх дзяржаў станавіўся адзін чалавек. У апошні час, праўда, узніклі спрэчкі адносна самой гэтай падзеі. Сумненні ў аўтэнтычнасці крэўскага акта зыходзяць з боку літоўскай эміграцыі [18]. Але логіка падзей падказвае, што пагадненне, хутчэй за ўсё, адбылося. Гэты саюз быў выгадным абедзвюм дзяржавам і ўсім народам ўсходняй Еўропы, таму што дазваляў аб'яднаць сілы для сумеснага супрацьстаяння нямецкай агрэсіі, а таксама для развіцця вытворчых сіл, для ўстанаўлення трывалых гандлёвых сувязей. Заканамерным вынікам Крэўскага пагаднення стала Грунвальдская перамога 1410 г.

Стаўшы польскім каралём, Ягайла не захацеў пакідаць у сваіх тылах небяспечнага бунтарнага Вітаўта, якога да таго ж падтрымлівала пэўная частка феадалаў Беларусі і Літвы. Браты пайшлі на кампраміс — Вітаўт быў абвешчаны вялікім князем і застаўся кіраваць княствам, але намінальна вярхоўным уладаром з'яўляўся Ягайла.

Ну а што з Крэвам? Кароль аддае мястэчка з нава-

коллямі свайму «найлюбленнаму» брату Аляксандру-Вігунду [19]. У лютым 1387 г. Ягайла падпісвае грамату аб заснаванні сямі прыхадскіх касцёлаў у Віленскім дыяцэзе і надзяленні іх зямлёй. Сярод іх называецца і Крэўскі касцёл Ашмянскага дэканату [20]. Дэманстратыўна касцёл быў закладзены на руінах паганскага капішча, куды, як пісалі польскія даследчыкі, прыходзілі аддаваць даніну павагі Пяруну мясцовыя крывічы і балты [21].

Так атрымалася, што быць уладаром Крэва не такі ўжо і шчаслівы лёс, бо ў 1391 г. атручаны апошні крэўскі князь Вігунд [22]. Ён не пакінуў нашчадкаў. Крэўскі ўдзел ліквідуецца, Крэва ўваходзіць у склад Ашмянскага павету Віленскага ваяводства. Але Крэва, яго замак прыцягваюць уладароў падчас усобіц.

Смерць Вітаўта Вялікага ў 1430 г. парушыла раўнавагу палітычнай улады ў княстве. На трон выказалі прэтэнзіі сын Альгерда Свідрыгайла і сын Кейстута Жыгімонт. Свідрыгайла быў вельмі каларытнай асобай — усё жыццё імкнуўся да вялікакняскага трона, удзельнічаў у шматлікіх авантурах. Сам каталік, меў сацыяльную апору ў значнай часткі праваслаўнай шляхты. Імкнучыся здабыць Крэва, што нароўні з Віцебскам павінна было належыць яму па праву спадчыннасці ад Альгерда, у 1433 г. Свідрыгайла авалодаў мястэчкам: «И приде ко Креиву и стояша два дни взяша Креиво мурованны и сожже, а людей много посекоша и в полон поведоша» [23].

На працягу стагоддзяў Крэва заставалася ў некаторай ступені сімвалам дзяржаўнасці і манархі яшчэ неаднаразова звярталіся ў сваіх думках і дзеяннях да Крэва: Казімір IV (Ягелончык), уступаючы ў 1440 г. на трон, абнавіў касцёл, даў яму права збіраць дзесяціну [24].

І зноў каля муроў Крэва вырашаўся лёс вялікакняжацкага трона. Пасля 1445 г. адбылася змова князя Міхалышка і князей Валожынскіх. Задумвалі яны забіць вялікага князя Казіміра і ўзяць гаспадарства. Але атрады дзяржаўных войск адцяснілі мяцежнікаў да Крэва. І там тых князёў Валожынскіх пяць братоў злавілі, а астатніх людзей Міхайлышкавых пабілі, а «інных жывых поймалі і прывелі до велікого князя Казіміра до Трок і там же іх погубілі» [25].

Безумоўна, усё гэта адбілася на замку, узнікла неабходнасць яго ўзнавіць. У 1470 г. ён быў ужо ў добрым стане — названы адным з шасці мураваных замкаў Вялікага княства Літоўскага.

Пачатак XVI ст. адзначыўся трагічнымі для Крэва падзеямі: з 1503 па 1506 г. яго некалькі разоў бралі ў аблогу і значна пашкодзілі перакопскія татары. У такім гаротным стане і пабачыў пасяленне дыпламат Сігізмунд Герберштэйн, калі ў 1518 г. занатаваў: «Крэва — мястэчка з пакінутай крэпасцю». Усё ж замак быў адноўлены, таму што ў жніўні 1519 г. яго захапілі падчас глыбокага рэйду па Беларусі маскоўскія войскі. Тады ваяводы Васіля III дайшлі таксама да Ашмян і да Меднікаў.

У 1564 г. у Вялікім княстве знайшоў выратаванне ад дэспатызму Івана IV (Жахлівага) князь Андрэй Курбскі. Ад караля Жыгімонта Аўгуста ён атрымаў Ковельскі маёнтак (на Украіне) і староства Крэўскае ў Віленскім ваяводстве [26]. Трэба адзначыць, што гэтыя пажалаванні былі супрацьзаконнымі — іншаземцы па Статуту 1529 г. не маглі мець у Вялікім княстве землі і пасады, звязаныя з імі. Але ў перабежчыках-магнатах былі зацікаўлены ва ўсіх краінах і на парушэнне закона імкнуліся



Напад крымскіх татараў на мястэчка ў пачатку XVI ст.



Захоп замка маскоўскімі войскамі ў 1519 г.

не звяртаць увагу. Магчыма, у сценах Крэўскага замка нараджаліся радкі лістоў Курбскага Івану Жахліваму, дзе князь палемізіраваў з царом адносна самога прынцыпу арганізацыі дзяржаўнага ладу.

З пачаткам XVII ст. актывізаваўся рух гарадоў і мястэчак за свае вольнасці. Водгукам гэтых падзей з'яўляецца грамата Жыгімонта III, датаваная 9 жніўня 1601 г., Пінскаму і Крэўскаму старасце Ю. Валмінскаму, згодна з якою забаранялася прыгнятаць мяшчан і сялян Крэўскай воласці ў сувязі з іх скаргай [27]. Як далей разгортваліся падзеі, мы не ведаем. Аднак фактам застаецца тое, што ў XVII—XVIII стст. (да ўключэння ў склад Расійскай імперыі) Крэва карысталася магдэбургскім правам на самакіраванне. У замку знаходзілася таксама рэзідэнцыя крэўскіх стараст [28]. З моманту надання магдэбургскага права ў драўляных пабудовах замка мясцілася ратуша [29]. Даследчык геральдыкі Беларусі А. Цітоў лічыць, што Магдэбургія была нададзена (разам

з гербом і пячаткай) прывілеям у канцы XVII— першай палове XVIII ст.[30] А ў 1792 г., у цяжкі час напярэдадні другога падзелу Рэчы Паспалітай, самакіраванне было пацверджана[31]. Толькі нядаўна ўдалося расшукаць заяву канцлера Вялікага княства Александра Сапегі, датаваную 25 лютага 1795 г., за 241 дзень да канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай. У ёй апошні канцлер пацвярджае ўсе старажытныя правы і прывілеі места Крэва, спасылаючыся ў тым ліку і на Акт Магдэбургіі: «1559 року месяца красавіка 7 дня»[32]. У такім разе не выпадковы і скаргі 1601 г.— скардзіліся людзі свабодныя, якія разумелі, што іх крыўдзяць, парушаюць іх прывілеі. У пэўным сэнсе было загадкавым паходжанне амаль абавязковага спадарожніка Магдэбургіі — крэўскага герба. За герб мястэчка ўжываўся геральдычны знак «Леліва»: выява ў блакітным полі срэбнай шасціканцовай зоркі і залатога маладзіка, павернутага рогамі ўверх. У польскай рамантычнай традыцыі тлумачыцца, што гэты герб надавалі рыцару за перамогу над ворагам пры свеце зорак і месяца[33]. Гэта прыватны герб. Быў ён распаўсюджаны сярод шляхецкіх радоў наваколляў Крэва. Уважлівы аналіз гербоў сведчыць, што матыў лелівы актыўна выкарыстоўваўся ў гербах татар[34]. А калі мы ўзгадаем значную колькасць татарскага насельніцтва ў мястэчку, то стане зразумелым, чаму Крэва атрымала менавіта такі герб.

Але вернемся ў XVII ст. 1626 год — Гаштольд аднаўляе Крэўскі касцёл і павялічвае ягоны прыход[35]. А праз нейкіх там 18 гадоў надыходзяць жахлівыя часы, што ў польскай гістарыяграфіі атрымалі назву «Патоп». Карона Польская была акупавана шведскімі войскамі, Вялікае княства занялі маскоўцы. Падчас бясконцых вайсковых сутычак, рабаванняў і рэквізіцый, якія доўжыліся з 1654 па 1667 г., насельніцтва Беларусі скарацілася ўдвая, вымерлі мястэчкі і вёскі. Ашмянскі павет, куды ўваходзіла Крэва, згубіў 130066 чалавек — 53,2 працэнта ўсіх насельнікаў[36]. І невыпадкова, што менавіта ў гэты час былі тэзаўрыраваны (захаваны) манетныя скарбы ў Крэве. Два з іх, знойдзеныя на працягу 1884—1885 гг., складаліся з манет Рэчы Паспалітай і Шведскай Прыбалтыкі. Датуюцца яны сярэдзінай XVII ст., а пра адзін скарб можна дакладна сказаць, што захаваны ён у 1650 г.[37] Небяспека ўжо адчувалася, ўзрастала псіхічная напружанасць, і людзі імкнуліся загадзя ратаваць свае грошы. Крэўскія скарбы — своеасаблівы напамін аб тых жахлівых часах.

Пасля разбурэнняў 1654—1667 гг. аб Крэве амаль стагоддзе фактычна няма звестак — яшчэ адно сведчанне спусташэнняў. І толькі пад 1743 г. у гісторыю Крэва ўпісаны цікавы эпізод. Годам раней пачалі адліваць званы ў віленскай майстэрні Тамаша Апановіча (Гапановіча, Апанкевіча). Адзін з іх і быў устаноўлены ў Крэўскім касцёле[38]. Адбывалася падзея пры вялікай колькасці народу — гэта была значная падзея для ўсіх часоў.

У рэшце рэшт Крэва ў XVIII ст. здолела ўзняцца з папялішчаў, адрадзіцца як гандлёвае мястэчка. І шлях, што ішоў ад Смаргоні на поўдзень, называўся Крэўскім — пэўная прыкмета значнасці пасялення. Будуецца на гэтым шляху карчма, дзе былі шкляныя шыбы і ганак, каб відаць было карчму менавіта па шляху з Крэва. Аб гэтым сведчыць інвентар 24 чэрвеня 1788 г.[39]

На працягу XVIII ст. адбыліся і істотныя змены ў нацыянальным складзе мястэчка. Падчас мясарубкі сярэдзіны XVII ст. этнічнае беларускае бюргерства было там вынішчана. Утварыўшыйся вакуум пачало актыўна запаўняць яўрэйскае насельніцтва, якое на працягу XVIII—XIX стст. займалася рамяслом і гандлем.

Гаворачы пра Крэва, мы ведаем, што яно знаходзілася ў складзе Вялікага княства Літоўскага, але варта ўзгадаць яшчэ адну цікавую старонку з гісторыі мястэчка — выявы яго на сярэднявечных картах. З'яўленне пасялення на карце — гэта значная падзея, якая сведчыць не толькі аб памерах, але і аб палітычнай значнасці населенага пункта. Упершыню назва Крэва сустракаецца на карце Мікалая з Кузы у 1507 г., перапрацаванай Маркам Бэнэвентанам і Бернардам Вапоўскім (Рым)[40]. На гэтай карце Крэва знаходзіцца побач з ракой Віліяй, што сцякае з гор, асобна выдзелены пагоркавы і ледавіковы ландшафты. І ўсё-такі ёсць недакладнасці. Крэва намалявана на паўночным усходзе ад Вільні, тады як на самой справе яно на паўднёвым усходзе. Другі раз, магчыма, Крэва з'яўляецца на карце Паўночнай Еўропы Оласа Вялікага (Венецыя, 1539). Назва лацінізавана (Cineres). Але па ўсіх прыкметах — знаходжанне на ўсход ад Вільні (пазначэнне замка) сведчыць аб тым, што гэта сапраўды Крэва. І яшчэ каларытная дэталь. Каля мястэчка паказана сцэнка здабычы мёду дзікіх пчол. Міжволі ўзгадваецца мядзведзевая «акадэмія», што знаходзілася ў суседняй Смаргоні з XVII па пачатак XIX ст., якую заснаваў князь Радзівіл. У гэтых мясцінах мядзведзяў лавілі і дрэсіравалі, пасля чаго іх развозілі па ўсяму краю.

У 1589 г. Крэва з'яўляецца на карце Мацея Струбіча (Кёльн). Карта была спецыялізаванай і адлюстроўвала тэатр вайны за Інфлянты (у рускай гістарыяграфіі — Лівонская вайна). Натуральна, што Крэва ў такім выпадку цікавіла менавіта як абарончы пункт на падыходзе да сталіцы Вялікага княства — Вільні. І сапраўды, значком указваецца месцазнаходжанне замка. Прысутнічае Крэва і на картах знакамітага картографа Герхарда Меркатара — на карце Вялікага княства Літоўскага 1595 г., выданай у Дуйсбурзе, і ў сумесным з Йодкасам Гондзіўсам Малым атласе (Амстэрдам, 1607 г.). На парыжскай карце «Ваяводств Віленскага і Троцкага» Ніколаса Сансона д'Аббевіля 1665 г. Крэва зноў значыцца замкам. Як сведчаць даследаванні, ён яшчэ ў XVIII ст. знаходзіўся ў адносна добрым стане [41]. Але пасля з'яўлення магутнай агнепальнай зброі, значнага змянення тактыкі вайны, Крэўскі замак ужо ніяк не мог выконваць свае ранейшыя функцыі. І на вельмі дасканалай карце Вялікага княства Яна Непрэцкі (Нюрнберг, 1749 г.) Крэва пазначана даволі проста — як мястэчка.

1795-ы лічыцца годам канчатковай ліквідацыі Рэчы Паспалітай, апошнія беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Крэва стала заштатным мястэчкам Ашмянскага павета Віленскай (у 1797—1801 гг. Літоўскай) губерніі. Непатрэбна была ўжо ратуша (у Расіі не існавала магдэбургскага права), і яна згарэла [42]. Сам замак перадаецца казённаму ведамству, і ў 1827 г. робяцца яго абмерныя малюнкі [43].

Але вобраз Крэва, паданні і рамантычны лёс пасялення не пераставалі хваляваць людзей, асабліва ў XIX ст., калі адбывалася канчатковае станаўленне гісторыі як навукі ў сённяшнім сэнсе слова. З другога боку прадстаўнікі народаў былой Рэчы Паспалітай, пазбаўленыя дзяржаўнасці, імкнуліся зразумець прычыны таго, што адбылося, знайсці свой шлях і перспектыву. У імкненні да гэтага іх позіркі часта звярталіся да мінулага, жадаючы адшукаць адказ там. У такіх умовах гісторыя набыла асобную значнасць. І даследчыкі вызначалі асобныя перыяды, месцы, дзе і калі вырашаўся лёс народа. Натуральна, Крэва заўжды было ў цэнтры ўвагі такіх пошукаў. Міхаіл Балінскі, так шмат напісаўшы пра Вялікае княства, прысвяціў яму асобную кніжку [44]. Аўтара найбольш цікавілі сам замак і старажытныя легенды, іншыя падзеі. Выявіў Міхаіл Балінскі і крэўскае гарадзішча. Ён выкарыстаў таксама легенду пра падземны

ход замка, якую раней успамінаў Рамуальд Зянькевіч [45]. Яўстафій Тышкевіч, напрыклад, лічыў, што для дапамогі ў будаўніцтве замкаў (у тым ліку і Крэўскага) запрашаліся заходнееўрапейскія майстры [46].

Адам Кіркор вывучаў старажытны шлях з Вільні на Заслаўе праз Крэва. Цікавіла вучонага і этнічная гісторыя мястэчка. Гняздом крывічоў называў яго пачынальнік беларускай навуковай археалогіі Зарыян Даленга-Хадакоўскі [47], якому шмат чым дапамог знакаміты граф Храптовіч [48]. Не абышоў увагай мястэчка і Тэадор Нарбут. Аўтар нататкаў пра Палессе К. Контрым, які нарадзіўся ў мястэчку Багданава Вілейскага павету, ставіў пад сваімі артыкуламі подпіс «Петр з-пад Крэва» [49]. У 1893 г. абмеры на замку зрабіў віленскі археолаг Ф. Пакроўскі.

Тым не менш мястэчка, пазбаўленае самакіравання і пэўнага дагляду ва ўмовах, калі Вільня ўжо не была сталіцай, стала заняпадаць. Дайшло да таго, што мясцовыя жыхары пачалі разбіраць замак для гаспадарчых патрэб. Аб Крэве ў XIX ст. як у польскім, так і ў расейскім друку пачалі пісаць: «В настоящее время бедное, еврейское местечко, расположенное на каменистой и безлесной почве» [50].

Нешта мы занадта драматызуем сітуацыю. Жыццё ж не можна спыніць. Працягвала развівацца і пашырацца ганчарнае рамясло ў Крэве з XIV ст.[51] І праваслаўную царкву Аляксандра Неўскага, што пабудавалі ў 1854 г.[52] (калі ўжо распачалася жорсткая палітыка русіфікацыі, у якой скарыстоўвалі і тагачасны інструмент дзяржаўнай машыны — Расейскую праваслаўную царкву), узвялі ўсё ж не ў зусім афіцыйным, псеўдарасейскім стылі, а больш у народным, скарыстаўшы пры гэтым мураўку з бутавага каменю — элемент вонкавай архаізацыі.

Жыло сярод мясцовых жыхароў і паэтычнае слова. У 1980 г. падчас фальклорнай экспедыцыі ў наваколлях Крэва было запісана некалькі вершаў, якія вельмі дакладна адпавядаюць тэксту твораў Францішка Багушэвіча [53], чалавека, што жыў і тварыў на Смаргоншчыне. Яшчэ ў канцы XIX ст. жыхары Крэва былі знаёмы з кніжкамі незабыўнага Францішка. Аўтар вершаў праз сто гадоў пазабыўся, крыху змяніўся тэкст твораў, але дух паэзіі Багушэвіча захаваўся, бо турбавала яна беларусаў і пасля ягонай смерці.

Спецыфічным у наваколлях Крэва было становішча



Княская вежа замка пасля кансервацыі (30-я гады XX ст.)

шляхты. У XIX ст. для дробнай шляхты на Ашмяншчыне і Смаргоншчыне не засталося месца, яна як бы «раствапылася» паміж буйнымі землеўладальнікамі і сялянамі [54]. Растлумачыць гэта можна тым, што за папярэднія стагоддзі ў сэрцы дзяржавы, каля сталіцы, імкнуліся пасяліцца многія, дай і было тут больш бяспечна, чым, скажам, на Мсціслаўшчыне.

А ўвогуле, на 1895 г. у Крэва налічвалася 2112 жыхароў, 249 двары, дзве праваслаўныя царквы, касцёл, багадзельня, школа [55]. План забудовы мястэчка 1869 г.[56] дае тагачасныя назвы вуліц, якія вельмі прывязаны да канкрэтнага аб'екта, альбо адпавядаюць пэўнаму напрамку: Замкавая, Барунская, Татарская, Зарэчная... Да таго ж XIX ст. пакінула нам некалькі выяў замка. Найбольш вядома гравюра Напалеона Орды, замалёўкі Б. Тамашэвіча.

Наступнае стагоддзе таксама не было спакойным для Крэва. Больш чым тры гады тут вяліся пазіцыйныя баі падчас першай сусветнай вайны. Само мястэчка было падзелена лініяй фронту. І зараз, шпацыруючы па крэўскіх наваколлях, натыкаешся альбо на паўразбураныя нямецкія доты, альбо на зарослыя рускія акопы. Менавіта тады замак быў страшэнна пашкоджаны артылерыйскімі абстрэламі.

Такім яго ўбачыў у 1929 г. Язэп Драздовіч, які і адлюстраваў падзеі ў сваёй творчасці, замаляваў руіны. Тут мастак больш адчуў, чым зразумеў тугое перапляценне лёсу замка і лёсу народа, сувязь у гісторыі колішніх замкаў. Пабудаваныя як заслона ад крыжацкіх навалаў, яны былі злучаны лёхамі: Крэва, Вільня, Меднікі. Потым у гэту фальклярызаваную сістэму былі ўключаны пазнейшыя замкі, напрыклад Гальшанскі.

У 20—30-х гг. Крэва знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы. У беларусаў, у тым ліку ў жыхароў мястэчка, не пыталіся, як яны жадаюць жыць. Карыстаючыся запазненнем працэсу нацыянальнай кансалідацыі беларусаў, Масква і Варшава вырашалі паміж сабой у цяжкай спрэчцы прэтэнзіі на нашыя землі. І штучная мяжа, што з поўначы на поўдзень рассякла Беларусь, была глыбокай крывавай ранай на яе целе. Але трэба адзначыць, што калі на ўсход ад граніцы актыўна праводзілася калектывізацыя, вынішчалася магчымасць свабоднай працы і гандлю, то на захад ад мяжы існавала магчымасць прадпрымальніцтва, значная частка сялян валодала зямлёй. Характэрная рыса ўкладу тагачаснага заходне-

беларускага рэгіёну — шырокае распаўсюджанне ганчарных промыслаў. Уласная гаспадарка патрабавала вялікай колькасці посуду, а металічныя начынні былі дарагімі, шкляныя — нетрывалымі. У такіх умовах прадукцыя мясцовых ганчароў карысталася вялікім попытам, юрыдычныя жа аспекты ўласнай дзейнасці былі станоўча вырашаны.

Адным з цэнтраў ганчарства і было Крэва. Яшчэ ў 1912 г. у Вільні было створана «Таварыства дапамогі саматужніцкім промыслам і народнаму мастацтву». У 1924 г. яно наладзіла ў Крэве ганчарныя курсы [57], куды былі запрошаны ганчары, каб азнаёміцца з разнастайнымі прыёмамі тэхналагічнай апрацоўкі керамікі — абпальваннем, глазураваннем, аздабленнем. Правядзенне падобных курсаў у пэўным сэнсе адзнака дасягненняў тутэйшых ганчароў. Крэўскі посуд у XX ст. рабілі на нажным коле, глазуравалі, часам скарыстоўваючы ў якасці аздаблення ангобную (з белай гліны) размалёўку ў выглядзе звычайных раслінных матываў. Выразныя рысы крэўскага посуду — добра вызначальны S-падобны профіль сценак, устойлівасць форм [58]. На 2-й Усерасій-




Фрагмент карты Паўночнай Еўропы Оласа Вялікага (Венецыя, 1939)

скай саматужніцкай выстаўцы 1913 г. у Пецярбурзе сярод іншых майстроў быў узнагароджаны таксама Міхаіл Пазнанскі з Крэва, які прадставіў збаночкі, міскі, слоікі, імбрычкі і нейкую адмысловую фантазійную бутэльку [59]. Пасля 1939 г. у ганчарных цэнтрах Заходняй Беларусі былі створаны арцелі, якія ў 1950-я гады адна за другой спынілі сваю дзейнасць — шырокае пранікненне таннага посуду з іншых матэрыялаў і абмежаванні юрыдычна-ўласніцкага плана разбуральна паўплывалі на ганчарства. На неданішчаных рэштах у Крэве стварылі цэх Астравецкага камбіната будаўнічых матэрыялаў, які выпускае амаль толькі вазонікі метадам штампоўкі. Але зацікаўленаму чалавеку рабочыя гэтага цэха і зараз могуць падараваць збанок тыпова крэўскай формы.

Трыццатыя гады пакінулі нам таксама будынак вялікага драўлянага касцёла. Ён быў асвечаны ў 1937 г. і ўяўляў сабой вельмі цікавую з архітэктурнага погляду пабудову. Ужо нібыта адышоў мадэрн з ягонай выразнасцю экспрэсіўных ліній і плоскасцей, а шырокае распаўсюджанне атрымаў звышрацыянальны канструктывізм. Тым не менш свабоднае формаўтварэнне архітэктурных аб'ёмаў, багатая і разнастайная пластыка Крэўскага касцёла сведчаць аб тым, што гэта ўсё-такі мадэрн. Прычым шырока ўжыты рысы гістарычных стыляў:



Выгляд мястэчка з Княскай вежы (30-я гады XX ст.)

барока (агульная планіроўка і вырашэнне франтона) і рэнесанса (трактоўка вежаў) [60]. Нейдзе ў 1961 г. касцёл быў закрыты, зрублены вежы і нарошчаны другі паверх. І зараз, гледзячы на звычайны паралепіпед шпіталя, цяжка знайсці ў ім прыкметы былой бажніцы.

Асобная старонка гісторыі Крэва — часіны другой сусветнай вайны. Цяжкі ўспамін пакінулі аб сабе нацысты, што вынішчылі шмат насельніцтва. Але выразна быў бачны і польска-беларускі канфлікт. Добра ўзброеныя і арганізаваныя фарміраванні Арміі Краёвай з крэсовых палякаў падпарадкоўваліся лонданскаму эмігранцкаму ўраду. Сваёй арганізацыйна-тэрытарыяльнай пабудовай АК практычна цалкам адпавядала даваеннай сістэме польскай адміністрацыі. На нашай тэрыторыі дзейнічалі падраздзяленні чатырох акруг АК: Віленскай, Беластоцкай, Навагрудскай, Палескай. Найбольш магутнай лічылася Віленская, куды якраз і ўваходзіла Крэва. Сістэма закліку ў фарміраванні была наладжана вельмі сур'ёзна. За адмову прыйсці па павестцы местачкоўца альбо хутараніна чакаў растрэл. Пры гэтым спасылаліся на вераснёўскі 1939 г. загад аб усеагульнай мабілізацыі, які не быў адменены і, значыць, працягваў дзейнічаць [61]. Менавіта акаўцы набудавалі ў глухіх лясах Заходняй Беларусі трывалыя падземныя бункеры. У 1942—1943 гг., калі стаў зразумелым крах фашызму, акаўцы асноўную сваю ўвагу скіравалі на беларусаў і літоўцаў. У лістападзе 1943 г. пачалося татальнае вынішчэнне ў першую чаргу нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэтыя землі павінны былі стаць толькі польскімі. Знішчалі настаўнікаў, урачоў, святароў. Вось і ў Крэве акаўцы замардавалі протаіерэя Міхала Леўчына. «Жонка яго, Ларыса, настаўніца беларускай пачатковай школкі ў Крэве... замардавана» [62]. Як дзіка гэта адбывалася, сведчыць гібель праваслаўнага святара парафіі Турэйскай Шчучынскага павета Івана Аляхновіча разам з ягонай жонкай за дзейнасць беларускую. Польскія партызаны адсеклі ім вушы, насы, выкалалі вочы, жонцы святара адсеклі грудзі, а раны залілі бензінам і падпалілі, «паглядаючы, як яны паміралі ў пакутах». А іераманаха Лукаша з манастыра Жыровіцкага закапалі жывым у зямлю да галавы, вакол галавы расклалі вогнішча і падпалілі [63].

* * *

І зараз Крэва ў асноўным захавала старажытную планіроўку. Як і раней, асноўныя вуліцы мястэчка

сыходзяцца на цэнтральным пляцу, дзе раней актыўна гандлявалі і адбываліся важныя грамадскія падзеі. Але амаль не захавалася старых жыллёвых і гаспадарчых пабудоў, а з сучасных не шмат якія выглядаюць рэспектабельна. А ў цэнтры мястэчка высіцца паўзруйнаваны замак, штогод на галоўнай вежы якога выводзіць дзяцей пара буслоў. Яны не пакідаюць сваёй Радзімы, і хочацца, каб мы не забывалі пра Крэва, каб яно не адстала ад нашага часу і туды прыйшлі б эфектыўныя эканамічныя адносіны, а вуліцы былі б добраўпарадкаваны. Хочацца верыць, што замак будзе закансерваваны і пазбаўлены ад пагрозы знішчэння, а ў будучым і рэстаўрыраваны.

[1] *Жучкевич В. А.* Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 182.

[2] Wielka encyklopedya powszechna illustrowana. Serja 1. T. 41—42. Warszawa, 1908. S. 238.

[3] *Ермаловіч М.* Пра назву вёскі Крэва // ПГКБ. 1989. № 1. С. 20.

[4] *Седов В. В.* Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982. С. 158.

[5] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С. 328.

[6] *Ермаловіч М. І.* Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989. С. 32—33.

[7] Карта растительности Белорусской ССР. Мн., 1977.

[8] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych Krajów slowiánskich. T. 4. Warszawa, 1883. S. 666.

[9] *Ткачев М. А., Трусов О. А.* Исторические и архитектурно-археологические исследования Кревского замка // Вопросы архитектуры Литовской ССР. 9(1). История архитектуры. 1988. С. 19.

[10] *Супрун В. Р.* Старажытнае Крэва // ПГКБ. 1982. № 4. С. 37.

[11] *Каханоўскі Г.* Крэўскі замак // ЛіМ. 1969. 20 мая.

[12] *Зайкоўскі Э.* Красамоўнасць пракаветнага. Сакральныя вытокі герба Пагоня // Мастацтва Беларусі. 1990. № 10. С. 71—72.

[13] Хроника Литовская и Жемойтская // ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 41.

[14] *Tyszkewicz J.* Tatarzy na Litwe i w Polsce. Warszawa, 1989. S. 146.

[15] Супрасльская летопись // ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 63.

[16] Słownik geograficzny. S. 667.

[17] Супрасльская летопись. С. 63.

[18] *Kosman M.* W. Krewie pzred 600 laty // Czerwony standar. 1988. S 14.

[19] Słownik geograficzny. S. 667.

[20] Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии. Конец XIV в.—1648 г. Т. 1. Мн., 1988. С. 15.

[21] *Suryn F.* Listy z podrozy po Kraju // Tygodnik illustrowany. Ser. 3. Warszawa, 1878. S. 170—171.

[22] Энциклопедический словарь Ф. А. Брокгауза и И. А. Ефрона. Т. 16а. СПб., 1895. С. 611.

[23] Супрасльская летопись. С. 57.

[24] Słownik geograficzny. S. 668.

[25] Хроника Быховца // ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 159.

[26] Жизнь князя Андрея Михайловича Курбского в Литве и на Волыни. Киев, 1849. Т. I. С. IV.

[27] Социально-политическая борьба... С. 157—158.
[28] *Lorentz S.* Wycieczki po województwie Wileńskim. Wilno, 1937. S. 40.
[29] *Корева А.* Развалины Кревского замка // Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Ч. 2. Вильно, 1861. С. 60.
[30] *Цітоў А.* Візітная картка // Чырвоная змена. 1989. 13 мая.
[31] *Цітоў А.* Гарадская геральдыка Беларусі. Мн., 1989. С. 129.
[32] ЦДГА ў Мінску, ф. 1776, воп. 1, спр. 9, арк. 1 абарот.
[33] *Derwich M.* Herby, legendy, dawne mity. Wrocław, 1989. S. 143.
[34] *Borawski P.* Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986. S. 171.
[35] *Suryn F.* Listy z podrozy... S. 171.
[36] *Шаблюк В.* Па-новаму ўбачыць сваё мінулае // Навіны Беларускай акадэміі. 1990. 5 окт.
[37] Гродно. Энциклопедический справочник. Мн., 1989. С. 276.
[38] *Мілінкевіч А.* З гісторыі званоў // ПГКБ. 1988. № 4. С. 23.
[39] ЦДГА Літоўскай рэспублікі. Ф. 525, воп. 8, спр. 1201, арк. 1—22.
[40] *Alexandrowicz St.* Rozwój kartografii Wielkiego księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. Poznań, 1989. S. 33, 36. Мара 3.
[41] *Ткачев М. А.* Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 45.
[42] *Корева А.* Развалины Кревского замка. С. 60.
[43] Lietuvos pilys. Vilnius, 1971. S. 17.
[44] *Baliński M.* Krewo, starozytny zamek w Litwe. Warszawa, 1842—1843.
[45] *Каханоўскі Г. А.* Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984. С. 44.
[46] Тамсама. С. 49.
[47] Тамсама. С. 33.
[48] Тамсама. С. 34.
[49] Тамсама. С. 100.
[50] *Корева А.* Развалины Кревского замка... С. 59.
[51] Крэўская кераміка // ЭЛІМБел. Т. 3. Мн., 1986. С. 145.
[52] Збор помнікаў... Гродзенская вобласць. С. 329.
[53] *Тарасюк Л.* У памяці народнай // ЛіМ. 1990. 23 сак.
[54] *Мальдзіс А.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982. С. 131.
[55] Энциклопедический словарь... С. 611.
[56] Знаходзіцца ў экспазіцыі музея Крэўскай сярэдней школы.
[57] *Сахута Я. М.* Беларуская народная кераміка. Мн., 1987. С. 19.
[58] Крэўская кераміка. С. 145.
[59] *Сахута Я. М.* Беларуская народная кераміка. С. 17.
[60] Аўтар выказвае падзяку А. Трусаву за магчымасць карыстацца фотаздымкамі.
[61] *Крапивин С.* В ожидании «чуда на Немане» // Советская Белоруссия. 1990. 30 окт.
[62] *Кадлубоўскі І.* Дзеля гістарычнай праўды // Ніва. 1990. 4 лют.
[63] *Mackiewicz J.* Nie treba głosno mówić. Paris, 1969. S. 270.

*Валянцін Грыцкевіч*

## ПЕРААДОЛЕЦЬ ІНЕРЦЫЮ СТЫЛЮ

Узяцца за гэты артыкул мяне прымусіў допіс «Абэцэдаршчына» Сямёна Аляксандравіча Падокшына ў «ЛіМе» (за 8 чэрвеня 1990 года). Цікавы сацыялагічны аналіз уплыву татальнай ідэалагізацыі грамадства на гуманітарныя навукі зроблены ім на прыкладзе постаці аднаго з найбольш вядомых прадстаўнікоў гістарычнай навукі Беларусі мінулых дзесяцігоддзяў Лаўрэна Сямёнавіча Абэцэдарскага.

Праўда, у мяне ўзнікла і запытанне: ці варта ўвекавечваць аднаго, хай сабе і выдатнага ў сваім родзе, чалавека? Не завём жа мы тое, што адбывалася з літаратураю ў 30-я гады, «бэндаўшчынаю», а падобныя ж кампаніі ў фалькларыстыцы «гутараўшчынай»? Ці варта ўвекапомніваць «герастратаву славу», пра якую мімаходзь успамінае С. Падокшын? Здаецца, лепей памятаць такія фігуры, як Ул. Пічэта ці М. Улашчык. Але паколькі мой папярэднік па тэме ўжывае тэрмін «абэцэдаршчына», будзем ужываць яго і мы.

Дазволю сабе выказаць некаторыя меркаванні наконт метадычнага характару і паходжання асноўных канцэпцый Л. Абэцэдарскага. У заслугу гэтаму даследчыку, несумненна, можна залічыць тое, што ён адным з першых надрукаваў звесткі пра перасяленні беларусаў у Маскву, менавіта ў Мяшчанскую слабаду, і ў Замаскоўны край у другой палове XVII ст. Тут трэба адзначыць, што папярэднікам Л. Абэцэдарскага па гэтай тэме быў маскоўскі гісторык, член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР С. К. Багаяўленскі. Ён яшчэ да 1910 г. пачаў працаваць над крыніцамі па гісторыі гэтай слабады, даказваючы беларускі склад яе насельніцтва. У 1921 г. С. Багаяўленскі зрабіў даклад аб слабадзе і планаваў скончыць напісанне гісторыі слабады да 1950 г.

Выдаць сваю працу вучоны не паспеў, бо памёр у 1947 г. Ягоную працу пра Мяшчанскую слабаду надрукавалі толькі ў 1980 г. па рукапісе, які захоўваецца ў ягоным фондзе (№ 553) у Архіве Акадэміі навук СССР у Маскве. (*Богоявленский С. К.* Научное наследие. М., 1980. С. 9—170).

Тлумачыў Л. Абэцэдарскі перасяленні беларусаў у Маскву па-свойму, без належных падстаў пераносіў з'яву масавай добраахвотнасці, тыповай для перасялення ўкраінцаў у тым жа XVII ст. у Слабодскую Украіну, на пера-

сяленні беларусаў у Маскву і Замаскоўе. Не звяртаў увагі на шматлікія крыніцы, што сведчылі пра гвалтоўны характар перасяленняў беларусаў у ходзе заваёвы Беларусі царскім войскам у вайне 1654—1667 гг. Затое адным з першых А. Абэцэдарскі звярнуў увагу на значны ўплыў беларускага элемента ў развіцці культуры Масквы другой паловы XVII ст. Таксама ён адзначыў неправамернасць залічвання казацкіх рабункаў і гвалтаў у беларускіх гарадах на рубяжы XVI—XVII стст. у склад антыфеадальнай барацьбы народных мас.

Згодна з традыцыйным накірункам савецкай гістарычнай навукі Л. Абэцэдарскі вывучаў пытанні антыфеадальнай барацьбы народных мас Беларусі ў XVII ст., асабліва ж іх паўстанні ў сярэдзіне XVII ст. Але ён вылучаў у якасці адной са значных прычын гэтай барацьбы імкненне беларускіх сялян трапіць пад уладу рускіх цароў. Гэта ён падмацоўваў часцей за ўсё крыніцамі, што паходзяць ад зацікаўленых у гэтай версіі расійскіх афіцыйных устаноў. Вучоны амаль не падвяргаў крыніцазнаўчаму аналізу ані іх, ані паралельныя па змесце, але паходзячыя ад іншых аўтараў крыніцы, якімі ўвогуле не карыстаўся.

Л. Абэцэдарскі перабольшваў адзінства насельніцтва сучаснай Беларусі і іншых усходніх славян. Ён адмаўляў балцкі элемент у этнагенезе беларусаў і беларускі элемент у кіраванні Вялікім княствам Літоўскім, прагрэсіўную ролю магдэбургскага права ў гарадах нашага краю, станоўчы для свайго часу характар Статутаў Вялікага княства Літоўскага, перабольшваў памеры масавых супраціваў увядзенню ў краі царкоўнай уніі, неяк не заўважыў уздым культуры Беларусі ў XVII ст. Шчыра кажучы, вучоны не бачыў уплыў беларускай культуры на развіццё агульнаеўрапейскага Адраджэння і Рэфармацыі. Гісторык лічыў прагрэсіўным прыяднанне Беларусі да Расійскай дзяржавы, якое называў у 1965 г. «злучэннем» (*Абецедарский Л. С.* Борьба белорусского народа за соединение с Россией (2-я пол. XVI—XVII в.). Автореферат докторской диссертации. Мн., 1965. С. 9—10), прычым даволі лагічна даказваў справядлівасць тэрміну «злучэнне», бо выраз «уз'яднанне» лічыў некрытычна перанятым савецкімі гісторыкамі з дваранскай гістарыяграфіі, якая спрабавала, па яго сцвярджэнні, атоесаміць вялікадзяржаўныя дамаганні царызму на Украіну і Беларусь. Разам з тым вучоны называў гэтае злучэнне Беларусі з Расіяй «уз'яднаннем» (гл. ягоныя ж працы: Борьба белорусского

народа за воссоединение Белоруссии с Россией в середине XVII века // Воссоединение Украины с Россией. М., 1954; Барацьба украінскага і беларускага народаў за ўз'яднанне з Расіяй у сярэдзіне XVII века. Мн., 1954; У святле неабвержных фактаў. Мн., 1969. С. 78—80).

Л. Абэцэдарскі перабольшваў вартасць гандлю ўсходнебеларускіх гарадоў з іхнімі непасрэднымі суседзямі, бездоказна лічыў, што павіннасці прыватнаўласніцкіх сялян не надта перабольшвалі павіннасці сялян вялікакняжацкіх маёнткаў, што сяляне ўсходняй часткі Беларусі мелі вышэйшыя магчымасці для гандлю за сялян астатняй Беларусі. Вучоны звычайна разглядаў асобныя факты крыніц, якія здаваліся карыснымі для ягоных канцэпцый, адмаўляў значэнне тых дакументаў, з разгляду якіх выцякала супраціўнае ягоным высновам. Ён ігнараваў спецыфіку некаторых відаў крыніц. Вось прыклад: пры выкарыстанні казанняў, палемічных, публіцыстычных крыніц вучоны не ўлічваў таго, што для гэтага віду дакументаў характэрныя прыёмы перабольшвання з мэтай уздзейнічання на эмоцыі слухачоў і чытачоў. Гісторык лічыў падобныя факты непасрэднымі сведчаннямі аб рэальным становішчы сялян Беларусі, хоць іншы раз выкарыстоўваў пры гэтым крыніцы не пра Беларусь, а, скажам, пра Польшчу ці Літву.

Вось яшчэ прыклад творчасці Л. С. Абэцэдарскага. Ён сцвярджаў, што сейм Рэчы Паспалітай у 1696 г. забараніў ужываць беларускую мову ў пастанове ўсеагульнай канфедэрацыі саслоўяў. Але ж калі разглядаць гэты дакумент, то бачна, што там гаворыцца зусім іншае,— што ў справаводстве Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага і Рускага «цяпер усе рашэнні павінны складацца на польскай мове», хоць далей у дакуменце сцвярджаецца, што «ўсе папярэднія акты, запісы, рашэнні і паказанні захоўваюць сваю моц» (Валюміна легум, выд. 2-е. Петэрсбург. 1860. Т. 5. С. 518). Члены ж калегій гарадскіх і земскіх судоў у XVII—XVIII стст. абавязкова мусілі ведаць, акрамя польскай, беларускую мову (Гісторыя БССР у пяці тамах. Мн., 1972. Т. 1. С. 390). Вядома, мусілі, бо інакш як ім разабрацца ў папярэдніх актах і запісах? Ды й увогуле, дзе тут забарона мовы?

Л. С. Абэцэдарскі быў у гістарычнай навуцы Беларускай ССР адным з найбольш яскравых прадстаўнікоў распаўсюджанага вульгарна-сацыялагічнага падыходу. Гэта вынікае з аднабаковага, механістычнага тлумачэння мінулага, дзялення яго на толькі «чорнае», ці толькі «белае», згодна маніхейскаму міфу. Такі падыход вынікае з сек-

танцка-нігілістычнага пункту гледжання класавасці і партыйнасці, з адмаўлення нацыянальнага пачатку ў развіцці гісторыі Беларусі, з разгляду яе толькі як дробнай, але звычайнай часткі Расіі.

Мне здаецца, што, засяроджваючы крытычны агонь на Л. С. Абэцэдарскім, мы робім тую ж самую памылку, якую незнарок робяць крытыкі Сталіна, якія за гэтай асобаю не надта бачаць карані сталіншчыны, таталітарызм наогул.

Па сутнасці, Л. Абэцэдарскі закамуфлявана адраджаў кансерватыўна-захаваўчыя палажэнні рускіх дарэвалюцыйных манархічных і клерыкальных гісторыкаў, пачынаючы з беларуса па паходжанні, пецярбургскага прафесара М. О. Каяловіча і ягоных пераемнікаў на правінцыяльным узроўні: П. З. Бранцава, П. М. Бацюшкава і інш. Затое незакамуфлявана Л. С. Абэцэдарскі развіваў некаторыя ідэі, якія ў 1930-я гады прапагандаваў В. К. Шчарбакоў — той самы аўтар знакамітай кнігі «Класавая барацьба і гістарычная навука Беларусі» (Мн., 1934), у якой на 106 старонках прыводзіліся доказы злачыннай, шкодніцкай дзейнасці і камуністычных, і некамуністычных гісторыкаў Беларусі, чым пацвярджаўся прысуд гэтым асобам.

Пераняў Л. С. Абэцэдарскі ў В. К. Шчарбакова не толькі стыль абвінавачванняў сваіх апанентаў, але і змянёную В. К. Шчарбаковым схему, што ішла ад М. О. Каяловіча. Па гэтай схеме дарэвалюцыйны погляд на так званую барацьбу праваслаўнага «рускага насельніцтва» Паўночна-Заходняга краю (гэта значыць, беларусаў) супраць гвалтоўнага іх акаталічвання з боку ксяндзоў і польскіх паноў (якіх на Беларусі не было, а былі апалячаныя беларускія паны) змяняўся поглядам барацьбы, але ўжо «працоўных мас» Беларусі супраць феадальнага ўціску.

Асноўная канцэпцыя Л. С. Абэцэдарскага — бачанне Беларусі як законнай спадчыны кіеўскіх князёў, а затым і расійскіх цароў ідзе не ад Шчарбакова, а ад больш агульнай прычыны для гістарычнай навукі ўсяго Савецкага Саюза. Менавіта ад веры ў месіянскую ролю Вялікаросіі, у вынясенні расійскага народа і яго гісторыі за рамкі тых заканамернасцяў, якія складаюць змест гістарычнага матэрыялізму.

Як магла з'явіцца такая вера ў наканаванасць прыяднання Беларусі да царскай Расіі ў былога інструктара Аршанскага камітэта камсамола, у якасці якога Л. С. Абэ-

цэдарскі працаваў да паступлення ва універсітэт. Вядома, што ў 20-я гады, калі ён вучыўся ў школе, у нашай гістарычнай навуцы панавалі марксісцкія погляды, перанятыя ад дарэвалюцыйных дэмакратаў (дастаткова толькі пачытаць Герцэна і Чарнышэўскага). Яны глядзелі і на захопы царызмам іншых краін і народаў, як на звычайны гвалт, а на Расійскую імперыю, як на турму народаў, у якой, як пісаў Шаўчэнка,

«ад малдаваніна да фіна
на ўсіх мовах ўсё маўчыць».

Цяжка нават паверыць, што такія погляды — натуральны працяг развіцця прагрэсіўнай грамадскай думкі не толькі Беларусі, але і ўсіх народаў былой імперыі — паступова пераўтвараліся ў зусім адваротнае пад уплывам развіцця таталітарызму, які не мог не пераняць у ідэалогіі царызму ягоных імперскіх традыцый. Пры гэтым мы выкарыстаем некаторыя трапныя назіранні украінскіх даследчыкаў Івана Дзюбы з яго працы «Інтэрнацыоналізм чи русификация» (1965 г.) і Міхайлы Брайчэўскага з яго твору «Приеднання чи вз'єднання? Критични нотатки з приводу однiеi концепцii» (1966 г.). Названыя працы толькі нядаўна пачалі друкаваць. Але адзначу, што за смеласць памянёныя даследчыкі адпакутавалі: Дзюбу прымусілі, як Галілея, публічна прызнаць свае погляды спрэчнымі з палітычнымі поглядамі рэжыму, працу Брайчэўскага таксама вышэйшыя колы ўлады асудзілі.

З канца 30-х гадоў у савецкай гістарычнай навуцы з'явілася тэндэнцыя разглядаць паняцці «Расія» і «расійскі народ» як нешта пазагістарычнае, незалежнае ад рэальных абставін.

Сацыяльна-гістарычная і сацыяльна-эканамічная мяжа між царскай Расіяй і Савецкім Саюзам паступова сціралася, а расійскі народ беспадстаўна атаясамлівалі з Расійскай феадальнай дзяржавай, якую дэмагагічна абвяшчалі «дзяржаваю расійскага народу». Яна, вядома, была дзяржаваю пануючых класаў, а палітыку ўвогуле і каланіяльную палітыку ў прыватнасці ў ёй ажыццяўляў расійскі царызм, а не народ. Ён якраз быў адным з найбольш прыгнечаных. Дзеячы феадальнай дзяржавы, якія забяспечвалі царызму захопы чужых зямель і панаванне над чужымі і сваімі народамі (дастаткова ўспомніць, як адзін з гэтых дзеячаў — Сувораў — адвозіў Пугачова з уральскіх стэпаў на судовае следства ў жалезнай клетцы, да якой быў прыкаваны непавінны да «мяцяжа» непаўналетні

сын Емельяна). А цары накшталт Івана IV і Пятра I былі ўзнесены да ўзроўню амаль што народных герояў. Іх апявалі, ім прысвячалі эпапеі, трагедыі, кінафільмы.

Дарэчы, аб кінафільмах, якія, як вядома, больш за эпапеі і трагедыі, адбіваюцца на фарміраванні масавай самасвядомасці народа. К. Сіманаў сведчыць, што Сталін (па сутнасці ён кіраваў адраджэннем імперскага мыслення ў Савецкім Саюзе) «нічога так не праграміраваў... 〈...〉... як будучыя кінафільмы, і праграма гэтая была звязана з сучаснымі палітычнымі задачамі, хоць фільмы амаль заўсёды былі гістарычнымі. (Дадам ад сябе, што гэта нельга лічыць выпадковым.— *В. Г.*) 〈...〉. Можна прасачыць па вылучаных для кіно фігурах: Аляксандр Неўскі, Сувораў, Кутузаў, Ушакоў, Нахімаў (Сіманаў забыўся дадаць сюды Багдана Хмяльніцкага, Пятра I і Івана IV.— *В. Г.*). Прычым паказальна, што ў разгар вайны пры стварэнні палкаводчаскіх ордэнаў Суворава, Кутузава, Ушакова і Нахімава на першае месца былі пастаўлены не тыя, хто болей застаўся ў народнай памяці — Кутузаў і Нахімаў, а тыя, хто «вёў вайну і атрымліваў бліскучыя перамогі на рубяжах і за рубяжамі Расіі» (К. Симонов. Глазами человека моего поколения. М., 1988. С. 189—190.).

Менавіта пры Сталіне, які ствараў наскрозь ілжывую культурную міфалогію, дом-музей, які існаваў у Кобрыне ў гонар кіраўніка «чырвоных» і апошняга кіраўніка Нацыянальнага ўрада ў вызваленчым паўстанні 1863—1864 гг. у Польшчы, Літве і на Беларусі, ураджэнца нашага краю Рамуальда Траўгута, якога царскія ўлады павесілі і імем якога ў 1944 г. была названа створаная на тэрыторыі Савецкага Саюза другая пасля касцюшкаўскай дывізія Войска Польскага,— вось гэты самы дом-музей Траўгута ў 1946 г. пераўтварылі ў музей Суворава, які не аднойчы тлуміў вызваленчы рух не толькі ў карэннай Польшчы, але і ў той самай Заходняй Беларусі, дзе стаіць Кобрын. Чаму? Менавіта ва ўзнагароду за тлумленне тут вызваленчага руху палкаводзец атрымаў ва ўладанне маёнтак Кобрынскі Ключ са шматлікімі беларускімі прыгоннымі. Нашчадкі прыгонных увекапомнілі свой прыгнёт стварэннем музея ў гонар свайго ўладальніка!

З эпізодаў тлумлення паўстання Тадэвуша Касцюшкі пачынаецца цікавы для нашага сюжэта кінафільм 1940 года «Сувораў», папраўляць сцэнарый якога дапамагаў Сталін (гл. яго ліст Бальшакову ад 9 ліпеня 1940 г. у арт.: Латышев А. Суворов: взгляд на полководца // Искусство кино. 1990. № 5. С. 4—5).

9. Зак. 5729.

У перапрацаваным па асабістаму ўказанню Сталіна кінасцэнарыі палкаводзец стаў больш пільным і жорсткім. Яму дакладваюць пра касцюшкаўскіх паўстанцаў (вядома ж, не толькі палякаў, але і беларусаў), якіх толькі што разбіла доблеснае сувораўскае войска:

«— Палонных — адзін эскадрон, астатнія не ўсцераглiся, прыйшлося трохі парубіць.

— І правільна, недасечаны лес зноў вырастае,— крычыць ён (Сувораў.— *В. Г.*) перад строем».

Коратка і выразна. Не ведаю, як чытач, а я тут бачу наканаванасць Катыні. Указанні кінасцэнарысту правадыр даваў у маі 1940 г. У тым жа годзе пачаліся расстрэлы ў тым зацішным кутку на мяжы Беларусі, уліваючыся ў агульную «музыку» па ўсёй краіне.

Гэты антыпольскі фільм быў не першым з шэрагу адабраных правадыром для паказу пасля вызваленчага паходу верасня 1939 г. на захад у межы «пачварнага дзецішча Вярсальскага дагавору», як акрэсліў В. Молатаў Польшчу на пасяджэнні Вярхоўнага Савета СССР 31 кастрычніка 1939 г. (гл.: СССР — Германія. 1939 г. // Документы и материалы о советско-германских отношениях с апреля по октябрь 1939 г. Вильнюс, 1989 г. Т. 1. С. 116). Дзеля таго, каб апраўдаць парушэнне падпісаных савецкім урадам дагавораў з Польшчай і гістарычна абаснаваць тагачасны савецка-нямецкі падзел Польшчы, былі выпушчаны фільмы «Мінін і Пажарскі» і «Багдан Хмяльніцкі». Але менавіта ў фільме «Сувораў» антыпольская пастава — толькі частка, але даволі выразная, агульнай антыеўрапейскай задумы. Бо сутнасць фільма ў тым, што вялікая руская армія на чале з геніяльным правадыром, толькі яна здольна ў кароткі тэрмін паставіць на калені мізэрныя еўрапейскія дзяржавы. Словам,

«И на вражьей земле мы врага разобьём...»

У фільме ўсхваляліся і пералічваліся перамогі Суворава нават па-за межамі Расіі. Ягоныя бліскучыя поспехі ў Альпах трактаваліся як праява лепшых рысаў нацыянальнага характару. Тое, што пры праглядзе фільма маглі ўзнікнуць пытанні, што баі за радзіму наўрад ці вядуцца ў Італіі ці Швейцарыі, не павінна было мучыць сапраўдных патрыётаў.

Карціна «Сувораў» з'явілася тады, калі былі ніцма павергнутыя Польшча, Фінляндыя, калі былі захопленыя тры Прыбалтыйскія рэспублікі, Бесарабія, а ў якасці кампенсацыі за «часовае карыстанне» апошняй прыхоплена

і Букавіна, якая ніколі не ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі. Вось так, напорыста і бястактна мы ўсхваляем захопы, ставячы перад сабою зусім не высакародную мэту.

«Сувораву» папярэднічаў кінафільм «Вялікі грамадзянін». Ягоны герой Шахаў, прататыпам якога быў Кіраў, марыў: «Эх, праз год дваццаць, пасля добрай вайны, выйсці ды глянуць на Савецкі Саюз — рэспублік так з трыццаці — сарака. Чорт яго ведае, як добра!» (Великий гражданин // Сборник материалов к кинофильму. Л., 1940. С. 74). Напомню, што Кіраў асабіста ўжо меў вопыт такой вайны: менавіта ён, мяркуючы па ўсяму (таму, што да рэвалюцыі працаваў на Каўказе), быў адным з арганізатараў «добраахвотнага» прыяднання трох Закаўказскіх рэспублік, з якімі ў РСФСР былі дагаворы... Да ўвекапомнення гэтага дзеяча ў ролі «прыяднацеля» Грузіі да РСФСР (насуперак мірнаму дагавору між імі, які падпісвалі не «паны», а «таварышы», якія нейкі час былі сябрамі адной і той жа сацыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі) прыклаў свае намаганні наш Эдуард Самуйлёнак у сваёй «Будучыні», якую мы вывучалі ў сярэдняй школе.

Фільм «Сувораў» абасноўваў гістарычную справядлівасць слоў Шахава, і не выпадкова дазваляльнае пасведчанне на паўторны яго паказ было выдадзена 14 лістапада 1968 г., калі нашы войскі зноў былі на чужой зямлі, а гэта зноў тлумачылася вышэйшымі інтарэсамі. (*Латышев С.* Суворов — взгляд на солдата // Искусство кино. 1990. № 5. С. 7—10.)

У маі 1941 г. Сталін раскрытыкаваў артыкул Ф. Энгельса «Внешняя политика русского царизма», надрукаваны ў 2-м выданні твораў (*Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. 2-е изд. Т. 22. — *В. Г.*) у сваім артыкуле «О статье Энгельса «Внешняя политика русского царизма» (Большевик, 1941. № 9. С. 1—5). Да таго часу правадыр прыяднаў да сябе тры незалежныя рэспублікі Прыбалтыкі, адабраў частку тэрыторый Польшчы, Румыніі і Фінляндыі і мусіў не толькі апраўдаць захопы, але і творча адкінуць некаторыя прынцыповыя тэзісы марксізму. Дадамо яшчэ, што да памянёных захопаў у еўрапейскіх краінах да 1945 г. далучыў яшчэ тэрыторыі цалкам усёй Тувы, частак Германіі, Чэхаславакіі і Японіі. Нельга назваць аніводнай краіны, якая б за другую сусветную вайну павялічыла сваю плошчу за кошт дзесяці краін, скасаваўшы самастойнасць чатырох з іх.

Погляды Сталіна не маглі не адбіцца на развіцці гістарычнай навукі Беларусі. У 1940 г. І. Ф. Лочмель

выпусціў кнігу «Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов» (М., 1940). У ёй да шчарбакоўскага варыянту старой каяловічаўскай схемы было дададзена нешто новае — спалучэнне класавай барацьбы працоўных мас Беларусі ў мінулым з нацыянальна-рэлігійнай барацьбой, пра якую пісалі манархічна-клерыкальныя гісторыкі да рэвалюцыі. Таму ў Лочмеля з'явіліся тэмы барацьбы народных мас супраць літоўска-польскага панавання, каталіцкай агрэсіі, Брэсцкай уніі. Пакт Рыбентропа — Молатава, які папярэднічаў артыкулу правадыра ўсіх народаў пра памылкі Энгельса, дадаў да папярэдняй канструкцыі Шчарбакова тэзіс пра тое, што Рэч Паспалітая, як і пасляверсальская Польшча, не мела права на існаванне і пра ўяўную прагрэсіўнасць яе падзелаў у канцы XVIII ст. Усё гэта рабілася для таго, каб апраўдаць легітымнасць вызваленчага паходу Чырвонай Арміі на захад ад Менска і Жытоміра. Палітычныя змяненні ў схеме Лочмеля выкарыстаны так: паколькі ў канцы XVIII ст., як і ў 1939 г., была ліквідавана ўлада польскіх паноў над беларускімі сялянамі, то і характар далучэння Беларусі ў 1772—1795 гг. да Расійскай імперыі быў абвешчаны прагрэсіўным.

Сталінская рэвізія поглядаў Энгельса, Маркса, Леніна на рэакцыйную ролю расійскага імперыялізму падштурхнула далейшую пераацэнку шэрагу падзей, звязаных з тэмай нацыянальна-вызваленчых рухаў супраць расійскага панавання. У 1950 г. былі рашуча перагледжаны адносіны да нацыянальна-вызваленчага руху паўночнакаўказскіх народаў пад кіраўніцтвам Шаміля ў сярэдзіне XIX ст., які пачалі трактаваць як рэакцыйны, інспіраваны Турцыяй і Вялікабрытаніяй. Застрэліўся азербайджанскі філосаф Г. Н. Гусейнаў, які за станоўчую ацэнку гэтага руху атрымаў сталінскую прэмію, яе адабралі. Адпаведна быў кваліфікаваны вызваленчы рух Кенісары Касімава ў Казахстане ў 1840-я гады, а гісторык Е. Б. Бекмаханаў за праўдзівае адлюстраванне падзей быў кінуты ў турму.

Кваліфікаваліся як рэакцыйныя паўстанні супраць імперскага прыгнету ў Андыжане ў 1898 г., у Сярэдняй Азіі і Казахстане ў 1916 г., апісаныя нават у школьных падручніках у 1930-я — пачатку 1940-х гг. Зараз у падручніках для гістарычных факультэтаў ВНУ яны ўвогуле не ўпамінаюцца (гл.: История СССР. XIX — нач. XX в. / Под ред. И. А. Федосова. 1-е изд. М., 1981; 2-е изд. 1987). Дарэчы, тут беларускі чытач можа знайсці даволі цікавую рэч. Паўстанне 1830 г., аказваецца, было толькі ў Польшчы

(у Беларусі і Літве яго проста не заўважалі!), а ў 1863 г. было таксама толькі польскае паўстанне, у якім загінулі «А. Пацебня, К. Каліноўскі і іншыя польскія, рускія, літоўскія дзеячы паўстання» (2-е выд. С. 206; 1-е выд. С. 174). Кіраўнікі «белага» крыла паўстанцаў, згодна з падручнікам, стаялі за інтэрвенцыю замежных краін супраць Расіі, жадалі ўзнавіць Польшчу ў межах 1772 г., якія ўключалі Літву, Беларусь і Правабярэжную Украіну. Паўстанцкія атрады былі ізаляваны ад сялянскага руху на Украіне, а часткова ў Літве і ў Польшчы. Пра Беларусь тут не сказана ані слова. Толькі ў іншым месцы гаворыцца, што «ўплыў польскага паўстання 1863 г. выклікаў масавы сялянскі рух у Літве, Беларусі і Правабярэжнай Украіне» (2-е выд. С. 162).

Паглядзіце, як мала тэксту і як шмат памылак ці замоўчванняў. Дастаткова адзначыць хоць бы тое, што, як вядома, Пацебня быў украінцам, а Каліноўскі — дзеячам беларускага вызваленчага руху. Але пра вызваленчы рух на Беларусі ў гэтым падручніку не сказана ані слова. Чаму — стане зразумелым з наступнай часткі нашага артыкула.

Яшчэ ў 1937 г. была прынята пастанова ўрадавай камісіі па конкурсе на лепшы падручнік гісторыі, які ствараўся не без ведама Сталіна. У пастанове гаварылася, што захоп часткі Украіны ў 1654 г. і Грузіі ў 1801 г. Расіяй быў «найменшым злом» для народаў гэтых краін. У 1951 г. у ходзе дыскусіі ў часопісе «Вопросы истории» гэтая пастанова яшчэ не была перагледжана, але захоп царызмам Паволжа, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя атрымаў новую дэфініцыю — як вялізнае дабро для іх народаў. Аднак і гэтая дыскусія падверглася разгромнай крытыцы за... патуранне мясцоваму нацыяналізму.

З таго часу ў савецкай гістарыяграфіі стала пануючай канцэпцыя, па якой нацыянальна-вызваленчыя рухі пачалі разглядацца, як з'ява безумоўна рэакцыйная, асабліва калі яны накіроўваліся супраць Расіі. Характэрна, што і дасюль у расійскамоўнай гістарыяграфіі захоўваецца такая канцэпцыя.

Пачалася серыя масавых святкаванняў 400-годдзя, 300-годдзя, 200-годдзя і г. д. так званых добраахвотных прыяднанняў народаў, што мелі шчасце жыць побач з вялікаросамі. Святкавалася нават 425-годдзе «добраахвотнага» прыяднання Казані, той самай, насельніцтва якой знішчыў Іван IV за адзінаццаць год да падобнага ж учынку з жыхарамі Полацка. Па-першае, не лічыліся з агуль-

навядомымі гістарычнымі крыніцамі, з традыцыямі рэвалюцыйнай думкі, з прынцыповымі дакументамі марксізму-ленінізму, у вернасці якому кляліся, хоць усё гэта сведчыць, што ніводнае з «добраахвотных прыяднанняў» (не кажучы аб тым, што «ўз'яднанняў» увогуле не было) ні па сутнасці, ні па форме не адпавядае сваёй назве.

Па-другое, ніводзін з заваяваных народаў не палепшыў у выніку прыяднання свайго эканамічнага становішча, а, наадварот, прыходзіў у заняпад.

Па-трэцяе, не можна прызнаць прагрэсіўнай з'яву, якая характарызуецца гвалтам, каланіялізмам, заняпадам грамадства і культуры пакораных этнасаў, бо яна павялічвае нацыянальную варожасць, а не дружбу, як бессаромна пачалі нас запэўніваць. У. І. Ленін пісаў пра прагрэсіўныя справы, якія калі-некалі робяць рэакцыйныя колы: «Не наша справа, не справа дэмакратаў (не кажучы ўжо пра сацыялістаў) дапамагаць Раманаву-Бобрынскаму-Пурышкевічу душыць Украіну і г. д. Бісмарк па-свойму рабіў прагрэсіўную справу, аб'ядноўваючы Германію, але добры ж бы быў той сацыяліст, які падтрымліваў бы яго!» (*Ленін В. И.* О национальной гордости великороссов // Полн. собр. соч. Т. 26. С. 109).

Дадамо, што Бісмарк аб'ядноўваў сваю краіну, а не прыядноўваў іншыя.

Нават калі дапусціць, што царская Расія не была дэспатам, што расійскі каланіялізм прыдумалі русафобы, трэба было б дзівіцца, каб такая хімера, як добраахвотныя прыяднанні, мела месца ў Расіі, каб асаблівым чынам вылучыць яе сярод іншых краін свету, якім падобная манна нябесная не выпадала. Што ж гэта тады, калі не вера ў месіянскую ролю Расіі?

Не ведаю, каго трэба дзякаваць, што на Беларусі не святкавалі датаў «добраахвотнага прыяднання» да Расійскай імперыі. Праўда, у 1972 г. менскае таварыства «Знание» выпусціла да 200-годдзя прыяднання Віцебшчыны і Магілёўшчыны ратапрынтную брашуру двух дактароў гістарычных навук, але ўсё ж гэта ніяк не параўнаць з тым накалам, які нібыта віхура пракаціўся па іншых рэспубліках — саюзных і аўтаномных, з нагоды «добраахвотных прыяднанняў». Сам на свае вочы бачыў разбураную бяседку і чуў, з якой гідлівасцю расказвала руская экскурсавод з Пяцігорска пра гэты «сімвал» ля дарогі ў Кабардзіна-Балкарыю, калі нашу турысцкую групу вязлі да падножжа Эльбруса.

Увогуле з 40-х гадоў у савецкай гістарычнай навуцы

пачалі фігурыраваць паняцці «неотъемлемости», «священных границ», «непобедимости русского оружия», «объединения вокруг русского начала», «старшего брата». Прытрымліваючыся такой пазіцыі, нашы гісторыкі выступалі ў ролі нашчадкаў царскіх афіцыйных колаў. Гэта давала магчымасць атоесамліваць СССР з колішняй Расійскай імперыяй, бо сам гістарычны працэс дзяліўся не па фармацыях, а з пункту гледжання міжнацыянальных узаемаадносін, хоць вядома, што марксізм кладзе ў аснову адносіны між класамі, а не між нацыямі. На гісторыю СССР гэта не распаўсюджвалася. Па сутнасці «Гісторыя СССР» у школах і ВНУ пачынаецца не са стварэння СССР, а з'яўляецца гісторыяй Расійскай дзяржавы, якая пераходзіць затым у Савецкі Саюз. А дзе нашы этнасы? Менавіта з іх складвалася магутная дзяржава.

Уся гэтая рэвізія марксісцка-ленінскіх поглядаў на мінулае дзеля апраўдання сталінскай палітыкі адбілася на становішчы беларускай гістарычнай навукі.

Амаль усё тое, пра што гаварылася, трапіла ў дакумент, які быў выдадзены, калі Л. С. Абэцэдарскі з'яўляўся аспірантам. Маю на ўвазе «Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР (частка першая)», складзеныя калектывам аўтараў на чале з Канстанцінам Іванавічам Шабуням. Яны былі надрукаваныя ў 8-м нумары часопіса «Большэвік Беларусі» (тады ён яшчэ друкаваўся на дзвюх мовах, а не на адной, толькі расійскай) (1948, с. 36—72). Значная частка «Тэзісаў» (с. 39—52) была прысвечана доўгаму феадальнаму перыяду, першыя тамы «Гісторыі Беларускай ССР» выдаваліся тройчы: у 1954, 1961 і 1972 гг. Выйшаў таксама падручнік па гісторыі БССР з удзелам і пад рэдакцыяй Л. С. Абэцэдарскага, які добра выкарыстаў прыгаданыя «Тэзісы» і развіў іх у тую сістэму, якая лепш за ўсё адлюстравана ў ягонай працы «У святле неабвержных фактаў» (Мн., 1969).

Трэба падкрэсліць, што складальнікі «Тэзісаў», па сутнасці, развівалі палажэнні памянёнай кнігі Лочмеля без уліку якіх-небудзь крыніц. На міфах, часцей за ўсё каяловічскага паходжання, трымаліся наступныя палажэнні «Тэзісаў»: разгляд Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы толькі літоўскіх феадалаў, захоп апошнімі беларускіх зямель, цяга беларусаў да ўз'яднання з Маскоўскай дзяржаваю, надаванне рэлігійнай барацьбе праваслаўнага насельніцтва супраць каталіцкай царквы нацыянальнага характару, разгляд Рэчы Паспалітай як польскай дзяржавы, а не як федэрацыі Польшчы і Вялі-

кага княства Літоўскага, усхваленне падзелаў Рэчы Паспалітай.

«Тэзісы» выйшлі пасля адпаведнай пастановы ЦК Кампартыі Украіны 1947 г., калі калектыў Інстытута гісторыі АН УССР быў беспадстаўна абвінавачаны ў буржуазным нацыяналізме, а гісторыя Украіны пачала пераглядацца ў патрэбным таталітарызму духу (гл.: Більшовик України. 1947. № 8. С. 1—10). Па сутнасці гэта быў «беларускі» варыянт украінскага пагрому гістарычнай навукі — дарэчы і ў нас, і ў паўднёвых суседзяў — не першы.

Л. С. Абэцэдарскі развіў палажэнні «Тэзісаў» пад рэдакцыяй К. Шабуні і падмацаваў іх канкрэтнымі прыкладамі. Ён паказаў сябе як прыхільнік унітарнай канцэпцыі аб'яднання ўсходнеславянскіх народаў вакол Масквы і Маскоўскай дзяржавы, якая па ягоных поглядах быццам будавалася на аснове ідэі гістарычнай наканаванасці стварэння Расійскай унітарнай імперыі. Ён праводзіў думку, нібыта і кіеўскія князі, і маскоўскія вялікія князі, і расійскія цары мелі легальныя правы на Беларусь. Вядома, калі лічыцца з крыніцамі, якія праходзілі ад памянёных валадароў, то некаторыя «правы» яны набывалі. Так, Уладзімір Манамах успамінаў пад канец жыцця: «И на ту осень идохом с черниговци и половци, с читеевичи, к Меньску: изъехахом город, и не оставихом у него ни челядина, ни скотины» (Повесть временных лет. М.; Л., 1950. Ч. 1. С. 160). Эстафету кіеўскага князя па выпальванню беларускіх гарадоў і вёсак перанялі на поўначы — дастаткова ўспомніць узяцце Полацка Іванам IV, «Трубяцкую разню» Мсціслава ў 1654 г., не кажучы пра тое, як у 1708 г. «Журнал» Пятра Вялікага паведамляў, што «перед неприятелем наша кавалерия по деревням провиант и на полях стоячий хлеб и строения всякие жгли для оголожения неприятеля, и чтоб не было оному пристанища» (Журнал или подённая записка императора Петра Великого. СПб., 1770. Ч. 1. С. 179).

Увогуле Л. С. Абэцэдарскі механічна пераносіў палітычныя палажэнні сучаснасці на мінулае. «Абэцэдаршчына» адмоўна адбілася на становішчы беларускай нацыянальнай самасвядомасці, бо ўкладвала ў галовы думку, што Беларусь — гэта дробная і абавязковая састаўная частка Расіі, што яе карэннае насельніцтва — «русічы» (як аднойчы пісаў у газеце «Літаратура і мастацтва» доктар філасофскіх навук В. Акулаў), якія быццам нічым не адрозніваюцца ад вялікаросаў, хіба што нібыта «перакручанай» рускай мовай. Стэрэатыпы сцвярджэнняў

Л. С. Абэцэдарскага трывала ўвайшлі ў гістарычную самасвядомасць беларусаў і паўтараюцца (хочацца верыць, не знарок) нават у тых аўтараў, якім цяжка прыпісаць прыхільнасць да канцэпцыі Л. С. Абэцэдарскага (напрыклад, калі яны іншы раз паўтараюць тэзіс аб уяўнай забароне беларускай мовы ў 1696 г.).

І дзіва што! Па каталогах Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе я налічыў, пачынаючы з 1960-х гг., дваццаць пяць выданняў на дзвюх мовах вучэбных дапаможнікаў для сярэдняй школы па гісторыі БССР пад аўтарствам Л. С. Абэцэдарскага і ягоных дзвюх супрацоўніц. Незапамінальная кніжка нябожчыка «У святле неабвержных фактаў» была аператыўна перакладзена і выдадзена ў вядомым выданні «Дары данайцев» у 1987 г. як зброя для барацьбы з непажаданым рухам за незалежнасць думкі і чалавечую годнасць.

Цікава, што больш за Л. С. Абэцэдарскага, як мне здаецца, ніхто не зрабіў для таго, каб пахіснуць сваю ж канцэпцыю. Аднабаковая доказальнасць ягоных пастулатаў, вульгарызатарскі стыль, які састарэў яшчэ да 1960-х гг., калі выйшла кніга «У святле неабвержаных фактаў», адразу кідаліся ў вочы чытачам. Не адзін чалавек казаў мне, што на перагляд догм нашай гістарычнай навукі яго падштурхнула менавіта гэтая праца Л. С. Абэцэдарскага.

І гэта не дзіва. Бо мы нават па сучасных гістарычных падзеях у краіне бачым, што працаўнікі той ці іншай ідэі ці пазіцыі часам больш робяць для яе сцвярджэння, чым яе прыхільнікі. Дагматыкі ад ідэалогіі разбураюць яе з большай эфектыўнасцю, чым дысідэнты і замежныя палітычныя апаненты. Як не ўспомніць, што ленінградскі суд над Іосіфам Бродскім наяўна паказаў два ўзроўні: сапраўднай паэзіі і стукача Лернера і ягонага хаўруса, што праследавалі чалавека, які потым атрымаў Нобелеўскую прэмію.

Але вернемся да Абэцэдарскага і ягонай тэорыі, ідэйны змест твораў якога праграміраваўся сістэмай таталітарызму. Уся незвычайнасць даследчыка не вызваляла яго ад рашучага ўціску часу, які, трэба падкрэсліць, мы толькі цяпер сталі разумець па-сапраўднаму. Што і казаць, гістарычна непаўторны па масавасці, жорсткасці і ціску рэжым, што панаваў у краіне, падпарадкаваў сабе і Л. С. Абэцэдарскага. Менавіта таму ён да меркаванняў апанентаў адносіўся нецярпіма, звычайна ігнараваў іх, у

прынцыпе выключаў магчымасць кампрамісу. Як не ўспомніць верш Пастарнака ў канцы аповесці В. Катаева «Ужо напісаны Вертэр»:

«Наверно вы не дрогнете,
Сметая человека.
Ну что ж, люди догмата,
Вы тоже жертвы века».

У рэшце рэшт «абэцэдаршчына» — інтэгральная частка таталітарызму, сістэмы, якая прадстаўляла дэспатызм як бацькоўскі клопат, а навуку пераўтварала ў тэатр абсурду. На жаль, нешта падобнае працягваецца і сёння, дзякуючы не самому Л. С. Абэцэдарскаму, а сістэме, якая выхавала такіх, як ён. Ці ж не драма гістарычнай навукі Беларусі ў тым, што ў ёй не распрацаваныя на мясцовым матэрыяле тэорыя і методыка крыніцазнаўства, што няма суцэльнага агляду навуковай спадчыны Беларусі, без чаго ніякая гістарычная навука краю ці народа не можа лічыцца цалкам сфарміраванай?

Калі я сказаў пра гэта на V Усесаюзнай канферэнцыі «Перабудова ў гістарычнай навуцы і праблемы крыніцазнаўства», што адбылася ў Кіеве ў 1990 г., дык былы дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР член-карэспандэнт АН БССР П. Ц. Петрыкаў стаў прыводзіць у абвяржэнне маёй думкі наступнае: у Беларусі выдадзеныя зборнікі крыніц пра рэўкамы і пра калектывізацыю (нібыта *АРХЕАГРАФІЧНАЯ* праца можа замяніць *ТЭОРЫЮ І МЕТОДЫКУ КРЫНІЦАЗНАЎСТВА*), а па гістарыяграфіі выдадзена праца Ул. М. Міхнюка «Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг.)» (Мн., 1985. С. 286).

Не станеш жа абвяргаць такія выступленні на Усесаюзнай канферэнцыі. Не скажаш жа, што агляд гістарычнай навукі за 22 гады на абмежаванай тэрыторыі, які зрабіў Ул. Міхнюк, не можа замяніць агульнага агляду ўсяе гістарычнай навукі Беларусі ды яшчэ таго, што зроблена за межамі пэўнай тэрыторыі. Не растлумачыш жа, што такі агляд можа «распрануць» канцэпцыі беларускай гістарычнай навукі 1940—1980-х гг., якая вывучала вялікі па працягласці перыяд і ішла ў рэчышчы поглядаў кансерватыўных гісторыкаў. Можа, менавіта таму гэтая гістарыяграфія так слаба распрацаваная ў нас? Можа, таму працы па тэорыі і методыцы крыніцазнаўства не распрацоўваліся ў Беларусі, што не дазвалялі ствараць штучныя канцэпцыі.

Не месца ж было там, на канферэнцыі, тлумачыць спе-

цыялістам, што ўпамянутая кніга Ул. Міхнюка накіравана на апраўданне таго, што адбывалася ў беларускай гістарычнай навуцы, пачынаючы з 1930-х гг., калі знішчаліся кадры, праследавалася прагрэсіўная думка. Выканаўцы загадаў таксама падвяргаліся рэпрэсіям, дзейнічаў прынцып: «Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа адысці». Словам, канцэпцыю гістарыяграфіі, якую напісаў Ул. Міхнюк, можна звесці да наступнага: «Пажар, які ашчасліўіў, павінен палаць, каб шчасце знарок не адляцела. Пажар быў правільны і ўсё гарэла верна».

Не будзеш жа тлумачыць, што праз усю кнігу Ул. Міхнюка праходзіць трактоўка разгляду гістарычнай навукі Беларусі ў складаныя 20—30-я гг. з пункту гледжання «Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)», што з кнігі можна даведацца аб тым, як у 1930—1932 гг. «большое влияние на совершенствование работы института (гісторыі АН БССР.— *В. Г.*), усиление его роли в идеологической деятельности партии оказало письмо И. В. Сталина в редакцию журнала «Пролетарская революция». Обсудив его, коллектив института наметил и осуществил ряд мер по дальнейшему улучшению исследовательской работы и прежде всего укреплению связи с практикой социалистического строительства. Были вскрыты политические ошибки отдельных сотрудников, разоблачены и выгнаны троцкистские оппозиционеры, разгромлены белорусские националисты, подвергнуты критике шовинистические схемы бундовцев» (*Мюхнюк В.* Становление... исторической науки советской Белоруссии. С. 76).

У іншым месцы Ул. Міхнюк адзначае, што «новый этап в деятельности Общества историков-марксистов Белоруссии связан с реализацией положений и выводов, содержащихся в письме И. В. Сталина «О некоторых вопросах истории большевизма» в редакцию журнала «Пролетарская революция» (*Михнюк В.* Указ. соч. С. 105). Тут упамінаецца той жа самы ліст Сталіна, што і ў папярэдняй цытаце. Далей у кнізе можна знайсці і такое: «Исключительно важную роль в разоблачении троцкистских версий (гісторыі партыі. — *В. Г.*) сыграло письмо И. В. Сталина в редакцию журнала «Пролетарская революция» (*Михнюк В.* Указ. соч. С. 112).

І ўсё гэта ставіцца ў заслугу гістарыяграфіі Беларусі ў той час, калі і ў часопісе «Вопросы истории КПСС», і ў іншых выданнях памянёны ліст Сталіна разглядаецца як паваротны пункт у гістарычнай навуцы ад больш-менш адкрытай дыскусіі да ўстанаўлення жорсткай дагматызацыі грамадскай думкі!

Увогуле з выказанага мной вышэй становіцца ясным, чаму сучасным пераемнікам былых схем не да спадобы складанне сапраўднай, а не штучнай гісторыі гістарычнай думкі Беларусі. Бо прыйдзецца асвятліць вытокі сучаснага яе становішча — а без гэтага не абысціся — і пісаць не пра адну гістарычную навуку ў Беларускай ССР, але і пра гістарычную навуку, якая стваралася па-за межамі БССР, і ў Заходняй Беларусі, і ў Маскве, і ў Вільні, і ў Коўна, і ў Польшчы, і сярод беларускай эміграцыі.

Зразумела, чакаць іншага, чым абарона кнігі Ул. Міхнюка ад яго сааўтара па кнізе: «Историческая наука Белорусской ССР, 80-е годы» (Мн., 1987. С. 120), я не мог, хоць менавіта на той канферэнцыі, дзе адбылася палеміка паміж мною і шаноўным П. Ц. Петрыкавым, на плянарным пасяджэнні акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН СССР І. З. Кавальчанка заклікаў удзельнікаў глыбока асэнсаваць крызіснае становішча гістарычнай навукі ў краіне. Аб гэтым гаварылася і ў ягоным выступленні на нарадзе гісторыкаў у ЦК КПСС 3 кастрычніка 1989 г. (надрукавана ў часопісе «Вопросы истории», 1990. № 1. С. 6—7).

Ці ж не драма для нашай гістарычнай навукі — тэма «Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага», якую, дарэчы, С. Падокшын не зусім дакладна ўпамінае ў сваёй «Абэцэдаршчыне». Мусіць, яго падвёў былы кіраўнік тэмы Я. М. Карпачоў, на прыватныя размовы з якім С. Падокшын спасылаецца.

Па-першае, дастатковыя аргументы для абгрунтавання свайго пункту гледжання наконт дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага апаненты Л. С. Абэцэдарскага на памянёнай С. Падокшыным дыскусіі 1966 г. усё-такі мелі і адстойвалі свае погляды надалей. Я маю іншыя крыніцы інфармацыі па гэтым пытанні, чым паважаны Сямён Аляксандравіч.

Па-другое, праблема дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага ў падрыхтаванай пад кіраўніцтвам Я. М. Карпачова працы вырашана не кампрамісна, а якраз у «абэцэдарскім» рэчышчы. Гэта можна лёгка даказаць, звярнуўшыся да аднаго з былых актыўных аўтараў тэмы Анатоля Пятровіча Грыцкевіча. Яго «выштурхнулі» не толькі з гэтай тэмы, але і з Інстытута гісторыі АН БССР — менавіта за антыабэцэдарскую паставу, супраць якой выступалі ўсе іншыя ўдзельнікі працы над тэмай, якія працавалі або працуюць зараз у сектары гісторыі феадалізма Інстытута. Крытыка ў адрас састарэлых поглядаў у працы сектара,

у тым ліку і на гісторыю Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага, што прагучала ў маім з сааўтарамі артыкуле «Неужели «запретная зона»?» (Советское славяноведение, 1988. № 3. С. 81—87) атрымала водгукі ў тым жа часопісе (*Думин С. В.* Об изучении истории Великого княжества Литовского // Тамсама. 1989. № 4. С. 107—108). Але з боку сектару рэакцыі не было.

Як назваць стварэнне Менскага гарадскога таварыства гісторыкаў па вясне 1989 года, як не працягам традыцый Л. С. Абэцэдарскага? У статуце таварыства, калі верыць словам члена яго праўлення Ул. Міхнюка, сярод мэтаў і задач таварыства называецца «крытыка ненавуковых інтэрпрэтацый і скажэнняў гістарычнай праўды» (Вяртанне да праўды // Чырвоная змена. 1989. 1 мая. С. 5). Але ж гэты пункт статута другі член праўлення таварыства П. Башко фармулюе крыху інакш: «Критика реакционных и националистических интерпретаций» гісторыі (Создано общество историков // Вечерний Минск. 1989. 11 марта). Усе іншыя палажэнні статута ў прыгаданых інтэрв'ю Ул. Міхнюка і П. Башко супадаюць, няцяжка зрабіць вывад, што і прыгаданы пункт статута аднолькавы і мае на ўвазе толькі тое, што сказалі абодва гісторыкі: адзін крыху прыкрыта, другі больш шчыра. Як разглядае Ул. Міхнюк «Ненавуковыя інтэрпрэтацыі і скажэнні гістарычнай праўды» і тое, што сказалі абодва гісторыкі, у ягоным уяўленні яны не адрозніваюцца ад «рэакцыйных і нацыяналістычных інтэрпрэтацый», вядома з вышэйпамянёнай ягонай манаграфіі, калі яе ўнікліва прачытаць. Памеры артыкула не дазваляюць мне прывесці прыклады гэтага.

Што б ні казалі тым супрацоўнікам манапалістычных замкаў гістарычнай навукі Беларускай ССР, хто не хоча ўлічваць патрабаванняў часу, яны пакуль што непаражальныя. Што б ні казалі звонку, унутры пакуль што ўсё ідзе, як і раней.

Так, «абэцэдаршчына» жывучая, бо менавіта дагматы, якія былі закладзены ў фундаменце партыйнай ідэалогіі, сфарміравалі вобраз мыслення і Л. С. Абэцэдарскага, і шматлікіх іншых нашых гісторыкаў, і працягваюць аказваць не тое што ўплыў, а ціск на грамадскую думку. Згодна гэтаму вобразу мыслення можна дзеля класавай маралі падвяргаць свае веды максімальнай ідэалагізацыі, палітызацыі, маніпуляванню звыш, інструменталізацыі. Можна падмяняць паняцці, не лічыцца з методыкай збору, адбору і аналізу крыніц, справы мінулага можна прывязваць да неадкладных заданняў недастаткова кампе-

тэнтных кіраўнікоў. Пры гэтым скоўвалася імкненне гісторыка мысліць свабодна і самастойна, выказваць свае меркаванні, праяўляць ініцыятыву без інструкцый звыш. З поля зроку даследчыкаў пры гэтым знікалі цэлыя комплексы табуяваных гістарычных праблем (скажам, вайсковая ці дыпламатычная гісторыя Беларусі), імёны тых людзей, якія выклікалі падазрэнне ў іх нязгодзе з рэжымам ці проста падвяргаліся рэпрэсіям — як мы ведаем зараз, беспадстаўным. А што да асабістай адказнасці кожнага гісторыка, то расплатай за яе адсутнасць можна лічыць сучаснае становішча беларускай гістарычнай навукі.

Зважаючы на тое, што я сказаў, мне здаецца памылковым спадзявацца, як гэта робіць С. А. Падокшын, што палітычнае кіраўніцтва ў сваіх ацэнках не будзе кіравацца на той ці іншы навуковы аўтарытэт. Бо ў выпадку Л. С. Абэцэдарскага, ды і ў іншых выпадках, скажам, пры абмеркаванні аднаго артыкула М. І. Ермаловіча ў «Звяздзе» гадоў два таму, калі думка толькі аднаго вучонага — пераемніка Л. С. Абэцэдарскага па кафедры ў БДУ і ягонага вучня А. П. Ігнаценкі палічылася «аўтарытэтным меркаваннем» у адрозненне ад іншых — не кіраўніцтва арыентуецца на аўтарытэт вучонага, а зусім наадварот: вучоны — на аўтарытэт кіраўніцтва. Інакш пры каманднa-пакаральным стылі праўлення не можа быць.

Добра разумею крыўду, якую выкажуць тыя мае калегі, якіх я вымушаны быў успомніць у маім артыкуле. На самой справе будаваць сваю навуковую працу на вывядзенні зыходзячых пасылак па канчатковаму выніку і раптам адчуць, што гэтыя вынікі іхняй працы будуць пераглядацца, што крытыка можа палічыць яе недастаткова дасканалай, часта патрэбнай толькі наверсе, без зваротнай сувязі з народам, не разлічваючы на попыт чытача на сваю творчасць — ці ж не крыўдна такое адчуваць? Навум Каржавін пісаў усё ж такі і пра такое:

«Правда конца — это тоже возможность начала...
Кто осознал пораженье — того не разбили...
Самое страшное — это инерция стиля».

Спадзяючыся на тое, што ў нас знойдуцца здаровыя сілы, якія пераадолеюць інэрцыю стылю, якія разумеюць, што крызіс беларускай гістарычнай навукі — гэта частка агульнай бяды беларускага народа, бяды амнезіі — страты памяці на багатую і шматкаляровую спадчыну, ад якой нас свядома адвучалі на працягу пакаленняў. Толькі адных адвучалі плёнка, а другія здолелі не паддацца

гэтаму масаваму гіпнозу. Ці не пара ўзяцца гуртам знаўляць нашу культурна-гістарычную спадчыну, не азіраючыся на тых ідалаў, што прымушалі яе губляць? У нас ёсць магчымасць працаваць і на сучаснікаў, і на чытачоў наступнага стагоддзя.

*Вячаслаў Чамярыцкі, Аляксандр Жлутка*

## ПЕРШАЯ ЗГАДКА ПРА БЕЛУЮ РУСЬ — XIII ст.!

Да апошняга часу лічылася, што самыя раннія згадкі пра Белую Русь упершыню сустракаюцца ў гістарычных крыніцах другой паловы XIV ст., польскіх і нямецкіх [1]. Дзе-нідзе гэтая назва мільгае ў дзелавых дакументах і гістарыяграфічных творах заходнееўрапейскага паходжання XV—XVI стст. [2] Аднак яшчэ сто гадоў таму вядомы славіст В. Ламанскі, разважаючы над сэнсам і гісторыяй паходжання назвы, прыйшоў да высновы, што «яна больш старажытная, чым эпоха Альгерда і нават Гедыміна, што яна існавала ў канцы і нават у сярэдзіне XIII ст.» [3] Словы даследчыка аказаліся прарочымі.

Адносна нядаўна, у 1979 г., у амерыканскім часопісе, прысвечаным даследаванню эпохі сярэднявечча,— «Speculum» (Люстра) была апублікавана невядомая крыніца па гісторыі і геаграфіі Еўропы XIII ст. Прыарытэт яе адкрыцця належыць амерыканскаму вучонаму М. Л. Колкеру [4]. Публікацыя ажыццёўлена ім паводле рукапісу XIII ст., які захоўваецца ў бібліятэцы англіканскага універсітэта (Trinity College) у Дубліне (Ірландыя). Гэты рукапіс малога фармату (158×113 мм) налічвае 406 лістоў і змяшчае разнастайныя сярэднявечныя творы на лацінскай мове: вершы, ананімныя пропаведзі, павучальна-дыдактычныя трактаты і інш., у тым ліку запавет св. Францыска, прароцтвы Іяхіма Флорскага. Кароткі летапіс, прысвечаны пераважна гісторыі Ірландыі і даведзены да 1274 г. уключна, М. Колкер датуе зборнік канцом XIII ст.

У пачатку Дублінскага рукапісу на старонках 3—5 змешчаны невялікі геаграфічны трактат пад назваю «Incipiunt descriptiones terrarum» — «Апісанне земляў». Як сведчаць яго заключныя словы, гэтае кароткае апісанне з'яўлялася своеасаблівым уступам да асноўнай працы пра татараў, якая або не была напісана, або не захавалася.

Хоць аўтар трактата вельмі бегла апісвае розныя еўрапейскія краіны і землі, толькі зрэдку спыняючыся на асобных дэталях, яго твор у цэлым — каштоўны дакумент часу, сведка геаграфічных уяўленняў добра дасведчанага еўрапейца другой паловы XIII ст. У гэтым помніку нямала цікавых звестак самага рознага характару. Унікальным, напрыклад, з'яўляецца паведамленне пра адкрыццё далёка за морам вялікага вострава, дзе з рачнога і марского пяску здабываюць золата і куды рэгулярна са Старога свету плаваюць людзі. Гэта яшчэ раз пераканаўча сведчыць пра тое, што Амерыка была адкрыта еўрапейцамі задоўга да Калумба.

Зразумела, найбольшую цікавасць выклікаюць змешчаныя ў Дублінскім рукапісе гістарычныя звесткі пра наш край і прылеглыя да яго землі. Яны асабліва каштоўныя яшчэ і тым, бо належаць не таму, хто, здалёку гледзячы на Усходнюю Еўропу, апавядаў пра яе паводле пераказаў, розных чутак і паданнях, а непасрэднаму сведку і удзельніку падзей свайго часу, хрысціянскаму місіянеру-падарожніку, які жыў і працаваў тут у сярэдзіне XIII ст. Ён прапаведваў сярод яцвягаў і літоўцаў, тады язычнікаў; і нават прысутнічаў на каранацыі князя Міндоўга. Праўда, на жаль, не пакінуў яе падрабязнага апісання, дзе і як усё адбывалася.

Аўтар трактату пакінуў таксама важныя звесткі аб месцазнаходжанні асобных земляў на тэрыторыі Прыбалтыкі. У прыватнасці, ён піша, што «сумежная з Руссю зямля Літва» ляжыць на ўсход ад Жамойці. Гэта пацвярджаецца і дадзенымі старажытнарускіх летапісаў.

Аднак, бадай, самае каштоўнае для беларускай гісторыі ў апублікаваным амерыканскім вучоным геаграфічным трактаце — сенсацыйнае паведамленне пра Белую Русь, на цэлае стагоддзе старэйшае за вядомыя дасюль звесткі. Апавядаючы пра норавы і звычкі карэлаў, аўтар піша: «Адзін з іх (місіянераў.— *В. Ч.*), слухаючы брата Вайслана, майго таварыша, які прапаведваў на Белай Русі (in Alba Ruscia), заклікаў таго ісці з ім да згаданых карэлаў». Геаграфічны кантэкст гэтага гістарычнага запісу (пералічваюцца сумежныя землі: Прусія, Яцвягія, Жамойць, Літва, Латгалія, Лівонія, Эстонія) дае падставы ўпэўнена зрабіць вывад, што пад Белай Руссю тут аўтар разумее суседнюю з прыбалтыйскім рэгіёнам частку Русі — Заходнюю Русь [5]. Такое геаграфічнае становішча займала тады ўсходнеславянская тэрыторыя прыблізна ад Пскова да Турава.

Якую канкрэтна яе частку ў дадзеным выпадку меў на ўвазе аўтар трактату, цяжка сказаць пэўна і дакладна. І ўсё ж, думаецца, гэта была, хутчэй за ўсё, менавіта сучасная Усходняя або Цэнтральная Беларусь, бо аўтар, прапаведуючы пераважна ў Яцвягіі і Літве, мог падтрымліваць цесную сувязь і сустракацца са сваім сябрам Вайсланам толькі пры ўмове, што апошні выконваў свой чын місіянера дзесьці зусім побач.

Калі ж быў напісаны гэты геаграфічны трактат? М. Колкер падае як найбольш праўдападобную, на яго думку, дату — 1255 г. К. Гурскі спыняецца на 1255—1260 гг. Думаецца, што «Апісанне земляў» магло ўзнікнуць і крыху пазней — у 60-я гг. XIII ст. Аўтар, хутчэй за ўсё, быў выхадцам з Заходняй Еўропы, бо ён ведаў пра адкрыццё новых астравоў, што ў Даніі жыве чалавек, які плаваў у Амерыку, дзе здабываюць золата. Рукапіс яго твора апынуўся аж у Ірландыі, дзе быў змешчаны ў адным зборніку з мясцовым летапісам і знаходзіўся там на працягу стагоддзяў. Аўтар, відаць, узяўся за пяро, каб грунтоўна апісаць Татарыю, шмат пабачыўшы і зведаўшы, ужо, напэўна, вярнуўшыся дамоў пасля сваёй працяглай хрысціянскай місіі ў Прыбалтыцы. Да яго маглі і не дайсці звесткі пра некаторыя гістарычныя падзеі пачатку 60-х гг. XIII ст.

І ці не сведчыць выраз «і гэта ж пакінуў ён (Міндоўг.— *В. Ч.*) і сваім нашчадкам», што трактат складаўся ўжо пасля смерці князя?

У заключэнне хочацца яшчэ раз адзначыць, што менавіта ў гэтым геаграфічным трактаце трэцяй чвэрці XIII ст., поўны тэкст якога падаецца ніжэй у перакладзе на беларускую мову,— самая ранняя згадка пра Белую Русь у дакладных гістарычных крыніцах. Падкрэсліваем гэта спецыяльна, бо ў навуковай і навукова-папулярнай літаратуры бытуе неабгрунтаваная думка, са спасылкай на В. Тацішчава, быццам бы назвы *Белая Русь, беларускі* ўпершыню згадваюцца нават у XII ст. [6] Аднак гісторыя В. Тацішчава гэта гістарыяграфічны твор XVIII ст. (!). Яго звесткі пра ўладзімірскіх князёў, якія быццам бы ў некаторых рукапісах называюцца беларускімі, узяты гэтым гісторыкам з больш позніх, хутчэй за ўсё XVII ст., летапісных кампіляцый.

У сапраўдных жа, добра вядомых гістарычных крыніцах XII — XV стст., пачынаючы ад «Аповесці мінулых гадоў», Радзівілаўскага, Лаўрэнцьеўскага, Іпацьеўскага і іншых аўтэнтычных летапісаў і дакументаў таго часу,

што складзены на ўсходнеславянскіх землях, нідзе не згадваецца Белая Русь. Няма гэтай назвы і ў агульнадзяржаўных беларуска-літоўскіх летапісах і хроніках XV—XVI стст. Дзіўна, але Белая Русь ні разу не згадваецца нават у такім паказальным помніку, як Баркулабаўскі летапіс, які складзены ва Усходняй Беларусі ў першай палове XVII ст.

Самая ж даўняя, дакладная гістарычная звестка пра Белую Русь у аўтэнтычным помніку ўсходнеславянскага паходжання сустракаецца ўпершыню ў грамаце Івана III да папы рымскага Сікста 1472 г., дзе маскоўскі князь называе сябе Ioannes dux Albae Russiae [7]. І ўжываецца тут гэтая назва ўжо ў сэнсе вольная, прававерная, вялікая, а не ў сэнсе заходняя, як гэта падаецца ў заходнееўрапейскіх крыніцах эпохі сярэднявечча. Тлумачэнне слова *Белая* ў апошнім значэнні падмацоўваецца і мовазнаўцаў [8].

Такім чынам, назвы *Беларусь, беларусы,* хоць і даўнія, аднак не мясцовага, не тутэйшага паходжання. Яны не мелі спачатку выразна этнічнага характару, мо таму так марудна тут прыжываліся і так позна замацаваліся ў народнай самасвядомасці. Гэта, аднак, не падвяргае сумненню старажытнасці і самабытнасці беларускага народа, яго мовы, гісторыі і культуры, а таксама не дае падставы ставіць пытанне аб замене гэтых, замацаваных ужо шматвяковай гістарычнай традыцыяй нашых нацыянальных назваў на іншыя, напрыклад, на Крывія — крывічы ці Літва — ліцвіны.

[1] *Ламанский В.* «Белая Русь» // Живая старина. Вып. 3. СПб., 1891. С. 245—250; БелСЭ. Т. 2. 1970. С. 274.

[2] *Begunow J. K.* «Weisse Rus» und Weissrussen in einer deutschen Chronik des 15. Jahrhunderts // Forschungen zur Osteuropäischen Geschichte. Bd. 27. Berlin, 1980. S. 299—305.

[3] Живая старина. Вып. 3. С. 245.

[4] *Colker M. L.* America rediscovered in the thirteenth century? // Speculum. A Journal of medieval studies. Vol. 54. N 4. 1979. Cambridge, Massachusetts. P. 712—726.

[5] Так тлумачыць гэтую назву і польскі даследчык К. Гурскі: *Gorski K.* Descriptiones terrarum. Nowo odkryte źródło do dziejów Prus w XIII wieku // Zapiski historyczne. 1981. T. 46. Zesz. 1. S. 10.

[6] *Юхо Я.* Пра назву «Беларусь» // Полымя. 1961. № 1. С. 175—182; Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988. С. 203; Этнаграфія Беларусі. Мн., 1989. С. 77.

[7] *Грушевський М. С.* Велика, Мала і Біла Русь // Український історичний журнал. 1991. № 1. С. 85.

[8] *Трубачев О. Н.* Ранние славянские этнонимы — свидетели миграции славян // Вопросы языкознания. 1974. № 6. С. 48—67.

(1) Дзеля таго, каб ведаць пра ўзнікненне, распаўсюджанне і звычаі таго племені, якое называецца татарамі (Tartari), неабходна адзначыць, што населеная зямля, як гэта падаецца ў розных гісторыях, падзяляецца на тры галоўныя часткі, якія засялілі пасля смерці бацькі сыны Ноя Сім, Хам і Яфет са сваімі нашчадкамі [1]. Азію занялі сыны Сіма. Яна пачынаецца ад вялікай ракі Яўфрат, на ўсходзе ж абмяжоўваецца акіянам. Афрыкай завалодалі сыны Хама. Яна, пачынаючыся ад правінцыі Сірыя і гораў Аман [2] і Ліван [3], на захадзе канчаецца пад зімнім сонцастаяннем. Еўропу, якая яшчэ называецца паўночным краем, займелі сыны Яфета.

(2) Яна ж пачынаецца ад Таўра [4] і Амана — гораў Сіліцыі (Silicie) [5] і Сірыі, цягнецца паміж усходам летняга сонцастаяння і паўночнымі краямі той самай часткі, дзе размешчана Манголія (Mongal) — зямля татараў, як гэта будзе тлумачыцца далей, і кіруецца да летняга захаду і пасхальнай (pascalis) часткі акіяна, змяшчаючы ў сабе заходнюю царкву.

(3) Гэтая ж самая частка, а менавіта Еўропа, паводле некаторых [аўтараў], падзяляецца яшчэ на дзве часткі, гэта значыць, на ўсходнюю і заходнюю царкву. Заходняя пачынаецца ад Італіі ўключна.

(4) На поўнач ад яе, за Венецкім морам [6] знаходзіцца суседняя зямля венграў. Яе насяляюць славяне (Sclaui), якія называліся гунамі. Пазней яе цэнтрам авалодалі, уварваўшыся туды, венгры. На ёй, мяркую я, быў Рымскі выган (Pascua Romanorum).

(5) Да Венгрыі (Hungarie) з паўночнага боку прымыкае частка ўсходняй Польшчы (Polonie), за якой размешчана Прусія (Pruscia), якая таксама на поўначы кранаецца Салодкага мора (Mare Dulce) [7]. Яе пачаў схіляць [у хрысціянства] богаўгодны муж Хрыстыян [8], першы біскуп гэтай зямлі з закону цыстэрцыяў без меча, а праз ласку хрышчэння.

(6) З захаду ад яе размешачана вялікая частка Польшчы, прыморская ад поўначы. Яна называецца Памераніяй.

(7) З усходу ж, у напрамку Русі (Russiam), да яе далучаецца Яцвягія (Jetwesya) [9]. Яе пачаў хрысціць я з таварышам. За Прусіяй, на поўнач ад гэтага ж народу, ляжыць Замбія (Zambia) [10]. Яна нібыта прыморская з паўночнага боку.

(8) Яе падпарадкаваў сваёй уладзе сам Прыміцый (Primicius), пяты кароль багемцаў (Boemorum) [11], які правіць і цяпер, адзначаны крыжам, з вялікім войскам хрысціян. Найзнатнейшага з гэтай зямлі ён, ахрысціўшы, назваў сваім імем у маёй прысутнасці ў першы год валадарства папы Аляксандра IV [12].

(9) Яны, гэтак як і прусы (Pruthenі), шанавалі асобныя лясы за багоў, вельмі верылі варажбе і нябожчыкаў спальвалі разам з коньмі, зброяй і лепшым адзеннем, бо думалі, што гэтым і ўсім іншым, што спальваецца, змогуць карыстацца ў наступным жыцці.

(10) Да Замбіі далучаецца Курляндыя, якая больш схіляецца да поўначы, аточаная морам з паўднёвага, а таксама з заходняга боку. А з усходняга краю размешчана зямля язычнікаў, якая называецца Жамойць (Samoita). Тут ніколі не прапаведвалася без меча.

(11) Таксама на ўсход ад яе ляжыць сумежная з Руссю (Ruscie) зямля Летавія (Lectauie) [13], першы кароль якой Міндоўг (Mendogus) быў хрышчаны і пры каранацыі прыняў сваё каралеўства ад рымскага прастолу пры маёй там бытнасці [14]. І гэта ж пакінуў ён і сваім нашчадкам, калі б толькі належным чынам дбалі пра справу такога роду.

(12) Згаданыя літоўцы (Lectaui), яцвягі (Ietuesi) і нальшаны (Nalsani) [15] лёгка паддаюцца хрышчэнню, бо ўзгадаваныя ад самай калыскі хрысціянскімі карміцелькамі, таму мы маглі дзейнічаць сярод іх больш бяспечна.

(13) За Курляндыяй ідзе Лівонія, на поўначы якой ёсць арцыбіскуп з 7 суфраганамі, з якіх чатыры знаходзяцца ў Прусіі, а тры — у Лівоніі. Яна атрымала пачатак свайго збавення дзякуючы купцам. Гнаныя непагодаю, яны павярнулі ў вялікую раку пад назваю Дзвіна (Duna), якая выцякае з межаў Русі, і пабачылі народ просты і бяззбройны. Абачліва і паступова купцы дамагліся ад іх дазволу на пабудову каменнай агароджы для невялікага двара на выспе ў гэтай рацэ, каб ваўкі альбо разбойнікі не патурбавалі ўначы іх саміх ці скаціну, якую яны прыдбалі тамсама. І, зрабіўшы цамент, пачалі ўзводзіць даволі моцны замак. Пабачыўшы гэта, [тубыльцы] пачалі змаўляцца: «Давайце дазволім гэтым людзям складаць камяні і пасля, калі яны скончаць справу, абвязаўшы моцнымі канатамі і ўпрэгшы шмат валоў і коней, у адзін момант усё зрынем на зямлю». Калі ж яны прыйшлі з гэтымі прыладамі і ўбачылі шмат сваіх

параненых стрэламі абаронцаў, то пасля нарады вырашылі ўчыніць з купцамі вечны мір. Вось такім чынам пачало тут пашырацца хрысціянства.

(14) Да гэтай зямлі прымыкае Эстонія (Hestonia), якая, схіляючыся больш да паўночы, ляжыць пад Арктурам. Яна таксама прыморская з паўднёвага боку. За ёй, з захаду, ідзе Біронія (Bironia) [16].

(15) Да яе затым прымыкае каралеўства Швецыя (Suecie) як з поўдня, так і з захаду, схіляючыся да поўначы і паўднёвага захаду. Непасрэдна за ёй ідзе каралеўства Нарвегія, якое цягнецца як на поўнач, так і да краёў паўночнай часткі захаду.

(16) У даўжыню і шырыню гэтага каралеўства нялёгка паверыць недасведчанаму чалавеку, хоць бы таму, што яго крайняя частка, якая прымыкае да краю поўначы летняга захаду з сярэдзіны траўня аж да канца ліпеня, не знае захаду сонца. Здаецца, што сонечны дыск у час летняга сонцастаяння, узняўшыся ў свой задыяк з паўночнай часткі акіянскіх водаў, прарабляе шлях сярод ночы на вышыні альпійскіх вяршыняў, альбо на адлегласці каля аднаго стадыя.

(17) У паўночнай частцы гэтай зямлі ёсць вельмі высокія горы, пакрытыя лясамі. У іх шмат белых, надта хуткіх аленяў, якіх лепш лавіць у пасткі, чым цкаваць сабакамі. На гэтай частцы зямлі зусім няма ядавітых паўзуноў. Даволі шмат тут кітоў (cetus). Гэта — род рыбы, якая ў час шторму ікламі, што вырастаюць у яе, чапляецца за скалы. Калі ж мора раптам адступае, то іклы пад цяжарам кіта вырываюцца.

(18) Гэтая краіна мае таксама два, вельмі аддаленыя на захад і поўнач астравы [17]. На іх людзі з-за недахопу дроў у маразы звычайна робяць вогнішча з пакрытых рыбіным тлушчам касцей розных рыб і жывёл. Звычайна там вельмі шмат буйнай рагатай жывёлы і авечак.

(19) Апрача таго, ёсць востраў, знойдзены ўжо ў наш час у паўночнай частцы згаданай зямлі [18]. На яго двойчы ў пяцігоддзе адпраўляюцца і вяртаюцца назад два караблі. Гэта вялікі востраў, на якім вельмі шмат людзей, але язычнікаў. З рачнога і марскога пяску ў вялікай колькасці [там] здабываецца найлепшае золата. Улетку гэтыя людзі не ведаюць начнога змроку, а зімою цалкам пазбаўленыя святла. Аднак пад Нараджэнне Гасподняе, як [кажа] той, хто быў там два гады, а цяпер жыве ў каралеўстве Даніі (Dacie), з поўначы дзівосным агнём палаюць паднябесныя зарніцы.

(20) На поўдзень ад згаданай Нарвегіі, як даведзена, ляжыць востраў Англія і Шатландыя (Scocia). Ірландыя (Hibernia) ж размешчана паміж поўднем і летнім захадам. З гэтага ж выразна бачна, якое становішча займаюць зямля святога Якуба Іспанія і Праванс (Prouincia), а таксама якім чынам нашая заходняя царква ўключае землі ля Міжземнага мора і вышэй названыя, разам з хрысціянскімі астравамі на моры.

(21) Усходняя ж царква пачынаецца ад Грэцыі альбо Сербіі (Seruia), што была названа так таму, што служыла Грэцыі. Яна з роду славянаў (Sclauorum). Уключаючы ў сябе Антэварыю (Anteuariam) [19], яна цягнецца праз Грэцыю і заканчваецца на ўсходзе ў вышэй названых гарах Сіліцыі і Сірыі.

(22) Праходзячы далей, яна з поўначы далучаецца да Балгарыі (Bulgarie), з паўночнага ж боку мяжуе з Руссю. Гэтыя дзве землі, а менавіта Сербія і Балгарыя, ад захаду сумежныя з Венгерскім каралеўствам.

(23) Прусія ж, судакранаючыся з часткаю Венгрыі, па той жа самай лініі поўначы аточвае Польшчу, Яцвягію, Латвію (Latuuoniam), а потым схіляецца ў напрамку між поўначчу і паўднёвым захадам, абыходзячы Лецыю (Leciam) [20], Лівонію і Эстонію. І гэткім чынам даходзіць на захадзе да паганых карэлаў (Carilos), якія мяжуюць з Нарманскім каралеўствам (regno Nortmannorum).

(24) Згаданыя карэлы — людзі лясныя і даволі дзікія. Калі яны пабачаць, што ідуць чужыя, як, напрыклад, купцы, то зараз жа з усёй сям'ёю накіроўваюцца ў лес. Чужынцы ж вольна могуць карыстацца тым, што знойдуць у дамах, нічога, аднак, не выносячы. Бо калі б забралі з сабою якое-небудзь футра, якіх там шмат, а тыя, вярнуўшыся дадому, заўважылі б гэта, то неадкладна, склікаўшы грамаду, напалі б на чужынцаў ужо як на ворагаў.

(25) Адзін з іх, слухаючы брата Вайслана (Vaislanum), майго таварыша, які прапаведваў на Белай Русі (in Alba Ruscia) [21], заклікáў таго ісці з ім да згаданых карэлаў, даводзячы, што без сумнення давёў бы іх да праўдзівага бога праз хрышчэнне і, пры жаданні, збудаваў бы там касцёлы.

(26) Вось жа ўсе землі, [пачынаючы] ад Русі і Грэцыі ўключна, што ідуць на ўсход між нашым Міжземным морам і Паўночным акіянам, уваходзяць у склад усходняй царквы.

(27) Такім чынам, неабходна ведаць, што згаданы траісты падзел зямлі трэба разглядаць, зважаючы на

яе цэнтр, дзе прапаведвалі прарокі і дзе Госпад заслужыў для многіх збавенне. Гэтая зямля — святая [22].

(28) На поўначы яе, што таксама называецца Еўропай, жылі пятнаццаць пакаленняў Яфета, сына Ноя, як тлумачыцца ў гісторыях. З іхняга роду ў час апошні прыйдзе племя ліхое і найгоршае, а менавіта Гог і Магог, як адкрывае прарок Езекііль (раздз. 38), кажучы: «Сыне чалавечы! Павярні аблічча сваё супроць Гога і зямлі Магог» [23]. І далей: «Ці не ў той дзень, калі народ мой Ізраіль будзе жыць упэўнена і мудра? І прыйдзеш з месца твайго з паўночных краёў ты і шмат народаў з табою, усе верхам на конях, сцiжма вялікая і войска моцнае ў апошнія дні» [24].

(29) Тады, кажа магістр Гуго [25], два народы, паводле Пісання, прыйдуць з паўночных краёў дзеля вайны ў час апошні з вернымі і няверными. А ці гэтыя прыйдуць, альбо якія іншыя — дасюль немагчыма вызначыць.

(30) Але пэўна тое, што з гэтых краёў выйдзе вялікае войска, якое бесперапынна будзе нападаць на розныя часткі свету. Аднак цяпер ужо я сцісла раскажу пра татараў і пра іх паходжанне [26].

## КАМЕНТАРЫІ

[1] Біблейскі сюжэт пра падзел зямлі між трымя сынамі Ноя з'яўляецца «агульным месцам» у сярэднявечных летапісах, хроніках і землеапісаннях.

[2] Аман — старажытная назва горнага хрыбта Аманус, які пачынаецца ад затокі Іскандэрон і цягнецца на паўночны ўсход па тэрыторыі паўднёвай Турцыі.

[3] Хрыбет Ліван, які захаваў сваю старую назву, знаходзіцца на землях сённяшняга Лівана.

[4] У старажытнасці так называліся тры горныя хрыбты: Заходні, Цэнтральны і Армянскі (альбо Усходні) Таўр, якія перасякаюць з захаду на ўсход аж да возера Ван усю паўднёвую Турцыю.

[5] Сіліцыя (Silicia, Scilicia альбо Cilicia) — Кілікія, старажытная краіна, якая размяшчалася ў паўднёва-ўсходняй частцы Малой Азіі на ўзбярэжжы Міжземнага мора паміж гарамі Аман і Таўр.

[6] Тут маецца на ўвазе паўночная частка Адрыятычнага мора, размешчаная ля гістарычнай вобласці Італіі, дзе калісьці жыло племя венетаў. Яго імя захавалася ў назве вядомага італьянскага горада — Венецыя.

[7] Балтыйскае мора, названае так, відаць, з-за больш прэснай, у параўнанні з іншымі морамі, вады.

[8] Хрыстыян дэ Аліва цыстэрцыянец, пачаў сваю місіянерскую дзейнасць у Прусіі каля 1207 г. Біскупам прускім быў з 1215 і да 1245 г.

[9] Яцвягія — гістарычная вобласць на паўднёвы ўсход ад Прусіі, дзе жыло балтыйскае племя яцвягаў. У XII—XIII стст. яны займалі тэрыторыю пераважна ў паўночнай частцы сучаснага Падляшша ў вярхоўі рэк Нараў і Бобр. У гістарычных крыніцах Яцвягія часам называецца і Судавіяй.

[10] Самбія — невялікая прыбярэжная частка Балтыі паміж ракой Праголяй, на якой стаіць сучасны Калінінград, і Куршскім залівам. Пазней увайшла ў склад Прусіі.

[11] Прыміцый — гэта Прэмысл II (Атакар), які быў каралём Багеміі з 1253 да 1278 г. Яго палітычны ўплыў дасягаў берагоў Адрыятыкі і Балтыйскага мора. Паспяховы паход гэтага караля ў Прусію адбыўся ў 1254 г., у выніку чаго заснаваны ў 1255 г. крыжакамі новы горад у Самбіі быў названы ў яго гонар — Кралявец (Кёнігсберг).

[12] Аляксандр IV займаў папскі трон з канца 1254 да 1261 г.

[13] Размешчаная паміж Жамойцю і Руссю зямля Летавія — гэта, несумненна, Літва, або, інакш, Летува.

[14] Літоўскі князь Міндоўг прыняў хрышчэнне каля 1251 г., каранаваны каля 1253, вярнуўся ў язычніцтва прыблізна ў 1260 г., а быў забіты ў 1263 г.

[15] Нальшаны — зямля даўняй Літвы. Яе месцазнаходжанне дакладна не вызначана. Адны змяшчаюць яе ў паўднёва-ўсходняй частцы сучаснага Віленскага краю, на думку іншых, яна ляжала ў раёне нашай Гародні. Паводле найноўшых вывадаў літоўскай навуковай думкі, Нальшаны займалі тэрыторыю на поўнач ад Віліі, дзе цяпер ляжаць гарады і мястэчкі Свянцяны, Лынтупы, Ігналіна, Уцяны.

[16] Цяжка з пэўнасцю высветліць, якую зямлю тут меў на ўвазе аўтар трактата.

[17] Паводле праўдападобнага меркавання першага публікатара гэтага трактата М. Л. Колкера, два астравы на паўночным захадзе — гэта Ісландыя і Грэнландыя.

[18] Калі строга следаваць напрамку свету, указанаму аўтарам, то на поўнач ад Нарвегіі ляжыць востраў, які сёння называецца Шпіцбергенам. Аднак іншыя дэталі зместу гэтай часткі тэксту (на востраве жыве шмат людзей, там цякуць рэкі, а з пяску здабываюць золата) сведчаць пра тое, што тут маецца на ўвазе, хутчэй за ўсё, нейкая частка Паўночнай Амерыкі. Так мяркуе і М. Колкер, які адпаведна і назваў свой уступны артыкул: «Паўторнае адкрыццё Амерыкі?». Чаму паўторнае ў XIII ст.? Даследчык лічыць, як прызнае сёння шмат хто з вучоных, што Амерыку ўпершыню адкрылі ісландскія вікінгі (каля 1000 г.).

[19] Са зместу трактата немагчыма дакладна вызначыць, якую тэрыторыю займала так званая Антэварыя і што пад ёю разумеў аўтар.

[20] Тут, напэўна, маецца на ўвазе Латгалія, жыхары якой у старажытнарускіх летапісах называюцца латыгола і летгола. У лацінамоўных крыніцах XIII ст. назва гэтай зямлі часам падаецца як **Letthia**, што сугучна форме, пададзенай у гэтым трактаце — **Lecia**.

[21] Гэта самая ранняя згадка ў пісьмовых крыніцах пра Белую Русь. Храналагічна яна адносіцца да сярэдзіны XIII ст.

[22] Святая зямля — гэта Палесціна.

[23] Езекііль. XXXVIII, 2.

[24] Езекііль. XXXVIII, 14—15. Тэкст Бібліі працытаваны аўтарам трактата недакладна.

[25] Магістр Гуго — гэта, напэўна, Гуго Віктарынец (1097—1141), сярэднявечны манах, аўтар шэрагу філасофска-багаслоўскіх твораў, прадстаўнік містыцызму.

[26] Падзел тэксту трактата на часткі і іх нумарацыя належыць М. Колкеру.

*Алег Трусаў*

## ВЯРТАННЕ ДА НАШЧАДКАЎ

25 жніўня 1991 г. Беларусь абвясціла сваю эканамічную і палітычную незалежнасць. Былі адроджаны ідэалы 25 сакавіка 1918 г., калі на еўрапейскай карце магла з'явіцца новая незалежная дзяржава. Магла, але не з'явілася. У адрозненне ад Прыбалтыкі беларусам не хапіла нацыянальнай свядомасці і годнасці, каб вырвацца з абдымкаў былой Расійскай імперыі. Але эстафета БНР была ў нейкай ступені перанята Жылуновічам і яго паплечнікамі, што змаглі ў Смаленску 1 студзеня 1919 года абвясціць БССР. І, як толькі скончылася грамядзянская вайна, на тэрыторыі маленькай часткі этнічных беларускіх земляў, аб'яднаных вакол Менска, пачалося нацыянальнае адраджэнне, пачалася адбудова ўласнай гістарычнай канцэпцыі беларускага народа.

У шырокім навуковым свеце існавалі тады некалькі добра распрацаваных і растыражаваных шматтысячнымі экземплярамі версій беларускай гісторыі, напісаных у Маскве, Санкт-Пецярбурзе, Кіеве, Варшаве і Вільнюсе.

Вельмі часта адны і тыя ж факты з нашай гісторыі, выкладзеныя ў рускіх, польскіх і літоўскіх падручніках і манаграфіях, мелі і зараз, на жаль, маюць розную, часам супрацьлеглую афарбоўку. Яднае ж гэтыя навуковыя працы адна вельмі важная для нас акалічнасць — недаацэнка, замоўчванне ці нават свядомая фальсіфікацыя ўкладу беларусаў у гістарычную і культурную спадчыну Еўропы. Асабліва гэта тычыцца гісторыі беларускага дойлідства.

Да пачатку XX стагоддзя яе проста не існавала, бо адны і тыя ж помнікі (у залежнасці ад веравызнання і нацыянальнасці даследчыкаў), што знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі, заносіліся ў аналы гісторыі мастацтва Польшчы, Літвы, Расіі і нават Германіі. І вось у другой палове 20-х гадоў нашага стагоддзя, дзякуючы намаганням Міколы Шчакаціхіна, Івана Хозерава, Міколы Брунова, Міколы Касяровіча і іншых даследчыкаў нашага мураванага і драўлянага дойлідства, удалося сфарміраваць уласную канцэпцыю развіцця беларускай архітэктуры. Найбольш поўна яна адлюстравана ў працы М. Шчакаціхіна «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва», што выйшла ў Менску ў 1928 г. Але сталінскія вандалы хутка спынілі гэты жыватворны працэс.

Пасля разгону і фізічнага знішчэння навукоўцаў, распрацоўшчыкаў тэорыі беларускай археалогіі і гісторыі мастацтва ў канцы 20 — пачатку 30-х гадоў нашага стагоддзя гэтыя галіны гістарычнай навукі практычна спынілі сваё існаванне да пачатку 50-гадоў.

У выніку сталінскіх рэпрэсій уцалеў толькі адзін гісторык беларускага дойлідства, ён жа — знакаміты археолаг архітэктуры Іван Макаравіч Хозераў. Магчыма, яго выратавала тое, што ў той змрочны час ён жыў у Смаленску і не трапіў таму ў спіскі «беларускіх нацдэмаў».

Нарадзіўся І. М. Хозераў 24 студзеня 1889 г. у Смаленску, у сям'і бондара. У 1907 г. скончыў мясцовае рэальнае вучылішча, а потым мастацкае вучылішча ў Пецярбурзе.

Вучоны доўгі час жыў і працаваў у Смаленску, дзе вывучаў старажытную архітэктуру горада. Акрамя мясцовага мураванага дойлідства даследчык звярнуў пільную ўвагу на суседнія архітэктурныя школы і ў першую чаргу — на полацкую архітэктуру, бо менавіта полацкія дойліды заснавалі ў канцы XII ст. смаленскую архітэктурную школу.

Спачатку ў 1926 г. вучоны абследаваў верхнія часткі Спасаўскай царквы XII ст. у Ефрасіннеўскім манастыры ў ваколіцах Полацка. Ён значна дапоўніў рэканструкцыю першапачатковага вобліка храма, прапанаванага ўпершыню М. Бруновым у 1923 г. Доўгі час гэта рэканструкцыя была самай дакладнай і прыводзілася ў шматлікіх навуковых выданнях. Даследаванні гэтага храма Іван Хозераў прадоўжыў у 1946 г. У выніку зробленых ім зандажоў высветліліся контуры першапачатковых вокнаў бажніцы і цагляныя ліштвы над імі.

У 1928 г. даследчык правёў раскопкі Барысаглебскай і Пятніцкай цэркваў XII ст., а таксама Вялікага сабора ў Бельчыцкім манастыры, зрабіў дакладныя абмеры рэштак гэтых храмаў, сфатаграфаваў і часткова замаляваў фрэскавы роспіс гэтых унікальных помнікаў.

Падчас даследавання Барысаглебскай царквы былі знойдзены крыжовыя слупы ў цэнтры храма.

Раскопкі Вялікага безыменнага сабора дазволілі выявіць два ўзроўні падлогі з керамічных паліваных плітак і архаічныя стужкавыя падмуркі, змацаваныя паміж сабою дубовымі брусамі.

Упершыню для полацкага дойлідства вызначана прамакутная абсіда ў Пятніцкай царквы і падземная Крыпта для пахавання нябожчыкаў.

Трэба адзначыць, што методыка даследаванняў гэтых храмаў была вельмі дакладнай, што дазволіла пазнейшым даследчыкам (М. Вароніну, Г. Штыхаву, П. Рапапорту, В. Церашчатавай і інш.) не раз выкарыстоўваць у сваіх працах ненадрукаваныя матэрыялы І. Хозерава.

Нават часткова надрукаваныя даследчыкам вынікі вывучэння полацкіх помнікаў XI—XII стст. дазволілі вучоным гаварыць пазней аб існаванні самастойнай полацкай архітэктурнай школы і яе моцным уплыве на смаленскае дойлідства. Гэтаму спрыялі і тыя публікацыі І. Хозерава, дзе ідзе гаворка аб будаўнічых матэрыялах (асабліва плінфе) і знаках майстроў-цагельнікаў на старажытнай цэгле. Усяго І. М. Хозеравым надрукавана 17 навуковых публікацый і больш чым сто артыкулаў у розных часопісах і газетах, прысвечаных архітэктуры і мастацтву Беларусі, Смаленшчыны і часткова Украіны.

Адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны (у 1946 г.) І. М. Хозераў пераязджае на жыхарства ў Мінск, дзе ўзнаўляе працу па даследаванню старадаўняй беларускай архітэктуры. Ён працягвае вывучэнне Пол цкай Сафіі і пачынае даследаваць Каложскую царкву ў Гродне.

У 1946 годзе Хозераў зноў вяртаецца да Полацкай Сафіі (упершыню ён даследаваў гэты помнік у 1926 г. разам з М. Шчакаціхіным) і прыходзіць да выніку, што яе заходнія абсіды збудаваны значна пазней (не раней XV ст.), чым сабор XI ст. Але пасля смерці даследчыка многія вучоныя (Ашчэпкаў, Аляксееў і інш.) вярнуліся да памылковай думкі аб першапачатковай пабудове заходніх абсід, і толькі апошнія раскопкі В. А. Булкіна канчаткова пацвердзілі слушнасць высноў І. Хозерава.

Будучы ў 1946 г. у Гродне, Хозераў звярнуў увагу на тое, што Каложская царква мае не звычайныя крыжовыя, а круглыя падкупальныя слупы. Аднак напружаная праца ў часе экспедыцыі адбілася на яго здароўі і ў сакавіку 1947 г. І. Хозерава не стала.

Ненадрукаваныя рукапісы, малюнкі і фотаздымкі даследчыка захоўваюцца зараз у архівах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Смаленска і Мінска. Яны маюць вялікае значэнне для вывучэння гісторыі архітэктуры і матэрыяльнай культуры Беларусі.

Мы прапануем Вам адну з ненадрукаваных прац І. М. Хозерава, якая захоўваецца ў архіве Інстытута гісторыі (сектар археалогіі) АН БССР пад наступным шыфрам: вопіс 1, справа № 45. Напісана гэта работа (на рускай мове) у Мінску, у 1946 г. Яна надрукавана

на машынцы (прычым у архіве маецца другі ці трэці экземпляр машынапісу) і мае праўкі, зробленыя чарнілам. Невыключана, што гэтыя праўкі аўтарскія. Рукапіс налічвае 33 старонкі і мае пропускі ў тэксце, якія мы захоўваем без змен, але ўсе чарнільныя праўкі пры друку ўлічаны.

Аддаўшы ва ўводзінах адпаведную і неабходную даніну тэорыі адзінай і непадзельнай з X па XIV ст. рускай гісторыі і культуры ва ўсіх усходнеславянскіх землях, дасканала распрацаванай у 40-х гадах сталінскімі гісторыкамі, І. М. Хозераў тым не менш адзначае мясцовыя асаблівасці полацкага дойлідства і вылучае яго сярод іншых архітэктурных школ Кіеўскай Русі.

Знайшла адлюстраванне ў пачатку другога раздзела і сфальсіфікаваная ў 30—40-х гадах канцэпцыя беларускай гісторыі XIV—XVIII стст., дзе галоўным персанажам быў беларускі селянін або рамеснік, які ўвесь час марыў трапіць пад моцную руку рускага цара.

Астатняя частка працы напісана на высокім прафесійным узроўні і не згубіла сваёй навуковай вартасці да нашага часу.

У канцы публікацыі мы прыводзім некаторыя фотаздымкі і замалёўкі, зробленыя даследчыкам у канцы 20-х гадоў падчас вывучэння Бельчыцкага манастыра ў Полацку. Зараз гэтыя матэрыялы захоўваюцца ў фотаархіве Інстытута археалогіі АН СССР. у г. Санкт-Пецярбурзе, дзе знаходзіцца філіял вышэйзгаданай установы.

Папярэдняя публікацыя гэтага рукапісу Івана Хозерава зроблена намі ў 1991 г. у часопісе «Маладосць».

### *Асноўныя працы І. М. Хозерава па гісторыі беларускай архітэктуры*

1. *Хозераў І.* Полацкае будаўніцтва старадаўняга перыяду // Запіскі аддзялення гуманітарных навук. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Мн., 1928. Т. 1. Сш. 1.

2. *Хозераў І.* Да пытання аб Спасаўскай царкве ў Полацку // Гісторыка-археалагічны зборнік. № 1. Мн., 1927.

3. *Хозераў І.* Маладосць. 1991. № 5.

### *Літаратура*

1. Літаратура і мастацтва. 1950. 1 крас.

2. ЛІМ. 1957. 23 сак.

3. *Воронин Н. Н.* Бельчицкие руины // Архитектурное наследство. М., 1956. Т. 6.

*И. М. Хозеров*

# ПОЛОЦКОЕ ЗОДЧЕСТВО XI—XII ВЕКОВ В СВЕТЕ НОВЫХ ИССЛЕДОВАНИЙ *

## ВВЕДЕНИЕ

Киевская Русь X—XI веков, открывшая широкий доступ для мастеров искусства пышной Византии, стран Западной Европы и экзотического Востока, создало свое обаятельное искусство, чудесным образом сочетав многоликое и многообразное искусство иноземных стран со своим национальным. Искусство нового государства Восточной Европы — древней Руси — заговорило своим языком.

Подобно тому, как киевские князья настойчиво и последовательно отстаивали политическую независимость Киевского государства, при непрерывных и довольно настойчивых попытках Византии и некоторых стран Западной Европы подчинить его своему политическому влиянию, так и русский народ сумел сохранить сущность своего самосознания в вопросах искусства и культуры, не убоявшись проникновения в свое искусство пышных форм искусства других народов. Борьба за сохранение политической независимости древней Руси получила, естественно, соответственный отклик и в стремлении сохранить драгоценное наследие веков своей культуры и искусства. И, что особенно примечательно, это стремление древней Руси отстоять право на свою культуру и искусство не было реакционным и косным: оно было глубоко прогрессивным, впитав частично культуры Византии и стран Запада и Востока, однако в плане соподчинения творческому самосознанию своего народа. Если оно и восприняло новые формы (например, культовых зданий), то глубоко переработало их по своему.

Весь ход развития древнерусского искусства XI—XII вв. свидетельствует, что это прогрессивное начало, заложенное в творческих замыслах самого русского народа, неуклонно шло в русле искания новых художественных форм и идей, дав в результате изумительно большое разнообразие отдельных решений во многих областях изобразительного искусства и, в частности, в области каменного культового зодчества.

* Труд И. М. Хозерова публикуется без редакторских правок.

Эта тенденция к самостоятельному развитию национального искусства древней Руси, при всем напоре иноземных влияний, по существу низведенных силой творческого духа русского народа на второстепенную роль, не потеряла своего значения и в период начавшегося после Владимира дробления Киевского государства на ряд областей. Напротив, эта тенденция, в силу политического обособления новых центров в областях, повела к чрезвычайно богатому разнообразию форм, как результату творческого роста народных масс в сложении чисто местной культуры той или иной области древнерусских княжеств.

Уже одно сопоставление в отношении архитектуры, например, Киева с Черниговом, Смоленском и Рязанью, Киева с Полоцком, Новгородом и Владимиром (вместе) — ярчайшим образом свидетельствует об этой многообразной линии развития искусства.

Полоцкое зодчество XI—XIII вв., точно так же отображая общий генезис архитектуры Киевского государства, отличается тем своеобразием, которого мы не встречаем нигде в другом географическом пункте древней Руси и которое может характеризоваться как чисто местная редакция общих славяно-византийских схем и установок архитектурного языка и замысла.

Расположенное на стыке земель, лежащих у Варяжского (Балтийского) моря, с одной стороны, и славянских земель Верхнего Поднепровья, с другой, Полоцкое княжество уже в XI—XII вв. оказалось в сфере экономических связей Запада и Востока. Этому в значительной мере способствовал такой, весьма благоприятный для политических условий того времени географический фактор, как полноводная река Западная Двина, прорезавшая территорию полоцкой земли и удобно связанная системой небольших волоков и через свои притоки с реками бассейнов Днепра и Волги.

Политический центр кривичей — полочан — Полоцк, расположенный на большом транзитном водном пути — р. Западной Двине, скоро вошел в систему экономических связей тогдашнего мира и быстро богател.

Несомненно, в ту пору в Полоцке процветала не только торговля, но возникали различные ремесла и искусства. Мы не располагаем какими-либо историческими данными, чтобы представить достаточно ясную картину культурного состояния Полоцка в раннефеодальную эпоху. Есть все же небольшое число вещественных памятников, история

происхождения которых непосредственно связана с Полоцком XII века.

Затем сюда присоединяются отрывочные сведения из документов о торговых связях Полоцка с «готьским берегом», данные летописей и, наконец, памятники каменного зодчества, более или менее сохранившиеся. Все это уже приподнимает завесу над неведомым истории Полоцком раннефеодальной эпохи. Перед нами более или менее отчетливо вырисовываются контуры и самая сущность культурного развития Полоцка в ту пору. Мы можем уже конкретно говорить о достижениях полоцких мастеров в ювелирном деле, о достижениях полоцких строителей в каменном культурном зодчестве. Наконец, и самое полоцкое зодчество представляется теперь довольно многообразным и глубоко оригинальным. Эти факты свидетельствуют о том, что в Полоцке в XI—XII вв. возникла своя линия прогрессивного развития искусства, своими корнями уходящая в традицию местных художественных идей и вкусов.

Вопрос об этом любопытном проявлении местной культуры Полоцка XI—XII вв., в частности, в осуществлении каменного зодчества, развития стилистических и общественных принципов, и представляет предмет данной работы на фоне отдельных звеньев строительного искусства древнерусских областей, смежных с полоцкой землей.

Детальному раскрытию особенностей полоцкого зодчества раннефеодальной эпохи мы обязаны главным образом советским научным силам. Все, что было сделано в отношении изучения памятников архитектуры Полоцка в дореволюционное время, не выходит за рамки экскурсов различных дилетантов — любителей старины или историков, по существу не сумевших дать научного анализа полоцкой старины как, прежде всего, совокупности памятников зодчества.

## ИЗУЧЕНИЕ ПАМЯТНИКОВ АРХИТЕКТУРЫ ПОЛОЦКА XI—XII вв. В ДОРЕВОЛЮЦИОННОЕ ВРЕМЯ

За период бурной истории Полоцка, бывшего долгое время под пятой литовской шляхты и польских панов, много претерпели от различных искажений и переделок замечательные постройки Полоцка домонгольского периода. Многие из них не сохранились и давно лежат в виде развалин под покровом насыпанной земли и щебня.

От других исчез всякий след, и лишь народное предание называет места их нахождения.

Между тем для истории древнерусского искусства полоцкое зодчество XI—XII вв. представляет исключительно ценный научный материал, и каждое новое звено в цепи памятников Полоцка этого периода вызывает в научной среде огромный интерес.

Общеизвестно, что внимание историков Полоцка давно уже было привлечено к ряду его исторических памятников, в том числе каменных храмов древнейшего периода. В числе первых таких историков следует упомянуть польского хрониста М. Стрыйковского, написавшего сочи-




Безыменный Бельчицкий собор

нение «Kronika Polska, Litewska, Zmudzka; wszystkiej Rusi».

М. Стрыйковский жил в XVI веке и видел только немногие памятники Полоцка. Его сведения об истории древних храмов Полоцка глубоко ошибочны, и написанная им «Хроника» (издана в 1582 г., а затем в 1846 г. в Варшаве) представляет лишь известный исторический интерес.

Заслуживают внимания записки Стебельского, иеромонаха полоцкого униатского монастыря. Между прочим, именно Стебельский первый дал описание креста Евфросинии, сделанного Лазарем Богшей.

Описывал памятники полоцкой старины и другой базилианский монах полоцкого монастыря Кульчинский, ставший затем лектором философии полоцкой академии. Все эти описания полны исторических неточностей и по существу совершенно не раскрывают значения памятников зодчества в отношении особенностей архитектуры.

Первым известием о памятниках полоцкой старины в русской литературе следует считать те сведения, которые дают «Записки Исторические и Георафические в статьях, доставленных разными лицами» графу Н. П. Румянцеву и составленные, возможно, в конце XVIII века. Краткое указание на эти «Записки» находим у А. Востокова в его «Описании русских и словенских рукописей Румянцевского музея» (СПб., 1842). В этих «Записках» впервые говорится об «открытии древнего фундамента подле (Борисоглебской) церкви в 1790 г.». Эти сведения, несомненно, касаются развалин Старо-Пятницкой (Старо-Борисоглебской) церкви и являются в русской исторической литературе наиболее ранними в отношении развалин последней церкви.

Затем, одним из ранних источников для изучения Полоцкой старины следует считать те краткие сведения, которые поместил П. И. Кеппен в своей работе «Список русским памятникам» (М., 1822).

В связи с упразднением в России унии в 1839 г. в Полоцке было приступлено к ремонтно-восстановительным работам по Спасо-Евфросиньевской церкви, которые и были закончены под руководством архитектора Порта в 1832 году. Ремонт церкви был начат на основании представленных князем Хованским в Строительный Комитет министерства внутренних дел проектов восстановления Спасо-Евфросиньевской церкви. В связи в этим в «Журнале Министерства Внутренних Дел» за 1832 год были

опубликованы план и фасад Спасо-Евфросиньевской церкви.

Этот план, вероятно, был первой графической документацией Спасского храма за все время его существования. Конечно, весь объем памятника воспринимался в это время как целиком древний и о какой-либо реставрации в подлинном значении этого слова не могло быть и речи. Напротив, за время указанного ремонта Спасо-Евфросиньевской церкви была осуществлена пристройка в виде каменного притвора у западных дверей. Кроме того, архитектор Порт, ремонтируя Спасо-Евфросиньевскую церковь, допустил введение многих деталей в декоруме наружных стен храма, не имеющих ничего общего с изначальными формами и являющихся плодом его личной фантазии.

Далее, следует упомянуть небольшую брошюру Борщевского, изданную в С. -Петербурге в 1841 году, «Исторические сведения из жизни св. преподобной Евфросинии», где приводится краткое описание креста Евфросинии и дано впервые изображение самого креста.

Следующим по времени издания сочинением является упомянутое «Описание рукописей и документов Румянцевского музея» А. Востокова (1842).

Интерес к полоцким памятникам зодчества у местных историков базировался единственно на принадлежности памятника к глубокой древности. Этот интерес через некоторый промежуток времени вновь оживился, когда редакция журнала «Вестник Западной России» в ряде статей привлекла внимание читателей к памятникам зодчества Полоцка. Такими статьями в журнале являлись: «О преподобной Евфросинии, княжне Полоцкой, и о Спасо-Евфросиньевском монастыре» (1863), затем две статьи К. Говоровского «Исторические сведения о Полоцком Софийском соборе» (1863) и «Историческое описание Полоцкого Борисоглебского монастыря» (1865).

В «Памятной книжке Витебской губернии на 1864 г.» появилась статья А. М. Сементовского «Историкостатистические сведения об уездных городах Витебской губернии», где упоминаются исторические памятники Полоцка. В этой статье А. М. Сементовского, по существу, нет ничего нового.

Как бы некоторой итоговой работой по тому времени о кн. Евфросинии и о Спасском храме является довольно интересная статья иеромонаха Сергия «Св. преп. Евфросиния, княжна Полоцкая», напечатанная в «Памятной

книжке Витебской губернии на 1864 г.» (СПб., 1864. С. 3—42).

После этого наступает перерыв почти в двадцать лет, в течение которого в русской исторической литературе не появляется новых работ о полоцкой старине.

Восьмидесятые годы вновь являются плодотворными в этом отношении. В 1885 году М. Дубровский выпускает в Полоцке свою брошюру «Житие преп. Евфросинии, княжны Полоцкой». В 1888 г. молодой в то время витебский исследователь А. П. Сапунов пишет «Житие преп. Евфросинии, княжны Полоцкой», где приводит исчерпывающие данные «Жития преп. Евфросинии» (по трем редакциям). Тот же А. П. Сапунов выпускает многотомное издание «Витебская старина», в котором приводится много новых исторических документов по Полоцку и его памятникам старины.

В 1890 году выходит в свет известная книга А. М. Сементовского «Белорусские древности», где архитектурным памятникам Полоцка отводится одно из главных мест.

В том же 1890 году П. Н. Батюшковым издается компилятивный труд «Белоруссия и Литва» (СПб.), где отведено место и памятникам зодчества Полоцка, все эти данные не выходят из рамок оценки этих памятников, как свидетелей глубокой древности.

В 1898 году А. П. Сапунов выпускает капитальный труд «Река Западная Двина», в которой отдает немало внимания полоцким памятникам архитектуры.

Все эти работы местных историков не выходят из круга описательных приемов любителей старины. Никакого научного подхода в отношении этих памятников и анализа их архитектурных форм в изданиях того периода мы не встретим.

В 1895 году появилась статья академика А. М. Павлинова «Древние храмы Витебска и Полоцка», которая, как научный доклад автора на IX археологическом съезде, вошла в том 1 «Трудов IX археологического съезда в Вильне 1893» (М., 1895).

Однако эта статья почти ничем не отличалась по своему качеству от всей предыдущей исторической литературы в понимании памятников зодчества Полоцка. Ее положительная роль сказалась, несомненно, в том, что внимание широкой общественности было вновь привлечено к историческим памятникам Полоцка. Тем не менее статья А. М. Павлинова не наметила новых схем в отношении типа архитектурных памятников древней Руси,

а многотомное издание «Истории русского искусства» под редакцией И. Э. Грабаря совсем даже не упоминает о памятниках зодчества XI—XII вв. Витебска и Полоцка.

В начале XX века появилось несколько брошюр, посвященных княжне Евфросинии и построенному ею Спасскому храму. Таковы брошюры Н. Зорина «Преподобная Евфросиния, княжна Полоцкая» (СПб., 1910) и Е. Поселянина «Преподобная Евфросинья, княжна Полоцкая» (СПб., 1910).

В 1914 году в журнале «Светильник» (№ 2) была опубликована статья Н. Кайгородова «Полоцк и его церковно-исторические древности».

Наконец, в 1915 г. была напечатана серьезная работа, написанная К. Шероцким,— «Полоцкий Софийский собор», появившаяся в связи с капитальным ремонтом Полоцкого Софийского собора в 1913—1915 гг. Но и в этой работе К. Шероцкий лишь частично подходит к анализу архитектурного облика собора, публикуя впервые план древней Софии, развалины которой сохранились в подполье существующего Софийского собора. Эти развалины были обнаружены П. П. Покрышкиным в 1909 г. Большое и преимущественное внимание К. Шероцкий в этой работе уделяет историческим вопросам, связанным с Софийским собором, и очень мало собственно архитектуре древней Софии.

## ИЗУЧЕНИЕ ПАМЯТНИКОВ АРХИТЕКТУРЫ ПОЛОЦКА XI—XII вв. ЗА СОВЕТСКИЙ ПЕРИОД

Под знаменем идей Ленина — Сталина в грозе и буре выковывалось новое советское государство. Еще не отшумел грозный шквал гражданской войны, а одним из декретов советского государства провозглашены были принципы охраны и реставрации памятников старины и искусства. Открылся широкий простор всестороннего изучения памятников зодчества. Это изучение получило новый смысл и содержание. В Советском государстве впервые начаты были углубленные работы по всестороннему, глубоко научному изучению памятников зодчества, которые были объявлены, в целях большей защиты их от разрушения, государственным достоянием.

Полоцкие памятники зодчества вошли теперь в орбиту научного изучения.

Естественно, что на первых порах к памятникам полоцкого зодчества началось паломничество советских уче-

ных. Поехали в Полоцк, как и в другие древнерусские города, многие ученые, то в порядке экспедиционного обследования и изучения памятников старины, то чисто индивидуальным путем. Почиталось даже своего рода обязанностью побывать ученому на месте в Полоцке; автор, например, припоминает, что когда в 1926 г. научный мир узнал об открытии, сделанном Н. П. Бруновым и им (независимо друг от друга) в Спасо-Евфросиньевской церкви в Полоцке, И. Э. Грабарь, в 1928 г. собиравшийся в Полоцк, писал ему: «Хочу лично посмотреть на те чудеса, о которых Вы сообщаете». И действительно не только И. Э. Грабарь побывал на месте в Полоцке, но и тогда еще молодые советские ученые, ставшие впоследствии крупными историками и искусствоведами, как Н. Н. Воронин, М. К. Каргер, М. В. Алпатов и др., живо интересовавшиеся проблемами зодчества и древнерусского искусства раннефеодальной эпохи. Побывал в 1928 году в Полоцке и А. И. Некрасов, незадолго до того



Разрез по АБ



Разрез по ВГ



Разрез по ДЕ



Разрез по ЖЗ



Разрез по ИК




 Земляная насыпь скрывавшая развалины.

Раскопки Старо-Борисоглебской (Старо-Пятницкой) церкви в г. Полоцке (по обмерам И. М. Хозерова)

писавший, что полоцкое зодчество является не чем иным, как ветвью киево-черниговского строительного дела домонгольского периода. Впрочем, позже А. И. Некрасов отказался от этого взгляда.

Естественно полагать, что широкий интерес советских ученых к таким памятникам зодчества древнего Полоцка в начале знавал многочисленные посещения в целях ознакомления на месте с историческими памятниками, и что затем уже, как следствие углубленного изучения самих памятников, возникли и более ясные представления об архитектурном облике этих памятников.

На такой более углубленный путь изучения полоцких памятников зодчества стал и автор данной статьи, совершивший ряд поездок в Полоцк и выполнивший в 1928 году обширные раскопки и детальное исследование всего комплекса архитектурных памятников Борисоглебского монастыря или так называемого Бельчицкого (по имени речки Бельчицы, вблизи которой указанный монастырь находился).




Развалины Старо-Пятницкой церкви в г. Полоцке (раскопки И. М. Хозерова, 1928 г.)

Однако вплоть до последнего времени еще далеко не все было ясно в понимании изначальных форм полоцких памятников зодчества XI—XII вв.

Летом 1946 года Институт истории и теории архитектуры Академии архитектуры СССР начал систематическую работу по детальному исследованию Софийского собора в части, относящейся к XI веку, и Спасской церкви Евфросиньевского монастыря. Эта работа внесла много нового в раскрытие самих объектов, дав возможность значительно глубже представить себе изначальный облик памятников.

## СОФИЙСКИЙ СОБОР

Естественный выступ правого берега реки Западной Двины при впадении речки Полоты уже издревле имел огромное значение как центр поселения в Полоцке. Обнесенное валами с тыном городище занимало господствующее положение среди окружающей местности. Это место — городище, впоследствии, в XIV—XV вв., стало именоваться Верхней Замковой Горой и было сильно укрепленным пунктом. В XVI веке Верхняя Замковая Гора имела уже в системе своих укреплений рубленые стены и семь каменных башен.

В раннефеодальную эпоху, в середине XI века, на гоородище сооружается грандиозный по тому времени каменный храм — Софийский собор.

Первой постройкой в древней Руси в честь Софии — «премудрости божией» — был знаменитый Софийский собор в Киеве (1017—1037). Киевская София была исключительно богатым храмом нового на Руси типа. В известной мере этот храм должен был явиться отображением константинопольской Софии. Но повторить чудесную постройку Софии столицы пышной Византии молодому русскому княжеству было не под силу. Греческие мастера, приглашенные для постройки Софийского собора в Киев, смогли осуществить значительно более скромное, по сравнению с константинопольской Софией, здание. Но и то, что ими было осуществлено в Киеве, поражает своим невиданным размахом и смелостью решений.

Киевская София стала показателем экономического благосостояния древней Руси и политического могущества киевских князей. Это был Палладиум древнерусской столицы.

Естественно, что феодальная верхушка древнерусских

княжеств стала смотреть на киевскую Софию как на характерную и примечательную особенность столицы — Киева. Этим объясняется стремление многих русских земель осуществить и в своих политических центрах постройку подобных соборов, и именно в честь Софии. Но только Полоцку и Новгороду удалось реализовать это стремление.

Если в отношении новгородской Софии летопись сохранила даты начала и конца сооружения собора, то по полоцкой Софии мы совершенно не располагаем какими-либо историческими документами, за достоверность которых можно было бы поручиться.

Существуют самые различные догадки о времени сооружения полоцкой Софии. Некоторые историки полагали, что полоцкая София была построена при полоцком князе Всеславе Вячиславиче, т. е. в промежуток времени между 1044 и 1101 гг. [1]

А. И. Некрасов считал временем построения полоцкой Софии 1044—1066 гг. [2], полагая, что строительство Софийского собора было начато с занятием полоцкого престола Всеславом Брячиславичем, а закончено во время похода Всеслава на Новгород и ограбления при этом обстановочного инвентаря новгородской Софии для полоцкой Софии. Но эти предположения А. И. Некрасова ровно ни на чем не основаны и являются просто лишь его догадкой.

Н. Кайгородов полагал, что в княжение Всеслава Брячиславича были произведены лишь подготовительные работы по строительству полоцкой Софии и что она была построена, как о том свидетельствует Стебельский, в княжение Бориса Всеславовича, т. е. между 1101 и 1128 гг.[3] Эти соображения не заслуживают особого доверия.

Польский хронист М. Стрыйковский даже полагал, что полоцкая София была сооружена в 1220 году.

Но, однако, взгляд М. Стрыйковского при ближайшем ознакомлении с памятником в натуре оказывается совершенно несостоятельным.

Исходя из некоторых аналогий в отношении компози-

---

[1] *Леонардов Д. С.* Полоцкий князь Всеслав и его время // Полоцко-Витебская старина. Витебск. 1912. Вып. II.

[2] *Некрасов А. И.* Очерки по истории древнерусского зодчества XI—XVII вв. М., 1936.

[3] *Кайгородов Н.* Полоцк и его церковно-исторические древности // Журнал «Светильник». 1914. № 2. С. 11—12.

ции планов Софийских соборов Киева, Полоцка и Новогорода, можно предположительно установить какую-то зависимость построек Софийских соборов Полоцка и Новогорода от киевской Софии. Все три храма являются пятинефными,— редкая композиционная форма в храмосозидательстве древней Руси.

В деталях же и некоторых частях между этими соборами есть большое различие, свидетельствующее о том, что Софийские соборы в Полоцке и Новгороде сооружались как самостоятельные архитектурные памятники, под знаком большого творческого подхода их строителей. Поэтому эти памятники Полоцка и Новгорода носят характер не слепого копирования готового образца, каким в то время являлась киевская София для прочих культурных центров древнерусских земель, а дают самостоятельные решения задачи, в основе которой лишь слабо прослеживается схема композиции плана киевской Софии.

Можно считать наиболее вероятным предположение о том, что полоцкая София была построена около середины XI в.

Никакой графической документации о плане полоцкой Софии до нашего времени не дошло. Отсутствует сколько-нибудь удовлетворительная фиксация иконографического облика древней Софии до ее капитальной перестройки в середине XVIII в.

Таким образом, в нашем распоряжении остается лишь план древней Софии, установленной по обмерам развалин экспедицией Института истории и теории архитектуры Академии архитектуры СССР.

Данные этого обмера оказались значительно более точными, нежели план Софии, опубликованный в статье К. Шероцкого «Полоцкий Софийский собор» (1915). Этот план позволяет понять общую композицию не только плана древней Софии, но и архитектурный замысел в целом, по крайней мере в основном. Так, композиция плана полоцкой Софии, в отличие от киевской Софии и новгородской Софии, представляет систему конструктивных элементов, вполне симметрично расположенных относительно объема, что делает членения полоцкого Софийского собора особенно гармоничными. При этом новым в композиции полоцкой Софии является своеобразная ритмичность членения фасада. Так, 1) первый простенок равен второму, четвертому и пятому, а третий вдвое больше каждого из них; 2) все фасады одинаково разбиты по

церкви XII века на территории Евфросиньева монастыря. Судя по технике кладки и качеству самого строительного материала, эта церковь весьма близко напоминает строительные приемы Спасской церкви и, по-видимому, также была построена в XII веке одними и теми же мастерами.

По остаткам развалин Старо-Пятницкой (Борисоглебской) церкви Бельчицкого монастыря, ввиду безвозвратной утраты графической документации по раскопам названного памятника, необходимо в ближайшее время произвести соответствующие раскопки остатков развалин, в целях возможной реконструкции плана данного памятника.

Одной из очередных задач археологов и историков архитектуры является отыскание следов развалин церкви Богородицкого монастыря. Здешнее предание связывает место нахождения в XII веке Богородицкого монастыря с территорией старого католического кладбища, в $^1/_2$ километра от Спасской церкви, на том же берегу Полоты. Здесь на кладбище когда-то иезуитами был построен костел св. Ксаверия. Есть свидетельство, что при рытье могил на старом католическом кладбище находили плиткообразные кирпичи такого же размера, как и кирпич, из которого построена Спасская церковь (иеромонах Сергий), а также и раствор, смешанный с цемянкой. Если эти сведения найдут подтверждение при разведочных раскопках, перед нами, вне всякого сомнения, окажутся следы еще одного каменного храма раннефеодальной эпохи.

*Анатоль Грыцкевіч*

## ПАМЯТНЫЯ ЗАПІСКІ МІХАІЛА КЛЕОФАСА АГІНСКАГА АЛЯКСАНДРУ І У 1811 ГОДЗЕ

Упершыню друкуюцца на беларускай мове асноўныя дакументы, пададзеныя імператару Аляксандру І вядомым дзяржаўным дзеячам Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы) і буйным землеўладальнікам на Беларусі графам Міхаілам Клеофасам Агінскім (1765—1833). Цяпер ён больш вядомы як кампазітар, аўтар папулярнага паланеза ля-мінор «Развітанне з Радзімай» і іншых музычных твораў. Аднак гэта не было яго спецыяльнасцю. Ён быў кампазітарам-аматарам, як і шматлікія арыстакра-

тычныя і нават каранаваныя асобы (напрыклад, прускі кароль Фрыдрых II (Вялікі) ці германскі імператар Іосіф II), праўда, на прафесійным узроўні.

Перад намі ў гэтых мемуарных запісках паўстае аўтар унікальных дакументаў, дасведчаны палітычны дзеяч, прадстаўнік пэўнай плыні магнатаў былой Рэчы Паспалітай і яе самастойнай часткі — Вялікага княства Літоўскага.

Жыццё Міхаіла Клеофаса Агінскага было насычана драматычнымі падзеямі. Гэта вельмі цікавы чалавек, дыпламат, надзвычайны пасланнік сваёй краіны ў Галандыі. Ён жа дэпутат чатырохгадовага сойма (1788—1792 гг.), які карыстаўся аўтарытэтам і папулярнасцю сярод магнатаў і шляхты за тое, што падтрымаў прагрэсіўную канстытуцыю 3 мая 1791 г. Як вядома, яна давала магчымасць польскаму, літоўскаму, беларускаму і ўкраінскаму народам далучыцца да агульнаеўрапейскага шляху развіцця буржуазнай дэмакратыі і культуры (у тым ліку і палітычнай). Заўважым, што гэта другая ў свеце дэмакратычная канстытуцыя пасля паўночнаамерыканскай, але ў адрозненне ад яе ўведзеная бяскроўна. Вакол яе гуртаваліся лепшыя людзі Рэчы Паспалітай, у тым ліку і Беларусі.

Рэакцыйныя здраднікі-магнаты выступілі супраць канстытуцыі 3 мая. Іх падтрымала руская імператрыца Кацярына II і яе саюзніца Прусія. Сумесна яны ўвялі свае войскі на тэрыторыю Рэчы Паспалітай, каб дапамагчы Таргавіцкай канфедэрацыі, якая ў 1792 г. выступіла супраць канстытуцыі 3 мая. І здарылася так, што пасля перамогі Таргавіцкай канфедэрацыі М. К. Агінскі эмігрыраваў у Прусію.

А калі ён праз нейкі час прыехаў на радзіму, маёнткі яму вярнулі, але з умовай уступіць у Таргавіцкую канфедэрацыю. У гэты час (1793) М. К. Агінскі быў дэпутатам Гродзенскага сойму, дарэчы апошняга ў незалежнай Рэчы Паспалітай. У 1793—1794 гг. займаў пасаду падскарбія вялікага літоўскага (міністра фінансаў).

Падчас паўстання 1794 г. на чале з Т. Касцюшкам на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі, ад якога пачынаецца шляхецкі вызваленчы рух у нашым краі, М. К. Агінскі знаходзіцца ў складзе новай улады ў Літве і на Беларусі. Ён сфарміраваў за свой кошт батальён конных егераў, камандаваў імі ў некалькіх бітвах. Нават сам напісаў бадзёры марш паўстанцаў (1794 г.).

Са сваім атрадам М. К. Агінскі двойчы спрабаваў прабіцца ў Мінскую губерню, каб падняць там паўстанне, але быў адбіты моцнымі заслонамі царскіх войскаў. Пасля ён змагаўся і супраць прускіх войск у раёне Варшавы. Аднак паўстанне 1794 г. было падаўлена. Расія, Прусія і Аўстрыя канчаткова падзялілі тэрыторыю Рэчы Паспалітай у трэці раз. У 1795 г. Заходняя Беларусь, Валынь, Літва (без Занямоння) і Курляндыя (Заходняя Латвія) былі далучаны да Расійскай імперыі. У. І. Ленін у 1917 г. так ахарактарызаваў падзелы Рэчы Паспалітай (якую ён называў Польшчай): «Курляндыю і Польшчу яны разам дзялілі, гэтыя тры каранаваныя разбойнікі. Яны дзялілі сто год, яны ірвалі па жывому мясу, і рускі разбойнік урваў болей, таму што быў тады мацней» (*Ленин В. И.* Полн. собр. соч. Т. 32. С. 89—90).

Пасля задушэння паўстання (1794) М. К. Агінскі зноў эмігрыраваў. Жыў ён у Вене, Венецыі, Парыжы. У 1802 г. вярнуўся на бацькаўшчыну і знаходзіўся ў маёнтку Залессе каля Смаргоні. У Вільні, Магілёве і Віцебску сустракаўся з Аляксандрам І, якому ў маі 1811 г. падаў мемуарную запіску і праект указа аб заснаванні Вялікага княства Літоўскага ў складзе Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай, Валынскай губерняў, Беластоцкай вобласці і Тарнопальскай акругі на правах аўтаноміі, на чале з намеснікам імператара (мелася на ўвазе, што такім намеснікам будзе хто-небудзь з братоў імператара). Сталіцай аўтаномнага Вялікага княства Літоўскага вызначалася Вільня. Далейшы лёс М. К. Агінскага таксама цікавы. У 1810 г. у Пецярбурзе ён атрымлівае званне сенатара, з 1815 г. жыве ў Фларэнцыі.

Ягоныя мемуары, дакументы з якіх уключаны ў наш альманах, выдадзены былі ўпершыню ў Парыжы (1826—1827) на французскай мове аж у чатырох тамах і называліся яны «Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 да 1815 г.».

Аднак высветлім галоўнае: каго прадстаўляў Міхаіл Клеофас Агінскі, за што змагаўся? Адносіўся ён да памешчыкаў Беларусі і Літвы, якія, зыходзячы з рэальных суадносін сіл на еўрапейскай арэне, узялі курс на падтрымку Аляксандра І і Расіі, у той час як у Польшчы асноўныя сілы магнатаў і шляхты прытрымліваліся французскай арыентацыі. Асноўнай мэтай групоўкі, узначаленай М. К. Агінскім, было адраджэнне дзяржаўнасці Вялі-

кага княства Літоўскага ў форме аўтаноміі, уключаючы тэрыторыю Беларусі і Літвы з сталіцай Вільняй, затым меркавалася аб'яднанне з Вялікім княствам Варшаўскім у адноўленай Рэчы Паспалітай.

Такая палітыка арыентацыі на Расію ў тагачаснай Еўропе мела пэўны сэнс, бо вельмі адчувалася расчараванне шырокіх колаў польскага грамадства палітыкай Напалеона. Ён хоць і нанёс паражэнне Прусіі, але не ўзнавіў Польшчу, вярнуў ёй толькі вобласці, раней захопленыя Прусіяй. Створаная дзяржава, Вялікае княства Варшаўскае на чале з саксонскім каралём, цалкам падпарадкавалася Напалеону. А ўрад Аляксандра I ішоў насустрач пажаданням зпольшчаных памешчыкаў Беларусі і Літвы. На гэтай тэрыторыі захаваліся ранейшыя законы і галоўны сярод іх — Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. У адміністрацыйных установах і ў судзе па-ранейшаму афіцыйнай была польская мова. На ёй вялося выкладанне амаль ва ўсіх навучальных установах (за выключэннем некалькіх школ для дзяцей рускіх афіцэраў і нешматлікіх рускіх чыноўнікаў). Царызм рыхтаваўся адкрыць нават Полацкую іезуіцкую акадэмію (і гэта было зроблена ў 1812 г.), дзе навучанне таксама вялося на польскай мове. Яшчэ раней быў створаны Беларускі гусарскі полк са сцягам і какардамі з беларускімі нацыянальнымі колерамі — бела-чырвона-белым. Урэшце, сам цар Аляксандр I прыхільна слухаў прапановы аб адраджэнні Вялікага княства Літоўскага, прымаў М. К. Агінскага і ўважліва чытаў ягоныя мемарыяльныя запіскі.

Безумоўна, з боку Аляксандра I гэта была тонкая палітыка. Яму неабходна было ведаць настрой арыстакратыі і дваранства, каб яшчэ больш схіліць іх на свой бок, умацаваць знешнюю палітыку Расіі, асабліва ў адносінах з Францыяй. Такая палітыка Расіі паўплывала на пазіцыю мясцовых памешчыкаў падчас вайны 1812 г. Асноўная большасць беларускай арыстакратыі і шляхты не падтрымала Напалеона I, калі вялікая французская армія прыйшла на Беларусь. Хоць патрыятычная групоўка ў Вільні абвясціла ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага, аднак Напалеон не дазволіў далучыць да яго Віцебскую і Магілёўскую губерні, абмежаваўшы тэрыторыю толькі губернямі Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай. Там была ўтворана адміністрацыя з мясцовых ураджэнцаў у дэпартаментах (губернях), супрэфектурах (паветах) і кантонах (валасцях). Уся яе дзейнасць абмяжоўвалася

толькі спагнаннем падаткаў і рэквізіцый як з памешчыкаў, так і з сялян, каб задаволіць французскую армію і яе польскія часці ў харчаванні і фуражы, завербаваць на свой бок добраахвотнікаў. Такая палітыка рабаванняў і самавольства з боку Напалеона, пазбаўленне магчымасці жыхароў Беларусі адрадзіць сапраўднае Вялікае княства Літоўскае адштурхнулі большасць магнатаў і шляхты ад французскай вайсковай і мясцовай грамадзянскай улады.

А калі войскі Напалеона былі разбіты і руская армія пайшла ў еўрапейскія краіны, пытанне аб аўтаноміі Вялікага княства Літоўскага было знята. Аляксандр I паводле пастаноў Венскага кангрэса ў 1815 г. атрымаў частку Польшчы ў якасці Каралеўства Польскага (як аўтаномію ў складзе Расійскай імперыі). Яшчэ адна аўтаномія побач, на Беларусі і ў Літве, яму ўжо была не патрэбна, каб потым не ўзнавілася Рэч Паспалітая. Да таго націск рускага дваранства ў гэтым пытанні ўзмацніўся. Аляксандр I адказаў князю А. Е. Чартарыскаму, свайму сябру ў маладыя гады, што рускія дваране «ніколі не дапусцяць, каб Літва, Валынь, Падолія зноў адышлі да Польшчы».

Дакументы, змешчаныя ў гэтай кнізе М. К. Агінскага, паказваюць адзін з момантаў палітычных узаемаадносін царызму і мясцовых памешчыкаў, зацікаўленых у адраджэнні дзяржаўнасці на Беларусі і Літве.

У тэксце зменены агульнавядомыя са школьных падручнікаў тэрміны. Рускі тэрмін «Вялікае герцагства Варшаўскае» (дакладны пераклад, калька, з французскай мовы), як калісьці назваў яго Напалеон I, зменены на больш правільны «Вялікае княства Варшаўскае», якім карысталіся і карыстаюцца палякі і беларусы (у нас, у славян, былі княствы і ніколі не было герцагстваў). Тое ж самае датычыць тэрміна «Вялікае княства Літоўскае» адносна выказванняў М. К. Агінскага. Гэта больш правільны тэрмін, чым «Вялікае герцагства Літоўскае» (з той жа самай прычыны). Блытаніна выйшла з-за таго, што дакументы М. К. Агінскага рыхтаваліся на французскай мове, агульнапрынятай тады не толькі ў дзяржаўных адносінах, але і ў грамадскай і палітычнай дакументацыі. Французскія тэрміны механічна пераносіліся на нашы гістарычныя рэаліі. А рабіць гэта немэтазгодна.

## ЗАПІСКА ГРАФА АГІНСКАГА, ПАДАДЗЕНАЯ АЛЯКСАНДРУ І 15 мая 1811 года

Ці меў намер калі-небудзь імператар Напалеон узнавіць свабоду і незалежнасць Польшчы, з мэтаю ўтварыць з яе апору супраць Расіі?.. На гэта лёгка адказаць кожнаму, хто толькі прыгледзеўся разважна і непрадузята да асабістага характару гэтага манарха і да ягоных вайсковых прыёмаў.

Каб лічыць Напалеона здольным узнавіць незалежнасць краю, трэба было б дапусціць у яго такія ліберальныя пачуцці і такі памяркоўны характар, бескарыслівы і шляхетны, якія не стасуюцца аніяк з прагай да заваёў, з патрэбай аслабляць, раздрабняць і спусташаць усе краіны Еўропы і з раўнадушшам да шчасця і ўнутранага спакою народаў.

Каб лічыць яго [Напалеона] здольным арганізаваць трывалы аплот супраць Расіі, трэба было б дапусціць магчымасць таго, што ягоны бурны розум і ўяўленні [аб будучым] заўсёды звязваліся са стварэннем новых праектаў заваёў, што мір, можа, урэшце ўжо ўсталюецца і што той, хто не здольны абмежаваць сваю амбіцыю, можа абмежаваць заваёвы.

Але якім чынам можна дапусціць, што гэты абраннік фартуны, які лічыць сябе чалавекам, ніспасланым Богам і прадвызначаным для навядзення парадку ва ўсім свеце; што гэты прадпрымальнік, які знішчыў столькі тронаў, які пахіснуў асновы існуючых яшчэ тронаў, ліквідаваў некалькі з іх толькі для таго, каб яны былі апорай яго велічы; які нічога не пакінуў некранутым; які змяняе пастановы і праекты з такой жа хуткасцю, з якой іх прымае; які ніколі не думае пра шчасце людзей; які клапоціцца пра іх толькі настолькі, наколькі яны з'яўляюцца здольнымі да выканання ягоных намераў; якім чынам, кажу я, можна дапусціць, што гэты чалавек незвычайны, нячулы да няшчаснага лёсу цэлай Еўропы, якую ён разбурыў, будзе кранугы смутным становішчам палякаў і што ён захоча вярнуць ім іх бацькаўшчыну, гарантуючы вольны і незалежны ўрад.

Напалеон не захапляецца знешнімі праявамі энтузіязму жыхароў Варшаўскага княства. Ён ведае, што, за выключэннем вайскоўцаў і чыноўнікаў, увогуле яго там не любяць, асабліва ж дробныя землеўладальнікі, якія складаюць найбольшую масу насельніцтва і якія зазнаюць найбольшы цяжар вайны. Нам вядома, што надзея

ўзнаўлення Польшчы з'яўляецца адзіным заахвочваннем шляхты, якое можа прыцягнуць яе на ягоны бок, і каб ён гэтую надзею не падтрымліваў, то страціў бы яе падтрымку і давер. Трэба таксама прызнаць, што, ведаючы гэтую ісціну, Напалеон заўжды цешыў палякаў надзеяй узнаўлення Польшчы, так і цяпер падтрымлівае гэтую надзею, клапатліва адхіляючы ўсё, што зможа пахіснуць іх веру і ў яго.

Французскі ўрад увесь час намагаўся рабіць уплыў на справы Польшчы і ўмацаваць там сваю партыю. Не кранаючы больш аддаленага часу, нагадаю толькі пра ўдзел французскага ўрада ў выбранні караля Станіслава Ляшчынскага, пра моцную падтрымку ёю Барскай канфедэрацыі, урэшце пра патаемныя захады, якія ўжываў ён, каб ураўнаважыць уплыў Расіі ў Рэчы Паспалітай. Ад таго часу, як Расія пачала атрымліваць пераважны ўплыў на справы Еўропы, Францыя лічыла неабходным узбройваць супраць яе ўсіх і непакоіць [народ] унутранымі хваляваннямі ў Польшчы. Тым часам беспадстаўна лічаць, што рэвалюцыйны ўрад у Францыі падахвоціў Касцюшку і яго прыхільнікаў да паўстання ў 1794 г. Польскія патрыёты намагаліся, праўда, падтрымліваць такія чуткі, каб узмацніць давер да сябе і надзею на поспех сваёй справы; але магу сцвердзіць, паводле ўсяго таго, аб чым даведаўся сам пазней у Парыжы і Канстанцінопалі, што паўстанне 1794 г. не мела ніякага замежнага ўплыву і было справай толькі ўласнага патрыятычнага натхнення і роспачы. Я не кажу тут, безумоўна, аб уплыве французскіх якабінцаў на польскіх, паколькі ў гэтым няма нічога агульнага з паўстаннем, якое мела адзіную мэту — зрынуць іншаземны прыгнёт і забяспечыць незалежнасць Польшчы; хачу толькі засведчыць тое, што мне вядома, а менавіта, што тагачасны французскі ўрад не мог і не хацеў падтрымліваць дзеянні Касцюшкі.

З таго часу, аднак, становішча змянілася. Усе палякі, якія эмігравалі пасля паўстання, былі прыняты як браты і сябры ў Францыі і саюзных з ёю краінах. Ва ўсіх дзяржавах французскія пасланнікі адкрыта прымалі іх пад сваю апеку, упаўнаважвалі насіць нацыянальную какарду, клапаціліся аб абароне іх, нароўні з французскімі грамадзянамі. Таварыства польскіх патрыётаў, заснаванае ў Венецыі, вяло перапіску спачатку з камітэтам грамадскай бяспекі, а потым з дырэкторыяй, пры якой нават крэдытавана польская дэпутацыя. Паводле рады

французскага ўраду быў прызначаны польскі агент у Канстанцінопаль, і прадстаўніку Францыі там было загадана заключыць з ім пагадненні па польскіх справах. Урэшце, па прапанове французскага ўрада былі створаны польскія легіёны ў Італіі, і нават быў намер узнавіць у Мілане канстытуцыйны сейм польскі, калі на палітычнай сцэне з'явіўся Банапарт.

Ён не любіў палякаў, таму што ўжо тады быў непрыхільны да ўсіх тых, хто меў нацыянальны і патрыятычны дух, але ён аддаваў, аднак, належнае іх мужнасці. Ён апекаваўся польскімі легіёнамі, ствараў новыя з усіх польскіх палонных, якіх узяў у аўстрыйцаў. У Францыі толькі і гаварылася пра ўзнаўленне Польшчы, і палякі не помнілі сябе ад радасці. Банапарту большага і не трэба было, каб даць ім зразумець, што яны не павінны мець іншай надзеі, акрамя той, якую яму трэба будзе ў іх падтрымліваць.

Але калі ён даў загад частцы польскіх легіёнаў адправіцца на выспу Сан Дамінга, а астатніх выслаў у Італію з мэтай фарміравання ганаровай гвардыі караля Этрурыі, то больш за трохсот польскіх афіцэраў запатрабавалі адстаўкі, і ні ўзнагароды, ні пагрозы, ні праследаванні не змаглі затрымаць іх. Яны абвясцілі, што служылі толькі з надзеяй на вяртанне калі-небудзь на сваю бацькаўшчыну і што, не спраўдзіўшы сваіх спадзяванняў, яны ў ніякім разе больш не застануцца на французскай службе. Гэты крок здзівіў Банапарта, але не схіліў яго да змены пастановы. Не спатрэбілася шмат часу, каб пераканацца, што палякі яму патрэбныя для выканання ягоных праектаў, бо не мог ён напасці на Аўстрыю, Прусію і Расію, не маючы палякаў на сваім баку. І вось ён пачаў зноў падаваць ім надзеі праз сваіх эмісараў. Ён намагаўся асобна трымаць усіх польскіх палонных, якіх лёс вайны аддаў у ягоныя рукі, каб папаўняць італьянскі легіён і стварыць рэйнскі легіён. Патаемна працаваў у польскіх правінцыях, што належалі тром манархам, а ягоныя перамогі, шэраг якіх ён хутка атрымаў, толькі павялічвалі кожны дзень колькасць прыхільнікаў з боку палякаў.

Яшчэ да аўстэрліцкай бітвы з'явіўся ў Варшаве патаемны агент для падрыхтоўкі перамен, задуманых там Напалеонам. Але рашэнне ўзнавіць Польшчу было адкрыта выказана толькі ў час апошняй вайны з Прусіяй і Расіяй. Напалеон, не маючы магчымасці спакусіць Касцюшку, схіліць яго да прыяднання да сябе і да выдання

ад яго імя адозваў да палякаў, выкарыстаў для гэтай мэты выступленні ў друку генералаў Дамброўскага і Выбіцкага, абы выклікаць упэўненасць, што справа ідзе аб узнаўленні Польшчы. Аб усім абвясціў публічна ў Берліне, Познані і Варшаве, і тысяча сведкаў могуць [яго дзеянні] пацвердзіць. У той жа час прыняў дэпутатаў ад Галіцыі і, пабачыўшы, што Літва не падзяляе энтузіязму іншых правінцый даўняй Польшчы, пасылаў туды неаднаразова эмісараў, якім было даручана даследаваць грамадскі настрой, даваць запэўніванні жыхарам, што ягоным намерам з'яўляецца пашырэнне граніц Польшчы ажно да Волгі. Тым не менш ён сам апынуўся ў становішчы, якога не чакаў перад Тыльзіцкім мірам, бо руская армія аказала супраціўленне, чаго ён звычайна не сустракаў.

Мужнасць непрыяцеля, з якім змагаўся, суровасць зімы ў апошнюю кампанію, працяглая адсутнасць у Парыжы, асцярога ўдзелу Аўстрыі ў вайне і трывожныя весткі аб падрыхтоўцы рэвалюцыі ў Іспаніі, усё гэта схіляла яго да заключэння міру. Таму ён прыняў усе меры, каб паскорыць яго і каб выклікаць давер да сябе ў імператара Аляксандра. Нягледзячы на гэта, калі ён праводзіў урачыстасці ў Тыльзіце і працягваў перагаворы, ужо задумваў новыя шырокія планы, выкананне якіх павінна было пашырыць, узмацніць і запэўніць ягоную магутнасць.

У гэты час ён пастанавіў забраць з Рыму галаву каталіцкай царквы альбо прымусіць яго падтрымаць свае праекты, скінуць з трону іспанскага караля, канчаткова вырашыць лёс Германіі і, нарэшце, рэарганізаваць частку Польшчы, якая была ў ягоным распараджэнні. Такім чынам [зрабіў усё], каб Варшаўскае княства магло служыць палякам як зарука існавання іх бацькаўшчыны ў будучым. Гэты апошні праект, так жа хутка задуманы, як і выкананы, завяршыўся поўным поспехам. Сапраўды, які жыхар Варшаўскага княства не быў бы заахвочаны такімі шырокімі памерамі палітычнага пераўтварэння гэтай невялікай вобласці са сваёй арміяй у пяцьдзесят тысяч чалавек, з сенатам, заканадаўчым сходам, дзяржаўнай радай, міністрамі ва ўсіх галінах кіравання і нават французскім рэзідэнтам? Хто б не быў натхнёны, даведаўшыся пра тую міласцівую ўвагу, з якой Напалеон звярнуўся да палякаў, наогул, пра асаблівы давер, шляхетнае і велікадушнае абыходжанне з тымі польскімі войскамі, з якіх ён стварыў сваю гвардыю,

і пра прамовы, з якімі выступаў ці загадваў выступаць з мэтаю падтрымання надзеі?

Праўда, пасля апошняй кампаніі супраць Аўстрыі міністр унутраных спраў Францыі Манталівэ заявіў адкрыта, у публічнай прамове, што Напалеон ніколі не думаў аб узнаўленні Польшчы, але ў той жа час (і я гэта магу пацвердзіць як відавочца) быў накіраваны ў Варшаву кур'ер для заспакаення палякаў і запэўнення іх у тым, што мэтаю прамовы Манталівэ было заспакаенне Расіі наконт намераў Напалеона ў адносінах да Польшчы. Вядома, што частка гэтай прамовы, пра якую я толькі што нагадаў, была знята з варшаўскай газеты і што маршал Дзюрок, таксама, як і іншыя давераныя асобы Напалеона, намагаўся запэўніць усіх палякаў, перабываўшых у Парыжы, у тым, што гэта не больш, чым ветлівасць, якую аказалі рускаму паслу.

Урэшце, самыя факты павінны лепш за ўсё растлумачыць сапраўдныя намеры Напалеона. І ў публічных прамовах на Варшаўскім сейме, ад якіх ніхто не адмаўляецца, і ў друкаваных газетах, у вайсковых адозвах бесперапынна паўтараюцца выразы ўдзячнасці Напалеону, як узнавіцелю Польшчы, які бясконца клапоціцца пра шчасце польскага народа. Таксама адкрыта і станоўча гаворыцца пра яго велікадушныя намеры адносна Польшчы і ў друкаваных творах, якія распаўсюджваюцца па ўсёй Еўропе, а гэтага не магло б быць без фармальнага дазволу французскага ўрада, або, па меншай меры, без яго патаемнай згоды. Урэшце, не вяртаючыся да ўсяго, пра што ўжо казаў, да меркаванняў, якія арганізацыя Варшаўскага княства павінна была выклікаць, дадаю толькі, што нядаўняе павелічэнне польскай арміі аж да шасцідзесяці тысяч чалавек, фарміраванне нацыянальнай гвардыі ў Варшаўскім княстве, новая рэквізіцыя коней для польскай артылерыі, адпраўка ў апошні час двухсот гармат і сарака тысяч карабінаў у Варшаву, пазыка па загаду Напалеона ў дванаццаць мільёнаў злотых на рахунак Варшаўскага княства, усё гэта магло выклікаць энтузіязм палякаў і падмацаваць іх надзеі.

Сапраўды, на аснове тых заўваг, якія выкладзены мною на пачатку гэтай запіскі, магло б здавацца, што палякі павінны былі б адмовіцца ад сваёй прыхільнасці да Напалеона і ўпэўніцца ў тым, што яны з'яўляюцца толькі ягонай прыладай супраць Расіі. Магло б здавацца, што гібель братоў іх, палеглых і прынесеных у ахвяру ў Італіі, Сан-Дамінга і Іспаніі, павінна была б беспера-

пынна напамінаць журботныя ахвяры гарачага патрыятызму і даверу, надужыванага праз спакуслівыя абяцанні. Але такую сілу мае прывабнасць Напалеона, такое майстэрства, чароўнасць і моц сродкаў, якімі ён уздзейнічае на палякаў, што яны і дагэтуль яшчэ вераць у яго і перакананыя ў тым, што ён збіраецца ўзнавіць Польшчу як неабходную апору для Францыі супраць Расіі. Вера іх у яго такая вялікая, што, нягледзячы ні на цяжар падаткаў і крутыя спосабы іх спагнання, ні на пастаянныя наборы ў войска і шмат змяненняў усякага роду, якія ён у іх уводзіць, яны цярпліва зносяць прыгнёт рукі, ад якой усё ж чакаюць вяртання сваёй бацькаўшчыны.

Усе, хто лічыць, што войска Варшаўскага княства не з'яўляецца адданым Напалеону і што яно з'яўляецца сродкам да таго, каб схіліць яго да змяненняў цяперашняга стану, памыляюцца. Усе, хто лічыць, што незадавальненне, якое пануе ў Варшаўскім княстве і якое з'яўляецца вынікам агульнай беднасці і ўрадавага ўціску, магло б змяніць патрыятычны настрой жыхароў і расчараваць іх надзеі, таксама памыляюцца. Пакуль, з аднаго боку, Напалеон будзе ўзбуджаць спакуслівыя надзеі і падтрымліваць патрыятычны дух палякаў, і пакуль, з другога боку, Расія не выйдзе з цяперашняга стану бяздзеяння і апатыі, энтузіязм і надзеі палякаў будуць усё больш узрастаць і развівацца.

Шасцідзесяцітысячная армія Варшаўскага княства, безумоўна, не здолее процістаяць двухсоттысячнай рускай арміі. Але ні знішчэнне гэтай арміі, ні таксама авалоданне Варшаўскім княствам не змогуць забяспечыць Вашай Імператарскай Вялікасці падпарадкаванне, адданасць і вернасць рэшты польскага народа. Трэба перад усім ужыць папярэднія сродкі, якія дазволю сабе нагадаць вам.

Няцяжка далучыць да сябе правінцыі моцнай дзяржаве. Але патрэбна шмат год, каб прыцягнуць да сябе жыхароў заваяванага краю, каб прызвычаіць іх да змяненняў, каб прымусіць іх забыцца пра мінулыя ўмовы існавання, і, безумоўна, ненатуральнай справай з'яўляецца змешванне і зліццё, калі так можна гаварыць, двух розных народаў, каб зрабіць з іх толькі адно цэлае. Імператар Напалеон можа, паводле свайго густу, адным сваім дэкрэтам далучыць да сваёй імперыі Таскану, Галандыю, Валіс і поўнач Германіі, але ж ад гэтага ніколі італьянцы, галандцы, швейцарцы і немцы не

стануць французамі. Хаця, у кожным разе, нельга не прызнаць, што нават і пры такім гвалце Напалеон можа здабываць вялікую карысць і трэба задумацца над сродкамі, якія ён ужывае, абы зблізіць народы, у якіх мовы, звычаі, правы і побытавыя імкненні самыя розныя. Як толькі, напрыклад, ён пераўтварыў у дэпартамент далучаную да французскай імперыі вобласць, адразу рупліва сабраў дакладныя звесткі пра грамадскі настрой, сродкі і патрэбы краю, пра характар жыхароў, людзей, якія за сваю адданасць яму заслугоўваюць узнагароды, таксама як і пра тых, хто з'яўляецца непакорным і неспакойным, якія трэба ўжыць меры, каб не дазволіць шкодзіць. Кожнаму новаму дэпартаменту ён прадстаўляе права мець сваіх прадстаўнікоў у заканадаўчым сходзе, сенатараў, членаў у трыбуналах юстыцыі. Але ў той жа час большасць мясцовых чыноўнікаў ён прызначае з ліку сваіх прыхільнікаў. Прыцягвае да свайго двара вяльмож і багатых людзей, цешыць славалюбных, раздаючы ім тытулы і ўзнагароды; вылучае і дае значныя пасады з добрым жалаваннем тым таленавітым мясцовым жыхарам, якія не мелі ніякіх сродкаў да існавання; апякуецца навукоўцамі і мастакамі. Такім чынам, нягледзячы на цяжкія кантрыбуцыі, падаткі і вайсковыя пабары, а ўсё гэта жыхары паўсюдна ненавідзяць, Напалеон атрымоўвае і захоўвае ва ўсіх далучаных новых абласцях прыхільнасць людзей, якія яму адданыя і якія асабіста зацікаўленыя ва ўтрыманні добрага парадку і ўнутранай бяспекі.

Я адступіў непасрэдна ад прадмета маёй запіскі таму, каб акрэсліць больш дакладным спосабам сістэму, з дапамогай якой Напалеон, абы прыяднаць да сябе паўсюдна прыхільнікаў, спакушаючы і падпарадкоўваючы сабе людзей. Такім чынам ён дабіваецца поспеху і знаходзіць сродкі для выканання сваіх планаў.

Угледзімся лепш у сутнасць спраў. Ці нельга ў цяперашніх палітычных абставінах папярэдзіць Напалеона ў яго плане ўзнаўлення Польшчы, які яму патрэбны для зручнага моманту, каб напасці на Расію? І ці не будзе магчымым заняцца станоўчым вырашэннем лёсу палякаў, каб схіліць іх да асобы Вашай Імператарскай Вялікасці на больш трывалых асновах, чым іх здолеў натхніць імператар французаў?

Калі б цяпер пачалася наступальная або абарончая вайна з Францыяй, то вырашэнне лёсу Польшчы залежала б толькі ад зброі. Такім чынам, было б ужо позна

абдумваць, што ўжываць для арганізацыі васьмі губерняў Расіі, якія складалі калісьці частку Польшчы, каб зрабіць з іх моцную апору супраць усялякіх дзеянняў з непрыяцельскага боку Напалеона. Калі б вайна пагражала Вашай Імператарскай Вялікасці, трэба было б неадкладна абвясціць сябе каралём польскім, бо гэта быў бы той пэўны і натуральны сродак, пры дапамозе якога Вы выклікалі б прыхільнасць да сябе жыхароў Варшаўскага княства. А потым Вашай Імператарскай Вялікасці давялося б пастанавіць, якім чынам вызначыць межы гэтага новага каралеўства і спосаб яго кіравання на асновах, выгадных для палякаў, не парушаючы інтарэсаў імперыі. Але лічу, што яшчэ ёсць час выкарыстаць акалічнасці, і спадзяюся даказаць больш адчувальна, што, нягледзячы на бліскучыя заахвочванні, якія абцяжараны вайсковымі падаткамі і павіннасцямі ў Варшаўскім княстве, Напалеон не мае намеру свае абяцанні здзейсніць. Было б неабходна, Найяснейшы Пане, каб вы пастараліся прыяднаць да сябе як мага больш жыхароў той часткі Польшчы, якая ўключана ў склад Расіі, каб даць ёй магчымасць пазнаць розніцу паміж дабрачынным урадам і прыгнятальніцкім. Хачу дадаць, што сродкі для дасягнення такой мэты вельмі простыя, тым больш, што яны цалкам адпавядаюць бацькоўскім намерам Вашай Імператарскай Вялікасці і не пярэчаць інтарэсам Расіі.

Частка Польшчы, далучаная да Расійскай імперыі, складала калісьці асобнае самастойнае валоданне — Літву, яшчэ перад актам уніі Літоўскага княства з каралеўствам Польскім. Жыхары яго спрадвеку адрозніваліся ваяўнічым духам, клапаціліся пра свае правы і былі верныя сваім манархам, адзначаліся мужнасцю і любоўю да бацькаўшчыны. Гордыя сваім паходжаннем, ліцвіны, нягледзячы на аб'яднанне сваёй правінцыі з Польшчай, захавалі свае звычаі, свой цывільны кодэкс, мясцовае кіраванне, сваё войска, вярхоўны суд, міністраў, дзяржаўных саноўнікаў і нават сойм, які збіраўся па чарзе ў Варшаве і Гародні. Усе гэтыя прывілеі былі такімі дарагімі для літоўцаў, што, нягледзячы на ўсялякія намаганні і красамоўныя перакананні шматлікіх дзяржаўных дзеячаў, немагчыма было схіліць літоўцаў да адмовы ад сваіх прывілеяў.

Я перакананы, што калі б з часу далучэння да Расіі забраных польскіх зямель была б з іх утворана адна правінцыя, захавана імя Літвы і пакінуты яе даўнія

правы, і калі б з яе быў створаны асобны край са сваім кіраўніцтвам, але ў якасці злучанай і ўключанай у склад Расійскай імперыі дзяржавы, то тады іншаземны ўплыў пранікнуў бы туды з цяжкасцю.

Аднак жа, нягледзячы на агіду, якая адчуваецца пры замене незалежнасці абавязкам падпарадкавання, нягледзячы на розныя злоўжыванні, якія пачаліся пры кіраванні Літвой з моманту далучэння да Расіі, урэшце, нягледзячы на агульную беднасць, якая адчуваецца цяпер у гэтым краі, ліцвіны ніколі не адмаўляліся ад вернасці манархам Расіі, з таго часу, як знаходзяцца ў іх падпарадкаванні. Наадварот, яны цалкам давяраюць пачуццям Вашай Імператарскай Вялікасці і ўжо ў розных выпадках зазнаюць дабратворны ўплыў вашага складу думак і чакаюць справядлівасці і вялікадушнасці Вашай Імператарскай Вялікасці.

Цяпер, Найяснейшы Пане, надышла хвіля, калі Вы здолееце праверыць прыхільнасць літоўцаў і разам з тым знішчыць уплыў Напалеона, які снуе надзею паміж імі пра ўзнаўленне Польшчы; час паказаць ім інтарэс, які маеце ў іх лёсе, Ваша Імператарская Вялікасць, і назаўжды ўшанаваць адданасць Вам гэтага васьмімільённага насельніцтва, якое будзе апорай Расіі з таго боку, адкуль менш за ўсё яна абаронена, не гаворачы пра тое, што гэтым Вы б схілілі на свой бок сэрцы палякаў, жыхароў Варшаўскага княства.

Арганізуючы гэтыя восем губерняў, паводле мясцовых асаблівасцей краю і характару жыхароў, і, спыніўшы злоўжыванні, якія закраліся ва ўнутранае кіраванне гэтай правінцыі, Ваша Імператарская Вялікасць прыдбае непарушнае права на ўдзячнасць жыхароў і атрымае на заходняй мяжы Вашай імперыі апору больш надзейную, чым усе крэпасці і войскі, што там знаходзяцца.

Калі я буду мець шчасце ад таго, што запіска гэта будзе прачытана і мемарыял прыняты Вашай Імператарскай Вялікасцю, і калі буду дастаткова шчаслівым, каб быць выкліканым для напісання адпаведнага праекта арганізацыі Літвы, то я ахвотна выканаю гэта. Цяпер жа я абмяжоўваюся тлумачэннем правоў, якія можна было б надаць літоўцам, і нагадаю параўнальнае становішча ў гэтым выпадку жыхароў Літвы і жыхароў Варшаўскага княства і, урэшце, якія ёсць выгады ад гэтага для рускага ўрада.

1. Кожнаму даражэй за ўсё ўзнаўленне імя сваёй бацькаўшчыны, дзе ён упершыню ўбачыў свет жыцця,

і няма неабходнасці даказваць натуральнасць гэтага пачуцця. Тады лёгка зразумець, што ліцвінам было б радасна насіць імя свайго краю і карыстацца тым жа самым правам, якое захавана ў Расіі калмыкам, казакам, фінам і іншым плямёнам.

2. Калі б кіраўніцтва Літвой было даручана аднаму начальніку, прызначанаму Вашай Імператарскай Вялікасцю з адпаведным тытулам, то справы ў гэтым краі значна спрасціліся б, былі б не такімі клапатлівымі і цяжкімі для кожнага жыхара, як цяпер.

3. Начальнік такі, як я, разумею, павінен быць намеснікам імператара, мець свой двор, які ўпрыгожваў усю правінцыю, стаў бы месцазнаходжаннем урада. І гэта прынесла б значную карысць гораду, ажывіліла б узаемаадносіны паміж жыхарамі і ўзмацніла б грашовыя абароты.

4. Статут літоўскі заўсёды лічыўся шляхтай як найдасканалейшы кодэкс цывільных і крымінальных правоў. Таму, захоўваючы свабоды [трэба было б], весці працэсы ў судах паводле гэтага статута з пэўнымі мадыфікацыямі, якія практычна зрабілі неабходнымі, Ваша Імператарская Вялікасць, задаволіла б адно з самых гарачых пажаданняў шляхты. Тым самым ліцвінам было б надана не больш за тое, што зроблена для жыхароў Фінляндыі, якая ўтрымлівае законы, правы і формы сваёй судовай працэдуры.

5. Надаючы ліцвінам статут, можна было б дазволіць мець сенат альбо безапеляцыйны трыбунал, што б спыніла значную колькасць спраў у Пецярбурзе і зменшыла б занятκі сената ў сталіцы; з другога боку, гэта спрасціла б цяжэбным бакам «падарожжы», клопаты і непазбежныя выдаткі.

6. У заключэнне трэба было б цалкам ураўнаваць ліцвінаў у падатках і спосабах іх спагнання з іншымі губернямі імперыі.

Здаецца на першы погляд, што прывілеі, якія прапаную для ліцвінаў, не могуць ісці ані ў якое параўнанне з тымі прывабнымі надзеямі адраджэння Польшчы, якія маюць жыхары Варшаўскага княства, але наступныя супастаўленні змогуць растлумачыць гэтае пытанне.

Ліцвінам адным росчыркам пяра будзе вернута бацькаўшчына, тады як варшавяне маюць цяпер толькі надзею і павінны яе акупіць яшчэ цаной уласнай крыві. Ліцвіны, складаючы частку вялікага цэлага, ганарацца тым, што з'яўляюцца падданымі імператара Аляксандра, да якога

яны шчыра прывыклі; абавязаны яму за праўдзівае дабрадзейства і ведаюць, што чатырохсоттысячная расійская армія заўсёды гатова іх абараніць ад усялякага непрыяцельскага нашэсця. Варшавяне, наадварот, з'яўляюцца падданымі манарха, які залежны ад волі Напалеона, і знаходзяцца пад цывільным кіраваннем саксонскага караля, а ў вайсковых адносінах — імператара французаў. Яны няпэўныя ў сваім лёсе, маюць перакананасць толькі ў тым, што тэрыторыя іх краю будзе пастаянным тэатрам ваенных дзеянняў і што яны будуць авангардам шматлікай арміі, якая будзе складацца з розных народаў. І гэтая армія будзе ісці не для абароны іх краю, не дзеля таго, каб пашырыць межы Польшчы, але каб быць накіраванай толькі туды, куды накіруюць яе інтарэсы Напалеона і ягоныя славалюбныя намеры.

Каб пацвердзіць гэтыя супастаўленні, дастаткова заўважыць, што межы Літвы цяпер прыкрыты моцнай арміяй, якая гатова абараніць яе ў выпадку нападу ў часе вайны як непарушальную частку імперыі. Між тым як у часе апошняй кампаніі 1809 г. супраць Аўстрыі, французы і саксонцы, пакінуўшы Варшаўскае княства, аддалі абарону княства некалькім тысячам польскіх войск.

Калі б ліцвіны мелі толькі аднаго начальніка, які б быў намеснікам імператара і чалавекам, годным ягонага выбару, то яны цешыліся б усялякімі карысцямі прамога і адзінага кіравання, якое б было разлічана на захаванне шчасця і спакою людзей. Варшавяне ж, наадварот, ведаюць да гэтага часу толькі вайсковы дэспатызм і цывільную анархію.

Ліцвіны, захоўваючы свой статут, зберaглі б і правы сваіх бацькоў, правы, разлічаныя на мясцовасці, звычаі і прывычкі народа. Варшавяне ж, наадварот, захоўваюць у сваіх юрыдычных формах мешаніну даўніх правоў польскіх, прускіх і французскіх паводле кодэксу Напалеона, што вельмі перашкаджае суддзям і бакáм у судзе.

Ліцвіны, урэшце, калі будуць на роўных з іншымі падданымі Расійскай імперыі ў спагнанні падаткаў, не павінны падпарадкавацца самавольству, як жыхары Варшаўскага княства, дзе добра вядома, што ў некалькіх дэпартаментах бачылі асоб, вымушаных пазбавіцца сваіх маёнткаў, застаючыся на пенсіі, якая б адпавядала палове падаткаў, што загадвалі ім выплаціць. І ў заключэнне, каб ніхто не абвінавачваў мяне, што я пагарджаю інтарэсамі Расіі, думаючы толькі пра Польшчу, лічу

неабходным вытлумачыць сапраўдную выгаду, якая б узнікла для імперыі з-за арганізавання Літвы.

1. Як толькі Напалеон не зможа ўжо карыстацца такім вялікім сродкам, як узнаўленне Польшчы, абавязкова знікнуць і ўсе ягоныя прыхільнікі у той частцы, якая далучана да Расіі, так што ў выпадку вайны не трэба будзе сцерагчыся і баяцца непрыяцеля ўнутры сваіх уладанняў; пры гэтым ворага больш небяспечнага, чым вораг, з якім трэба змагацца ў адкрытым полі.

2. Ліцвіны, няпэўныя дагэтуль у сваім лёсе, які ім прынясе вайна альбо новыя палітычныя перамовы, з задавальненнем пабачылі б, [што за іх ўсе] вырашана і ўстаноўлена зверху. А згодна з гэтым насельніцтва ў некалькі мільёнаў было б звязана з імперыяй новымі сувязямі і не магло б разлічваць на сваю сілу і на іншы спосаб свайго існавання, ⟨· · ·⟩ складаючы частку імперыі. Яно б не ўступала нікому з іншых падданых Вашай Імператарскай Вялікасці, абы толькі давесці Вам свае пачуцці адданасці і ўдзячнасці за такія дабрадзействы.

3. Дагэтуль, ці то з-за страху, ці то з-за прымхі, або проста немагчымасці іх выкарыстання, большасць здольных людзей, якія служылі калісьці бацькаўшчыне, адаліліся ад спраў, лічачы за лепшае скончыць сваю работу ў невядомасці, чым пачынаць яе нанава. Цяпер жа, Найяснейшы Пане, я магу наперад сказаць, што не будзе нікога, хто не пасляшаў бы ахвяраваць свае паслугі Вашай Імператарскай Вялікасці, як у цывільнай справе, так і ў вайсковай.

4. Ліцвіны адрозніваюцца энтузіязмам, яны верныя і прывязаныя да свайго манарха. І калі яны прагнуць быць ураўнаванымі з іншымі расійскімі падданымі ў падатках і спосабу іх спагнання, то ў той жа час яны не будуць абмяжоўвацца ў ахвярах, якія пойдуць на карысць краю, пакольк лёс іх будзе вызначаны і запэўнены. Яны будуць мужна абараняць мяжу імперыі; аддадуць усё, што маюць, калі гэта спатрэбіцца, для інтарэсаў Вашай Імператарскай Вялікасці; даставяць столькі людзей, колькі будзе патрэбна. Іх праўдзівы характар, патрыятызм, адданасць Вашай Вялікасці будуць служыць парукай у гэтым.

5. І не адны толькі ліцвіны будуць прасякнуты пачуццём замілавання і ўдзячнасці да Вашай Імператарскай Вялікасці. Пачуццё гэтае пранікне і да жыхароў Варшаўскага княства. Толькі пры такім супастаўленні яны б

адчулі розніцу паміж спосабам дзеянняў Аляксандра і прыёмамі Напалеона. Адважваюся прадказаць, што ў такім выпадку вялікая лічба афіцэраў і жалнераў варшаўскіх пажадала б паступіць на службу Вашай Імператарскай Вялікасці, асабліва тыя, хто пакінуў Вашыя ўладанні. Яны будуць намагацца хутчэй вярнуцца на радзіму. Гэта ўжо будуць не ўцекачы, а людзі расчараваныя, якія пераканаліся ў падманнасці надзеі адраджэння Польшчы Напалеонам. Вось тады варшавяне пажадаюць моцна і шчыра падзяліць лёс ліцвінаў. Аднак я не хачу апярэджваць падзеі і лічу, што выканаў сваю задачу, выказаўшы Вашай Імператарскай Вялікасці чыстасардэчна ўсё, што мне падказалі маё сэрца і перакананне.

Тэкст узяты з кн.: *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношение к императору Александру Павловичу (1807—1815) // Русский архив. 1874, кн. 1—6, стб. 647—661; Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach od r. 1788 az do końca r. 1815. Poznań, 1872. T. 3. S. 27—40.

## ПРАЕКТ УКАЗА АБ НОВАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯЎ

Мы з божай ласкі і г. д. і г. д.

Вызначыўшы падставы агульнай арганізацыі міністэрстваў у нашым маніфесце ад дня 25 чэрвеня 1811 г. і ўзяўшы пад развагу ўсялякія прадметы, якія датычацца падрабязнай арганізацыі ўсіх губерняў імперыі (а ў іх складзе і заходніх правінцый), жадаючы ўстанавіць больш просты [спосаб кіравання], адпаведны мясцовым патрэбам краю, Мы загадалі і абвяшчаем пасля таго, як выслухалі меркаванне Дзяржаўнага савета:

Артыкул I. Губерні: Гродзенская, Віленская, Мінская, Віцебская, Магілёўская, Кіеўская, Падольская і Валынская разам з акругамі Беластоцкай і Тарнопальскай утвараюць ад гэтага часу адну правінцыю пад назваю Вялікае княства Літоўскае.

Артыкул II. Кіраванне Вялікім княствам Літоўскім даручаецца асобнай персоне са званнем імператарскага намесніка, які кіруе Вялікім княствам Літоўскім.

Артыкул III. Імператарскі намеснік карыстаецца тытулам Высокасці. На ўтрыманне яго вызначаецца асобная частка дзяржаўнай маёмасці. Ён мае месцапрабыванне ў Вільні, сталіцы Вялікага княства.

Артыкул IV. Пры Нас і ў Нашым непасрэдным распараджэнні знаходзіцца Літоўская канцылярыя пад

кіраўніцтвам аднаго з дзяржаўных міністраў паводле Нашага прызначэння. Гэтая канцылярыя будзе Нашым непасрэдным органам у кіраванні публічных спраў Вялікага княства Літоўскага.

Артыкул V. Унутраная адміністрацыя Вялікага княства засяроджваецца ў Адміністрацыйнай радзе кіравання пад старшынствам імператарскага намесніка. Рада падраздзяляецца на некалькі дэпартаментаў і складаецца з аднаго генеральнага дырэктара і некалькіх радцаў. Усе сябры гэтай рады прызначаюцца Намі.

Артыкул VI. Асноўным статутам Вялікага княства Літоўскага павінны быць вызначаны арганізацыя ўсіх галін унутранага кіравання і абавязкі службовых асоб,— у адносінах да тэрытарыяльнага падзелу Вялікага княства, размеркаванне падаткаў, кіраванне дзяржаўнай маёмасцю, набору і ўтрыманню войск, парадку і ўтрыманню паліцыі, пошты, шляхоў зносін, ведамстваў юстыцыі, духоўных спраў, народнай адукацыі, земляробства і прамысловасці.

Артыкул VII. Рэдакцыя асноўнага статута ўскладаецца на асобную, Намі заснаваную камісію, у склад якой прызначаюцца... Камісія дзейнічае пад Нашым непасрэдным наглядам і павінна прадставіць Нам у магчыма недаўгачасны тэрмін вынікі сваіх нарад.

Артыкул VIII. Літоўскі статут застаецца назаўжды грамадзянскім законапалажэннем для Вялікага княства Літоўскага, і ўсё справаводства ў Вялікім княстве будзе весціся на мове польскай.

Артыкул IX. Апошняй інстанцыяй для рашэння ўсіх цывільных і крымінальных спраў будзе вярхоўны трыбунал у Вільні. Правы смяротнага пакарання і памілавання прадастаўляюцца Нам.

Артыкул X. Усе пасады ў дзяржаўным кіраванні могуць замяшчацца толькі ўраджэнцамі Вялікага княства.

Артыкул XI. Усе сумы на народную адукацыю і ўтрыманне навучальных устаноў, якія цяпер існуюць і ў наступным часе могуць паступіць па нашаму вызначэнню або з прыватных ахвяраванняў,— назаўсёды аддзяляюцца ад іншых галін грамадскіх даходаў.

Тэкст узяты з кн.: *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношение к императору Александру Павловичу (1807—1815) // Русский архив. М., 1874, кн. 1—6, стб. 664—665; Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach od r. 1788 az do końca r. 1815. Poznań, 1872. T. 3. S. 46—48.

## ПАМЯТНАЯ ЗАПІСКА, ПАДАДЗЕНАЯ ІМПЕРАТАРУ АЛЯКСАНДРУ І ГРАФАМ МІХАІЛАМ АГІНСКІМ

*Найяснейшы Пане!* 1 снежня 1811 г.

Лічу, што было б неадпаведна намерам Вашай Вялікасці і патрабуемай цяперашнімі абставінамі сістэме, калі б вы ўтварылі асобную літоўскую армію і заклікалі да дзеяння ўсе дапаможныя сродкі далучаных да Расіі польскіх правінцый.

Я быў бы недастойны Вашай міласцівай увагі і даверу, калі б хаця на адзін момант аддзяліў дастатак маіх суайчыннікаў ад пачуццяў майго абавязку адносна Вашай Вялікасці. І першае, і другое непадзельнае ў мяне, і наколькі, з аднаго боку, буду я руплівца ў выклапатанні належнага побыту маіх суайчыннікаў, магчымага толькі шляхам новай арганізацыі,— настолькі, з другога боку, не прапусціць нічога, каб растлумачыць Вам, гасудар, маючую ад таго карысць для Вас.

Пакідаючы больш блізкі для мяне ў вайсковай справе план арганізацыі літоўскай арміі, я магу толькі перадаць погляды і назіранні, але не хачу падманваць Вас, Найяснейшы Пане, і не буду прапаноўваць Вам тое, што нездзяйсняльна. Гэтаму плану, калі толькі яго выканаць з карысцю для дзяржавы і дастойным Вашага вялікадушша чынам, павінна папярэднічаць арганізацыя заходніх губерань.

Ужо і цяпер сялянскі клас гэтай часткі імперыі пастаўляе аднолькавую з іншымі губернямі колькасць рэкрутаў. Застаецца прызваць да ўдзелу толькі шляхту і валанцёраў з іншых саслоўяў. Але хай будзе мне дазволена спытаць: хто ў цяперашні час возьмецца добраахвотна за зброю супраць палякаў? Бо так называюць паўсюдна жыхароў княства Варшаўскага. Прымусіць служыць можна кожнага, але цяжка кіраваць пачуццямі, якія б цалкам схіляліся на бок тых, чыё імя жадаюць насіць. І наадварот, зыходзячы з той жа крыніцы, пытаюся: хто не пажадае ад душы служыць Вашай Вялікасці, калі пераканаецца ў дабрадушных намерах Вашых і будзе бачыць у Вас узнавіцеля сваёй бацькаўшчыны.

Усё, што можна было б паведаміць Вашай Вялікасці пра характар палякаў, пра карысць і неабходнасць узнаўлення Польшчы і арганізацыю Літвы, як пра папярэднюю для гэтага меру,— усё гэта Вы ўжо чулі і чыталі.

Усё бачыць належыць Вашаму генію, які ідзе поплеч з сэрцам, адзінае жаданне якога — выправіць створанае зло. Але і за ўсім гэтым, адважваюся яшчэ раз звярнуць увагу Вашай Вялікасці на некаторыя дадатковыя тлумачэнні да маёй запіскі, пададзенай Вам у маі гэтага году.

Ад пачатку XVIII ст. пачалі ўзрушваць Польшчу прычыненыя суседнімі дзяржавамі безуладдзе, неспакойствы, дух партый і міжусобіцы і, пасля некалькіх падзелаў, сярод крызісу, які пагражаў пераваротам усёй Еўропы, палітычнае існаванне Польшчы спынілася. Цяжка зразумець, якім чынам народ польскі, пры ўсіх памылках і заганах яго ўраду, пры ўсёй сваёй схільнасці да знешняга бляску і роскашы, пры ўсіх запазычаных ад іншаземцаў благіх звычках, і, урэшце, выцярпеўшы так шмат разнастайных няшчасцяў,— мог захаваць, якія адрозніваюць яго, дух дзейнасці, любоў да бацькаўшчыны і выпрабаваную мужнасць. У гэтых якасцях нельга адмовіць палякам, і яны цалкам згладжваюць прывітыя ім урадавым непарадкам іх заганы — лёгкадумнасць і нясталасць.

Зазнаўшы долю падзела паміж трыма дзяржавамі, Польшча страціла месца на карце Еўропы, але тым не менш палякі захавалі ідэю сваёй народнасці.

Заваяваныя сілай зброі, звязаныя доўгам абавязку і пры гэтым безупынна намагаючыся ўзнавіць сваю бацькаўшчыну,— усё ж яны не парушаюць адданасці сваім новым манархам.

І тыя, якіх Ваша Вялікасць паклікала да грамадзянскай дзейнасці, і тыя, хто займае вайсковыя пасады,— не далі падстаў для абвінавачвання, ніколі не былі здраднікамі. Так і ў будучым стануць дзейнічаць усе, каму Ваша Вялікасць дасць якое-небудзь прызначэнне. Не скажу, аднак, каб любоў, якую асабіста адчуваюць да Вашай Вялікасці, не была галоўнаю асноваю іх вернасці абавязку.

Патрыятычны ўздым — гэтая пастаянная крыніца неразумнасці палякаў, так адмыслова распрацаваная Напалеонам у жыхарах княства Варшаўскага, заўсёды ажыўляе іх, як толькі яны ўгледзяць, хаця і здалёку, магчымасць уваскрэсіць Польшчу.

Дарагія яшчэ для іх сэрца словы: «бацькаўшчына і народнасць», якія згладжваюцца цяпер з такім насіллем, навязанай большай частцы Еўропы сістэмаю Напалеона. Скажу шчыра, што і тыя з іх, якія сілаю зброі пераве-

нутыя ў рускіх падданых, ніколі не жадалі адмовіцца ад імені палякаў.

Не ў імені, бясспрэчна, сапраўднае шчасце людзей, якія належаць да розных народнасцей. Сілаю векавых пераваротаў, у Еўропе да таго ж пераблытаны лёсы людскія і назвы зямель, што знойдуцца мільёны людзей, якія не ведаюць сваёй сапраўднай бацькаўшчыны.

І аднак жа слова «бацькаўшчына» несумненна існуе. Са старажытных часоў яно складае любімую ідэю сапраўдных мужоў краіны. Ёсць у ім нейкая абаяльная прывабнасць для ўсіх, для каго дарагія гонар і дабрадзейнасць. Бацькаўшчына дорага ўсім народам, асабліва зведаўшым заняволенне, і ніякая чалавечая сіла не змагла заглушыць яго ў доўгім шэрагу пакаленняў. Што гэта? Інтарэс? Фантазія мозгу? Зманлівы прывід? Не лічу неабходным заглыбляцца ў вырашэнне гэтых пытанняў. Скажу толькі, што факт існуе, і манархі ніколі ўважліва на ім не спыняюцца.

Угледзімся бліжэй, ці маюць жыхары былой Польшчы, акрамя гвалтоўнага пазбаўлення іх імені палякаў, яшчэ больш грунтоўныя прычыны, каб жадаць узнаўлення іх старажытнай бацькаўшчыны.

Падуладным Аўстрыі палякам дасталася чужая мова, цяжкія падаткі, нязвыклае судаводства, гвалтоўны прымус да змянення старажытных звычаяў і бясконцыя нязручнасці ў падрабязнасцях унутранага кіравання.

У прускай Польшчы ўсе тутэйшыя службовыя асобы былі адразу выцеснены нямецкімі чыноўнікамі, якія нахлынулі. Цяжкія формы справаводства, бясконцасць працэдуры іскавых спраў, выключнасць нямецкай мовы ў афіцыйных зносінах, здзекі, нязадольнасць і вымаганне чыноўнікаў,— усё гэта настроіла польскае дваранства супраць прускага ўраду. Праўда, што земляробства і прамысловасць атрымалі большае развіццё, але гэтая выгада здабыта выключна за кошт дваранства — адзінага саслоўя, якое ўтварыла раней польскую нацыю, а цяпер церпіць усялякія цяжкасці і зняважэнні.

У параўнанні з гэтым становішча падуладных Расіі палякаў непараўнальна лепшае і, дзякуючы падабенству мовы, звычаяў, прывычак, схільнасцей і патрэбнасцей, лёс іх не такі цяжкі. Падаткі не павялічаны, дваранства захавала свае прывілеі, судаводства амаль не змянілася; вольныя выбары чыноўнікаў, за выключэннем некаторых, якія назначаюцца ад урада, захаваныя на ранейшай аснове. Адным словам, тыя палякі, якія зна-

ходзяцца пад уладай Расіі, а менавіта дваране, маюць шмат асноў аддаваць перавагу свайму побыту, у параўнанні з умовамі, у якіх знаходзяцца іх суайчыннікі ў Аўстрыі і Прусіі.

Але як, з другога боку, згладзіць даўнія ўспаміны? Якім чынам прымусіць забыцца пра дэспатычнае панаванне ў Польшчы рускіх паслоў, выкліканыя імі міжусобіцы, асабістыя ганенні, разарэнне зямельнай уласнасці, пагібель і зняваrу мноства сем'яў.

Разважлівыя людзі, не адносячы ўсіх гэтых бядотаў да рускага ўрада, ускладалі віну за іх уласна на чыноўнікаў. Аднак тым не менш зло было вялікае і глыбока адчувалася. Нават і пасля падзення Польшчы як мала чыноўнікаў апраўдалі спадзяванні ўраду! Многія з іх, гледзячы на палякаў як на мяцежнікаў і рэвалюцыянераў, адмаўлялі ім у тым апекаванні, якім карыстаюцца ўсе іншыя падданыя імперыі.

Амаль усе заслужаныя людзі краіны былі прымушаны ўхіліцца ад спраў. Іх месцы занялі асобы, якія кіраваліся толькі меркаваннямі славалюбства і прывілеяў на службе. Яны зазначалі, што іх папярэднікі з'яўляюцца людзьмі небяспечнымі для ўраду, абуджалі недавер да іх у манархаў і ўтрымлівалі сапраўдныя крыніцы зла, віноўнікамі якога былі самі,— і хаця вярхоўнымі саноўнікамі імперыі прымаліся меры, каб загладзіць беды, якія цярпелі палякі, але ўсе яны аказвалі толькі павярхоўнае аблягчэнне. Ваша Вялікасць [Вы] першы [хто] прымяніў адзіную вялікую меру супраць зла і пакут. Яна падказана Вам сэрцам Вашым і, бясспрэчна, Вы прызналі яе неабходнаю ў Вашым перакананні.

Дабрадзействы, выказаныя Вашай Вялікасцю ў мінулым годзе для губерняў Гродзенскай і Віленскай, якія так добра [людзі] зразумелі, могуць лічыцца першымі аб'явамі агульнай рэформы, паводле плану, які Вы самі прынялі.

Дарэмна намагаліся давесці Вашай Імператарскай Вялікасці, быццам бы палякі народ неспакойны, нецярплівы да прыгнёту Расіі, якім цяжка кіраваць. Ад спосабу кіраўніцтва будзе залежыць карысць, якую могуць атрымаць [людзі]. Несправядліва таксама намагаюцца ачарніць славу таленавітых [палякаў], смелы і адкрыты характар якіх выдаваўся нядобразычліўцамі часта як дух рэвалюцыі і непаслушэнства. Гэтыя людзі, якія здаюцца неспакойнымі і небяспечнымі ў адлегласці тысячы вёрст ад сталіцы, маюць толькі адну хваробу — жаданне

насіць імя палякаў, а калі Ваша Імператарская Вялікасць пакліча іх, тады яны будуць першымі прыглядамі Вашай славы і Вашымі найвярнейшымі падданымі.

Ці думаеце Вы, Найяснейшы Пане, што жыхары Варшаўскага княства, альбо што Вашыя польскія падданыя, якія ўздыхаюць аб узнаўленні Польшчы, асабіста кахаюць Напалеона? Бясспрэчна, не, не маюць яны падставы выказваць яму пачуцці любві і ўдзячнасці; але цешыць іх надзея, што ён будзе аднавіцелем іх бацькаўшчыны. Павярніце, Найяснейшы Пан, тую ж самую бронь супраць яго і пабачыце, як Вы ўзмацніце ўсёй прывязанасцю і натхненнем, якія Вашымі асабістымі якасцямі ўзрушаюцца.

Прызнаючы неаспрэчнаю асноваю: 1) што імператар Напалеон, ненасытны войнамі і здабычаю, не дазволіць Расіі доўга карыстацца дабрадзействам міру; 2) што ён справакуе ўсялякімі магчымымі сродкамі, каб узняць [сілы] супраць ворагаў знешніх і ўзбудзіць хваляванні ўнутры; 3) што самым моцным рухавіком, які можна скарыстаць супраць Расіі, з'яўляецца ўзнаўленне Польшчы, таму нельга сумнявацца ў неабходнасці папярэдзіць яго ныя намеры, і што сіла сродкаў адпору павінна адпавядаць сіле сродкаў нападу. Бясспрэчна, што рускія арміі дадуць адпор французскім арміям. Але хай мне будзе дазволена сумнявацца ў магчымасці падтрымання, хоць бы і самымі суровымі сродкамі, спакою ў пагранічных губернях і процідзеяння замежнаму ўплыву.

Чым больш будзе ахвяр патрыятычнага фанатызму, тым большыя поспехі будзе рабіць экзальтацыя. Але гэтага мала. Колькі нявінных ахвяр будзе сярод вінаватых, калі толькі ўрадавыя чыноўнікі будуць заахвочваць паклёпы. Асабістая непрыязнь і нянавісць пачне пашырацца! Сэрца Вашай Імператарскай Вялікасці будзе абліваццa кроўю, бяспека дзяржавы нічога ад гэтага не выйграе, а лічба тых няшчасных, хто пацерпіць, толькі павялічыць раздражэнне і роспач тых, хто здолее пазбегнуць праследванняў паліцыі. Такім чынам, недастаткова будзе значнай арміі, каб змагацца з праціўнікам. Давядзецца супрацьпаставіць Напалеону больш сур'ёзную сілу, гэта значыць 8 мільёнаў жыхароў, на падтрымку якіх ён мае галоўную сваю надзею. І толькі адно слова Вашай Імператарскай Вялікасці схіліць да Вашага трону ўсіх. Неабходна развеяць мары жыхароў Варшаўскага княства і перанесці энтузіязм, які ў іх узбуджае Напалеон на асобу манарха, які без усякай амбіцыі

альбо намераў здабычы забяспечыць існаванне і шчасце сваіх польскіх падданых выключна для задавальнення, дабрабыту і забеспячэння спакою і бяспекі сваіх зямель.

Пераконваючыся, што Ваша Імператарская Вялікасць упэўнена ў неабходнасці гэтага кроку і што стрымлівае [Вас] ад выканання сваіх праектаў толькі адно: няпэўнасць у выбары найлепшых спосабаў, каб іх ажыццявіць. Прызнаюся, што [працэс] клапатлівы і прадстаўляе больш цяжкасцей, чым аб ім можна было б меркаваць, з-за выдаткаў, якія павінны надысці.

Калі ў маі месяцы я дазволіў сабе прапанаваць Вашай Імператарскай Вялікасці арганізацыю Вялікага княства Літоўскага, то абгрунтаваў свой праект: 1) на магчымасці, што палітычныя справы дадуць яшчэ для гэтага час; 2) на прадбачанні выканання гэтага праекта як унутранай адміністрацыйнай меры, якая не выкліча вайну; 3) на ўпэўненасці, калі дазволю сабе гэта сказаць, што гэтая арганізацыя паслужыць як сродак да ўзнаўлення Польшчы пасля аб'яднання княства Варшаўскага з Літвой, паколькі лічыў, што рана ці позна, але гэта мусіць адбыцца.

Калі можна дапусціць, што становішча застанецца такім, якім яно ёсць, то паўтараю яшчэ раз, што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага было б найлепшым сродкам, якога б хапіла толькі на той час, калі я яго прапанаваў. Але, Найяснейшы Пане, калі, нягледзячы на мірныя памеры Вашай Імператарскай Вялікасці, непрыяцель спакою Еўропы снуе планы, якія можна прадухіліць толькі са зброяй у руках; калі ягоныя патаемныя інтрыгі на розных еўрапейскіх дварах, калі новыя ўплывы ў Варшаўскім герцагстве, і ягоныя эмісары, раскіданыя ў краях Вашай Імператарскай Вялікасці, абвяшчаюць патаемныя намеры і абяцаюць блізкі разрыў з Расіяй, то звычайна арганізацыя Вялікага княства Літоўскага не можа быць дастатковай. Па меншай меры яна не дасць вялікіх вынікаў, пасля якіх можна было б спадзявацца на ўстанаўленне міру і спакою. Яна служыла б, праўду кажучы, жыхарам Літвы як сведчанне дабрачынных задум Вашай Імператарскай Вялікасці; яна зменшыла б часткова ўплыў Напалеона на настрой палякаў, здзівіла б варшавян і асабліва іх спадзяванні на палякаў, падданых Расіі, але не абудзіла б такога агульнага энтузіязму, які яна выклікала б у часе ваеннай пагрозы.

У той самы момант, калі імператар Напалеон выбраў бы і абвясціў бы польскага караля, прадухіляючы Вашу

Імператарскую Вялікасць, усе ўражанні, якія арганізацыя Літвы магла б выклікаць, былі б знявечаныя.

Такі момант, Найяснейшы Пане, не ўкрываю гэтага, будзе вырашальным, і, нягледзячы на ўсе запэўненні Напалеона, якія ён дае Вашай Імператарскай Вялікасці, наконт таго, што не думае пра ўзнаўленне Польшчы, я цвёрда перакананы, што разам з першымі ваеннымі крокамі непрыяцеля, а можа нават і перад гэтым, адбудзецца абвяшчэнне польскага караля.

Я дазволіў сабе ў памятнай запісцы, прадстаўленай у маі месяцы, сказаць, што калі б цяпер пачалося наступальная ці абарончая вайна з Францыяй, то было б ужо позна абмяркоўваць меры, каб арганізаваць восем расійскіх губерняў, якія складалі калісьці частку Польшчы, і што без зброі не абышлася б перамога, а разам з ёю і лёс Польшчы. Калі б вайна пагражала, казаў я, то трэба было б Вашай Імператарскай Вялікасці абвясціць сябе каралём польскім і г. д.

Тое, пра што казаў шэсць месяцаў назад, здаецца, мне можна паўтарыць і цяпер, не таму, што я лічу вайну непазбежнаю. Справа ў тым, што неабходны для арганізацыі Літвы і ўвядзення новага парадку час толькі наблізіў бы нас да таго моманту, калі гэтыя змяненні аказаліся б толькі паўмерамі.

Пры ўпэўненасці ў захаванні міру арганізацыя Літвы была б унутраным адміністрацыйным захадам, і тады ад гэтай правінцыі можна было б патрабаваць толькі той выгады, якую даюць ураду іншыя добра зарганізаваныя і кіруемыя вобласці імперыі.

Пры ўпэўненасці ў вайне арганізацыя Літвы была б ужо захадам палітычным, магла даць усе магчымасці, каб скарыстаць асаблівасці краю і добры настрой жыхароў.

Таму, калі арганізаваць і наладзіць Вялікае княства Літоўскае паводле палітычнай сістэмы, то няма ніякага сумнення, што для Расіі было б больш карысна ўтварыць з яго Польшчу і Вашай Вялікасці абвясціць сябе польскім каралём.

Якімі прывабнымі ні былі б прывілеі, якія Ваша Імператарская Вялікасць надала б ліцвінам пры арганізацыі Літвы паводле плана, які я прапанаваў, яны не маглі б зраўняцца з дабрачынным і велікадушным актам узнаўлення Польшчы. Але затое, Найяснейшы Пане, не магу лічыць аднолькавай тую карысць, якую атрымае Ваша Імператарская Вялікасць у адным альбо другім выпадку.

Цяпер, калі Ваша Імператарская Вялікасць пакіне свае заходнія губерні ў іх цяперашнім становішчы і пажадае зрабіць там новы набор з мэтай павелічэння арміі, безумоўна, ніхто не будзе супраціўляцца Вашай волі. Аднак [Вы] знойдзеце толькі жаўнераў, для якіх службовы абавязак будзе прымусовым. Калі ж Ваша Імператарская Вялікасць [палічыць патрэбным] абвясціць сябе польскім каралём, не трэба будзе праводзіць ніякага новага набору і падлічэння рэкруцкага кантынгенту; удзячнасць і натхненне не ведаюць ніякіх межаў, кожны чалавек, здольны насіць зброю, пажадае быць у шэрагах войск, а мужнасць, натуральная для палякаў і накіраваная мудрым кіраўніцтвам іх надзвычайнага правадыра, змусіць усю Еўропу аддаць належнай пашане, справядлівасці, дабрачыннасці і велікадушнасці ўзнавіцеля Польшчы.

Баюся, Найяснейшы Пане, каб я не быў залішне шматслоўным, але прадмет размовы мімаволі цягне мяне далей.

Калі ж Ваша Імператарская Вялікасць вырашыць распачаць вайну, то лічу, што момант, у які рускія войскі ўвойдуць у княства Варшаўскае і ўступяць таксама ў Прусію, дзе прускія войскі прымуць іх як саюзнікаў і сяброў,— будзе адначасна хвілінай, Найяснейшы Пане, калі Вам трэба будзе абвясціць сябе каралём польскім. Але паколькі Вы не хочаце вайны і ў той жа час прадбачыце, што яна непазбежная і верагодна вельмі блізкая, і пры гэтым упэўнены, што Напалеон будзе намагацца апярэдзіць Вас, абвяшчаючы польскага караля,— то ці не было б найлепшай справай урэшце вырашыць пытанне і прыняць гэты тытул, ствараючы спачатку каралеўства Польскае з васьмі губерняў, якія я прапанаваў аб'яднаць пад назвай Вялікага княства Літоўскага?

Гэты крок парушыў бы праект Напалеона і пазбавіў бы яго магутных сродкаў дзеяння і нават, вельмі праўдападобна, калі б тым самым нельга было б прадухіліць вайну, што яна будзе адцягнута і дасць магчымасць Расіі падрыхтавацца да яе.

Напалеон меў бы супраць сябе восем мільёнаў жыхароў, на якіх, як ён мяркуе, можна разлічваць. Тады б ён убачыў знікаючы энтузіязм варшавян, дзякуючы якому дагэтуль мог імі распараджацца паводле свайго самавольства і якія пажадалі б злучыцца з новым каралеўствам Польскім пад аховай і апекай Вашай Імператарскай Вялікасці. А які стымул застаўся б тады французам, італьянцам і немцам пайсці шукаць лаўры на ледзяных палях Расіі?

Утварэнне каралеўства Польскага з'яўляецца больш лёгкім, чым арганізацыя Літвы. Трэба яшчэ прапанаваць, разабраць і абгрунтаваць новы спосаб кіравання Літвой, тады як абвяшчаючы існаванне Польшчы, можна быць упэўненым, што ўсе палякі аб'яднаюцца пад даўняй формай узноўленага ўрада, яго мадыфікацыямі, якія б узніклі пасля далучэння да Расіі.

Зрэшты, да заканчэння вайны гэтая новая Польшча магла б і надалей заставацца, быць падзеленай на восем Літоўскіх губерняў, як і цяпер. Асобы, выбраныя для выпрацоўкі канстытуцыі, заняліся б планам агульнага кіравання, а тым часам адозва Вашай Імператарскай Вялікасці як караля польскага, накіраваная да народу польскага з абяцаннем надання яму канстытуцыі, прыбліжанай да канстытуцыі 3-га мая, з якой народ польскі заўжды звязваў столькі надзей, пашырыла б энтузіязм сярод усіх сямей.

Урэшце, не было б патрэбы змяняць адразу ж формы цяперашняга кіравання. Усё можна было б зрабіць не спяшаючыся. Вашаму слову паверылі б, Найяснейшы Пане; адозва зрабіла б уражанне, і ўсе польскія сэрцы належалі б Вам. Так, Найяснейшы Пане, я ў гэтым пераканаены і магу ўпэўнена сказаць, што потым не знойдзецца аніводнага жыхара Варшаўскага княства, які б не пажадаў з нецярплівасцю падзяліць лёс сваіх літоўскіх суайчыннікаў.

У заключэнне прывяду аргумент, які, як мне здаецца, наўрад ці можна адвергнуць. Лёс вайны заўсёды няпэўны. Войскі Вашай Імператарскай Вялікасці могуць перамагчы альбо панесці паражэнне. У першым выпадку Ваша Імператарская Вялікасць, заняўшы княства Варшаўскае, аб'яднае [калі палічыць патрэбным] яго з астатняй часткай Польшчы і паводле свайго меркавання вызначыць лёс гэтага каралеўства. У другім выпадку непрыяцельскія войскі, уступіўшы на тэрыторыю Польшчы, злучаную з Расіяй, знойдуць у ёй больш ці менш прыхільнікаў, у залежнасці ад таго, якія прычыны яны знойдуць, каб перайсці на бок Напалеона, або застацца вернымі манарху, які для іх зрабіў усё, што можна было чакаць.

Вось самы просты разлік, каб вызначыць лёс вайны. Пакідаючы Напалеону час для падтрымкі захаплення Варшавян, уздзеяння на настрой Палякаў, падданых Расіі, і абвяшчэння караля польскага ўся перавага будзе на яго баку. Калі ж апярэдзіць яго, скарыстаўшы тое, што я адзначыў, то ў яго [Напалеона] будзе аднята бо́льшая частка сродкаў, якія абапіраюцца на садзей-

нічанне палякаў. Тым самым аслабяцца ўсе іншыя сілы, што знаходзяцца ў ягоным распараджэнні.

Такія вынікі магчымы, калі б да іх не далучыліся неаднаразовыя кааліцыі. Але трэба спадзявацца, калі адначасова грозная армія будзе сцерагчы межы імперыі і стрымае поспехі непрыяцеля ўнутры Вашых уладанняў і калі Ваша Імператарская Вялікасць ажыццявіць праект узнаўлення Польшчы. А ён дастойны Вас і з-за збегу палітычных абставін здаецца лёгка выканальным, нават неабходным для міра і спакою ў Еўропе.

Тэкст узяты з кн.: *Подвысоцкий А.* Граф Михаил Огинский и его отношение к императору Александру Павловичу (1807—1815) // Русский архив. М., 1874, кн. 1—6, стб. 669—681; Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach od r. 1788 aż do końca r. 1815. Poznań, 1872. T. 3. S. 57—69.

Пераклад дакументаў на беларускую мову зроблены *А. П. Грыцкевічам*

*Анатоль Сідарэвіч*

## СТАРОНКІ З ГІСТОРЫІ БНР

Той, хто чытаў дзённік Антона Луцкевіча («Полымя». 1991. №№ 4-5), пэўна, заўважыў, што Старшыня Урада Беларускай Народнай Рэспублікі ў дужках пазначае нумары атрыманых дакументаў. Амаль усе яны захаваліся ў асабістым архіве А. Луцкевіча, які знаходзіцца цяпер у 21-м фондзе Цэнтральнай бібліятэкі Літоўскай Акадэміі навук (ЦБ Літ. АН). Звяртаючыся да іх, мы можам больш-менш поўна аднавіць падзеі на пераломе 1918—1919 гг.

Калі Антон Луцкевіч стаў прэм'ер-міністрам? У кнізе «Беларуская дзяржаўнасць» (Нью-Йорк, 1988), складзенай доктарам Вітаўтам Кіпелем і Зорай Кіпель, сцвярджаецца, што кабінет яго існаваў ад чэрвеня 1918 года. Мы ж знаходзім дакументы, якія сведчаць, што ўлетку таго ж года А. Луцкевіч жыў у Вільні, і нямецкія ўлады не пускалі яго ў Менск. Вядома ж, больш пэўныя звесткі аб сапраўднай хадзе падзей мы атрымаем, калі будзем мець доступ да архіву Урада БНР, вывезенага ў жніўні 1944 года з Беларускага музея ў Вільні. А пакуль што мы карыстаемся сведчаннем Вадзіма Круталевіча ў ягонай кнізе «Рождение Белорусской Советской Республики», з якога вынікае, што прэм'ер-міністрам А. Луцкевіч стаў увосень 1918 года.

Яшчэ ў час Народнага Сакратарыяту Язэпа Варонкі да ўлады спакваля прабіраліся правыя, якія назіралі за тым, што робіць Рада Усебеларускага з'езда і яе Выканаўчы Камітэт. Толькі ў сярэдзіне красавіка 1918 года яны ўвайшлі ў склад Рады Рэспублікі. І адразу ж пачалі, як можна здагадацца, «ціснуць» на Старшыню Рады Янку Сераду, на Язэпа Варонку, іншых сацыялістаў. Урэшце дайшло да таго, што на чале Урада стаў пінскі памешчык Раман Скірмунт, а народнымі сакратарамі — Павел Аляксюк, Радаслаў Астроўскі, Тодар Вернікоўскі ды нейкі Хшантоўскі. Аўтарытэт Народнага Сакратарыяту падаў у вачах народа. Мы не ведаем усіх дэталяў барацьбы, але, мусіць, немалая заслуга Старшыні Рады Язэпа Лёсіка ў тым, што правыя былі часткова адсунутыя: у чэрвені на чале Народнага Сакратарыяту стаў левацэнтрыст Янка Серада. Народнымі сакратарамі побач з Т. Вернікоўскім былі прызначаныя сябры першага Урада БНР — памяркоўны Васіль Захарка і левы сацыяліст Лявон Заяц.

Склад кабінета Я. Серады быў кампрамісны. А тым часам наспявалі важныя падзеі. У Нямеччыне складвалася рэвалюцыйная сітуацыя. На вачах нараджалася новая палітычная сіла — Польшча. Цалкам зразумела было, што бальшавікі напагатове. Яны толькі й чакаюць рэвалюцыі ў Германіі, каб пачаць наступ на Беларусь. У гэтых умовах патрабавалася, каб на чале Урада БНР стаў чалавек аўтарытэтны, добра вядомы як беларускаму грамадзянству, гэтак і суседзям.

Антон Луцкевіч не пакінуў успамінаў пра тое, як ён стаў кіраўніком спачатку Народнага Сакратарыяту, а потым Рады Народных Міністраў БНР (яго паказанні, напісаныя ў следчым ізалятары НКУС, не вартыя сур'ёзнай увагі: «органы» выбілі з падследнага патрэбныя ім «прызнанні»). Мы не ведаем усіх перыпетый барацьбы ў Радзе БНР, якую па-ранейшаму ўзначальваў Я. Лёсік, але для нас відавочна, што на пачатку восені 1918 года сацыялісты зноў дамінавалі ва Урадзе Рэспублікі.

У ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 321) захоўваюцца блакноты А. Луцкевіча. У 11-м блакноце мы двойчы сустракаем запісы аб складзе кабінета. Першапачаткова меркавалася, што народнымі сакратарамі будуць Вацлаў Іваноўскі (сельская гаспадарка), Іван Краскоўскі (унутраныя справы), Антон Аўсянік (пытанне працы), Цыпрыян Кандратовіч (пытанні войска), а таксама Каплан (гандаль і прамысловасць), Абрампольскі (фінансы), Савіч (суды) і Зэля (дарогі). У першапачатковым спісе значыліся ў якасці кандыдатаў на пасады народных сакра-

тароў таксама Яўхім Карскі (асвета) і Шварц (пошта і тэлеграф). У другім спісе мы бачым, што А. Луцкевіч меркаваў паклікаць у кабінет Вацлава Іваноўскага (асвета), Аркадзя Смоліча (сельская гаспадарка), Казіміра Петрусевіча (суды), Каплана (гандаль і прамысловасць). Пытальнікі стаяць насупраць прозвішчаў кандыдатаў на пасады народных сакратароў Івана Краскоўскага (унутраныя справы) і Цыпрыяна Кандратовіча (ваенныя справы). Выкасавана ў гэтым спісе прозвішча Кастуся Езавітава, якому, мабыць, таксама хацелі прапанаваць партфель народнага сакратара асветы, і прозвішча кандыдата на пасаду народнага сакратара працы Язэпа Варонкі. Замест яго А. Луцкевіч вырашыў прапанаваць кандыдатуру сацыяліста-рэвалюцыянера. Зірнуўшы ў канчатковы спіс кабінета (кніга «Беларуская дзяржаўнасць»), мы бачым, што ён цалкам складаўся з левых і левацэнтрыстаў. Міністрам сельскай гаспадаркі стаў А. Смоліч, асветы — В. Іваноўскі, унутраных спраў Я. Варонка (потым яго зменіць больш левы Кузьма Цярэшчанка), юстыцыі — Аляксандр Цвікевіч, фінансаў — Васіль Захарка, ваенных спраў — Яўген Ладноў, дзяржаўным кантралёрам — Л. Заяц.

Цікава адзначыць, што абодва першапачатковыя спісы кабінета складзены ў час побыту А. Луцкевіча на чале дэлегацыі БНР у Кіеве. У тым самым блакноце знаходзім мы і тэзісы да праграмы Урада БНР. Значыць, Рада Народных Міністраў Рэспублікі была сфарміравана пасля вяртання беларускай дэлегацыі з Кіева, а то і пазней — недзе да сярэдзіны лістапада 1918 года.

Як прэм'ер-міністр, А. Луцкевіч пачаў са спробы ўрэгуляваць адносіны з суседзямі. Перш-наперш з Украінай. З ягонай запіскі ўкраінскаму Ураду відаць, што ён дамагаўся, каб Украіна прызнала Беларусь у якасці незалежнай дзяржавы, вярнула беларускія паветы, перададзеныя ёй немцамі, а таксама дапамагла сродкамі дзеля арганізацыі ўзброеных сіл БНР. Мусіць, ні гетману, ні Ураду Украіны не хацелася развітвацца з паўднёва-беларускімі землямі, таму яны адцягвалі юрыдычнае прызнанне БНР. Луцкевіч папярэджвае, што запозненае прызнанне Беларускай Народнай Рэспублікі можа прывесці да негатыўных вынікаў. І ён не памыліўся: бальшавікі расправіліся і з БНР, і з УНР паасобку.

Адчуваючы, што нацыянальны эгаізм украінскага Урада устойлівы, трывалы, А. Луцкевіч шукаў паразумення з Савецкай Расіяй. Прэм'ер-міністр БНР не прымаў бальшавізму перш за ўсё дзеля яго тэрарыстычных мета-

даў, пра што сведчыць адпаведны запіс ў 11-м блакноце. У гэтым жа блакноце можна прачытаць і запіс пра магчымую паездку ў Маскву. У часопісе «Нёман» (1990, № 7) я рабіў агляд літаратуры на гэтую тэму. Цяпер магу з большаю доляю пэўнасці сказаць, што такая паездка адбылася на пачатку лістапада 1918 года. У пратаколе Беларускага Нацыянальнага Камісарыята ад 5 лістапада гаворыцца, што А. Луцкевіч прасіў гэтую шаноўную ўстанову дапамагчы яму грашамі, але атрымаў адмоўны адказ*.

З дзённіка А. Луцкевіча відаць, што ён гатовы быў згадзіцца на федэрацыю з Расіяй, на ўвядзенне канстытуцыі савецкага тыпу ў Беларусі пры ўмове, што Расія прызнае самастойнасць нашай краіны. Але маскоўскія бальшавікі мелі свой погляд на гэтае пытанне. І гэты погляд у немалой ступені склаўся пад уплывам А. Мяснікова, В. Кнорына ды іншых дзеячаў Заходняй вобласці (камуны), бо вядома, што 6 лістапада 1918 года з Мясніковым гутарыў Ленін.

Савецкая Расія трымала курс на акупацыю былых заходніх ускраін імперыі. Ленін не хаваў, што гаворка ідзе менавіта пра акупацыю (гл. ягоную тэлеграму да І. Вацэціса ад 30 лістапада 1918 года), ён толькі дбаў аб мінімуме вонкавай прыстойнасці. Дзеля гэтага ствараліся *абласныя* бальшавіцкія ўрады для Эстоніі, Латвіі, Літвы, Украіны. Што ж датычыць Беларусі, дык для яе нават абласны ўрад не прадугледжваўся.

Вярнуўшыся ў Менск, А. Луцкевіч заняўся ўнутранымі справамі Рэспублікі і ўрэгуляваннем адносін з Літвою. Самым важным яго дасягненнем было фарміраванне новага кабінета і больш-менш паспяховыя перамовы з Літвой.

Нямеччына не прызнавала БНР. Яна трымала Беларусь у якасці закладу пад шасцімільярдную кантрыбуцыю, якую паводле кандыцыяў Берасцейскага міру абавязаўся выплаціць ленінскі ўрад. Прызнаць БНР азначала б парушыць умову міру, аспрэчыць права Расіі на гэтыя абшары. Не прызнаўшы Рэспубліку, немцы не давалі ёй стварыць войска, бо яно магло быць скіравана супраць бальшавікоў. Цяпер, у канцы 1918-га, Нямеччына не давала стварыць войска таму, што ў яго, маўляў, могуць прабрацца бальшавікі. Паказваючы гэтую калізію,

* Пра гэты дакумент мне стала вядома ад супрацоўніка Беларускага гуманітарнага ліцэя ў Мінску Юрыя Васілеўскага.

А. Луцкевіч каментуе дзеянні акупантаў коратка: «Звычайная нямецкая подласць». Сказана рэзка (усё ж трэба гаварыць не пра немцаў — пра германскі імперыялізм), але справы складваліся менавіта гэтак.

Наогул, беларускія дзеячы пазніліся, надта шмат надзеі ўскладалі на легальныя метады змагання. Гэта, па-мойму, добра паказаў Васіль Абразоўскі («Літаратура і мастацтва», 7 і 14 чэрвеня 1991 г.). Калі б беларусы не спадзяваліся на справядлівасць III Усерасійскага з'езду Саветаў, калі б БНР была абвешчана раней, насуперак бальшавікам і немцам, да Берасцейскага міру, Нямеччыне давялося б лічыцца з ёю. А так... Пасля таго, як Выканкам Рады Усебеларускага з'езда выдаў другую Устаўную Грамату, абвясціў 9 сакавіка 1918 года Беларускую Народную Рэспубліку, Народны Сакратарыят накіраваў адпаведную заяву імперскаму канцлеру Нямеччыны. І што атрымаў у адказ? Прыняцце заявы, гаварылася ў адказе з Берліна, было б умяшаннем у вялікарускія справы. Нямецкі ўрад выконваў кандыцыі Берасцейскага трактата, бо меў за гэта расійскае збожжа, бо мог за гэта эксплуатаваць багацці Беларусі.

Літоўцы дзейнічалі насуперак і Расіі, і Германіі. У снежні 1917 года яны абвясцілі сваю бацькаўшчыну рэспублікай, а 16 лютага 1918 года (за два дні да нямецкага наступлення на ўсход, за чатыры дні да стварэння Народнага Сакратарыяту — не БНР, а проста Беларускага краю) была абвешчана незалежнасць Літвы. Пасля гэтага ў Берасці ўжо не магла ісці гаворка аб расійскіх інтарэсах на гэтай тэрыторыі (бальшавікі сяды-тады паказвалі сябе прыхільнікамі прынцыпу самавызначэння народаў). За сваю смеласць Літва атрымала ад немцаў беларускія землі з Вільняю, Саколкаю, Беластокам, Бельскам, Гараднам, Шчучынам, Маладзечнам, Браславам.

І вось у лістападзе 1918 года, калі бальшавікі пайшлі на Беларусь, Ураду БНР нічога не заставалася, як прасіць прытулку на беларускіх землях, што належалі Літве. Віленская Беларуская Рада, якую таксама ўзначальваў А. Луцкевіч, павяла перамовы з Часовым урадам Літвы. Літва таксама не хацела прызнаваць незалежнасць БНР і рэгуляваць з ёю пытанне аб тэрыторыях. Але яна не магла кантраляваць беларускія землі. І таму, што ў яе не было патрэбных для гэтага сіл і магчымасцей, і таму, што беларускае насельніцтва не выказвала жадання падпарадкавацца літоўскім уладам. 27 лістапада было дасягнута пагадненне, што ў склад Літоўскай Тарыбы

ўвойдуць прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады, а ў складзе літоўскага Урада будзе створана Міністэрства беларускіх спраў.

Міністрам беларускіх спраў быў прызначаны Я. Варонка. Па сутнасці, ён стаў ці то намеснікам, ці то рэзідэнтам літоўскага Урада на беларускіх землях. Ён прызначаў камісараў у паветы і раёны, праз яго ажыццяўлялася фінансаванне беларускіх устаноў. У ліку камісараў мы бачым Пётру Крачэўскага, Лукаша Дзекуць-Малея, Макара Косцевіча (Макара Краўцова), іншых беларускіх дзеячаў. Пра тое, у якіх умовах праходзіла іх дзейнасць, мы можам скласці ўяўленне, прачытаўшы даклад А. Луцкевіча аб становішчы ў Беларусі і даклад М. Косцевіча міністру Я. Варонку.

На другі дзень пасля таго, як было дасягнута пагадненне з Урадам Літвы, Рада Рэспублікі выдала Грамату. Каб умацаваць базу дзяржаўнасці, яна заклікала ствараць беларускія сялянскія і работніцкія Рады на месцах. Апублікаваныя тут дакументы даюць магчымасць скласці ўяўленне пра гэтыя Рады. У Гарадзенскай павятовай Радзе мы бачым беларускага настаўніка Аляксандра Грыкоўскага (пра яго А. Луцкевіч пісаў у сваім дзённіку), вядомага баптысцкага дзеяча Лукаша Дзекуць-Малея, які потым разам з А. Луцкевічам перакладзе Новы Запавет і Псальмы, а старшынёй Рады быў абраны будучы актыўны ўдзельнік Слуцкага паўстання Андрэй Якубецкі. Удзельнічаў у Слуцкім паўстанні і старшыня Ваўкавыскай Рады Фёдар Данілюк. Тое, што дакументы гэтай Рады напісаны па-руску, аніяк не мяняе яе класавай і нацыянальнай скіраванасці: Ваўкавыская Рада змагалася супраць польскіх ды апалячаных памешчыкаў, за інтарэсы сялян, што адзначаў у сваім дзённіку і А. Луцкевіч, выказвалася за Краёвы беларускі з'езд Гарадзеншчыны. У Аргкамітэце для склікання гэтага з'езда мы бачым прозвішча Сымона Якавюка, беларускага сацыяліста-рэвалюцыянера, будучага пасла на Сойм Польскай Рэспублікі, які трапіць у 1923 годзе на лаву падсудных у справе 45 змагароў супраць польскай акупацыі.

Сябры Рады і народныя міністры БНР пераехалі ў Вільню 3 снежня 1918 года. Дзейнасць у Віленскім краі польскай пятай калоны, наступленне бальшавікоў змусілі Урад БНР пераехаць у Горадзен, а Урад Літвы — у Коўна. Паколькі нямецкія ўлады так і не прызналі БНР, А. Луцкевіч і сябры Рады БНР і Рады Народных Міністраў ехалі з Вільні ў Горадзен як службоўцы Міністэр-

ства беларускіх спраў. Сцвярджаць гэта дае магчымасць «аўсвайс», выдадзены Варонкавым міністэрствам на імя А. Луцкевіча (ЦБ Літ. АН, ф. 21, спр. 308, арк. 5).

Тое, што Я. Варонка з'яўляўся, па сутнасці, «патронам» Урада БНР, даваў яму легальнае прыкрыццё, спарадзіла ў міністра беларускіх спраў не зусім здаровае стаўленне да беларускіх арганізацый і ўстаноў. «...Усю энергію,— пісаў А. Луцкевіч у сваім дзённіку,— ён скіраваў на барацьбу з існуючымі ўжо беларускімі арганізацыямі: Камітэтам* — «бо там Аляксюк», сялянскай радай — бо яна «неблагонадежна» з погляду літоўскага ўрада». А тут яшчэ падкопы польскіх арганізацый, бандытызм легіянераў, антыбеларуская скіраванасць нямецкіх уладаў... Занадта лаяльны быў Я. Варонка да Літоўскай Тарыбы і Урада Літвы, хоць тыя былі не вельмі лаяльныя ў дачыненні да Беларусі. Не выключаю, што ён пачуваўся сапернікам А. Луцкевіча: як-ніяк, а менавіта ён, Варонка, быў першым прэм'ер-міністрам БНР. I цяпер імкнуўся сцвердзіць сваё першынство ў беларускім руху.

Думаю, публікацыя гэтых дакументаў, а таксама дзённік А. Луцкевіча дапамогуць чытачам і навукоўцам лепш разабрацца ў падзеях канца 1918 — пачатку 1919 года, лепш зразумець палітыку Урада БНР і яго прэм'ер-міністра Антона Луцкевіча.

## МЕМАРАНДУМ УКРАІНСКАМУ УРАДУ**

Беларуская Надзвычайная Дэлегацыя прыехала ў Кіеў 19 верасьня г. г. і ў першыя дні сваёй тут бытнасьці аддала Міністру Зам⟨ежных⟩ Спраў свае паўнамоцтвы. У цэлым радзе гутарак з прадст.[1] Міністэрства Дэлегацыя выясьніла падробна сваю міссію і прасіла Укр⟨аінскі⟩ Урад аб афіц⟨ыяльным⟩ прызнаньні незалежн⟨ай⟩ Белар⟨ускай⟩ дзяржавы і аб помачы дзеля ўмацаваньня дзяржаўнасьці і стварэньня аружнае сілы. У адказ на гэта Дэлегацыі было заяўлена, што ўкр⟨аінскі⟩ урад пойдзе насустрач жаданьням Беларусі як у памянутых

---

* Маецца на ўвазе Беларускі нацыянальны камітэт.

** Чарнавік, напісаны А. Луцкевічам у 11-м блакноце, які захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 321).

[1] Невядома, гутарыла Дэлегацыя з прадстаўніком ці з прадстаўнікамі Міністэрства замежных спраў Украіны. Таму скарачэнне пакінута без расшыфроўкі.

вышэй пытаньнях, так і ў справе звароту занятых украінцамі палудз⟨енных⟩ бел⟨арускіх⟩ паветаў.

3 кастр⟨ычніка⟩ Дэлегацыя была прынята п. Гэтманам, каторы, выслухаўшы справу, заверыў Дэлегацыю ў сваёй прыхільнасці і, пацьверджаючы фактычнае прызнаньне незалежнай Беларускай дзяржавы, абяцаўся ўчыніць крокі дзеля хутчэйшага разгляду Радай Міністраў справы афіц⟨ыяльнага⟩ прызн⟨аньня⟩ Бел⟨арускай⟩ дзяржавы.

...кастрычніка Дэлегацыя даручыла п. Міністру Зак⟨ардонных⟩ Спраў на пісьме просьбу аб аддачы справы ў Раду Міністраў у тэрмін⟨овым⟩ парадку.

28.X. яна яшчэ раз была ў п. тав⟨арыша⟩ Міністра, выясьняючы сьпешнасьць справы.

Ня гледзячы на гэта справа Беларусі ў Радзе Міністраў дагэтуль не разглядалася. За гэты час Савецкая Рэсп⟨убліка⟩ акупіравала новую паласу беларускай зямлі з местам Магілёвам.

Дэлегацыя заяўляе, што кожын далейшы дзень зацяжкі [1], стаўляючы Беларусь перад фактам окупацыі Сав⟨ецкай⟩ Рэсп⟨ублікай⟩ усё новых і новых абшараў Беларусі, абязцэньвае эвэнтуальную дапамогу Беларусам са стараны Укр⟨аінскай⟩ дз⟨яржавы⟩, і адклад разгляду ў Р⟨адзе⟩ М⟨іністраў⟩ пытаньня аб прызнаньні нез⟨алежнасьці⟩ Бел⟨арусі⟩ можа вытварыць палажэньне, роўна грознае як для Б⟨еларусі⟩, так і для Укр⟨аіны⟩. Зьвяртаючы на гэта ўвагу Укр⟨аінскага⟩ Ураду, Дэлегацыя просіць яшчэ раз ускорыць разгляд Радай Мін⟨істраў⟩ закранутых Дэлегацыяй пытаньняў і, лічачы далейшую сваю бытнасьць у Кіеві непатрэбнай, прыпыняе сваю працу і варочаецца ў Менск дзеля справаздачы свайму Ураду. Дэл⟨егацыя⟩ просіць Укр⟨аінскі⟩ Урад даць афіц⟨ыяльны⟩ адказ Рады Міністраў Нар⟨однаму⟩ Сэкр⟨этарыяту⟩ ў Менску.

## ПРАГРАМА УРАДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*

*Асновы працы габінэту* — будаваньне і абарона незалежнай Беларускай Рэспублікі.

*У загранічнай палітыцэ* габінэт будзе праводзіць:

---

[1] Паміж словамі «зацяжкі» і «стаўляючы» выкасаваны: «абязцэньвае эвэнтуальную помач Украінскае Дзяржавы».

* Надрукавана на машынцы. Папраўкі зроблены сінім алоўкам рукою А. Луцкевіча. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 349, арк. 6). Тэкст няпоўны. Яго заканчэнне пакуль што не знойдзена.

1) прызнаньне незалежнай Беларусі і злучэньне ўсіх беларускіх зямель;

2) атрыманьне права голасу на сусьветнай канфэрэнцыі;

3) салідарнасьць з новымі дзяржаўнымі арганізацыямі [1];

4) фэдэраваньне з суседзямі на аснове захаваньня maximum'а незалежнасьці Беларусі і забеспечэньня інтарэсаў яе [2].

*У унутранай палітыцэ:*

1) умацаваньне дзяржаўнай уласьці; пераняцьце дзяржаўных установаў;

2) арганізацыя беларускіх рад па ўсёй Беларусі; устанаўленьне самаго цеснага зьвязку з самаўпраўленьнямі;

3) утварэньне аружнай сілы дзеля абароны ладу [3];

4) наладжэньне фінансаў і прадавольства і арганізацыя помачы ваеннапалонным; паварот да хат бежэнцаў;

5) падгатоўка адбудовы эканамічнага жыцьця.

*У справе зямельнай:*

Толькі народ у сваім цэлым ёсьць праўдзівы гаспадар усяго прыроднаго багацьця краю і ўсіх зямельных абшараў. Толькі ён праз свае дзяржаўныя ўстановы мае права распарадку зямлёй, выдаючы адпаведныя законы.

Апіраючыся на гэтых прынцыпах, габінэт будзе праводзіць:

1) прызнаньне лясных масываў і нетраў зямлі нацыянальным меньнем; забарона продажы лясоў;

2) правядзеньне зямельнага спісу; устанаўленьне minimum'а разьмераў сялянскіх гаспадарак і maximum'а зямельнай уласнасьці [4];

3) утварэньне нацыянальнаго зямельнаго фонду дзеля надзелу малазямельных і беззямельных земляробаў;

4) устанаўленьне зямельнай палітыкі на аснове рацыяналізацыі дробных сялянскіх гаспадарак;

5) абарона нацыянальнаго зямельнаго багацьця і ладу на зямлі.

*У справе работніцкай:* падгатоўка і правядзеньне

---

[1] Маюцца на ўвазе новыя дзяржавы, што ўзніклі ў 1917—1918 гг.

[2] У пачатку гэтага пункта выкасаваны словы «збліжэньне з Літвой і Балтыкай, а такжэ з Украінай (на экономічнай аснове)».

[3] Слова «ладу» можна прачытаць і як «люду».

[4] Словы «разьмераў сялянскіх гаспадарак» упісаны сінім алоўкам.

работніцкага правадаўства у мысьль соц.-дэм. праграмы.

*У справе нацыянальнай:*

1) забеспечаньне Беларускаму Народу фактычнай магчымасьці культурна-нацыянальнага разьвіцьця;

2) свабода для ўсіх нацыянальнасьцей і роўнапраўства, забеспечаныя за...

## ГРАМАТА РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*

Народзе Беларускі і ўсе народы Беларускай зямлі!

Слухай голасу тваіх прадстаўнікоў, што працуюць тваім імянем і дзеля твайго шчасьця.

Шмат сотняў гадоў панавалі на Беларусі чужынцы, а працоўны народ наш гібеў у зьдзеку, няволі і цемнаце. Безканечныя войны палівалі нашую старонку рэкамі крыві, а звадкі між народамі і верамі ў самой Беларусі атручывалі дух народны, зьнішчалі ўсе здабыткі культуры і не давалі тварыцца новым. Аж зразумелі ўрэшці лепшыя сыны Беларусі, што прычына ўсіх нешчасьцяў — гэта палітычны заняпад народу Беларускаго, яго няволя і пакора, і прагалосілі яны на ўсю Беларусь, што павінен устаць Беларускі народ, скінуць путы няволі і з парабка гаспадаром зрабіцца на сваёй зямлі.

Разыйшоўся голас гэты па Беларусі і абудзіўся Народ. І на вялікі ўсенародны сход, які адбыўся ў сьнежні месяцы 1917 г. у Менску і называецца Усебеларускім Зьездам, прыслаў Народ Беларускі каля дзвёх тысяч чалавек сваіх лепшых прадстаўнікоў з усіх частак, усіх валасьцей, усіх закуткаў Беларускай Зямлі. Не збаяўшыся цёмных сілаў, што тады панавалі на Беларусі, перад наведзенымі кулямётамі і навіслымі штыкамі сказаў Зьезд волю Народу Беларускаго аб яго будучыне. Народ Беларускі выракаецца сваіх няпрошаных апякуноў. Ён устанаўляе на сваёй зямлі Дэмакратычную Рэспубліку і хоча прамаўляць на сусьветным міравым кангрэсе вуснамі сваіх уласных прадстаўнікоў. Ён творыць войско для абароны свайго права і даручае ўладу ў Беларусі выбранай на Зьездзе Радзе і яе Спаўняючаму Камітэту [1].

Паны камісары разагналі Усебеларускі Зьезд і шукалі спосабу зьнішчыць Раду Зьезду. Ды не ўдалося гэта ім. Пасля іхняга ўцёку з Менску ўлада перайшла да Спаўняю-

* Тэкст граматы, які разбіты на дзве калонкі, выдадзены ў друкарні Я. Грынблата ў выглядзе лістоўкі. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН.

[1] У гэтым абзацы не зусім дакладна выкладзены падзеі.

чаго Камітэту Рады Зьезду і той стварыў тады першае Міністэрства Беларускае — Народны Сэкрэтарыят, а таксама пачаў тварыць беларускае Народнае войско.

Пасьля вякоў няволі ізноў запанаваў на сваёй зямлі Беларускі Народ. Але нядоўгае было гэтае панаванне. Цераз тры дні прыйшлі ў Менск войскі нямецкаго імпэратара. Яны гвалтам адабралі ад Народнага Сэкрэтарыяту ўладу і спынілі яго работу. Патаемна мусіў пасьля таго зьбірацца Беларускі Урад, хаваючыся ад нямецкіх жандармоў, але ні на мінуту не забываўся ён аб вялікіх абавязках, на яго Народам узложаных. 9 сакавіка 1918 г. Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду выдаў Устаўную Грамату, якая тлумачыла тыя правы працоўнага народу, што выдаў Усебеларускі Зьезд. А 25 сакавіка ён, злучыўшыся з прадстаўнікамі Земстваў і Гарадоў, і ўтварыўшы разам РАДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, абвесьціў Беларусь незалежнай і вольнай Дзяржаваю, каб не дазволіць далей чужынцам камандаваць Беларускім Народам, разрываць яго на часткі, ды гандляваць Беларусьсю на сусьветным рынку. Так былі скінуты с Беларускаго Народу апошнія путы няволі, якія цiснулі яго праз вякі.

Ішоў час, але не зьменшаўся уціск нямецкаго імпэратарскаго Ураду. З усяго краю надыходзілі да Рады Беларускай Народнай Рэспублікі скаргі і пратэсты проці гэтаго ўціску, а Рада нічога не магла зрабіць, бо яшчэ не пасьпеў сабраць Беларускі Народ сілы свае і моцным плячом падперці сваю Раду. Ня маючы сілы Рада Рэспублікі надзеялася хоць сваёю пакораю зьмягчыць цяжкае палажэнне Беларусі. Яна некалькі разоў зьвярталася да нямецкаго ўраду, просячы, каб той прызнаў Беларускі Народ вольным і незалежным і даў яму можнасьць самому ўпраўляць сваёю зямлёю. Нямецкі ўрад кожны раз адказваў адмоўна.

Тым часам у Нямеччыне сталася рэвалюцыя і нямецкае войско ня хоча больш аставацца ў нашай зямлі, з якой гэтак несправядліва зрабіў яго даўнейшы імпэратарскі ўрад. Беларусь узноў астаецца вольнаю і яе ўрад мае абвесьціць выбары да Беларускаго Устаноўчаго Сойму, які сваім голасам умацуе правы народаў і ўстановіць дзяржаўны лад Беларусі. Але хоць шмат зьмяніла рэвалюцыя, ды не зьмяніла яна нешчасьлівай долі Беларускай. Ня хочуць панаехаўшыя ў наш край чужынцы выпускаць са сваіх рук лейцаў, у якіх трымалі дагэтуль Беларускі Народ. У Менску, у Кіеві разам з нашымі

адступнікамі яны твораць фальшывыя ўрады і крычаць аб сваім праве на панаванне над Беларускім Народам, аб тым, што Беларусь ніяк ня можа быць вольнае, а павінна канешне ісьці зноў у ярмо. Пры гэтым яны не шкадуюць выдумак, каб ачарніць Раду Рэспублікі і словамі сваімі апаганіць яе працу. Уся мэта гэтых людзей пасварыць беларусаў між сабою, а пасьля, абязсіліўшы іх, аддаць у даўнейшую няволю, пад панаванне новага цара і яго чыноўнікаў.

Рада Рэспублікі аднак верыць у сьветлы і здаровы розум народу Беларускаго і ўсіх дэмакратычных народаў Беларусі, якія не дадуць сябе ашукаць хітрым ворагам Рэспублікі. Яна вядзе далей сваю працу, а для спаўнення сваіх загадаў яна ўстанавіла новы склад Рады Беларускіх Народных Міністраў, які павінен вывесьці Беларусь на сьветлы лепшы шлях, абараніць праўдзівую яе незалежнасць і даць працоўнаму малазямельнаму народу зямлю, а работнікам дагаднейшыя варункі працы і склікаць Устаноўчы Сойм Беларускай Народнай Рэспублікі.

Перад сьвітаннем новаго дня, які суліць нашай Бацькаўшчыне культурны росквіт і дзяржаўную незалежнасць, павінны абудзіцца ўсе жывыя дэмакратычныя сілы Беларусі. Усе, хто хоча бачыць сваю многапакутную Бацькаўшчыну — Беларусь вольнай, багатай і шчасьлівай, усе, хто хоча, каб працоўны народ Беларусі не знаў больш зьдзеку над сабою і няволі, няхай усюды злучаюць свае сілы, *ствараючы на мяйсцох Беларускія Рады,* і зьвязуючы іх з Радаю Рэспублікі. Толькі ім, гэтым арганізацыям працоўнаго Народу Беларусі, належыць цяпер, да созыву Устаноўчаго Сойму ўлада на мяйсцох, а не Земству, не чыноўнікам, не ўсякім самазванцам і чужынцам. Толькі на іх павінен апірацца Беларускі Народны Урад у сваёй чыннасьці. Сам народ, абуджаны рэвалюцыяй, няхай бароніць сваю волю і незалежнасьць, права на сваю родную зямлю і мейсцо на сьвеці сярод усіх Народаў.

Чувайце грамадзяне Беларускай Народнай Рэспублікі! Надыходзе гадзіна апошняго суду над народамі. Няхай жа не пагасьне ў сэрцах вашых жывы агонь замілавання да волі і агульна грамадзкага шчасьця.

Няхай жыве незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!

Няхай жыве працоўны народ Беларусі і солідарнасьць вольных народаў!

Няхай растуць Беларускія сялянскія і работніцкія Рады па ўсёй Беларусі!

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*

28/11 1918
м. Менск

*Антон Луцкевіч*

## ДАКЛАД АБ НАЛАЖЭНЬНІ Ў БЕЛАРУСІ *

Сяляне беларусы Гродзенскай губ. ва ўсёй сваёй массе ўжо добра зразумелі, што момант адходу окупантаў ёсьць магчымасьць для працоўнага народу узяць у свае рукі ўласьць, якую дзяржалі дагэтуль чужынцы. І вось яны — пры дапамозе беларускіх камісараў прыступілі да арганізацыі сваіх сялянскіх рад (саветаў), якія павінны стаць органамі праўдзівай народнай уласьці, цьвёрда стоячы на грунці класовай барацьбы.

Барацьба гэта ўжо йдзе поўным ходам — і перш за ўсё йдзе яна за ўласьць. Проці сялянскіх рад — валасных і паветовых — выступілі солідарна ўсе тутэйшыя паны — бадай выключна палякі, якіх крэпка паддзержывае з аднаго боку духавенства, з другога — окупанты.

Паны, ведама, бароняць сваіх двароў. Дзеля гэтага яны карыстаюцца рэлігійным разьдзелам Беларускага народу на праваслаўных і каталікоў і, пры помачы ксяндзоў, распаліваюць у апошніх ненавісьць да іх жа братоў праваслаўных, як да «маскалёў», а ўсіх каталікоў перарабляюць у «палякаў». Гэтым яны даходзяць дзвёх мэт: з аднаго боку аслабляюць сілы сялян і зацямняюць іх клясовую сьвядомасьць, адцягіваючы сялян католікоў ад клясовых арганізацый і гуртуючы іх у «парафіяльных камітэтах» разам з панамі польскімі і ксяндзамі, з другога боку — падгатаўляюць грунт для аннэксіі Гродзеншчыны Польшчай.

Нямецкія окупацыйныя ўласьці, не выключаючы салдацкіх рад, бадай усюды паддзержываюць польскую работу, перадаюць уласьць у паветах польскім камітэтам (Плянты [1], Саколка, Беласток і інш.), адмаўляюцца выдаваць аружжа народнай міліцыі, пакідаючы народ

* Копія машынапісу. Тэкст няпоўны. Заканчэнне пакуль што не знойдзена. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 349, арк. 7).

[1] Плянты — цяпер Шчучын Гродзенскай вобласці.

на ласку польскіх легіонераў, якія бандамі ходзяць па краю, рабуюць народ, разганяюць сялянскія рады, б'юць іх членаў і т. д. Немцы, як відаць, вядуць гэткую палітыку затым, каб уцягнуць палякоў у барацьбу за панаваньне Польшчы над Беларусьсю і гэтак аслабіць польскія сілы ў Прускай Польшчы [1].

Такім парадкам барацьба беларускага сялянства вядзецца ў вельмі цяжкіх варунках. Яна тым больш цяжэйша, што 1) немцы даюць поўную магчымасць паляком вясьці шырокую работу па вёсках без ніякіх перашкод, а ў тым жа часе ўціскаюць тых, хто працуе на клясовым сялянскім грунце, конфіскуюць адозвы і т. д. 2).

*Макар Косьцевіч (Краўцоў)*

## АБВЕСТКА*

Народзе Беларускі і ўсе народы Сакольскаго павету.

Часовы Народны Урад Літоўскага гаспадарства назначыў мяне камісарам Сакольскаго павету, даручыўшы мне арганізацыю валасных і паветоваго Камітэтаў, якія павінны быць законнымі органамі мейсцовай улады, выбранымі самім народам.

На моцы гэтаго абвешчаю, што Камітэты павінны складацца гэткім чынам:

Кожныя 10 хатаў выбіраюць на Валасны Сход па 1 дэлегату. Аднасельцы [2] прылучаюцца да суседніх вёсак. Лік хат больш як 10 і менш як 20 дае права на выбар 2 дэлегатаў.

Сабраны гэткім спосабам Валасны Сход выбірае Валасны Камітэт з 7 асобаў, якія выбіраюць спаміж сябе Старшыню, Таварыша Старшыні, Пісара.

Права выбіраць і быць выбранымі належыць усім мужчынам і кабетам (як жанатым, так і нежанатым, як замужнім, так і дзяўчатам), маючым ня менш 20 гадоў і не спрануджаным праз суд за ўгалоўныя ўчынкі (кража, грабёж, забіўство).

Кажны Валасны Сход, апрача выбары Валаснога Камітэту, павінен выбраць яшчэ аднаго дэлегата на

[1] Пруская Польшча — заходнія і паўночныя польскія землі, якія трапілі пад уладу Прусіі пасля трох раздзелаў Рэчы Паспалітай і Венскага кангрэсу 1814—1815 гг.

* Машынапіс. Рукою А. Луцкевіча пазначана: «Копія». Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 349, арк. 8).

[2] Аднасельцы — хутаране.

Паветовы Камітэт, які разам з Камісарам будзе ўпраўляць паветам у зносінах з Міністрам Унутраных спраў.

Абавязкі Камітэтаў:

1) Прынядцце мейсцовай улады ад нямецкай окупацыі.

2) Дапамога бедным, калекам, сіротам і ўдовам, ахвярам вайны.

3) Арганізацыя аружнай міліцыі для падтрымання парадку ў згодзе з нямецкімі ўладамі пад [1] загадам камісара.

4) Школьныя справы.

5) Падлічванне стратаў ад вайны.

6) Земская почта.

7) Забэспечэнне безработных работнікаў і малазямельных сялян.

8) Адбудова гаспадарак, зьнішчаных вайною.

9) Сьпіс зямельных і лясных абшараў, як казённых, касцельных (царкоўных), так і дворных (памешчыцкіх), дзеля адходу іх, без выкупа, у мазольныя рукі працоўнаго народу, як толькі аб гэтым будзе выдадзены [2] закон.

Да працы, грамадзяне.
Адразу да выбараў, мушчыны і кабеты.

Браты-беларусы. Каталікі і праваслаўныя.

Да гэтаго ўселякаго гатунку дабрадзеі стараліся, як мага, падзяліць вас на рускіх і польскіх, каб палавіць рыбу ў мутнай вадзе. Ядыная мова наша беларуская (простая) злучае нас у непадзельны народ — Беларускі. Рэлігія ніколі ня можа служыць азнакай [3] нацыянальнай: французы і чэхі — каталікі, а ці ж завуць яны сябе палякамі, румынцы і грэкі праваслаўныя, а ці ж завуць яны сябе рускімі.

Выбраўшы дэлегатаў на Валасныя Сходы, паведамляйце Камісара, рабеце сходы і закладайце Валасныя Камітэты як найхутчэй, бо: «Адклад ня йдзе ў лад».

У выпадку якога-небудзь неразуменьня зьвертайцеся за парадай Камісара ў Саколку.

Камісар Сакольскага павету

---

[1] У арыгінале «над».
[2] У арыгінале «выдзены».
[3] Трэба чытаць «адзнакай».

## ДАКЛАД*

Камісар
Сакольскаго павету
4 студзеня 1919 року
№ 3

Пану Міністру
Беларускіх Справаў

Гэтым маю давесьці да Вашага ведама аб палажэнні Сакольскаго павету і маіх заходах па арганізацыі мяйсцовай улады.

Яшчэ далёка да майго назначэння (7 сьнежня 1918 року) нямецкія ўлады выпусьцілі абвяшчэньне аб утварэнні самаўраду ў павеце Сакольскім, якое абвешчэнне да гэтаго прыкладаецца [1].

Памянёны самаўрад, як відаць з абвешчэння, мае быці зважаны з элементаў, у відочнай большасці вялікапольскіх і, з боку клясавога, занадта буржуазных. Ідэя польскай дзяржаўнасьці чырвонай ніткаю праходзіць сярод думак усяго, за выняткам жыдоў, насялення павету, у той час, як ідэя дзяржаўнасьці Літоўска-Беларускай мае моцны грунт сярод жыдоў і паядынчых асобаў народнай беларускай інтэлігенцыі.

Нідастачы ў маладых інтэлігэнтных беларускіх сілах ні відаць, але, дзякуючы туманнай палітычнай сітуацыі навокала, ня лёгка ўцягнуць у работу гэту маладзеж, ні маючы да таго патрэбных грошай для яе аплаты. Дробныя чыноўнікі, вучыцелі і г. д. жывуць усе пры бацьках, шукаючы працы, якая магла б паставіць іх на ногі матэрыяльна.

Тым часам каталіцкае духавенство (ксяндзы), злучыўшыся з панамі (памешчыкамі), ні адкідаючы прадстаўнікоў жыдоўскай буржуазіі, дзякуючы сваёй матэрыяльнай сіле ўлады з'арганізавалі парафіяльныя рады, якія зьяўляюцца найлепшымі праваднікамі на мейсцох вялікапольскай ідэі, падпіраючы сабою «Radu Powiatowu» — мейсцовы цэнтр гэтай ідэі.

Знайшоўшы такое палажэнне справы, я адразу заявіў нямецкай (фактычнай) уладзе, што мая чыннасьць павінна быць аснована на самадзеяльнасьці шырокіх народных масаў, якія праз усенародныя выбары павінны стварыць дэмакратычныя органы ўлады як у валасьцёх (а не парафіях), так і ў паветовым горадзі, а Rada

---

* Другі экземпляр рукапісу. Назва дадзена публікатарам. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 349, арк. 11—14).

[1] У ф. 21 ЦБ Літ. АН пакуль што не выяўлена.

Powiatowa, зважаная з выпадкова згрупаваных цэнзавых элементаў клясава-буржуазных і палітычна-вялікапольскіх, ня можа быць прызнана мною за праўдзівую прадстаўніцу, у большасці населяючагò павет, народу беларускаго, хаця большасьць гэтаго ж народу зьяўляецца каталіцкай па рэлігіі.

У дадатак я паслаў на разгляд нямецкіх уладаў праект маей абвесткі да народу (якую да гэтаго прыкладаю) аб выбарах Камітэтаў валасных і паветаваго.

Хаця Крэйсгауптман[1] спачатку рабіў мне ўсялякія абецанні, што перашкод у маей рабоце з боку немцаў ніякіх ня будзе, толькі каб пісьменныя адозвы і абвесткі ня выпушчаліся мною без прэлімінарнаго павядамлення немцаў, але праз некалькі дзён той жа Крэйсгауптман заявіў мне (разумеецца, праз тлумача): «Вашу абвестку солдатэнрат[2] разгледзіў і заўтра а 2 гадзіне у дзень Вы атрымаеце рэзультат яго пастановы».

Гэто было мне сказана 1 гэтаго студзеня. А ўчора, 2 студзеня, адказ солдатэнрата быў вось які: «Мы ведаем, што Вы хочаце тут рабіць, бо разглядзелі Вашу абвестку. Мы пастанавілі, што ў працягу 14 дзён ніякая ані вусная, ані пісьменная агітацыя Ваша намі ня будзе дапушчана. Ніякія зносіны Вашы з насяленнем недапусьцімы».

Зразумеўшы, што гэткі адказ значыць, я папрасіў тлумача перадаць солдатэнрату, што ўсялякія палітычныя разгаворы я лічу скончанымі і толькі прашу солдатэнрат выдаць мне на рукі свой адказ у напісанай форме выпіскі с пратаколу. Мне гэто дэкляравалі, і 3/I выдалі пасьведчэнне, копія якога да гэтаго прыкладаецца[3].

Я рашыў выехаць у Горадзен (а калі трэ'было б) і ў Вільню, каб на словах далажыць усе дэталі палажэння Сакольскаго павету, а таксама прасіць асыгнавання патрэбных на працу крэдытаў.

Агітацыйная і арганізацыйная праца магчыма, хаця яна патрабуе, быць можа, не малых коштаў. Не зрабіўшы, як мае быць, агітацыі, не аб'ехаўшы воласьцеў, не зьвязаўшыся с шырокімі масамі сялянства, нават каб і ўдалося выпусціць адозву аб выбарах, то ўсё роўна выбары гэтыя маглі даць вельмі сумныя рэзультаты, высунуўшы ў арганізацыі, быць можа, тых самых праводцаў вялікапольскай ідэі.

---

[1] Крэйсгауптман (ням. der Kreishauptmann) — кіраўнік крайзу (ням. der Kreis — раён) у час нямецкай акупацыі 1915—1919 гг.

[2] Солдатэнрат (ням. der Soldatenrat) — салдацкая рада.

[3] Друкуецца ніжэй.

## ПАСЬВЕДЧЭННЕ (КОПІЯ)*

Гэтым Прэдстаўніку Літоўскаго Міністэрства Унутраных Справаў Косьцевічу сьведчыцца, што па воле мейсцовай салдацкай рады яму забараняецца ўсялякая беларуская агітацыя як на словах, так і на пісьме, так сама як і прадпісанне народу рабіць выбары.

Грунт гэтаму той, што беларуская агітацыя зараз жа выкліча яшчэ мацнейшую вялікапольскую агітацыю і гэтым будзе пагражаць спакою і парадку ў павеце. Прэдпісванне люднасці новых выбараў не на часі, дзеля таго, што яшчэ ў сярэдзіне сьнежня адбыліся выбары, у якіх бралі ўчасьце ўсе жыхары павету, прычым былі заўважаны нацыянальныя і конфэсійныя ўмовы, а новыя выбары дзеля гэтага лішнія і будуць хвіляваць люднасьць. Саколка, 3 студзеня 1919 року.

| | |
|---|---|
| За Салдацкую Раду | Крэйсгауптман |
| Гроўтарс | Бэсслер |
| Прэзэс [1] | об.-лейтэнант |

З арыгіналам спраўдзіў:
Камісар *Косьцевіч*

## БРАТЫ-СЯЛЯНЕ!**

Многа год жылі Вы ў цяжкай няволі. Многа поту, сьлёз і крыві пралілі вы, робючы для паноў і царскага ўраду. Цэлыя пакаленьні нашых людзей радзіліся, узрасталі і паміралі ў няволі — а кожная спроба вызваленьняканчалася страшэннымі карамі...

А быў час, калі Вы, Беларусы, былі вялікім, дужым і вольным народам. Наша родная старонка, Беларусь, разляглася на вялізарным абшары, занімаючы Віленскую, Менскую, Гродзенскую, Вітэбскую і Магілёўскую губэрні, 8 паветаў Смаленскай, 4 — Чарнігаўскай, 1 — Сувальскай, ды часьці суседніх паветаў Ковенскай, Курляндзкай, Арлоўскай і Пскоўскай губэрній. Дванаццаць міленаў людзей на гэтым абшары гавораць між сабой так, як Вы ў сваёй вёсцы: па-беларуску. 300 гадоў тому назад была наша старонка незалежнай дзяржавай,

---

* Напісана рукою М. Косьцевіча (Краўцова). Разам з дакладам утварае адзін дакумент.

[1] Прэзэс (польск. prezes) — старшыня.

** Лістоўка, Тэкст надрукаваны ў дзвюх калонках. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 354, арк. 3).

слаўнай сваёй навукай, рамёсламі, таргоўляй. І тая ж мова беларуская, якой мы цяпер між сабой гукаем, была мовай дзяржаўнай: ёю пісаліся ўсе гасударственныя дакументы, ёю гаварылі ўсе паны, князі і біскупы, у ёй вучыліся і маліліся Богу. І ня было ў нас іншага гаспадара, апрача самога нашага народу. Але ліхая доля ўсё гэта зьмяніла: праз фальш і ашуканства Беларуская дзяржава папала перш пад панаваньне Польшчы, а пасьля разам з Польшчай пад панаваньне Расеі. Чужая ўлада перш за ўсё зьнішчыла нашы школы беларускія, нашу мову зусюль выгналі, аб'явіўшы яе «простай», «мужыцкай». Пачалі адкрываць для нас школы польскія і расейскія, ды цераз іх апалячываць і масковіць народ. Хто прайшоў навукі ў іх, хто, як кажуць, «выйшаў у людзі», той аддзяляўся ад сваіх вясковых братоў, забываўся сваёй роднай мовы беларускай, служыў толькі паляком ці расейцам. І нашы родныя браты, папаўшы на службу за пісара, эканома, стражніка або чыноўніка, убраўшыся ў чорны кафтан, начапіўшы бліскучыя гузікі і «какарду», ужо нават сароміліся прызнавацца да сваіх сярмяжных бацькоў, сароміліся гаварыць з імі пры людзёх...

Так запрапала сіла нашага народу. Так асталася беларуская вёска безабароннай, загнанай усімі. Але асталася ў нас жывая душа, асталася ў сэрцах нашых іскра жыцьця і любові да свайго краю, сваёй мовы. І калі рэвалюцыя ў Расеі скінула панаваньне цара і паноў, збудзіўшы і наш народ, зварухнуўся і на ўвесь сьвет падаў голас, што ён жыве і сам хоча быць гаспадаром на сваёй зямлі.

Беларусы пачалі завадзіць у сябе новы лад, каб даць рабочаму народу лепшыя варункі працы, сялянам — зямлю, а ўсім чыста — праўдзівую волю. Дзе самі сваімі сіламі, а дзе супольна з братнім нам літоўскім народам прыступілі мы да будаваньня сваёй незалежнай Рэспублікі, каб вярнуць народу Беларускаму ўтрачаную ўласьць.

Ня ў смак гэта паном, ня ў смак тым, хто і прывык ад веку жыць працай нашага народу. І вось яны, як мага, змагаюцца з народным рухам да волі. Праз паслухмяных ім людзей: палякі — праз ксяндзоў, маскалі — праз папоў, ды праз розных нанятых за грошы прыслужнікаў баламуцяць яны нашых сялян, стараючыся разьбіць нашы сілы, нацкаваць брата на брата, вёску на вёску. Яны карыстаюцца тым, што адны з нашых беларусаў — каталікі, другія — праваслаўныя, і вось каталікоў аб'яўляюць за палякоў, праваслаўных — за маскалёў, каб ня было ў нас ЕДНАСЬЦІ.

Разумеюць паны, што як станецца наш край незалежнай Рэспублікай, як уся ўласць пяройдзе да народу Беларускага, дык скончыцца панаваньне іх на вечныя часы. Каб недапусьціць гэтага, яны і стараюцца з дапамогай ксяндзоў пераварачываць каталікоў-беларусаў у палякоў: гэтак узьвялічываецца польская панская сіла, гэтак абаламучаны народ можна будзе пацягнуць да Польшчы, а там сіла паноў — вялікая, і вось тутэйшыя і польскія паны разам патрапяць і зноў узлажыць старое прыгоннае ярмо на шыю мужыка-беларуса і жыць ізноў так, як было за часоў паншчыны...

Каб павясьці за сабой наш народ, паны і ксяндзы, забыўшыся аб Богу дзеля Польшчы, патварылі скрозь свае «парахвіяльныя камітэты», дзе ўсім кіруюць нашы старыя ворагі. Туды ўцягіваюць беларускіх сялян-каталікоў.

Браты-сяляне! Ня ўходзьце ў гэтыя панскія камітэты, не памагайце паном у каваньні новых путаў для нашых дзяцей і ўнукаў! Закладайце скрозь свае СЯЛЯНСКІЯ КАМІТЭТЫ ці РАДЫ — валасныя і паветовыя. Хай кожная вёска зьбярэцца разам і выбярэ спаміж сябе найлепшага, найразумнейшага і вернага народнай справе чалавека за дэпутата ў воласьць, дзе гэныя найлепшыя сыны нашага народу і створаць валасную раду, а ўсе воласці разам створаць раду паветовую. Толькі крэпкая арганізацыя дасьць Вам сілу, толькі яна здолее ўдзяржаць на вёсках добры лад, абараніць ад рабунку, захаваць народнае меньне і ўмацаваць у Беларусі тое, што працоўны народ усяго сьвету ужо сабе заваяваў. Дзяржыцеся ўсе разам — і праваслаўныя, і каталікі: бо ўсіх Вас злучае Ваша супольная **СЯЛЯНСКАЯ СПРАВА.**

**У ЕДНАСЦІ — ВАША СІЛА, ВАША ВОЛЯ, ВАША БУДУЧЫНА.**

**РАЗЬДЗЕЛ І СВАРКІ НЯСУЦЬ ВАМ НОВУЮ НЯВОЛЮ І СЬМЕРЦЬ.**

*Беларускі Сялянскі Саюз*

## СЯЛЯНЕ-БЕЛАРУСЫ ГРОДНЕНШЧЫНЫ!*

Шмат бяды і нядолі прыйшлося нацярпецца нашаму краю. Вайна спаліла нашыя вёскі, пазабівала лепшых, здаравейшых людзей, спустошыла і разарыла ўсю няшчасную Гродненшчыну. Расейскае начальства выгнала з родных хатаў сотні тысяч людзей і зрабіла з гаспадароў бяздомных бежанцоў. Іхнымі магілкамі заселены ўсе дарогі Маскоўшчыны і Сыбіру, а з іхніх сьлёзаў можа б сабралася цэлае мора.

Але надыходзяць лепшыя часы. Вайна скончылася. Цары і паны, якія яе пачалі, досыць ужо пакараны за гэтае злачынства. Па ўсім сьвеце валяцца царскія пасады, канчаецца панаваньне паноў, і народы самі заводзяць для сябе якнайлепшыя парадкі. Пасьля ўсёй нашай нядолі даб'ёмся свайго і мы, сяляне-беларусы. Завядзём і мы ў сябе лепшыя дэмакратычныя парадкі. Сам працоўны народ будзе панаваць на Беларусі, а ня жменька паноў. Зямля будзе належаць тым, хто сам на ёй працуе. Наш народ і нашую беларускую мову будуць паважаць нароўні з іншымі. Сам беларус будзе гаспадаром, а не парабкам на сваёй зямлі.

Але надта мы яшчэ слабыя і цёмныя і лёгка нас ашукаць нашым ворагам. А яны ня дрэмяць ды куюць путы жалезныя на нас і на нашую волю. Паны-палякі, што панаехалі да нас з Польшчы [1], дагэтуль валадалі блізка што палавінаю нашай зямлі. Даўней яны трымалі наш народ у паншчыне, а цяпер беларус цёмны і галодны сам мусіць прадаваць і пот свой ліць дзеля іх карысьці. Ашуканствам забралі паны зямлю і трымалі сваю ўладу над народам. Цяпер яны, чуючы канец сваёй роскашы, прабуюць яшчэ раз ашукаць цёмны народ. Яны ўгаварываюць беларусоў-каталікоў, каб тыя запісываліся на палякоў і далучаліся да Польшчы. Гэтым яны спадзяюцца ўтрымаць пры сабе зямлю. Як раз такую самую штуку робяць з праваслаўнымі беларусамі іншыя прыблуды — расейскія чыноўнікі. Гэтыя хочуць аднавіць даўнейшыя парадкі і пасадзіць нам на шыю маскоўскага цара. Яны

---

* Лістоўка. У адной калонцы тэкст надрукаваны кірыліцай, у другой — лацінкаю. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 871, арк. 10).

[1] Не зусім дакладна. Пераважная большасць памешчыкаў былі мясцовага (беларускага ці літоўскага) паходжання, але карысталіся польскаю моваю, лічылі сябе палякамі і выказвалі польскія дзяржаўныя інтарэсы.

соладка сьпяваюць (якраз, як і палякі), быццам яны бароняць праваслаўную веру і народ. Але гэта няпраўда. Яны бароняць толькі свае маёнткі, што ім цары параздавалі, ды сваё даўнейшае панаваньне над намі. Далоў жа тых, хто ашуквае беларусоў! Ядыны і непадзельны Народ Беларускі. Вера ніяк ня можа служыць прычынаю, якая б сварыла беларусоў. Усе мы — і праваслаўныя і каталікі — адзін народ, дзеці аднае Маткі-Беларусі, бо адною моваю гаворым, бо мы аднае крыві. Хто сварыць беларусоў, той ашуканец і вораг наш найгоршы!

Польскія паны і іхныя найміты цягнуць нас і наш край да Польшчы. Маскоўскія паны і чыноўнікі цягнуць да Расеі. А што скажам мы, беларусы, яны ня пытаюць. Ізноў нас хочуць закаваць у ланцугі, якія скінулі ўсе народы сьвету і якія з нас зваліліся. Дык трэба нам бараніцца. Трэба крыкнуць на ўвесь сьвет: не дамося! Годзе крыўды, годзе нашых сьлёзаў і поту папілі палякі і расейцы!

Браты сяляне! Усе народы самі пастанаўляюць аб сваёй долі. Трэба і нам гэта зрабіць. Трэба нам зьехацца з усяго краю ды падумаць аб сваіх справах і пастанавіць, чаго мы хочам. Вось дзеля гэтага Гродненскі Беларускі Камітэт пастанавіў сабраць у Гродне 15 дзекабра гэтага году Беларускі Сялянскі Зьезд з усяе Гродненскай губэрні і Аўгустоўскага павету, які таксама належыць да Беларусі. Кожная воласьць і кожны горад павінны прыслаць на гэты зьезд па тры чалавекі сваіх выбарных дэпутатаў. Яны і зробяць пастанову, як будзе далей, зробяць у нас такі самы дэмакратычны лад, як на ўсім сьвеце, будуць гаварыць і аб зямлі, аб тым як зрабіць, каб яна адышла да працоўнага народу, як і калі склікаць Устаноўчы Сойм, каторы ўжо зробіць парадак назаўсёды. Будуць абгавораны справы бежанцоў і адбудова спаленых або паруханых гаспадарак. Зьезд выбяра Гродненскую Раду, якая будзе пілнаваць пастановаў Зьезду і праводзіць іх у жыцьцё.

Прачнецеся, браты сяляне! Ніщто ня можа затрымаць вас ад пасылкі дэлегатаў на Зьезд. Гляньце навокал! Усе народы ўзяліся за свае справы. Нельга чакаць і нам. Такі час рэдка здараецца, калі народ саўсім вольна можа дабівацца свайго. Хто не прапусьціць гэтага часу, таму будзе добра, а хто прапусьціць — таго будуць клясьці і дзеці і ўнукі.

*Гродненскі Беларускі Камітэт*

## ПРАТАКОЛ
## БЕЛАРУСКАГО СЯЛЯНСКАГО ЗЬЕЗДУ Ў ГОРАДНІ
**(15—16 сьнежня 1918 г.)**

Старшынёю зьезду сябр А. Смоліч, намесьнікам старшыні Андрэй Якубецкій, пісарамі В. Курбскі і Я. Нагусэвіч.

Прынялі праграму зьезду:

1. Аб палітычным палажэньні.
2. Аб арганізацыі Гродзеншчыны.
3. Аб зямельнай справі.
4. Аб выплаце ваенных стратаў і дапамозі ахвярам вайны.
5. Аб школьнай справі.
6. Выбары Гродзенскай Паветовай Рады.

У справі палітычнаго палажэньня прынята гэткая рэзолюція: Дзеля абароны правоў беларускаго народу на яго родную зямлю і вольнае, націянальнае развіцьцё, зьезд пастанаўляе: патрэбна моцная организацыя па вёсках і паветах.

Беларускі народ павінен быць целым і ні ад кога незалежным. Сваіх правоў ён будзе дабівацца разам с суседнімі дэмократычнымі народамі, а перад усім з народам літоўскім.

### *Арганізацыя цэнтральная*

Пасьля доўгіх дэбатаў пастанавілі гэткую рэзалюцію:

Выбраць Павятовую Раду і апроч яе Арганізацыйную Камісьсю дзеля падгатоўкі Губернскаго Зьезду. Зьезд выказуе пожаданьня, каб шчырые беларусы, члены Беларускай Управы накінулі яе і далучыліся да Павятовай Рады. У справе организацыі на мейсцох пастанавілі:

1. Арганізаваць сельскіе і валасные камітэты.
2. Пратэставаць проціў арганізацыі парафіальных камітэтаў.
3. Даручыць валасным камітэтам арганізаваць міліцыю і запатрэбаваць у немцаў аружжа.
4. Арганізаваць пры валасьцех прадавольственные камітэты.

### *У зямельнай справі*

Пастановілі прыняць гэткую рэзалюцыю: Земля павінна адысьці да працоўнага народу бяз выкупу.

Пры валасных камітэтах закладаюцца зямельные камісіі, які праводзяць спіс зямлі памешыцкай, казён-

най і інш., а так сама і селянскай, клапоцяцца аб гаспадарцы ў воласьці і засеві палёў.

*Аб выплаце ваенных стратаў*

пастанавілі дабівацца ўчасьця прадстаўнікоў Беларусі на міравым кангрэсі дзеля абароны права беларускаго народу і сплаты ваенных стратаў, прасіць Віленскую Беларускую Раду арганізаваць Цэнтральны Камітэт да помачы пацярпеўшым ад вайны і паклапаціцца аб тым, каб дастаць патрэбные для гэтаго стрэдствы ў Літоўскаго Ураду і заграніцай.

Прэдлажыць валасным камітэтам зрабіць прымерные падрахункі ваенных стратаў.

*Аб школьнай справі*

Школьнай справы павінны дагледаць валасные камітэты. Яны ж клапоцяцца аб закладаньні новых школак. Школьная навука ў ніжэйшай школі па меры можнасьці павінна вясьціся ў беларускай мові.

**ВЫБАРЫ ПАВЕТОВАЙ РАДЫ***

Пастанавілі выбраць Паветовую Раду ў складзі 14 чалавек, воласьці, які е не мелі сваіх прэдстаўнікоў, на зьездзі павінны быць уперод арганізованы і іхные прэдстаўнікі па 1 ад воласьці далучаюцца ў склад Рады.

У паветовую Раду выбраны:

1. Якубецкій Андрэй.
2. Натусевіч Янка.
3. Курбскій Уладыслаў.
4. Качан Зьмітра.
5. Грыкоўскі Александр.
6. Декуць-Малей Лукаш.
7. Алексючанка Аўгіньня.
8. Міхайлоўскі Янка.
9. Міськевіч Петра.
10. Сагока Міхалка.
11. Злоцкі Грыгор.
12. Сініма Александр.
10. Гайко Сымон.
14. Ломашэвіч Антон.

Выбары Арганізацыйнага Камітэту для скліку Краеваго Беларускаго зьезду Гродзеншчыны пастанавілі выбраць Арганізацыйны Камітэт у складзі 9 чалавек.

---

* Тэкст надрукаваны друкарскім спосабам на абодвух баках аднаго аркуша. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 355, арк. 1).

У склад яго ўвайшлі:

1. Данілюк Федар.
2. Якоўюк Сымон.
3. Басель Адольф.
4. Якубецкі Андрэй.
5. Саучыц Александра.
6. Декуць-Малей Лукаш.
7. Алексючанка Аўгіньня.
8. Якубецкі Павал.
9. Натусевіч Янка.

Пастанавілі даць камітэту права кааптаціі.

Зьезд павінен быць скліканы на 9 января 1919 году ў Горадні.

Зьезд закрываецца 16 дзекабра ў 8 гадз. вечара.

Старшыня: *А. Смоліч*
Пісар: *В. Курбскі*

## ОБЪЯВЛЕНИЕ*

Согласно постановлению общего собрания Озерского волостного Комитета от 22-го Декабря 1918 г. за № 2—3, все воры, бандиты и грабители, пойманные на месте преступления или уличенные в своих преступных деяниях, убиваются на месте без суда властью народа.

Закон входит в силу со дня опубликования.

ВОЛОСТНОЙ КОМИТЕТ

23-го Декабря 1918 г.

## ТОВАРИЩИ КРЕСТЬЯНЕ!**

Везде и всюду трудовой народ, свергая вековое рабство, начинает строить новую жизнь на началах правды и справедливости. Трудовой народ всего мира решил раз и навсегда покончить со старым позорным и разбойничным порядком, в котором кучка богачей и помещиков правила всем миром на пользу своего кармана и на горе трудовому люду. Вспомните только, как мы жили, кто вами правил и кто были ваши опекуны!

Земские начальники, предводители дворянства, которые председательствовали во всех крестьянских учреждениях, члены губернских присутствий, губернаторы, министры и т. д. Всё это были помещики. И не один из вас помнит, как они вас «опекали», как «освобождали» ваших отцов и дедов от панщины. Ни одно наше собрание

---

* Лістоўка. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 873, арк. 1).

** Лістоўка. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 354. арк. 5).

и постановление не могло пройти без разрешения и контроля посредников и земских начальников. Мы находились под постоянным полицейским надзором и нагайкою. Люстрация подразнила нас землею и то в шахоницах. А почему?

Только потому, что мужику нужно было поделить худшую землю. Выкуп же взяли с нас великий. И спрашивается, за что? За ту землю, которая была пропитана кровавым нашим потом и которая досталась большинству помещиков совершенно даром только за прислужничество царям и их опричникам.

Этот позорный порядок привел к обнищанию деревни и всего трудового народа, в то время как помещики и богачи разъезжали по заграницам и утопали в удовольствиях, трудовой народ голодал и, скрепя сердце, молчаливо переносил свою горькую долю и говорить об этом не имел права.

Теперь народ должен сознать, кто его враг, и кто его друг.

Товарищи! Настала пора самому трудовому народу взять власть в свои руки. В нашей возможности раз навсегда вырвать кнут у помещиков и богачей и начать жить по-новому. Но помещики и богачи и теперь не хотят расстаться со своей сладкой жизнью.

Взгляните, что теперь творится в нашем уезде? Немецкие власти уходят. Кучка же помещиков и богачей захватывает власть в свои руки. Они, сорганизовавшись, назвали себя комитетом и считают себя избранниками народа, а, захватив власть, они опять хотят наложить на вас свою кровавую лапу.

Товарищи крестьяне! Довольно помещичьего бича! Время нам самим организоваться и устроить свою власть в лице Советов Крестьянских Депутатов. Уже большая часть нашего уезда прониклась сознанием важности настоящего момента и, не дожидаясь никаких повелений, организовала свои Советы и послала своих выборных в Волковыский Уездный Совет Крестьянских Депутатов.

На заседании Уездного Совета 27—29 декабря 1918 г. выяснилось, что некоторые волости не прислали своих выборных, а потому Уездный Совет отсрочил свои заседания до 5-го января 1918 г. по новому стилю.

К этому дню необходимо прислать всем волостям своих выборных для того, чтобы Совет мог от имени трудового народа всего уезда объявить себя единственною гражданскою властью и решать все наболевшие вопросы.

Да здравствует власть Советов Крестьянских и Рабочих Депутатов, только они дадут народу землю и волю.

Председатель Волковыского Уездного Исполнительного Комитета Советов Крестьянских и Рабочих Депутатов

*Ф. Данилюк*

Секретарь

*А. Широковец*

## ВЫПИСЬ ИЗ ПРАВИЛ О ВЫБОРЕ СОВЕТА И КОМИТЕТА

1. Каждая деревня выбирает от 50 душ населения по одному представителю в Волостной Совет Крестьянских Депутатов.

2. Совет выделяет из своей среды Волостной Исполнительный Комитет в составе 5 человек.

3. Волостной Совет Крестьянских Депутатов посылает из своей среды в Уездный Совет Крестьянских Депутатов по одному человеку от 1000 душ населения, но не меньше трех человек.

## РЕЗОЛЮЦИИ, ПРИНЯТЫЕ НА 2-м СЪЕЗДЕ ВОЛКОВЫСКОГО СОВЕТА КРЕСТЬЯНСКИХ И РАБОЧИХ ДЕПУТАТОВ

**5—7 января 1919 г.***

| ЗАСЛУШАНО | ПОСТАНОВЛЕНО |
|---|---|
| 1. Об отношении к случайно образовавшемуся Уездному Комитету | Ввиду того, что существующий ныне, так называемый Волковыский Уездный Комитет образовался случайно, не на демократических началах, а потому не может отражать воли всего народа и не сможет дать жителям порядка и спокойствия, признать его недействительным и упразднить, а изданные им распоряжения отменить и взамен его признать орган власти из делегатов 2-го Съезда Крестьянских и Рабочих Депутатов. Совет Крестьянских и Рабочих Депутатов принимает на себя полную ответственность за порядок и общественное спокойствие в уезде, а также дает полную гарантию немецким властям, что не будут терпеть никакого ущерба, а также давления на них со стороны населения. Гражданская власть в уезде должна быть передана только Исполнительному Комитету Совета Крестьянских и Рабочих Депутатов. |

* Выдадзены друкарскім спосабам на трох старонках згорнутага напалам аркуша. Захоўваюцца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 355, арк. 2—3).

| ЗАСЛУШАНО | ПОСТАНОВЛЕНО |
| --- | --- |
| 2. О выборе Волковыского Уездного Исполнительного Комитета Совета Крестьянских и Рабочих Депутатов. | Ввиду того, что избранный на 1-м съезде Исполнительный Комитет избран членами съезда не от всего уезда, за их неявкой, постановили избрать новый. По большинству голосов избранными оказались 15 человек от крестьян: Иосиф Лещинский, Федор Данилюк, Петр Ляховский, Николай Гончаревич, Петр Новицкий, Яков Седлецкий, Лейба Хмельницкий, Иван Шкулепа, Павел Лисок, Антон Семошко, Иван Дыринда, Мирон Кошмар, Иван Кузьмицкий, Эдуард Кенанович, Юльян Ярмолик и 3 человека от рабочей партии: Симон Лев, Самуил Бараш и Мовша Франк. |
| 3. Об организации всего населения уезда. | Поручить Волостным Советам немедленно организовать общественные комитеты из 5 человек. Все организовавшиеся комитеты должны быть в порядке подчинения, т. е. общественные комитеты подчиняются волостным, а волостные уездным. |
| 4. Об организации городской и уездной милиции и о судах. | Городская милиция назначается Городским Самоуправлением. Уездная милиция избирается на местах и утверждается Волковыским Уездным Исполнительным Комитетом и всецело подчиняется ему. Причем штат ее следующий: в г. Волковыске назначается уездный начальник милиции, ему помощник секретарь, писарь и 25 конных милиционеров, причем один из них старший. Весь Волковыский уезд разделяется согласно бывшим станам на 5 участков, в заведывание которых назначается 5 начальников участка. Причем к каждому из них назначается по 5 конных милиционеров и по одному из каждых 5 старшему. В каждую волость назначается по 3 конных милиционера. Причем один из 3 в каждой волости должен быть старший.<br>Организовать во всех волостях временные волостные суды, а также и уездный суд. Волостной суд избирается из 12 человек, а уездный суд составляется из представителей по одному от каждой волости и одного специалиста. Выработку инструкции для волостных судов поручить Комиссии Исполнительного Комитета и специалисту, а также учредить должность судебного следователя и городского судьи с Волковыским Городским Самоуправлением. |
| 5. О продовольствии города и уезда. | Все запасы хлеба и фуража и всего довольствия как в уезде, так и в городе взять на учет волостными комитетами и городским самоуправлением и статистические данные дать Уездному Исполнительному Комитету. Волостной Комитет обязан охранять продовольствие и без разрешения Уездного Комитета не имеет права никому отпускать. Установить норму потребления продуктов по карточкам, прекратить вывоз продуктов из уезда и вести беспощадную борьбу со спекуляцией. Образовать при уездном и волост- |

| ЗАСЛУШАНО | ПОСТАНОВЛЕНО |
|---|---|
| | ных исполнительных комитетах продовольственные отделы и комиссии по борьбе со спекуляцией, но не прекращать вольной мелкой торговли. Продажа хлеба должна производиться только с разрешения волостных и уездных комитетов. Устроить продовольственные магазины при Волковыском Уездном и Волостных Исполнительных Комитетах. Ввести строгое наказание за изготовление из хлебных продуктов спиртных напитков. |
| 6. Об учреждении управления и охраны лесов и прекращения незаконной рубки. Доклад лесовода Капциловича о лесе. | Доклад лесовода Капциловича[1] принять к сведению. Съезд признает все леса национальной собственностью. Учредить управление лесов при Уездном Исполнительном Комитете и прекратить незаконную рубку леса. Поручить охрану лесов, как частновладельческих, так казенных и церковных, Волостным Комитетам и всю ответственность за таковые несут со дня объявления сего те же Волостные Комитеты. |
| 7. Об образовании культурно-просветительной комиссии. | Учредить культурно-просветительную комиссию и общественную библиотеку при Волковыском Уездном Исполнительном Комитете, пригласив в таковую специалистов — учителей. Съезд выражает желание, чтобы во всех деревнях были немедленно открыты народные школы, а по силе возможности и средние. Преподавание в школах должно вестись на том языке, который укажет население того селения, в котором устраивается школа. Съезд высказывается за введение обязательного бесплатного начального обучения. |
| 8. О финансовом вопросе. | При уезде образовать финансовую комиссию и поручить ей разработку вопроса о подоходном налоге, а временно на первоначальную поддержку Исполнительного Комитета и ведения дел по уезду обложить все население единовременным сбором по 50 коп. от души и деньги эти поручить собрать Волостным Комитетам и представить таковые в Кассу Волковыского Уездного Комитета не позже 20 января сего года. |
| 9. Об образовании комиссии народного здравия. | Образовать при Волковыском Уездном Исполнительном Комитете комиссию народного здравия, пригласив в таковую специалистов-врачей. Съезд выражает пожелание, чтобы в уезде были открыты общественные аптеки и врачебные участки при волостях и вменить в обязанности волостным комитетам, чтобы они при появлении повальных заболеваний немедленно доносили в Уездн⟨ый⟩ Исполнит⟨ельный⟩ Комитет. |
| 10. Статистические данные о земле. | Учредить при Волковыском Уездном Исполнительном Комитете сельскохозяйственную и земельную комиссию, поручить ей собрать все статистические |

[1] Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 349. Арк. 17—22).

| | |
|---|---|
| | данные о земле и вменить Волостным Комитетам озаботиться обсеменением всех полей, причем предоставить земли на обработку желающим. Съезд считает землю национальной собственностью, но окончательное разрешение земельного вопроса принадлежит только краевому или государственному учредительному собранию. |
| 11. О возрастающей анархии и бандитизме. | Все воры, грабители и другие бандиты, пойманные на месте или уличенные в преступлениях, будут предаваться законному военно-народному суду и наказываться вплоть до смертной казни. Причем всякие самосуды строго воспрещаются и будут преследоваться в законном порядке. |
| 12. Об организации помощи военноплен⟨ным⟩ и беженцам. | Учредить при Волковыском Уездном Исполнительном Комитете отдел помощи военнопленным и беженцам и поручить произвести ему сбор устройства столовых. |

Председатель Совета *Ф. Данилюк*
Секретарь *П. Лисок*

***Антон Луцкевіч***

## НОТА ДЫПЛАМАТЫЧНЫМ ПРАДСТАЎНІКАМ ЗША, АНГЛІІ, ФРАНЦЫІ, ІТАЛІІ*

Белорусский народ, достигающий своей численностью свыше 12 000 000 и занимающий пространство бывших русских губерний Виленской, Гродненской, Минской, Витебской, Могилевской, части Смоленской, Черниговской, Сувальской и иных, в течение свыше ста лет находился под властью России, под которую попал вместе с поработившей его предательски Польшей, с которой находился в добровольной государственной унии. Война и революция в России способствовали освобождению белорусов, возрождаясь национально, приступили к восстановлению и своих суверенных прав и, объявив на Всебелорусском Национальном Конгрессе в декабре 1917 года о создании Белорусской Народной Республики [1], начали

* Рукапіс алоўкам. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 350, арк. 1—5).

[1] Тут недакладнасць. На Усебеларускім з'ездзе (кангрэсе) прагучаў толькі лозунг Беларускай Народнай Рэспублікі. Фактычна БНР была абвешчана 20 лютага 1918 года, калі быў створаны першы беларускі Урад — Народны Сакратарыят, юрыдычна — у другой Устаўнай Грамаце Выканаўчага Камітэта Рады Усебеларускага з'езда 9 сакавіка 1918 года.

дело независимого государственного строительства, олицетворяемого Радой Республики и Советом Народных Министров.

Немецкая оккупация лишила белорусское правительство возможности создать необходимую вооруженную силу для отстаивания неприкосновенности своей территории. В результате этого и опираясь на Брестский договор с Германией Украинская держава захватила десять белорусских уездов Гродненской, Минской и Черниговской губерний. Затем — с уходом немцев — Российская Советская Республика оккупировала всю восточную Белоруссию, а сейчас Польское правительство предпринимает шаги к захвату западной части Белоруссии — губерний Виленской и Гродненской с безусловно господствующим белорусским населением, что установлено как официальной статистикой, так и научными исследованиями довоенного времени, свободными от всякой тенденциозности.

Свои аннексионные притязания Польша основывает на том факте, что в названных белорусских губерниях с чисто белорусскими народными массами имеется польский помещичий класс и некоторая часть польского мещанства в крупных городах, в которых, однако, поляки не составляют ни абсолютного, ни относительного большинства. Ради интересов этого немногочисленного польского населения Польша от слов перешла к активным действиям по аннексии Белорусских земель. Так, в чисто белорусских уездах Белостокском и Бельском Гродненской губ⟨ернии⟩. Польское правительство назначило выборы в польское Учредительное Собрание, белорусский Августовский уезд Сувальской губ⟨ернии⟩ правительственным декретом объявлен включенным в состав Польши, наконец в Вильне приказом от 31 декабря 1918 польская команда объявила всеобщую мобилизацию мужского населения всех национальностей — поляков, литовцев, белорусов и евреев от 17 лет.

Совет Министров Белорусской Народной Республики, усматривая в этом нарушение суверенных прав белорусского народа и посягательство на целость и независимость, послал ноты протеста Польскому правительству 14 декабря 1918 г.[1] и 2 и 3 января 1919 г. Однако не имея

---

[1] Арыгінал гэтай ноты пакуль што не знойдзены.

достаточно вооруженной силы для поддержания своих дипломатических выступлений и отражения вражеских войск, Совет Министров решил обратиться к защите великих держав — Америки, Англии, Франции и Италии и попросить их принять под свою защиту от растерзания соседями территорию Белорусской Народной Республики.

## НОТА УРАДУ ПОЛЬШЧЫ*
(першы рукапіс)

2.1.1919
№ 1962
м. Гродня

Пану Міністру Загранічных Спраў
Польскай Рэчыпосполітай

З прычыны распісаньня Польскім Урадам выбараў у польскі Устаноўчы Сэйм на этнаграфічна і гістарычна беларускія паветы Беластоцкі і Бельскі Рада Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі 14 сьнежня 1918 году паслала на імя Міністра Загранічных Спраў Польскай Рэчыпосполітай ноту пратэсту проці гэтага акту, раўназначнага анэксіі Беларускай зямлі і парушэньню сувэрэнных правоў Беларускага народу на яго зямлі. Жадаючы захаваць найлепшыя суседскія адносіны з Польскім народам, Рада Народных Міністраў пры гэтым адзначыла, што ўтрыманьне ў сіле дэкрэту Польскага Ураду аб выбарах у польскі Устаноўчы Сэйм у часьці яго, датыкаючай Бельшчыны і Беласточчыны, можа мець вельмі благія пасьледзтвы ў сферы беларуска-польскіх адносін, за што адказ ляжа на Польскі Урад.

Нягледзячы на гэта, Польскі Урад ня толькі не ўчыніў ніякіх крокаў дзеля скасаваньня няпраўна выданага акту, але новым актам нарушае натуральнае права Беларускага Народу на самаазначэньне і непадзельнасьць яго тэрыторыі. Акт гэты — новы дэкрэт Польскага Ураду, апавешчаны польскай прэссай, аб далучэньні да Польшчы беларускага Аўгустоўскага павету Сувальскай губэрні.

Аўгустоўскі павет паводлуг складу свайго насяленьня — бязспорна беларускі, што ўстаноўлена як урадовай статыстыкай, так і безстароннымі навуковымі этнографічнымі досьледамі; апроч таго ён рэзка аддзелен ад Польшчы сваімі натуральнымі граніцамі. І ў анэксіі гэтай новай часьці Беларускай зямлі Рада Народных Міністраў

* Рукапіс алоўкам. Захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 350, арк. 6—7).

Беларускай Народнай Рэспублікі бачыць выяўленьне польскай імпэрыялістычнай палітыкі, праціўнай праву народаў на самаазначаньне і элемэнтарным асновам дэмократызму. Заяўляючы свой самы энергічны пратэст проці гэткай палітыкі, сыстэматычна нарушаючай сувэрэнныя правы Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада Народных Міністраў папярэджывае Польскі Урад, што проці выразнага гвалту над Беларусьсю, учыненага Польскай Рэчыпосполітай, яна адначасна з гэтым пасылае свой пратэст усім вялікім дзяржавам з просьбай прыняць на сябе абарону цэласьці і непадзельнасьці Беларусі ад польскага імпэрыялізму.

## НОТА УРАДУ ПОЛЬШЧЫ*
**(другі рукапіс)**

3.1.1919
№ 1963
м. Гродня

Пану Міністру Заграні́чных Спраў Польскай Рэчыпосполітай

31 сьнежня 1918 году польская каманда вайсковага округа Літвы і Беларусі, выступаючая як орган Польскага Ураду, аб'явіла ў Вільні агульную мобілізацыю ўсяго мужчынскага насяленьня ад 17 гадоў, у тым ліку і беларускага.

Уважаючы, што гэты акт становіць самы грубы гвалт над сувэрэннымі правамі Беларускага народу, Рада Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі заяўляе проці гэтага самы станоўчы пратэст і папярэджывае, што ўчыніць самыя сур'ёзныя крокі дзеля барацьбы з польскім насільствам.

Старшыня Рады
Народных Міністраў і Міністр Заграні́чных Спраў:
Дзяржаўны Пісар:

* Рукапіс захоўваецца ў ЦБ Літ. АН (ф. 21, спр. 350, арк. 8).

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Нават павярхоўнае знаёмства са зместам альманаха пераканае чытача, што ўсе публікацыі выдання носяць крытычны характар. Перад намі зусім у іншым свеце прадстае беларуская гістарыяграфія, даследаванні папярэдніх дзесяцігоддзяў, поўнасцю разрушаны стэрэатыпы і схемы, якія перашкаджалі даваць аб'ектыўную ацэнку заканамернага развіцця грамадства. Гэта датычыцца як гісторыі Беларусі феадальнага перыяду, так і падзей XX стагоддзя. Аўтары артыкулаў абвяргаюць традыцыю 30—40-х гадоў у беларускай гістарычнай навуцы, якая пераконвала нас у тым, што Вялікае княства Літоўскае і Рускае з'яўляецца «дзяржавай літоўскіх феадалаў» (паводле вызначэння Л. С. Абэцэдарскага). У гэтай дзяржаве быццам бы «беларусы гэта сяляне і часткова мяшчане, феадалы ж — гэта літоўцы і палякі». На жаль, такая прымітыўная схема захоўвалася да апошняга часу ў падручніках па гісторыі Беларусі.

Аднак шматлікія дакументальныя матэрыялы сведчаць аб тым, што польскіх феадалаў на Беларусі амаль не было (Статуты Вялікага княства забаранялі ім набываць зямлю, маёнткі і займаць дзяржаўныя пасады). Інакш кажучы, гэта былі беларусы і нашчадкі абеларушаных літоўскіх феадалаў, якія з другой паловы XVI ст. паступова апалячваліся. Менавіта таму аўтары артыкулаў, змешчаных у альманасе, разглядаюць гісторыю Беларусі як гісторыю самастойнага аб'екта, а не як частку адзінай і непадзельнай Расейскай дзяржавы, часова страчанай пасля распаду Кіеўскай Русі, што характэрна для дарэвалюцыйнай рускай дваранскай гістарыяграфіі.

Прыцягвае ўвагу імкненне аўтараў пазбавіцца недарэчнай пазіцыі абмяжоўваць даследаванні тэрыторый толькі ў межах сваёй рэспублікі пасляваеннага часу, бо такі падыход да гісторыі і ненавуковы, і негістарычны. Мяркуйце самі, ці маглі нашы продкі яшчэ ў старадаўні час ведаць, якая мяжа будзе ў другой палове XX ст. Аб-

грунтаванасць даследаванняў, паўната іх фактычнага матэрыялу прадыктаваны самой аб'ектыўнай рэчаіснасцю, а не з пункту гледжання знешняй палітыкі рускага царызму, як гэта разглядалася да нядаўняга часу ў падручніках, паводле старой схемы.

Асобна паўстае пытанне культуры і рэлігіі. Тут таксама аўтары намагаюцца быць шчырымі і сумленнымі. Асабліва гэта адносіцца да праблем, звязаных з гісторыяй царквы, якая яшчэ недастаткова вывучана. Аўтары не прытрымліваюцца распаўсюджанага погляду, што, паводле прац многіх беларускіх даследчыкаў, для беларускіх народных мас абарона праваслаўя была асноўным клопатам іх жыцця. На жаль, у беларускай савецкай гістарыяграфіі захаваўся ўплыў рускай дваранска-клерыкальнай гістарыяграфіі, праяўляецца ён у прызнанні вялікай перавагі праваслаўя над каталіцызмам. Нездарма ж выдатны беларускі гісторык М. М. Улашчык гаварыў пра гэтых сучасных абаронцаў сярэдневечнага праваслаўя ад езуіцкіх інтрыг: «Вядома, Бога няма, але ўсё роўна наш барадаты праваслаўны лепшы за іх брытага каталіцкага». Вось для чаго нам патрэбны аб'ектыўныя даследаванні, спакойны і ўзважаны падыход да кожнай з праблем. Толькі тады мы зможам паспяхова вырашаць самыя складаныя пытанні.

Тое ж самае можна сказаць і пра публікацыі дакументаў. Яны даюцца цалкам, без змен і рэдактарскага ўмяшання, як гэта яшчэ нядаўна рабілася нават у навуковых публікацыях.

Можна спадзявацца, што чытачы знойдуць у першым выпуску альманаха матэрыялы, карысныя для навуковай і краязнаўчай працы, лекцыйнай работы, далейшых даследаванняў.

*А. П. Грыцкевіч,*
доктар гістарычных навук,
прафесар

## ЗМЕСТ

**Адраджэнне:** Гіст. альманах. Вып. 1/Склад. і на-
А 32 вук. рэд. А. П. Грыцкевіч.— Мн.: Універсітэцкае, 1995. — 259 с.: іл.

ISBN 985-09-0088-1.

**Малавядомыя старонкі гераічнай барацьбы нашых продкаў супраць Тэўтонскага ордэна, літаратурныя нататкі аб жыцці і дзейнасці Францыска Скарыны і Еўфрасінні Полацкай, мемуары М. Агінскага, найцікавейшае даследаванне І. Хозерава аб вытоках беларускага дойлідства, расказ аб полацкай эпапеі (1563—1579 гг.), дакументы БНР — гэтыя і многія іншыя унікальныя матэрыялы па гісторыі Бацькаўшчыны складаюць змест альманаха.**

Г $\frac{9470600000—004}{М317(03)—95}$ БЗ 47—95 ББК 63.3(2Б)

**ВЫДАВЕЦТВА «УНІВЕРСІТЭЦКАЕ»**
**РЫХТУЕ ДА ВЫХАДУ Ў СВЕТ**
**У 1995 ГОДЗЕ КНІГУ**

**Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: Новыя канцэпцыі і падыходы:** У 2 ч. Ч. 1. Гісторыя Беларусі; Ч. 2. Сусветная гісторыя.— 40 арк.

У кнізе сабраны тэксты дакладаў, зробленых на Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў, якая адбылася 3—5 лютага 1993 года ў Мінску.

У першай частцы друкуецца звыш 40 дакладаў. Яны ахопліваюць гістарычныя падзеі ад далетапіснага часу (прыведзены шматлікія вынікі археалагічных даследаванняў) да сучаснасці, у тым ліку і дзейнасць беларускай эміграцыі.

У другой частцы друкуецца каля 40 дакладаў, якія прысвечаны актуальным праблемам сусветнай гісторыі — гісторыі царквы, міжнародных зносін, пытанням інфарматызацыі гістарычных ведаў і г. д.

Для навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, аспірантаў.

## У 1994 ГОДЗЕ
## Ў ВЫДАВЕЦТВЕ «УНІВЕРСІТЭЦКАЕ»
## ВЫЙШЛІ НАСТУПНЫЯ СЛОЎНІКІ:

1. Л а з о ў с к і У. М. **Слоўнік антонімаў беларускай мовы.**— 20 арк.

Уключае больш 2000 антанімічных пар. Значэнне антонімаў тлумачыцца і ілюструецца прыкладамі з твораў мастацкай літаратуры, публіцыстыкі і перыядычнага друку, а таксама фразеалагічнымі словазлучэннямі, прыказкамі і прымаўкамі.

2. Г а н ч а р о в а Н. А., К а л я д к а Л. Г., К о р ш у к Я. В., Ш ч а р б а к о в а І. М. Proverbia et dicta: **Шасцімоўны слоўнік прыказак, прымавак і крылатых слоў** / Пад рэд. Ганчаровай Н. А.— 15 арк.

У айчыннай фразеалогіі падобны слоўнік падрыхтаваны і выдаецца ўпершыню. Уключае каля 500 лацінскіх прыказак, прымавак і крылатых слоў. Да лацінскіх фразем даюцца беларускія, рускія, французскія, англійскія, нямецкія адпаведнасці.

## У 1993 ГОДЗЕ
## Ў ВЫДАВЕЦТВЕ «УНІВЕРСІТЭЦКАЕ»
## ВЫЙШЛІ НАСТУПНЫЯ КНІГІ:

1. Юхо Я. А. **Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі.**— 15 арк.

У кнізе ўпершыню асвятляецца гісторыя ўзнікнення і развіцця дзяржавы і права на тэрыторыі Беларусі са старажытных часоў.

2. **Старабеларускія лексіконы:** («Лексісъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто», «Лексіс...» Л. Зізанія, «Синонима славенороссская») / Уклад., рэканструкцыя А. А. Яскевіч.— 9 арк.

Слоўнік XVI—XVII стст. з'яўляецца жамчужынай старабеларускай мовы. У нас выдаецца ўпершыню.

3. Ластоўскі В. Ю. **Кароткая гісторыя Беларусі.**— 7,6 арк.

Першае папулярнае перавыданне кнігі, напісанай беларусам і для беларусаў, якая была надрукавана ў 1910 годзе ў Вільні і шмат дзесяцігоддзяў захоўвалася ў закрытых фондах дзяржаўных бібліятэк.

4. Кавалёў С. В. **Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст.**— 6 арк.

Кніга прысвечана шматмоўнай героіка-эпічнай паэзіі Беларусі і Літвы канца XVI ст. Даследуюцца паэмы Ф. Градоўскага, А. Рымшы, Я. Радвана і іншых незаслужана забытых сёння тагачасных паэтаў, разглядаюцца канкрэтныя гісторыка-культурныя ўмовы ўзнікнення героіка-эпічнай паэзіі ў Вялікім княстве Літоўскім.